# ГЕНРЫХ БЁЛЬ

# ДОМ БЕЗ ГАСПАДАРА

РАМАН

Пераклад з нямецкай



МІНСК «БЕЛАРУСЬ» 1996



## 1

Ён прачынаўся, як толькі маці сярод ночы ўключала вентылятар, хоць гумавыя лопасці круціліся амаль бязгучна: прыглушанае гудзенне і час ад часу перапынак, калі ў лопасцях заблытваўся край гардзіны. Тады маці з ціхай лаянкай уставала з ложка, вызваляла гардзіну і заціскала яе паміж дзверцамі кніжнай шафы. Абажур лямпы быў з зялёнага шоўку — вадзяністая зелень, а праз яе — жоўтыя промні, і яму здавалася, што чырвонае віно ў шклянцы на тумбачцы каля ложка маці вельмі падобнае на чарніла: цёмная, цягучая атрута, якую яна пацягвае маленькімі глыткамі. Маці чытала, курыла і зрэдку адпівала глыток.

З-пад прыплюшчаных павек ён назіраў за ёю, не варушачыся, каб не прыцягнуць яе ўвагі, і праводзіў позіркам дым цыгарэты, што цягнуўся да вентылятара; паветраны струмень усмоктваў і крышыў белыя і шэрыя воблакі, а затым мяккія зялёныя лопасці перамолвалі іх і выкідвалі прэч. Вентылятар быў вялікі — такія стаяць у магазінах — дабрадушны буркун, ён за некалькі хвілін ачышчаў паветра ў пакоі. Тады маці націскала кнопку на сцяне там, дзе над ложкам вісеў фотаздымак бацькі: усмешлівы юнак з люлькай у роце, занадта малады, каб быць бацькам адзінаццa-

цігадовага хлопчыка; бацька быў такі ж малады, як Луіджы з кафэ Генэля, як нясмелы маленькі новы настаўнік, значна маладзейшы, чым маці, а яна выглядала гэтак жа, як і маці іншых дзяцей, ніколькі не маладзейшай. Бацька — гэта ўсмешлівы хлопец, але вось ужо на працягу некалькіх тыдняў хлопчык бачыць яго ў сне зусім не такім, як на партрэце,— журботна паніклы чалавек сядзіць на чарнільнай кляксе, быццам на воблаку, твару ў яго няма, але ён плача, таму што чакае ўжо мільён гадоў; на ім мундзір, але без знакаў адрознення і без ордэнаў; гэты прышэлец раптоўна ўварваўся ў сны хлопчыка, зусім іншы, чым яму хацелася б бачыць бацьку.

Самае галоўнае ляжаць ціха, ледзь дыхаючы, з заплюшчанымі вачыма, тады па шоргаце ў доме можна даведацца, колькі часу: калі Глума ўжо не чуваць, азначае палову адзінаццатай, калі не чутно Альберта, азначае адзінаццаць. Звычайна ён яшчэ чуе Глума ў пакоі наверсе — цяжкія, размераныя крокі, або Альберта ў суседнім пакоі — Альберт насвіствае за працай. Бывае, і Больда позна ўвечары спускаецца на кухню і пачынае там валтузню — шаргацяць крокі, асцярожна шчоўкае выключальнік, ды ўсё ж амаль кожны раз Больда наторкваецца на бабулю, і з пярэдняй чуваць глухі голас:

— Ах ты, ненажэра, зноў распачала гатаванне сярод ночы? Зноў смажыш, парыш, варыш нейкую дрэнь?

І ў адказ пранізлівы смех Больды.

— Так, старая карга, я выгаладалася, хочаш за кампанію?

Зноў пранізлівы смех Больды і глухое, поўнае гідлівасці «цьфу» бабулі. Часам абедзве гавораць шэптам, толькі зрэдку чуваць смех: пранізлівы — Больды, глухі — бабулін.

Іншая справа — Глум, той ходзіць наверсе тудысюды і чытае загадкавыя кнігі: *«Дагматы»*, *«Багаслоўе і маральнасць»*. Роўна ў дзесяць Глум заўсёды ідзе ў ванну, мыецца — шум вады, затым «пых!» — гэта ён запаліў газавую гарэлку,— і разам успыхнула мноства язычкоў; затым Глум вяртаецца да сябе, тушыць святло і ўжо ў цемры апускаецца на калені перад ложкам — моліцца. Чуваць, як Глум цяжка грукае каленьмі аб падлогу і, калі ў доме ўсюды ціха, як

Глум бармоча словы малітвы. Доўга-доўга моліцца Глум у сваім цёмным пакоі. Затым устае з каленяў, і тады пад ім вішчаць спружыны матраца,— гэта азначае, што роўна палова адзінаццатай.

Астатнія — акрамя Глума і Альберта — трывалых звычак не мелі: Больда часам спускалася ўніз ужо за поўнач і гатавала сабе снатворнае — лісце хмелю, якое яна трымала ў рудым папяровым пакуначку; здаралася, што бабуля заходзіла на кухню, пасля таго як даўно ўжо прабіла гадзіну ночы, рабіла сабе цэлую гару бутэрбродаў з мясам і, заціснуўшы пад пахай бутэльку віна, ішла ў свой пакой. Часам сярод ночы бабуля раптам схамянalася, што ў цыгарэтніцы не засталося цыгарэт — у прыгожай блакітнай парцалянавай цыгарэтніцы, якая ўмяшчала адразу два пачкі. Тады яна сноўдала, шоргаючы нагамі, па ўсім доме, бурчэла, шукала цыгарэты — вялікая, з вельмі светлымі валасамі і ружовым тварам; спачатку яна заходзіла да Альберта: толькі Альберт курыў цыгарэты, якія былі ёй да густу. Глум заўсёды курыў люльку, а маміны цыгарэты старой не падабаліся: «Бабская забаўка — мяне нудзіць, як я на іх гляну»; у Больды ў шафе заўсёды было некалькі скамечаных, залежалых цыгарэт, якімі яна надзяляла паштальёна і манцёра — з гэтых цыгарэт бабуля ўсяляк здзекавалася: «Яны маюць такі выгляд, быццам ты іх вылавіла ў святой вадзе, а затым высушыла, старая мурза,— яны хіба толькі манашкам прынадныя, цьфу!» А здаралася, у доме не было аніякіх цыгарэт; тады Альберту прыходзілася сярод ночы апранацца і ехаць на сваёй машыне ў горад па цыгарэты, бывала, яны разам з бабуляй збіралі па ўсім доме манеты для аўтаматаў. Але тут ужо бабуля не жадала абмяжоўвацца дзесяткам або двума — яна патрабавала ніяк не менш паўсотні цыгарэт у ярка-чырвоных пачках з надпісам — *Тамагаўк. Натуральны віргінскі тытунь* — вельмі доўгія, бялюткія, вельмі моцныя цыгарэты.

— Толькі каб не залежалыя, мой дарагі!

А калі Альберт вяртаўся, яна адразу ў пярэдняй абдымала і цалавала яго, прыгаворваючы:

— Калі б не ты, мой хлопчык, ах, калі б не ты... родны сын і той не быў бы лепшым.

Затым яна ішла да сябе, жавала свае бутэрброды — тоўстыя лусты белага хлеба, густа намазаныя маслам

і абкладзеныя мясам, піла віно і пакурвала.

Альберт быў амаль такім жа дакладным, як і Глум,— роўна ў адзінаццаць у яго пакоі ўсталёўвалася цішыня,— тое, што адбывалася ў доме пасля адзінаццаці, мела дачыненне толькі да жанчын: бабулі, Больды і маці. Маці ўначы рэдка ўставала з пасцелі, затое яна доўга чытала і курыла слабыя, сплюшчаныя цыгарэты, якія даставала з плоскага жоўтага пачка з надпісам: *Мячэць. Натуральны Усходні тытунь.* Зрэдку маці адпівала глыток віна і кожную гадзіну ўключала вентылятар, каб прагнаць дым з пакоя.

Але часта вечарамі маці сыходзіла куды-небудзь або прыводзіла да сябе гасцей, тады яго, соннага, пераносілі ў пакой да дзядзькі Альберта, і ён прыкідваўся, быццам не чуе гэтага. Ён не мог выносіць гасцей, хоць і любіў спаць у пакоі дзядзькі Альберта. Калі прыходзілі госці, яны заседжваліся вельмі позна — да дзвюх, да трох, да чатырох гадзін ночы, а то і да пяці, і дзядзька Альберт прасыпаў тады раніцай і не было з кім паснедаць перад школай,— Глум і Больда сыходзілі досвіткам, маці заўсёды спала да дзесяці, бабуля раней адзінаццаці ніколі не ўставала.

Хоць ён кожны раз цвёрда вырашаў больш не спаць, усё ж засынаў звычайна зноў, як толькі маці выключыць вентылятар. Але калі яна доўга чытала, ён прачынаўся і другі і трэці раз, асабліва калі Глум забываў змазаць вентылятар — і той павольна, з рыпам рабіў першыя абароты. Толькі пасля, набраўшы хуткасці, лопасці пачыналі працаваць бясшумна, але ўсё роўна ад першых жа рыпучых гукаў ён адразу прачынаўся і бачыў, што маці ўсё гэтак жа ляжыць, падпёршы галаву правай рукой, заціснуўшы цыгарэту ў левай, а віна ў шклянцы роўна столькі ж, колькі было і раней. Часам маці чытала нават Біблію, парой ён бачыў у яе руках малітоўнік у рудым скураным пераплёце, і невядома чаму яму рабілася ад гэтага неяк не па сабе. Ён стараўся найхутчэй заснуць або пачынаў кашляць, каб маці ведала, што ён не спіць. Гэта здаралася позна, калі ўсе ў доме спалі. Пачуўшы кашаль, маці адразу ўскоквала і падыходзіла да ягонага ложка. Яна мацала яго лоб, цалавала яго ў шчаку і ціха пытала:

— Ты не захварэў, малыш?

— Не-не,— адказваў ён, не расплюшчваючы вачэй.

— Я зараз патушу святло.

— Ды не, чытай.

— Табе нічога не баліць? Тэмпературы быццам бы няма.

— Канешне, не. Я здаровы.

Яна захутвала яго коўдраю па шыю, і ён здзіўляўся, якія лёгкія ў яе рукі. Затым яна вярталася ў свой ложак, тушыла святло і ўключала ў цемры вентылятар, каб ачысціць паветра, а пакуль вентылятар круціўся, яна размаўляла з ім.

— Хочаш, мы перавядзём цябе ў верхні пакой, каля Глума?

— Не, тут лепш.

— Або ў суседні? Яго таксама можна вызваліць.

— Ды не, я сапраўды не хачу.

— Ну а да Альберта? Альберт перабраўся б у іншы.

— Не.

Раптам вентылятар пачынаў круціцца ўсё павольней, і тады ён ведаў, што маці ў цемры націснула кнопку. Яшчэ колькі апошніх абаротаў, скрыгат, і затым — цішыня, удалечыні чутны цягнікі — ляскат і грукат счаплення таварных вагонаў, перад вачамі паўстае надпіс: *Усходняя таварная станцыя*. Яны з Вельцкамам неяк хадзілі туды, дзядзька Вельцкама працуе качагарам на манеўровым паравозе, які падае вагоны на сартавальную горку.

— Трэба сказаць Глуму, каб змазаў вентылятар.

— Скажу.

— Так, зрабі ласку, а зараз давай спаць. Дабранач!

— Дабранач!

Але пасля гэтага ён ужо не мог заснуць і ведаў, што маці таксама не спіць, хоць ляжыць зусім ціха. Цемень і цішыня, толькі ўдалечыні прыглушаны грукат з Усходняй таварнай, толькі ўсплываюць і паўстаюць у памяці словы, якія не даюць спакою: слова, якое маці Брылаха сказала кандытару,— гэтае слова было надрапана і на сцяне каля лесвіцы, што вяла ў кватэру Брылаха, і яшчэ новае слова: *распуста*, якое Брылах дзесь падчапіў і цяпер увесь час паўтарае. Часта думаў хлопчык і пра Гезелера, але той быў вельмі далёка, і калі ён думаў пра Гезелера, то не адчуваў ні страху, ні нянавісці, толькі нейкі цяжар; ён куды больш баяўся бабулі, яна ўвесь час убівала ў яго імя Гезелера і пры кожным зручным выпадку прымушала

паўтараць яго. Глум, калі чуў гэта, незадаволена хітаў галавой.

Пасля ён здагадваўся, што маці заснула, але сам ніяк не мог заснуць; у цемры ён спрабаваў уявіць сабе твар бацькі, але гэта яму не ўдавалася — тысячы бязглуздых малюнкаў раіліся ў яго галаве — з фільмаў, з ілюстраваных часопісаў, з падручнікаў: Блондзі, Хапелонг Кесідзі і Дональд Дак,— а бацька не з'яўляўся. І дзядзька Брылаха, Леа, паўставаў перад ім, і кандытар, і Грэбхакэ з Вольтэрсам, гэта тыя двое, што рабілі ў кустах нешта бессаромнае: барвовыя твары, расшпіленыя штаны, гаркавы пах свежай травы. Цікава, а бессаромны — гэта ўсё роўна што распусны? Але бацька, чалавек, які на фотаздымку выглядаў занадта жывым, занадта вясёлым, занадта маладым для сапраўднага бацькі, бацька так ні разу і не з'явіўся. Кожнаму бацьку абавязкова падавалі *яйка на сняданак,* але з яго бацькам гэта неяк *не стасавалася.* У кожнага бацькі — *цвёрды расклад на дзень,* уласцівасць, якой у пэўнай ступені валодаў дзядзька Альберт, але і *расклад* ніяк не стасаваўся з бацькам. Расклад — гэта: уставанне, яйка на сняданак, праца, вяртанне дадому, газета, сон. Але ўсё гэта не стасавалася з яго бацькам, закапаным дзесьці на ўскрайку рускай вёсачкі. Мінула ўжо дзесяць гадоў, бацька, мабыць, падобны цяпер на шкілет з медыцынскага музея. Косці, выскаленыя зубы. Радавы і паэт, неяк не стасуецца адно з другім. Бацька Брылаха быў фельдфебелем і слесарам. Бацькі іншых хлопчыкаў былі: або маёр і разам з тым дырэктар, або унтэр-афіцэр і бухгалтар, або старшы яфрэйтар і рэдактар, ніводзін з бацькоў не быў радавым, і ніводзін з іх — паэтам. Дзядзька Брылаха, Леа, быў вахмістрам, вахмістрам і кандуктарам — каляровы фотаздымак на кухонным буфеце паміж *сага* і *крупамі.* Што гэта *сага*? Ад гэтага слова павявала Паўднёвай Амерыкай.

Пасля ўсплывалі пытанні з катэхізіса — вадаварот лічбаў, і кожная азначала пытанне і адказ.

Пытанне адзінаццатае: ці даруе Бог грэшніку, які пакаяўся? Адказ: так, Бог ахвотна даруе кожнаму грэшніку, які пакаяўся. І незразумелае двухрадкоўе: *Калі ты, Гасподзь, не даруеш нам грахі нашыя, хто тады застанецца праведным?* Ніхто не застанецца. Па цвёрдым перакананні Брылаха, усе дарослыя — *рас-*

*пусныя*, а дзеці бессаромныя, маці Брылаха *распусная*, дзядзька Леа — таксама, кандытар, магчыма, таксама; і ягоная маці, якой бабуля шэптам выгаворвае ў пярэдняй: «Дзе ты толькі швэндаешся?» — таксама.

Ёсць, зразумела, выключэнні, гэта прызнаваў нават Брылах: дзядзька Альберт, затым сталяр, які жыве ўнізе, у доме Брылаха, фрау Барусяк і яе муж, Глум і Больда. Але лепшая з іх усіх фрау Барусяк — у яе нізкі, глыбокі голас, і яна спявае над пакоем Брылаха цудоўныя песні, нават у двары чуваць.

Думаць пра фрау Барусяк вельмі прыемна і супакойна. *Я вырасла ў краі зялёным*,— часта спявала фрау Барусяк, і калі яна так спявала, яму ўсё здавалася зялёным, быццам да вачэй паднеслі бутэлечнае шкло — усё-ўсё рабілася зялёным, нават цяпер, у ложку, ноччу, калі ён з заплюшчанымі вачыма думаў пра фрау Барусяк і чуў яе песню: *Я вырасла ў краі зялёным.*

Добрая яшчэ песня пра даліну журбы: «Вітаю цябе, зорка ў зеніце». І ад слова «зеніт» таксама ўсё зелянела. У нейкі момант ён усё ж засынаў, дзесь паміж спевам фрау Барусяк і словам, якое маці Брылаха сказала кандытару,— гэта слова дзядзькі Леа,— слова, якое маці прасіпела скрозь зубы ў цёплым, з пахам здобы падвале пякарні, слова, значэнне якога яму растлумачыў Брылах: гэтае слова пра сужыцельства мужчын і жанчын, якое мае дачыненне да шостай запаведзі, распуснае слова, і адразу на памяць прыходзіць верш, які яго вельмі займае: «Калі ты, Гасподзь, не даруеш нам грахі нашыя, хто тады застанецца праведным?» А можа, сон прыходзіў да яго, калі ён успамінаў пра Хапелонга Кесідзі — хвацкага каўбоя з зухаватымі прыгодамі, трошкі дурнаватага, як усе госці, якіх маці прыводзіла ў дом.

Так ці інакш, але чуць дыханне маці было прыемна: яе ложак часта пуставаў, бывала, некалькі начэй запар, і тады ў пярэдняй бабуля дакорліва шаптала:

— Дзе ты толькі швэндаешся?

Маці не адказвала. Ранішняе абуджэнне таксама таіла ў сабе пэўную небяспеку. Калі Альберт будзіў яго, ужо апрануты ў чыстую кашулю з гальштукам, усё праходзіла ўдала: яны ладзілі тады ў пакоі Альберта сапраўднае снеданне і нікуды не спяшаліся і не

хваляваліся, і можна было яшчэ раз прагледзець разам з Альбертам хатнія заданні. Але калі Альберт быў яшчэ ў піжаме, непрычасаны, з пакамечаным тварам, тады прыходзілася ў спешцы глытаць гарачую каву і тэрмінова пісаць запіску: «Глыбоканаважаны пан Вімар, прашу вас прабачыць мне за тое, што хлопчык сёння зноў спазніўся. Яго маці паехала, а я забыўся пабудзіць яго своечасова. Яшчэ раз прашу прабачэння. З абсалютнай пашанай».

Кепска было, калі маці прыводзіла гасцей: неспакойны сон у ложку Альберта, дурнаваты смех, што даносіўся з мамінага пакоя; Альберт у такія ночы падчас і зусім не лажыўся і толькі паміж пяццю і шасцю прымаў ванну: шум вады, плёскат, а ён засынаў зноў, і калі Альберт будзіў яго, адчуваў сябе бясконца стомленым і разбітым. На ўроках ён тады кляваў носам, а пасля ўрокаў у якасці ўзнагароды яго вадзілі ў кіно і куплялі марожанае або бралі да маці Альберта, у *Бітэнхан* — «Лясную браму». Там сажалка, дзе Глум голымі рукамі ловіць рыбу і зноў кідае яе ў ваду, там пакой над кароўнікам, там можна *гадзінамі* ганяць у футбол з Альбертам і Брылахам на ўтаптаным, выкашаным лужку, пакуль не выгаладаешся і не захочаш пакаштаваць хлеба, які маці Альберта пячэ сама, а дзядзька Віль заўсёды прыгаворвае: «Намажце паболей масла». Пахітае галавой: «Паболей масла». Зноў пахітае: «Яшчэ больш». І Брылах, заўсёды такі няўсмешлівы, смяецца там ад усяго сэрца.

Было шмат станцый на шляху, ён мог заснуць на любым перагоне: Бітэнхан і бацька, Блондзі і распусна. Прыглушанае гудзенне вентылятара азначала, што ўсё добра: маці дома. Шалясценне старонак, дыханне маці, чырканне запалкі і ціхі, шпаркі глыток, калі яна падносіць да вуснаў шклянку з віном,— і незразумелы рух паветра, хоць вентылятар даўно ўжо выключаны: гэта дым цягнецца да вентылятара, і Марціна незаўважна агортваў сон — дзесь паміж Гезелерам і «Калі ты, Гасподзь, не даруеш нам грахі нашыя».

## 2

Лепш за ўсё было ў Бітэнхане, дзе маці Альберта трымала загарадны рэстаранчык. Маці Альберта ўсё

пякла сама, нават хлеб. Яна гэта рабіла проста таму, што любіла пячы,— і яны [redacted] Брылахам маглі ў Бітэнхахадзіць у даліну, катацца на лодцы або *гадзінамі* гуляць за домам у футбол. Сажалка ўдавалася ў лясны гушчар, і іх звычайна суправаджаў дзядзька Віль — брат маці Альберта. [redacted] дзяцінства дзядзька Віль хварэў на нейкую дзіўную хваробу, якую ўсе называлі «начная патлівасць» — дзіўная назва, што выклікала смех у бабулі і Глума, Больда таксама хіхікала, калі чула гэтае слова. Вілю было ўжо пад шэсцьдзесят. Калі ж яму не было яшчэ і дзесяці, маці знайшла яго аднойчы ў пасцелі ўсяго залітага потам. На наступны дзень гісторыя паўтарылася, і маці, у трывозе, пацягнула яго да доктара, бо, па нейкіх таемных паданнях, начная патлівасць лічылася немінучай прыкметай сухотаў. Але лёгкія ў маленькага Віля аказаліся ў поўным парадку, толькі сам ён, як выказаўся доктар, быў хлапчуком нервовым і субтыльным; і доктар — той самы, што вось ужо сорак гадоў спачывае на гарадскіх могілках,— сказаў пяцьдзесят гадоў назад: «Дзіця трэба берагчы».

І Віля ўсё жыццё беразглі. «Нервовы, субтыльны», ды яшчэ начная патлівасць — усё гэта абярнулася свайго роду рэнтай, якую пажыццёва яму выплочвала сям'я. Марцін і Брылах, даведаўшыся пра гэта, доўгі час уранку абмацвалі свае лбы і па дарозе ў школу абменьваліся назіраннямі. Высветлілася, што і ў іх ілбы часам бываюць вільготныя. Асабліва ў Брылаха — ён пацеў уначы часта і вельмі моцна, але, з таго часу як Генрых Брылах нарадзіўся, нікому і ў галаву не прыходзіла хоць даянёк паберагчы хлопчыка. Маці нараджала яго, калі на горад сыпаліся бомбы, яны падалі на тую вуліцу, а пад канец і на той дом, дзе ў бамбасховішчы, на брудных нарах, заляпаных вакса́й, яна курчылася ў схватках. Галава маці аказалася на тым самым месцы, куды нейкі салдат уладкаваў свае боты: ад паху ворвані яе ванітавала куды больш, чым ад родаў, і калі нехта запіхнуў ёй пад галаву завэдзганы ручнік, пах армейскага мыла, убогі водар яго расчуліў яе да слёз; гэты апаганены водар здаўся ёй невыказна дарагім.

Калі пачаліся схваткі, ёй дапамаглі; яе ванітавала проста на ногі тых людзей, і самай лепшай і вы-

трыманай павітухай аказалася чатырнаццацігадовая дзяўчынка. Яна згатавала ваду на спіртоўцы, падрыхтавала стэрыльныя нажніцы і перарэзала пупавіну. Яна рабіла ўсё дакладна так, як напісана было ў кнізе, якую ёй зусім не след было чытаць; спакойна і адначасова мякка і са адзіўляльнай вытрымкай рабіла яна тое, што па начах, калі бацькі даўно ўжо спалі, вычытала ў кнізе з чырванавата-белымі і жаўтаватымі малюнкамі; яна перарэзала пупавіну стэрылізаванымі кравецкімі нажніцамі, якія ўзяла ў сваёй маці. Тая паставілася да пазнанняў дачкі недаверліва, хоць і не без пэўнай долі захаплення.

Пасля, калі трывога закончылася, да іх аднекуль здаля данёсся роў сірэны: гэтак да звяроў у лясной гушчэчы даносяцца галасы паляўнічых. Дом абрушыўся. Руіны злавесна прыглушылі гук, і маці Брылаха, якая заставалася ў падвале адна з чатырнаццацігадовай павітухай, пачула крыкі астатніх,— яны спрабавалі вылезці наверх праз завалены праход.

— Як цябе завуць? — спытала яна ў дзяўчынкі: ёй ніколі раней не даводзілася з ёй сустракацца.

— Генрыета Шадэль,— адказала дзяўчынка і выцягнула з кішэні непачаты кавалак зялянькавага мыла.

Тады фрау Брылах сказала:

— Дай мне панюхаць.

І яна нюхала мыла і плакала ад шчасця, а дзяўчынка тым часам загортвала дзіця ў коўдру.

У яе заставалася толькі сумачка з грашамі і прадуктовымі карткамі, брудны ручнік, падсунуты ёй пад галаву невядомым дабрадзеем, і некалькі фотаздымкаў мужа: на адным ён быў зняты яшчэ да арміі, у спяцоўцы слесара, выглядаў вельмі маладым і ўсміхаўся, а на другім ён быў ужо яфрэйтарам танкавых войскаў і таксама ўсміхаўся, на трэцім — унтэрам з жалезным крыжам другой ступені і баявымі адзнакамі, і зноў-такі ўсміхаўся, і самы апошні — яна атрымала яго толькі на мінулым тыдні,— дзе ён ужо фельдфебель з двума крыжамі і ўсё з той жа ўсмешкай.

Праз дзесяць дзён пасля родаў яе ўцiснулі ў цягнік, які павёз яе на ўсход; праз два месяцы, у саксонскай вёсачцы, яна даведалася, што муж загінуў.

У васемнаццаць гадоў яна выйшла замуж за бравага яфрэйтара, чыё цела парахнее цяпер дзесьці паміж

Запарожжам і Днепрапятроўскам. І вось на дваццаць другім годзе жыцця яна стала ўдавою. Яна мае трохмесячнае дзіця, два ручнікі, дзве каструлькі, трошкі грошай, і яна вельмі прыгожая.

Хлопчык, якога па бацьку ахрысцілі Генрыхам, падрастаў з цвёрдым перакананнем, што каля маці заўсёды павінен быць нейкі дзядзька.

У першыя яго гады такім дзядзькам аказаўся Эрых, які насіў рудую форму. Эрых належаў да загадкавай катэгорыі дзядзькаў і да не менш загадкавай катэгорыі нацы. І з той і з другой катэгорыяй было ўсё не зусім зразумела. Генрых адчуў гэта яшчэ чатырохгадовым хлапчуком, але зразумець, у чым справа, канешне, не мог. Дзядзька Эрых меў хваробу, якая называлася *астма*: стогны ўначы, крактанне і жаласны крык: «Няма чым дыхаць!» — насоўкі, змочаныя воцатам, і пах камфары, і настоі з нейкім дзіўным водарам. Дадому разам з імі перакачавала з Саксоніі рэч, якая некалі належала Эрыху,— запальнічка. Эрых застаўся ў Саксоніі, а запальнічка перакачавала з імі, і пах Эрыха захаваўся назаўсёды ў памяці.

Потым з'явіўся новы дзядзька, ад якога ў памяці застаўся пах *амерыканскіх цыгарэт* і вільготнага алебастру ды яшчэ пах распушчанага на патэльні маргарыну і смажанай бульбы. Звалі яго Герт, і быў ён не такім далёкім і незразумелым, як той, якога звалі Эрых і які застаўся ў Саксоніі. Герт працаваў абліцоўшчыкам, і слова «абліцоўшчык» было неаддзельным ад паху вільготнага алебастру, вільготнага цэменту. І яшчэ з Гертам было звязана іншае слова, якое ён паўтараў на кожным кроку і якое, пасля таго як ён сышоў, захавалася ў лексіконе маці,— слова *дзярмо*. Гэта такое слова, якое маці чамусьці можна гаварыць, а дзецям вельмі строга забараняецца. І яшчэ Герт пакінуў на памяць, акрамя пахаў і гэтага слова,— наручны гадзіннік, які ён падарыў маці, мужчынскі наручны гадзіннік на васемнаццаці камянях — нейкае зусім незразумелае вызначэнне якасці гадзінніка.

Генрыху споўнілася тады пяць з паловай гадоў, і ён нямала зрабіў, каб пракарміць сябе і маці, выконваючы на чорным рынку ўсялякія даручэнні шматлікіх насельнікаў дома. Прыгожанькі хлапчук, падобны на бацьку, кожны дзень у дванаццаць ішоў з дому, узброены грашамі і выдатнай памяццю, і здабываў тое,

што можна было раздабыць,— хлеб, табаку, цыгарэты, каву, салодкія ласункі, а часам нават такія раскошныя рэчы, як маргарын, масла, электрычныя лямпачкі. Калі была патрэба рабіць вялікія пакупкі, ён быў для суседзяў праваднікам, таму што ведаў, хто чым гандлюе на чорным рынку, і ўвогуле ведаў там кожнага сабаку. Сярод спекулянтаў ён карыстаўся недатыкальнасцю, і кожны, каго выкрывалі ў спробе падмануць малога, падпадаў пад бязлітасны байкот і вымушаны быў пачынаць гандаль недзе ў іншым месцы.

Не па гадах кемлівы, хлапчук набываў на рынку не толькі хлеб надзённы, ён набыў і фенаменальную здольнасць да вуснага ліку. Здольнасць гэтая выручала яго ў школе колькі гадоў запар. Толькі ў трэцім класе яны пачалі праходзіць прыклады, якія ён рашаў на практыцы задоўга да школы.

Колькі каштуюць дзве васьмушкі кавы, калі вядома, што кілаграм каштуе трыццаць дзве маркі?

Рашэння такіх задач патрабавала ад яго само жыццё, таму што выпадалі вельмі кепскія месяцы, калі ён купляў хлеб па пяцьдзесят або па сто грамаў, табаку — яшчэ меншымі дозамі, каву на лоты — маленечкія порцыі, а гэта патрабуе немалога спрыту ў абыходжанні з дробамі, калі не хочаш, каб цябе абдурылі.

Герт знік раптоўна. А ягоныя пахі засталіся ў памяці — вільготны алебастр, «Віргінія», смажаная на маргарыне бульба з цыбуляй; а яшчэ ў спадчыну ад Герта засталося слова *дзярмо*, якое назаўсёды ўвайшло ў лексікон маці, і, нарэшце, адна каштоўная рэч — мужчынскі наручны гадзіннік. Пасля раптоўнага знікнення Герта маці плакала, чаго не было пасля расстання з Эрыхам, а хутка аб'явіўся новы дзядзька з імем Карл. Карл пачаў патрабаваць, каб яго звалі татам, хоць ён не меў на гэта аніякага права. Карл служыў у магістратуры і хадзіў не ў старым кіцелі, як Герт, а ў сапраўдным гарнітуры, і Карл абвясціў гучным голасам пачатак «новага жыцця».

«Карл — новае жыццё» — так і запомніўся ён Генрыху, таму што гэтыя словы Карл паўтараў па дваццаць разоў на дзень. Пахам Карла быў пах супоў, якія адпускаліся служачым магістратуры на льготных падставах; супы, як бы яны ні называліся, тлустыя яны былі або салодкія, без розніцы, ад усіх супоў пахла тэрмасам і дастаткам. Карл штодня прыносіў у старым

салдацкім бачку палову сваёй порцыі, бывала, і больш, калі падыходзіла яго чарга атрымліваць дадатковую порцыю. Зразумець прычыну гэтай ільготы Генрых так і не змог. [redacted] чым бы ні быў суп згатаваны — з салодкімі клёцкамі або з бычыным хвастом,— усё роўна ён патыхаў тэрмасам, і ўсё роўна ён быў цудоўны. Для бачка пашылі брызентавы чахольчык, а ручку абвязалі суровымі ніткамі, Карл не мог вазіць бачок у партфелі, таму што ў трамваі заўсёды вельмі піхаліся, суп расплёхваўся і запэцкваў партфель. Карл быў дабрадушны і непатрабавальны, але яго з'яўленне мела і непрыемныя наступствы, таму што хоць ён і быў непатрабавальны, аднак строгі і катэгарычна забараніў Генрыху ўсялякія паходы на чорны рынак. «Як дзяржаўны служачы я не магу дазволіць... не кажучы ўжо, што гэта падрывае маральныя ўстоі і народную гаспадарку». Строгасць Карла прыпадала на цяжкі 1947 год. Мізэрныя пайкі, калі іх толькі можна было ўвогуле назваць пайкамі,— і Карлавы супы ніякім чынам не параўнаць было з колішнімі заробкамі Генрыха. Генрых спаў у адным пакоі з маці і Карлам — гэтак жа, як спаў ён у адным пакоі з маці і дзядзькам Гертам, з маці і дзядзькам Эрыхам.

Калі Карл і маці, патушыўшы святло, падсаджваліся да радыёпрыёмніка, Генрых паварочваўся да іх спінай і глядзеў на здымак бацькі. Бацька быў зняты ў форме фельдфебеля танкавых войск незадоўга перад смерцю. У доме гаспадарылі розныя дзядзькі, але фотаздымак бацькі працягваў вісець на сцяне. І ўсё ж, нават адвярнуўшыся, ён чуў шэпт Карла, хоць і не разбіраў асобных слоў, і чуў хіхіканне маці. З-за гэтага хіхікання ён часам ненавідзеў маці.

А пасля ў маці з Карлам была сварка з-за нейкай малазразумелай справы, якая называлася «ён». «Мне ён ні да чаго»,— увесь час гаварыла маці. «А мне да чаго»,— гаварыў Карл. Толькі пасля Генрых зразумеў, што азначала «ён». У хуткім часе маці трапіла ў бальніцу, і Карл быў вельмі засмучаны і сярдзіты, але абмежаваўся тым, што сказаў яму: «Ты тут ні пры чым».

Прапахлыя супам бальнічныя калідоры, мноства жанчын у вялікай зале, маці, жаўтавата-бледная, але з усмешкай, хоць ёй было «так балюча, так балюча».

Карл змрочна стаяў каля яе ложка: «Між намі ўсё скончана, калі ты «яго» ...»

Загадкавы «ён»! І Карл пайшоў яшчэ да таго, як маці выпісалася з бальніцы. Генрых заставаўся пяць дзён пад наглядам суседкі, якая адразу ж зноў пачала адпраўляць яго на чорны рынак. Паўсюль былі ўжо новыя людзі і новыя цэны, і нікога больш не цікавіла, абдурваюць Генрыха ці не. Бількхагер, у якога ён заўсёды купляў хлеб, сядзеў у турме, сівы татуля, які гандляваў табакай і ласункамі, таксама трапіў у турму, яго схапілі на месцы злачынства, калі ён спрабаваў забіць каня на ўласным двары. Усё памянялася, стала даражэйшым і горшым. І Генрых узрадаваўся, калі з бальніцы вярнулася мама, таму што суседка з ранку да вечара расказвала яму пра тое, як яна схуднела і якая яна раней была пышная, або расказвала пра ўсялякае смакоцце. Казачныя ўспаміны пра шакалад і мяса, пра пудынгі і смятанку ўшчэнт збівалі з панталыку, бо ён не меў аніякага ўяўлення пра гэтыя ласункі.

Маці зрабілася ціхай, задумлівай, але значна больш ласкавай, чым раней. Яна паступіла на працу на кухню, дзе гатаваліся супы для служачых магістратуры. Цяпер яны штодзень атрымлівалі па тры літры супу, а тое, што не з'ядалі самі, выменьвалі на хлеб або табаку. Вечарамі маці сядзела каля радыёпрыёмніка разам з ім, ціхая, задумлівая, курыла, ад яе толькі і можна было пачуць: «Усе мужчыны — баязліўцы».

Памерла суседка — змрочная, кашчавая, заўсёды галодная істота. Яна бясконца расказвала, што перад вайной важыла амаль сем пудоў. «Вось паглядзі на мяне, добра паглядзі і ўяві сабе, што я важыла да вайны больш сямі пудоў, ува мне было роўна дзвесце трыццаць чатыры фунты[1]. А паглядзі на мяне зараз — ува мне засталося толькі сто сорак чатыры». Колькі гэта пудоў? Сем пудоў выклікаюць уяўленне мяшкоў з бульбай, мукой, брыкетамі вугалю; сем пудоў ува-ходзіла ў маленькую тачку, якую ён часта браў, калі ішоў красці брыкеты на пуцях,— халодныя ночы, свіст таго, хто пільнаваў,— ён узбіраўся на семафорную мачту, каб падаць сігнал, калі з'явіцца паліцэй-

---

[1] Нямецкі фунт роўны пяцістам грамам.

скі. Тачка атрымлівалася вельмі цяжкай, калі яе нагружалі даверху, а суседка, выходзіць, важыла яшчэ больш.

І вось цяпер яна памерла: на магільны грудок паклалі астры, праспявалі Dies irae, dies illa[1], і калі родныя забралі мэблю, на прыступках засталася фотакартка — вялікая рудая фотакартка, на ёй суседка перад домам з надпісам: «Віла Элізабет». Ззаду — вінаграднік, грот з порыстага каменю, у якім фаянсавыя гномы коцяць цацачныя тачкі; наперадзе, бялявая і тоўстая, стаіць суседка, а з верхняга акна выглядвае мужчына з люлькаю ў роце, і праз увесь франтон — надпіс: «Віла Элізабет». Уласна, так і павінна быць — бо яе звалі Элізабет.

У вызвалены пакой уехаў мужчына, яго звалі Леа, ён быў кандуктарам у сіняй форменнай фуражцы з чырвоным кантам, на плячах мноства рамянёў, шмат рыпучай скуры і ўсё тое, што Леа называў сваёй «збруяй» — сумка для грошай і драўляная скрыначка, у якую ўстаўляліся катушкі з білетамі, губка ў алюмініевым футлярчыку і кампосцерныя шчыпцы. Непрыемным быў твар Леа — чырвоны, чыста ўмыты; непрыемным было ніколі не выключанае радыё і песні, якія ён высвістваў. Жанчыны ў кандуктарскай форме танцавалі і спявалі ў ягоным пакоі.

— За ваша здароўе! — толькі і чуваць было адтуль.

Жанчына, якая некалі важыла амаль сем пудоў і ад якой засталася фотакартка «Віла Элізабет», была ва ўсякім выпадку ціхая. А Леа быў шумным. Ён зрабіўся галоўным спажыўцом супу і разлічваўся за яго цыгарэтамі па тарыфе, які ён сам вызначыў; асабліва добра плаціў Леа за салодкія супы.

Аднойчы ўвечары, калі Леа прынёс табаку і атрымаў за гэта суп, ён раптам паставіў каструлю зноў на стол, з усмешкай паглядзеў на маці і сказаў:

— Хочаце паглядзець, як цяпер танцуюць? Вам, уласна, даводзілася танцаваць апошнім часам?

І Леа пусціўся ў нейкія неймаверныя скокі, ён высока падкідаў ногі, узмахваў рукамі і пры гэтым дзіка падвываў. Маці рассмяялася і адказала:

— Не, я даўно ўжо не танцавала.

---

[1] Дзень гневу, той дзень (лац.) — пачатак страфы каталіцкай памінальнай імшы.

— А трэба было б,— сказаў Леа.— Хадзіце сюды!

І, напяваючы нейкі матыўчык, ён узяў маці за руку, сцягнуў яе з крэсла і затанцаваў з ёй — і твар маці адразу змяніўся: яна раптам заўсміхалася, заўсміхалася і адразу зрабілася намнога маладзейшай.

— Ах,— сказала яна,— вось раней я часта хадзіла на танцы.

— Тады пойдзем са мной! — усклікнуў Леа.— У мяне абанемент у танцклубе. А вы проста выдатна танцуеце.

Маці і сапраўды пайшла ў клуб, і Леа стаў дзядзькам Леа, і зноў пачалася гаворка пра «яго». Генрых уважліва прыслухоўваўся і хутка зразумеў, што гэтым разам ролі памяняліся. Цяпер маці гаварыла тое, што тады казаў Карл:

— Я хачу, каб ён застаўся.

А Леа адказваў так, як тады адказвала маці:

— Не, ты ад яго пазбавішся.

Генрых быў ужо ў другім класе і даўно зразумеў, што азначае «ён», таму што ведаў ад Марціна тое, пра што Марцін у сваю чаргу даведаўся ад дзядзькі Альберта: ад сужыцельства мужчын і жанчын з'яўляюцца дзеці, і было зразумела, што «ён» азначае проста дзіця і што дастаткова ўсюды замест «ён» падставіць «дзіця». «Я хачу дзіця»,— гаварыла маці. «Не, ты ад яго пазбавішся»,— гаварыў Леа. «Я не хачу дзіця»,— гаварыла маці Карлу. «А я хачу»,— гаварыў Карл.

Тое, што маці сужыцельствала з Карлам, было зразумела і тады, хоць тады Генрых меў на ўвазе не слова «сужыцельства», а зусім іншае слова, якое гучала не так прыстойна. Значыць, ад дзіцяці можна пазбавіцца. Ад таго дзіцяці, з-за якога Карл кінуў маці, яна пазбавілася. Атрымлівалася, што Карл зусім не самы горшы з усіх дзядзькаў.

На свет з'явіўся «ён» — дзіця, і Леа пагражаў:

— Я аддам яго ў выхаваўчы дом, калі ты з-за яго кінеш работу.

Але работу ўсё ж прыйшлося пакінуць, таму што суп, які на льготных умовах адпускалі служачым магістратуры, скончыўся, а хутка не стала і чорнага рынку. Ніхто ўжо не цікавіўся супам, таму што выпусцілі новыя грошы, і грошы сталі дарагімі, і ў магазінах цяпер прадаваліся рэчы, якія раней немагчыма было адшукаць нават на чорным рынку. Мама плака-

ла, «ён» быў маленечкім і зваўся «ён» — Вільма, як мама, а Леа ўсё злаваў, пакуль мама зноў не ўладкавалася на працу да кандытара.

Дзядзька Альберт прыйшоў і прапанаваў маці грошай, яна іх не ўзяла, Леа накрычаў на яе, а Альберт, дзядзька Марціна, крычаў на Леа.

Ад Леа заўсёды пахла туалетнай вадой. Твар у яго быў чырвоны ад бясконцага мыцця, а валасы — чорныя як смоль; Леа шмат займаўся сваімі пазногцямі, і з-пад форменнай тужуркі ў яго заўсёды высоўвалася жоўтае кашнэ. І яшчэ ён быў вельмі скупы: на дзяцей ён увогуле ні граша не траціў і гэтым розніўся ад Альберта і ад Віля — дзядзькаў Марціна, якія рабілі яму шмат падарункаў. Віль быў зусім не такі дзядзька, як Леа, а Леа зусім не такі, як Альберт. Паступова Генрых пачаў усіх дзядзькаў падзяляць на катэгорыі. Віль — гэта сапраўдны дзядзька, а Леа — гэта такі ж дзядзька, як Эрых, Герт і Карл, якія сужыцельствалі з маці, Альберт — гэта дзядзька, які не падобны ні на Леа, ні на Віля, ён не такі сапраўдны, як Віль, якога можна называць нават дзядулем, але і не дзядзька-сужыцель, як Леа.

А бацька — гэта партрэт на сцяне: усмешлівы фельдфебель, сфатаграфаваны дзесяць гадоў назад. Спачатку бацька здаваўся яму занадта старым, цяпер — занадта маладым, усё маладзей і маладзей, а сам ён паволі дарастаў да бацькі, і бацька быў цяпер толькі крыху больш чым у два разы старэйшым за яго. А спачатку ён быў старэйшым разы ў чатыры, у пяць. На іншым фотаздымку, які вісеў побач, маці было толькі васемнаццаць, і яна выглядала зусім як дзяўчынка перад канфірмацыяй.

Дзядзька Віль амаль у шэсць разоў старэйшы за яго, і ўсё ж побач з Вілем ён здаваўся сабе старым і вопытным, мудрым і стомленым. І ён прымаў дружбу Віля, як прымаюць дружбу маленькага дзіцяці, як ён прымаў пяшчоту сваёй маленькай, хутка падрастаючай сястрычкі. Ён няньчыўся з ёй, даваў ёй бутэлечку, падаграваў кашу, таму што з дванаццаці маці ішла на працу, а Леа катэгарычна адмаўляўся глядзець за дзіцем. «Я вам не нянька!» Пасля Генрых навучыўся нават купаць Вільму, садзіць яе на гаршчок і браў з сабой, калі хадзіў за пакупкамі або калі хадзіў сустракаць маму пасля работы.

Альберт, дзядзька Марціна, нічым не быў падобны на Віля, гэта быў чалавек, які ведаў кошт *грошай*, чалавек, які, хоць сам і не меў у *грашах* патрэбы, ведаў, як страшна, калі даражэе хлеб і скача цана на маргарын; так, гэта быў дзядзька, якога і ён хацеў бы мець: не дзядзька-сужыцель і не дзядзька Віль, які прыдатны хіба толькі на тое, каб пагуляць з ім ці прагулянца. Віль нядрэнны чалавек, але *размаўляць* з ім цяжка, а з Альбертам можна, хоць у Альберта і водзяцца *грошы*.

Ён ахвотна хадзіў *туды* па розных прычынах: галоўным чынам з-за дзядзькі Альберта і з-за Марціна, зразумела. Ва ўсім, што тычылася грошай, Марцін ніколькі не адрозніваўся ад дзядзькі Віля. І бабуля яму падабалася, хоць яна і была дзівакаватая. І з-за футбола ён туды хадзіў, і з-за ласункаў з халадзільніка, а яшчэ яму падабалася, што там можна, пакінуўшы Вільму недзе ў садзе, у калясцы, ганяць гадзінамі ў футбол і не бачыць дзядзьку Леа.

Затое страшна было бачыць, як *там* абыходзяцца з *грашамі:* яму там ні ў чым не адмаўлялі, і ўсе ставіліся да яго вельмі ласкава, але ў Генрыха было цьмянае прадчуванне, што аднойчы гэта ўсё кепска скончыцца, і не толькі з-за грошай. Існавалі рэчы, якія не мелі ніякіх адносін да грошай, напрыклад розніца паміж дзядзькам Леа і дзядзькам Альбертам, розніца паміж тым, як жахнуўся Марцін, калі пачуў слова, сказанае кандытару, і тым, як сам ён, Генрых, толькі крыху спалохаўся, калі ўпершыню пачуў, як мама вымавіла слова, якое раней ён чуў толькі ад Леа і ад нейкай ягонай кандуктаркі. Слова гэтае здалося яму агідным, ён не любіў яго, але ніколі не жахаўся так, як жахнуўся Марцін. Усе гэтыя адрозненні толькі часткова залежалі ад *грошай*, і разбіраўся ў гэтым толькі дзядзька Альберт, які выдатна разумеў, што не павінен *занадта добра* адносіцца да яго, Генрыха.

## 3

Ужо на працягу некалькіх хвілін яна адчувала на сабе нейчы пільны позірк, позірк чалавека, што прывык да перамог і не сумняваецца ў поспеху. Можна глядзець па-рознаму: яна часам адчувала скіраваныя

на яе ззаду молячыя вочы нясмелага паклонніка. Але гэты, сённяшні, упэўнены ў сабе — позірк без ценю меланхоліі; цэлыя паўхвіліны яна спрабавала ўявіць сабе, які ён — элегантны брунет трохі хлышчаватага выгляду; магчыма, ён нават пабіўся аб заклад — стаўлю дзесяць супраць аднаго, што я за тры тыдні паладжу з ёй.

Яна вельмі стамілася, і ёй не надта цяжка было ігнараваць незнаёмага паклонніка, яна радавалася таму, што можа правесці канец тыдня з Альбертам і хлопчыкам у маці Альберта. Надыходзіць восень, і ў рэстаранчыку наўрад ці будзе шмат народу. Нават проста слухаць Альберта, калі ён разважае з Вілем і Глумам пра розныя віды прыманкі, адно задавальненне; акрамя таго, яна возьме з сабой кнігі і пачытае, пакуль дзеці будуць гуляць у футбол, а магчыма, яна паддасца на ўгаворы і пойдзе разам з Глумам лавіць рыбу і будзе рахмана выслухоўваць тлумачэнні пра нажыўку і насадку і пра розныя віды вудзільнаў і пра вялікую, нават больш чым вялікую, цярплівасць. Яна ўсё яшчэ адчувала на сабе гэты позірк і разам з тым зноў зведала ўсыпляльнае ўздзеянне голасу Шурбігеля: паўсюль, дзе толькі можна было сказаць прамову на якую-небудзь інтэлектуальную тэму, Шурбігель неадкладна гаварыў яе. Яна ненавідзела Шурбігеля і цяпер раскайвалася ў бязглуздай ветлівасці, што змусіла яе прыняць запрашэнне. Было б значна лепш пайсці з Марцінам у кіно, пасля паесці марожанага і, прыхлёбваючы каву, прагледзець вячэрнюю газету, пакуль Марцін забаўляецца, выбіраючы пласцінкі, якія ветліва падае яму афіцыянтка. А цяпер яе ўжо заўважыў нехта са знаёмых — і наперадзе зноў згублены вечар; прыхапкам падрыхтаваныя бутэрброды, адкаркаваныя бутэлькі, кава («Можа, вам лепей чаю?»), цыгарэты і раптоўна атупелы твар Альберта — такім ён робіцца, калі павінен займаць яе гасцей і расказваць ім пра яе мужа.

Занадта позна. Зараз выступае Шурбігель, затым патэр Вілiброрд пачне прадстаўляць ёй розных людзей, з'явіцца і той незнаёмы паклоннік, чый позірк, быццам святло ад лямпы, падае на яе патыліцу. Лепш за ўсё прысяуць — так ва ўсякім выпадку ўрвеш хоць крышку для сну.

Яна вечна рабіла тое, чаго не хацела, і зусім не з-за

пыхі, зусім не дзеля таго, каб надаць папулярнасці свайму загінуўшаму мужу, і зусім не дзеля жадання пазнаёміцца з цікавымі людзьмі. Гэта было пачуццё, якое зведваеш, адпраўляючыся ўплаў, і яна дазваляла заводзіць сябе туды, дзе амаль усё было пазбаўлена сэнсу — глядзець урыўкі з кепскіх фільмаў, бязладныя, пагана знятыя сцэны з удзелам пасрэдных акцёраў і неважнецкім асвятленнем, і марыць. Яна з усяе сілы змагалася з дрымотай, нават выпрасталася і пачала слухаць Шурбігеля, чаго ўжо даўным-даўно не рабіла. Позірк, неадступна скіраваны на яе, стамляў. Не азірацца патрабавала напругі, а паварочвацца яна не хацела, таму што, не гледзячы, ведала, такі тып людзей. Гэтыя інтэлігентныя бабнікі наводзілі на яе жах. Усё іх, падпарадкаванае рэфлексам і пачуццю непаўнацэннасці, жыццё праходзіць з аглядкай на літаратурныя прыклады, і густы іх вагаюцца паміж Сартрам і Кладэлем. Яны мараць пра нумар у гатэлі, такі ж, які яны бачаць у кіно, на самых позніх сеансах, у фільмах з цьмяным асвятленнем і вытанчаным дыялогам, у фільмах «не багатых на падзеі, але захапляльных» і ў суправаджэнні экзістэнцыянальных гукаў аргана: бледны мужчына нахіліўся над бледнай жанчынай, а цыгарэта — які цудоўны кадр! — ахінае начны столік вялізнымі кольцамі дыму — «Мы робім кепска, але мы не ў стане дзейнічаць інакш». Выключаюць святло, і ў густым змроку чырванее толькі агеньчык цыгарэты на начным століку,— экран згасае, а тым часам здараецца непазбежнае.

Чым больш такіх паклоннікаў з'яўлялася ў яе, тым больш яна кахала свайго мужа, і за дзесяць гадоў, хоць ёй шмат што прыпісвалі, яна ні разу не спала ні з адным мужчынам. Рай быў іншым, і комплексы ягоныя былі такімі ж сапраўднымі, як і яго наіўнасць.

Цяпер яе пакрысе заканыхваў голас Шурбігеля, і на нейкі момант яна забылася пра назойлівы, упёрты ёй у патыліцу позірк незнаёмца.

Шурбігель быў высокі і грузны, і ступень меланхоліі на яго твары ўзрастала ад даклада да даклада, а ён прачытаў іх нямала. І з кожным дакладам ён рабіўся ўсё больш прадстаўнічым, больш грузным. Нэлі заўсёды здавалася, што перад ёй надзвычай эрудыраваны, надзвычай маркотны і раздзьмуты паветраны шар, які павялічваецца не па днях, а па гадзінах і які раптам

лопне, і нічога ад яго не застанецца, акрамя прыгаршчаў канцэнтраванай маркоты з дурным пахам.

І тэма яго была спецыфічна шурбігелеўская — «Адносіны творчай асобы да царквы і да дзяржавы ў наш тэхнічны век». І голас у яго быў прыемны: алейна-разумны, крыху перарывісты ад патаемнай чуллівасці, напоўнены бясконцай маркотай. Яму сорак тры гады, у яго шмат прыхільнікаў і амаль няма ворагаў, але тым не менш гэтым ворагам удалося выцягнуць на свет божы з нетраў заняпалай універсітэцкай бібліятэкі недзе ў Сярэдняй Германіі доктарскую дысертацыю Шурбігеля, а дысертацыя была напісана ў 1934 годзе і называлася: «Вобраз фюрэра ў сучаснай лірыцы». Таму кожнае сваё выступленне Шурбігель пачынаў цяпер крытычнымі заўвагамі з прычыны публіцыстычнай нядобрасумленнасці некаторых крыклівых юнакоў, сектанствуючых песімістаў, самабічавальных ерэтыкоў, няздольных зразумець паступальнае развіццё духоўна сталай асобы. Але ў зносінах з непрыяцелямі ён быў сама ветлівасць і ўжываў супраць іх зброю, якая даводзіла іх да шаленства, бо яны былі бездапаможныя супраць яго: Шурбігель дараваў ворагам сваім, ён усё ім дараваў. Яго жэстыкуляцыі падчас выступлення нагадвалі манеры паслужлівага цырульніка, які завіхаецца толькі на карысць кліенту. Выступаючы, ён як бы прыкладваў сваім уяўным сябрам і ўяўным нядобразычліўцам гарачыя кампрэсы, ён націраў іх супакойваючымі і духмянымі эсенцыямі, ён масіраваў ім шчокі, ён абмахваў іх, ён асвяжаў іх, затым доўга і грунтоўна намыльваў надзвычай духмяным і надзвычай дарагім мылам,— а яго алейны голас выказваў надзвычай разумныя думкі. Шурбігель быў песімістам, але не безнадзейным. Такія словы, як «эліта», «катакомбы», «расчараванне», быццам бакены, калыхаліся ў магутнай плыні яго прамоў; ён даваў наведвальнікам свайго салона процьму нязведанай дагэтуль асалоды; лёгкі дотык, цёплыя кампрэсы, халодныя кампрэсы, масаж; ён быццам рабіў для сваіх слухачоў усе паслугі, што пералічаны ў прэйскуранце цырульні першага разраду.

Ён і вырас у цырульні на ўскраіне. «Выключна таленавітага хлопчыка» хутка заўважылі і пачалі ўсяляк прасоўваць. Маленькі тоўсты хлапчук на ўсё жыццё запомніў меланхалічнае абаянне бруднаватай і цес-

най бацькавай цырульні: мільгаценне нажніц — бляск сталі ў цемнаватым пакоі, роўнае гудзенне электрычнай машынкі для валасоў, нетаропкая гутарка, пах розных гатункаў мыла і духоў, звяканне манет у касе, крадком пададзеныя пакецікі, палоскі паперы, на якой павольна высыхалі ў мыльнай пене бялявыя, чорныя, рыжыя валасы,— здавалася, што яны трапілі ў застылы цукровы мус; дзве цёплыя і напаўцёмныя драўляныя кабінкі, дзе свяшчэннадзейнічала маці: штучнае асвятленне, струменьчыкі дыму ад цыгарэт, і раптам пачынаюцца надрыўныя выліванні пачуццяў з прычыны ўсялякіх амурных спраў. Калі ў цырульні нікога не было, ласкавы, заўсёды меланхалічна настроены бацька ішоў у задні пакой, выкурваў цыгарэту і ганяў яго па склонах,— тут вуха Шурбігеля зрабілася адчувальным, а дух — самотным. Бацька так ніколі і не навучыўся правільна ставіць націскі ў лацінскіх словах, і ўпарта гаварыў *genús* замест *génus*[1], *áncilla* замест *ancílla*[2], а калі сын без падрыхтоўкі спрагаў *fifh emi*[3], на вуснах бацькі з'яўлялася дурнаватая ўсмешка, бо асацыяцыі і думкі былі ў яго заўсёды самымі нізкімі.

Цяпер Шурбігель націраў сваіх слухачоў загадкавай маззю і з пашанай масіраваў ім вушы, ілбы і шчокі, затым ён хуткім узмахам зняў з іх прасцінку, злёгку пакланіўся, сабраў свае запісы і з лагоднай усмешкай сышоў з трыбуны. Яго праводзілі адзінадушнымі і доўгімі, хоць і не надта гучнымі апладысментамі,— якраз так, як любіў Шурбігель: яму не падабалася, калі пляскаюць занадта гучна. Правую руку ён засунуў у кішэню і пачаў гуляць з бляшанкай, у якой было поўна вітамінізаванага дражэ; ціхі гук ад перакочвання цукерачак супакойваў, і Шурбігель з усмешкай падаў руку патэру Віліброрду, які паспеў шапнуць: «Выдатна, выдатна!» Шурбігель развітаўся — ён мусіў яшчэ паспець на адкрыццё выставы «Паўднёвабаварскіх вераадступнікаў», яго лічылі спецыялістам па сучасным жывапісе, сучаснай музыцы, сучаснай лірыцы. Ён аддаваў перавагу самым складаным тэмам, яны давалі магчымасць выказваць найсмялейшыя думкі, ствараць самыя рызы-

---

[1] Род (лац.).
[2] Служанка (лац.).
[3] Я кладу (грэч.).

коўныя канцэпцыі. Смеласць Шурбігеля можна было параўнаць хіба толькі з яго добразычлівасцю, ён найбольш ахвотна ўсхваляў тых, каго лічыў сваімі ворагамі, і найбольш ахвотна вышукваў недахопы ў тых, каго лічыў сваімі сябрамі. Хваліў ён сяброў вельмі рэдка і гэтым здабыў сабе славу непадкупнага. Шурбігель быў непадкупны, і хоць у яго меліся ворагі, сам ён нічыім ворагам не быў.

Пасля вайны Шурбігель (тут неаднаразова прыводзіўся прыклад з апосталам Паўлам) зведаў бязмежную абаяльнасць рэлігіі. На вялікае здзіўленне сваіх сяброў, ён стаў хрысціянінам і першаадкрывальнікам хрысціянскіх талентаў; на шчасце Шурбігеля, ён меў адну вялікую, праўда ўжо дзесяцігадовай даўніны, заслугу: ён адкрыў Раймунда Баха, якога яшчэ дзесяць гадоў таму назваў «найвялікшым літаратарам нашага пакалення». Будучы рэдактарам вялікай нацысцкай газеты, ён адкрыў Баха, пачаў яго друкаваць, і гэта давала яму права — тут ужо зласліўцам заставалася толькі маўчаць — пачынаць кожны рэферат пра сучасную лірыку са слоў: «Калі ў 1935 годзе я першы надрукаваў вершы паэта Баха, які загінуў потым у Расіі, я ўжо ведаў, што пачынаецца новая эра ў лірычнай паэзіі».

Друкаваннем вершаў Баха ён здабыў сабе права называць Нэлу «мая дарагая Нэла», і яна нічога не магла з гэтым зрабіць, хоць выдатна ведала, што Рай ненавідзеў Шурбігеля гэтак жа, як зараз ненавідзела Шурбігеля яна сама. Ён здабыў сабе права раз у тры месяцы заяўляцца да яе вечарам з цэлай плоймай неахайна апранутых юнакоў, піць у яе чай і віно — і мінімум раз у паўгода дзе-небудзь прыладкоўваць чарговы фотаздымак: «Удава паэта з чалавекам, які адкрыў яе мужа».

Нэла з палёгкай канстатавала, што ён кудысьці знік; яна ненавідзела яго, але адначасова ён забаўляў яе. Калі апладысменты змоўклі, яна стрэсла з сябе дрымоту і адчула, што позірк скіраваны цяпер не на яе патыліцу, а проста ў твар. Яна падняла вочы і ўбачыла таго, хто так упарта імкнуўся скарыць яе: ён набліжаўся да яе з патэрам Вілібрордам; ён быў яшчэ малады і насуперак модзе вельмі сціпла апрануты: цёмна-шэры гарнітур, акуратна завязаны гальштук, вельмі прыемны твар — такая разумная іронія бывае

на тварах рэдактараў, якія ад бягучай палітыкі перайшлі да фельетона. Для патэра Віліброрда якраз і было характэрна, што ён абсалютна ўсур'ёз прымаў такіх, як Шурбігель, і што ён прадстаўляў ёй суб'ектаў, падобных на незнаёмага, з якім ён зараз павольна набліжаўся да яе.

Незнаёмы аказаўся брунетам — гэта яна ўгадала, але ў астатнім ён ніяк не адпавядаў таму тыпу інтэлігентнага бабніка, пра які яна толькі што думала. Каб канчаткова збянтэжыць яго, яна зноў усміхнулася: ці паддаўся ён на гэтую гульню найдрабнейшых мускулаў яе твару? Зразумела, паддаўся. Калі ён схіліўся перад ёй, яна ўбачыла густыя чорныя валасы, раздзеленыя на роўны рад.

— Пан Гезелер,— усміхаючыся, сказаў патэр Віліброрд,— працуе над анталогіяй лірычнай паэзіі і вельмі хацеў бы параіцца з табой, дарагая Нэла, менавіта якія вершы Рая трэба змясціць.

— Як... як вас завуць? — перапытала яна і адразу ж заўважыла па яго твары, што ён палічыў яе спалох за ўдзячнасць.

Лета ў Расіі, акоп, маленькі лейтэнант пасылае Рая на немінучую смерць. Дык на гэтай вось смуглай, бездакорна паголенай шчацэ дзесяць гадоў таму гарэла аплявуха Альберта?

«...Я ўляпіў яму такую аплявуху, што на працягу нейкага моманту бачыў адбітак сваіх пяці пальцаў на ягонай смуглай шчацэ, а заплаціў я за гэту аплявуху шасцімесячным адбываннем у адэскай ваеннай турме». Уважлівыя, крыху спалоханыя вочы, выпрабавальны позірк. Нітка жыцця перарэзана — жыцця Рая, майго і хлопчыка — з-за нікчэмнай упартасці нейкага чарнявага лейтэнанта, што настойваў на выкананні свайго загаду; тры чвэрці цудоўнага фільма, які пачаўся ўжо, раптоўна абарвалі, кінулі ў кладоўку, і адтуль яна па частках выцягвае яго,— сны, якія так і не сталі явай. Выкінулі галоўнага героя, а ўсіх астатніх — яе, хлопчыка, Альберта — прымусілі круціць новую, так-сяк склееную стужку. Рэжысёр на гадзінку-другую ўвёў у карціну маленькага, але заўзятага начальніка, і той спаганіў увесь фінал. Прэч галоўнага героя! Яе знявечанае жыццё, жыццё Альберта, хлопчыка, бабулі на сумленні гэтай бездары, што ўпарта працягвае лічыць яе збянтэжанасць закаханасцю.

«Бездар, маленькі, прыгажунчык, інтэлігенцік з выпрабавальным позіркам, складальнік анталогіі, калі толькі гэта ты,— мне здаецца, ты занадта малады,— але калі гэта сапраўды ты, ты будзеш галоўным героем у трэцяй частцы з меладраматычным канцом — загадкавая фігура ў думках майго сына, чорны чалавек у памяці бабулі; дзесяць гадоў, поўныя нязгаснай нянавісці; о, у цябе яшчэ закруціцца ў галаве так, як круціцца ў мяне зараз».

— Гезелер,— адказаў ён, усміхаючыся.

— Пан Гезелер вось ужо два тыдні вядзе аддзел літаратуры і мастацтва ў «Весніку». Нэла, дарагая, табе кепска?

— Так, мне кепска.

— Вам трэба падсілкавацца. Дазвольце запрасіць вас на кубачак кавы.

— Калі ласка.

— Вы пойдзеце [redacted] намі, патэр?

— [redacted] задавальненнем.

Але ёй давялося яшчэ паціснуць руку Трымборну, раскланяцца з фраў Мезевіц, пачуць нейчы шэпт: «Наша мілая Нэла старэе» — і падумаць, ці не варта пазваніць Альберту і выклікаць яго сюды. Альберт пазнае яго і пазбавіць яе пакутлівага выпытвання. Яна амаль не сумнявалася, што гэта ён, хоць усё гаварыла супраць таго. Ён выглядаў гадоў на дваццаць пяць, ну ад сілы на дваццаць восем; значыць, тады яму было самае большае васемнаццаць.

— Я збіраўся пісаць вам,— сказаў ён, калі яны спускаліся па лесвіцы.

— Гэта было б бессэнсоўна,— сказала яна.

Ён глянуў на яе, і яго дурнавата-пакрыўджаны выгляд толькі падбухторыў яе.

— Я ўжо дзесяць гадоў не чытаю лістоў і выкідваю іх нераспячатанымі ў карзіну для папер.

У дзвярах яна прыпынілася, падала руку толькі патэру і сказала:

— Не, я пайду дадому, мне нядобра... пазваніце мне, калі хочаце, але не называйцеся, калі падыдуць да тэлефона. Чуеце? Не называйцеся.

— Што здарылася, дарагая Нэла? — спытаў патэр.

— Нічога,— сказала яна,— я проста вельмі стамілася.

— Мы былі б рады бачыць цябе ў нядзелю на на-

ступным тыдні ў Брэрніху, пан Гезелер выступіць там з дакладам.

— Пазваніце мне, калі ласка,— сказала яна і, не звяртаючы больш увагі на абодвух мужчын, хутка пайшла.

Нарэшце яна вырвалася з паласы яркага святла і павярнула ў цёмную вуліцу, дзе знаходзілася кафэ Луіджы.

Тут яна сотні разоў сядзела з Раймундам, гэта самае зручнае месца, тут зноў можна склейваць фільм з абрыўкаў, якія зрабіліся снамі, і пачаць круціць яго. Патушыць святло, націснуць кнопку, і сон, што так і не стаў явай, успыхвае ў галаве.

Луіджы ўсміхнуўся ёй і адразу ж схапіў пласцінку, якую ставіў заўсёды, калі прыходзіла Нэла: дзікая, прымітыўна сентыментальная музыка вымотвала і хвалявала. Насцярожана чакала яна таго моманту, калі мелодыя абрываецца і з грукатам падае ў бездань,— і адначасова яна ўпарта пракручвала першую частку фільма — тую, якая не была сном.

Тут фільм пачынаўся, тут, дзе мала што з тае пары змянілася. Па-ранейшаму на франтоне над вітрынай быў урэзаны ў сцяну стракаты певень, выкладзены з рознакаляровых шкляных плітак: зялёных, як лужок, і чырвоных, як гранат, жоўтых, як сцяжкі на саставах з боепрыпасамі, і чорных, як вугаль, а вялікі транспарант, які певень трымаў у дзюбе, быў бялюткі, і на ім чырвоны надпіс: «Генэль. 144 гатункі марожанага». Певень кідаў стракатае святло на твары наведвальнікаў, на ўсю залу да самага апошняга куточка, на Нэлу, і рука яе, пафарбаваная мярцвянажоўтым святлом, ляжала на стале, як і тады, калі ішла першая частка фільма.

Нейкі малады чалавек падышоў да яе століка, цёмна-шэры цень упаў на яе руку, і перш чым яна ўзняла вочы, ён сказаў ёй:

— Скіньце гэтую карычневую куртку, яна вам зусім не да твару.

І вось ён ужо апынуўся за яе крэслам, спакойна падняў ён рукі і зняў з яе карычневую куртку «гітлерюгенд». Затым кінуў куртку на падлогу, адшпурнуў нагой у куток кафэ і сеў каля Нэлы.

— Я разумею, што павінен патлумачыць свой учынак,— яна ўсё яшчэ не бачыла яго, таму што другі

шэры цень лёг на яе руку, пафарбаваную ў жоўты колер грудзьмі шклянога пеўня.— Ніколі больш не апранайце гэтую штуковіну. Яна вам не да твару.

Пасля яна танцавала з тым, які прыйшоў першым, яны танцавалі каля стойкі, дзе знайшлося вольнае месца, і цяпер яна добра яго разгледзела: на ўсмешлівым твары — надзіва няўсмешлівыя сінія вочы, якія глядзелі паўзверх яе пляча некуды ўдалеч. Ён танцаваў з ёй так, быццам яе і не было побач, і рукі яго лёгка дакраналіся да яе стану, лёгкія рукі, якія яна пасля, калі яны спалі разам, часта клала сабе на твар. У светлыя ночы валасы яго здаваліся не чорнымі, а попельнымі, як святло, што прасочвалася з вуліцы, і яна трывожна прыслухоўвалася да яго дыхання — дыханне гэтае нельга было пачуць, толькі адчуць, калі паднесці руку да яго вуснаў.

Баласт быў выкінуты з жыцця ў тую хвіліну, калі цёмна-шэры цень упаў на яе пафарбаваную ў жоўты колер руку. Карычневая куртка так і засталася ляжаць у кутку бара.

Жоўтая пляма на руцэ — як і дваццаць гадоў таму.

Ёй падабаліся яго вершы, таму што ён іх напісаў: але значна важнейшым за любыя вершы быў ён сам, які чытаў іх абыякава. Усё яму давалася лёгка, усё здавалася само сабой зразумелым. Нават ад прызыву ў армію, якога ён баяўся, ім пашанцавала атрымаць адтэрміноўку, але засталася памяць пра два дні, калі яго білі ў каземаце.

Змрочны вільготны форт, пабудаваны ў 1876 годзе, зараз там вырошчвае шампіньёны прадпрымальны маленькі француз: крывавыя плямы на пацямнелай вільготнай цэментнай падлозе, піва, ваніты п'яных штурмавікоў, прыглушаны спеў быццам з магілы; ваніты на сценах, на падлозе, дзе цяпер на пласце гною расцуць бялёсыя, хваравітага выгляду грыбы, а на даху казэмата цяпер цудоўны зялёны газон, ружы, гуляюць дзеці, маці сядзяць з вязаннем, і раз-пораз чуваць іх крыкі: «Асцярожна!» і «Што ты носішся як угарэлы»; дзядкі-пенсіянеры злосна разміналоць табаку ў люльках — усяго на два метры вышэй за тую цёмную яму, дзе Рай і Альберт два дні чакалі смерці. Ззяючыя татулі гуляюць у конікі, фантан, воклічы: «Не падыходзь блізка да краю!» — і стары вартаўнік, які кожную раніцу абходзіць парк і знішчае сляды начных

прыгод прыгараднай моладзі: папяровыя насоўкі са слядамі губной памады і на зямлі надрапаныя пры месячным святле абломкамі галін сінонімы слова «каханне». Дзядкі, што ўстаюць на золку, прыходзяць улетку вельмі рана, каб пабачыць здабычу вартаўніка, перш чым яна знікне ў вядры для смецця: хіхіканне з прычыны стракатых папяровых насовак і сцёртай ядавіта-чырвонай памады. Усе мы былі маладымі.

А сярод усяго гэтага — яма, дзе цяпер растуць шампіньёны — мноства бялёсых плямаў над рудым гноем і жоўтай саломай; тут некалі забілі Авесалома Біліга — першую ахвяру сярод яўрэяў горада. Гэта быў цёмнавалосы смяшлівы хлапец з рукамі лёгкімі, як рукі Рая; і маляваць ён умеў непараўнана. Ён маляваў вартавыя вышкі і штурмавікоў — *немцаў да мозгу касцей,* і тыя штурмавікі — *немцы да мозгу касцей* — затапталі яго нагамі там, унізе, у пячоры.

Новая пласцінка, даніна маленькага брунета-бармена яе паўночнай прыгажосці. Яна крыху перасунула на стале руку так, каб на яе падала чырвонае святло ад апярэння на шыі пеўня; прайшло два гады пасля іх першай сустрэчы, яе рука ляжала дакладна гэтак жа, і Рай расказваў пра тое, што забілі Авесалома Біліга. Худзенькая маленькая яўрэйка, маці Авесалома, званіла з кватэры Альберта ў Лісабон, у Мехіка-Сіці, выклікала ўсе параходныя лініі, не спускаючы з рук маленькага Вільгельма Біліга, названага так у гонар кайзера Вільгельма. І дзіўна: дзесьці далёка ў Аргенціне нехта трымаў трубку і размаўляў з фрау Біліг — візы, вэксалі.

Бандэроллю адаслалі два нумары «Фолькішэр Беобахтэр», а ў іх — дваццаць тысяч марак пайшлі ў Аргенціну. Рай і Альберт сталі мастакамі ў аддзеле рэкламы на татавай фабрыцы.

Цяпер там растуць шампіньёны, гуляюць дзеці, чутны воклічы маці: «І чаго ты носішся як учадзелы!», «Асцярожна!», «Не падыходзь блізка!», там б'е фантан і квітнеюць ружы, чырвоныя, як яе рука, што ляжыць у святле пеўневай шыі, шыі пеўня, які з'яўляецца гербам фірмы Генэль. Фільм працягваецца, рука Рая робіцца цяжэйшай, чутно яго дыханне, ён ужо не ўсміхаецца, а ад фрау Біліг прыйшла паштоўка: «Вялікае вам дзякуй за прывітанні з маёй дарагой радзімы». І зноў паслалі бандэроль — два нумары

«Штурмера», а ў іх — дзесяць тысяч марак. Альберт паехаў у Лондан, а з Лондана ў хуткім часе прыйшла вестка, што ён ажаніўся з шалапутнай і вельмі прыгожай дзяўчынай, наравістай і набожнай, а Рай застаўся працаваць мастаком і статыстыкам на татавай фабрыцы. Як бы разрэкламаваць наш новы гатунак? *Кожнаму даступнае сунічнае жэле Гольштэге — смачна, нядорага.*

Чарнільна-сіняе пер'е на пеўневым жываце, фільм працягваецца, шэры, спакойны, стамляльна марудны. Раптоўна ў Лондане памірае наравістая і прыгожая дзяўчына, і некалькі месяцаў ад Альберта няма звестак, а яна піша ліст за лістом, цяпер ён папракае яе часам за тое. «Вярніся, Рай перастаў усміхацца з тае пары, як ты паехаў...»

Экран цямнее, рассеянае святло, напруга ўзрастае. Прыехаў Альберт, прыйшла вайна. Пах салдацкіх кухняў, перапоўненыя гатэлі, у цэрквах гарачыя малітвы за бацькаўшчыну. Нідзе не знайсці начлегу, восем гадзін звальніцельнай праходзяць хутка, раней, чым разамкнуцца абдымкі,— абдымкі на плюшавых канапах, на буравата-карычневых кушэтках, у нясвежых пасцелях танных нумароў, якія цяпер падаражалі; прасціны ў ваксе ад ботаў.

Дрынканне званка, мізэрны сняданак на досвітку, а худая гаспадыня зноў вывешвае ў акне плакацік: «*Здаецца пакой*». Плакацік, прылеплены да аконнага шкла, цынічная мудрасць зводніцы, якая, ухмыляючыся, адказвае Раю, калі той абураецца з-за высокай цаны: «*Цяпер вайна, ложкаў не хапае, вось яны і падаражалі*». Жанчыны нясмела заходзяць у такія пакоі, упершыню яны выконваюць шлюбны абавязак не ў шлюбным ложку, яны пачуваюць сябе напаўпраституткамі — сароміюцца і ўсё ж атрымліваюць асалоду; тут, у гэтых пакоях, былі зачатыя першакласнікі 1946 года, худзенькія, рахітычныя дзеці вайны, якія будуць пытаць у настаўніка: «Хіба неба — гэта чорны рынак, дзе ўсё ёсць?» Дрынканне званка, жалезныя ложкі, прадаўленыя цюфякі з марской травы, якія стануць прадметамі мрояў на працягу дзвюх тысяч ваенных начэй, да той пары, пакуль не будуць зачатыя першакласнікі 1951 года.

Вайна — удзячная тэма для драматурга, таму што за ёй крочыць такая вялікая з'ява, як смерць, на ёй

засяроджваецца ўсё дзеянне, яна стварае напружанасць, падобную на туга нацягнуты барабан,— дастаткова найлягчэйшага дотыку пальцам, каб ён загучаў.

Ану ж, Луіджы, ашчэ шкляначку ліманаду, толькі вельмі, вельмі халоднага, і паболей налі ў яго гаркоты з маленькай зялёнай бутэлечкі; хай будзе холадна і горка, як расстанне на трамвайным прыпынку або каля варот казармы. Горка, як пыл з цюфякоў у танных нумарах, як танюткі пыл, як усялякая дрэнь, што сыплецца з дзірак у сцяне, храбусціць на рэйках пад коламі трамваяў дзесятага, дзевятага, пятага маршрутаў, якія паўзуць да казармаў, дзе само паветра напоўнена безнадзейнасцю. Холадна, як у пакоі, адкуль я выносіла чамадан, калі там ужо пачала ўладкоўвацца наступная: бялявая, добразычлівая і дабрадзейная жонка фельдфебеля запасу — вестфальскі дыялект, распакаваная каўбаса і спалоханы твар — яна рашыла, што ў такіх стракатых піжамах ходзяць толькі прастытуткі, хоць я такая ж законная жонка, як і яна. Нас вянчаў летуценны францысканец сонечным вясеннім днём, таму што Рай не хацеў блізкасці са мной да таго, як нас павянчаюць. Не хвалюйся, дарагая фельдфебеліха. Жоўтае масла ў пергаментнай паперы, пачырванелы ад сораму твар — вось-вось заплача. Яйка коціцца па завэдзганым стале. Ах, фельдфебель, фельдфебель, ты так цудоўна спяваў басам нядзельнымі днямі ў царкоўным хоры, што ты зрабіў са сваёй жонкай? Бляхар з уласнай гаспадаркай, са свіннямі, каровай і курамі, які выводзіў dies: ірае на ўсіх пахаваннях, табе і праз дзесяць год Вердэн служыў выдатнай тэмай для роспаведаў за куфлем піва; ты, добрапрыстойны татуля чатырох школьнікаў, цудоўны бас, як арган, што гучаў у царкоўным хоры, фельдфебель, фельдфебель, што ты зрабіў са сваёй жонкай? Усю ноч яна будзе глытаць горкі пыл цюфяка і вернецца дадому, пачуваючы сябе прастытуткай, і панясе ў чэраве сваім першакласніка 1946 года, сірату з першага дня жыцця,— бо табе, вясёлы спявак, што так здорава расказваў пра баі пад Вердэнам, удасць у грудзі асколак, і ты застанешся ляжаць у пясках Сахары, таму што ты не толькі прыемна спяваеш, ты годны і для нясення службы ў трапічным клімаце. Заплаканая чырвоная фізіяномія, яйка коціцца па стале і падае на падлогу; слізкі бялок і жаўток, які

цямнее знутры, разбітая шкарлупіна; а пакой такі брудны і халодны, і чамадан мой амаль пусты — у ім няма нічога, акрамя празмерна стракатай піжамы і якіх-кольвечы туалетных прынад,— занадта мала, каб пераканаць гэтую добрапрыстойную жанчыну, што я ўсё ж не прастытутка. А тут яшчэ кніжка, на якой выразна напісана: *раман*, і ёй здаецца, што мой заручальны пярсцёнак — толькі няўмелая спроба падманунуць яе. Твой першакласнік 1946 года народжаны ад фельдфебеля, мой, 1947 года,— ад паэта, але вялікай розніцы ў тым няма.

Дзякуй, Луіджы, пастаў зноў тую пласцінку,— ты ведаеш, якую? Так, Луіджы ведае. Першабытная прастата — у патрэбны момант яна змаўкае, мелодыя са стогнам падае ў бездань, рассыпаецца, а затым узнікае зноў. Ліманад халодны, як халоднымі былі пакоі на адну ноч, халодны і горкі, як пыл; па руцэ маёй слізгае сіні прамень ад пеўневага хваста.

Фільм раскручваецца далей пры цьмяным святле, што так пасуе да абставін. «Гэта стварае атмасферу». Зноў горкі пах на вучэбным пляцы, многа салдат ужо ўзнагароджана ордэнамі, грошы цякуць як вада, і знайсці пакой робіцца ўсё складаней; дзесяць тысяч салдат, да пяці тысяч з іх прыехалі родныя, а ва ўсёй вёсцы дзвесце пакояў, уключаючы кухні, дзе на драўляных лаўках маці панясуць першакласнікаў 1947 года, панясуць ад узнагароджаных ордэнамі бацькоў усюды, дзе толькі магчыма,— у траве, на ўсыпанай іглічай зямлі, паўсюль,— нягледзячы на холад, бо на дварэ студзень і кватэр значна меней, чым салдат. Дзве тысячы мацярок і тры тысячы жонак прыехалі сюды, значыцца, тры тысячы разоў павінна недзе адбыцца непазбежнае, таму што «прырода патрабуе свайго», а настаўнікі не жадаюць у 1947 годзе стаяць перад пустымі партамі. Збянтэжанасць і адчай у вачах жанчын і салдат, пакуль нарэшце гарнізоннаму начальству не прыходзіць у голаў ратавальная думка: шэсць баракаў стаяць пустымі, у іх дзвесце сорак ложкаў, і ўвесь сёмы корпус пустуе — там размяшчаецца рота палкавой артылерыі, але яна якраз зараз на стрэльбах, а ёсць яшчэ падвалы, ёсць канюшні з «выдатнай чыстай саломай, за якую, зразумела, давядзецца заплаціць»; канфіскуюцца ўсе свірны і сенавалы, рэквізуюцца ўсе аўтобусы, што курсіруюць у суседнія

гарадкі кіламетраў за дваццаць. Парушаюцца ўсе законы і пастановы, бо дывізія гатова да адпраўкі ў невядомасць, а непазбежнае павінна здзейсніцца яшчэ хоць раз, інакш казармы ў 1961 годзе будуць пуставаць; вось так зачыналі першакласнікаў 1947 года — худзенькіх, нізкарослых хлапчукоў, першым грамадзянскім дзеяннем якіх будзе крадзеж вугалю. Гэтыя хлапчукі выдатна былі прыстасаваны для крадзяжу — шчупленькія, вёрткія, яны мерзлі і ведалі кошт рэчам, не раздумваючы ўскоквалі яны на платформу і скідвалі колькі маглі. Ах вы, малалетнія зладзюжкі, вы яшчэ будзеце малайцамі, вы ўжо і так малайцы, дзеці, якія былі зачатыя на канапах і на драўляных лаўках, на казарменных нарах або ў памяшканні пад нумарам 56, дзе была расквартаравана рота палкавой артылерыі: дзеці, зачатыя ў канюшні на свежай саломе, на халоднай зямлі ў лесе, у сянях, у задніх пакоях піўных, дзе спагадлівы гаспадар на многія гадзіны ператвараў сваё жытло ў месца спатканняў для сямейнікаў: чаго саромецца, усе мы людзі! Цыгарэт, Луіджы, і яшчэ крыху ліманаду, яшчэ халаднейшага, калі магчыма, яшчэ болей гаркоты з зялёнай бутэлечкі.

Мой першакласнік 1947 года таксама быў зачаты ў тым халодным студзені, але не ў заднім пакоі піўной і нават не ў танных нумарах. Нам пашэнціла, мы знайшлі цудоўны домік, дзе праводзіў нядзельныя дні якісь прамысловік, які не знайшоў на гэты раз часу наведаць сваіх сябровак: ён пакінуў іх паміраць ад маркоты, пакуль сам гандляваў пушкамі. Невялікі дамок сярод густых елак на зялёным лужку, дзве спагадлівыя дзяўчыны,— яны леглі ў адным пакоі і прапанавалі нам другі. Мядова-жоўтыя дарожкі, мяловыя шпалеры, мядовая мэбля, на сцяне Курбэ («Арыгінал?») — «А вы як думаеце?»), мядовы тэлефон і сняданак разам з дзвюма прыгожымі дзяўчынамі, якія ўмелі выдатна сервіраваць стол. Падсмажаныя лустачкі хлеба, яйкі, чай і фруктовы сок, і ўсё — уключаючы сурвэткі — такога мядовага колеру, што здавалася, нават пахне мёдам.

І раптам святло замільгала — хлоп, стужка абарвалася, цёмна-шэры экран, пасярэдзіне — светла-жоўтая пляма, яшчэ мяккае гудзенне ў будцы механіка, але тут далі поўнае святло, у глядзельнай зале чуецца свіст, ды гэта ні к чаму: карціна скончылася пасля

першай часткі, хоць фільм быў адзняты цалкам.

Яна агледзелася навокал, уздыхнула і закурыла, як заўсёды, выходзячы з кіно. Ліманад, што прынёс Луіджы, зрабіўся цёплым, алкагольная горыч вытыхлася, і ён зрабіўся нясмачным, як моцна разведзены вермут. Значыцца, вось якім фільмам замянілі ранейшы. Стракаты певень наверсе — яе рука цяпер у зялёным промні ад пеўневай спіны — певень зусім такі ж, як і быў, толькі фарбы крыху ярчэйшыя, і іншы чалавек за стойкай, але марожанага па-ранейшаму сто сорак чатыры гатункі, а героем фільма стаў той, хто быў зачаты ў мядовым доміку. І хіба яна зараз не пазнаёмілася з чалавекам, з-за якога абарвалася стужка фільма?

Ці не занадта ты малады, каб імя тваё ўвайшло ў малітвы маёй маці аб помсце? Яна адсунула шклянку, паднялася, прайшла міма Луіджы і толькі каля дзвярэй успомніла, што яна павінна яшчэ разлічыцца з Луіджы і ўсміхнуцца яму. Ён прыняў і тое і другое з самотнай удзячнасцю, і яна выйшла з кафэ. Здаралася, што яе раптоўна ахоплівала страшэнная туга па сыне, хоць часам яна на цэлыя дні забывалася пра яго. Добра было б цяпер пачуць яго голас, прыціснуцца да яго шчакой, проста ведаць, што ён тут, дакрануцца да ягонай лёгкай рукі, злавіць яго лёгкае дыханне і ў чарговы раз упэўніцца, што ён жыве на свеце.

Таксі хутка везла яе па цёмных вуліцах. Употай яна разглядвала твар шафёра — спакойны, сур'ёзны твар, прыцемнены казырком фуражкі.

— У вас ёсць жонка? — раптам спытала яна.

Шафёр кіўнуў, павярнуўся да яе на момант, і яна ўбачыла здзіўленую ўсмешку на сур'ёзным твары.

— А дзеці? — спытала яна.

— Ёсць,— адказаў шафёр, і яна пазайздросціла яму.

І раптам заплакала. Асветленая панарама за ветравым шклом расплылася перад яе вачыма.

— Божа,— сказаў шафёр,— што з вамі?

— Я ўспомніла пра мужа,— адказала яна,— ён загінуў дзесяць гадоў назад.

Шафёр збянтэжана глянуў на яе, затым хутка адвярнуўся і зноў пачаў глядзець на дарогу, але правую руку ён зняў з руля і злёгку пагладзіў яе па плячы. Ён

нічога не сказаў, і яна была гэтаму рада і загаварыла сама.

— Зараз нам трэба звярнуць направа, а пасля проста, па Ходлерштрасэ да канца.

Туманнай была панарама за шклом, а лічыльнік цікаў, і з лёгкім ляскатам выскоквалі новыя лічбы, пфеніг за пфенігам збіраў неўтаймоўны апарат. Яна выцерла слёзы і ўбачыла ў святле фар, што яны ўжо пад'язджаюць да царквы. Мільганула думка, што яе паклоннікі робяцца ўсё менш і менш падобнымі на Рая. Тупыя жывёліны з правільнымі тварамі, яны здольныя з поўнай сур'ёзнасцю вымаўляць такія словы, як «эканоміка», і нават без ценю іроніі такія, як «народ, аднаўленне, перспектывы». Мужчынскія рукі, што абхопліваюць горла бутэлькі — з вялікай будучыняй ці без яе,— цвёрдыя і бяздарныя рукі, і самі паклоннікі, начыненыя ўсялякай лухтой і пазбаўленыя гумару,— побач з імі любы дробны махляр, пакуль ён не трапіў у турму, здасца паэтам.

Шафёр злёгку дакрануўся да яе пляча, і з апошнім ударам лічыльнік выкінуў апошнюю адзіначку. Яна дала шафёру грошы, шмат грошай, ён усміхнуўся ёй, выскачыў з машыны, каб расчыніць перад ёй дзверцы, але яна ўжо вылезла сама і здзівілася, што ў доме цёмна: нават у Глума не свяцілася акно, і не падаў у сад, як заўсёды, жоўты сноп святла з акна маці. Запіску ў дзвярах яна змагла прачытаць толькі тады, як адчыніла дзверы і запаліла святло ў пярэдняй. «Мы ўсе пайшлі ў кіно». «Усе» было чатыры разы падкрэслена.

Яна патушыла святло і так і засталася сядзець у пярэдняй пад партрэтам Рая. Партрэт быў напісаны дваццаць гадоў назад і выяўляў усмешлівага хлапца, які рабіў накід верша на пачку з локшынамі; Авесалом Біліг выразна вывеў на пачку: «Хатнія локшыны Бамбергера», Рай смяяўся на гэтым партрэце, ён быў тут такі ж лёгкі, як і ў жыцці, а верш з пачка да гэтай пары захаваўся ў архівах патэра Віліброрда. Выцвіў лазурак, пабляклі яечна-жоўтыя лацінскія літары, задыхнуўся ў душагубцы Бамбергер, ён не паспеў уцячы з Германіі, а Рай усміхаўся, як і дваццаць гадоў назад. У паўзмроку ён выглядаў зусім як жывы, і яна пазнала суровую, амаль педантычную зморшчыну каля ягоных вуснаў, гэта быў педантызм, які змушаў яго

часам па тры разы на дзень паўтараць: «Парадак». Парадак ён меў на ўвазе і тады, калі не хацеў блізкасці з ёй, перш чым іх павянчаюць. Вырвалі згоду на шлюб у бацькі, прамармыталі словы вянчальнага абраду над сплеценымі рукамі ў паўзмроку францысканскай царквы з аляпаватай пазалотай, а ззаду два сведкі, Альберт і Авесалом.

Зазваніў тэлефон і вярнуў яе на глебу, на якую яна менш за ўсё любіла ступаць, вярнуў да так званай рэчаіснасці. Ён празвінеў другі, трэці, чацвёрты раз, пакуль яна нарэшце павольна ўстала і пайшла ў пакой Альберта. Яна пачула голас Гезелера, які нясмела спытаў:

— Хто каля тэлефона?

Яна назвалася, і тады ён сказаў:

— Я толькі хацеў даведацца, як вы пачуваецеся, мне вельмі шкада, што вам нездаровіцца.

— Лепш,— адказала яна.— Мне лепш. Я прыеду на даклад.

— Як добра! — сказаў ён.— Паедзем у маёй машыне. Прашу вас.

— Ну, добра,— сказала яна.

— Можна мне заехаць за вамі?

— Не, не, лепш сустрэнемся дзе-небудзь у горадзе, вось толькі дзе?

— У пятніцу. У дванаццаць,— сказаў ён,— на плошчы перад Крэдытным банкам, там, дзе галоўная каса. Вы абавязкова прыйдзеце?

— Так,— сказала яна і падумала: «Я заб'ю цябе, скрышу, зрэжу цябе на кавалкі сваёй зброяй, і гэта страшная зброя — мая ўсмешка, якая мне нічога не каштуе, просты рух мускулаў, механізм, які лёгка прывесці ў рух. Я маю больш боепрыпасаў, чым было ў тваіх кулямётаў, а каштуюць яны мне гэтак жа мала, як табе каштавалі твае».

— Так, я прыйду,— сказала яна і, павесіўшы трубку, вярнулася ў пярэднюю.

## 4

Дантыст адчыніў дзверы ў гасцінную і сказаў:

— Прысядзьце, калі ласка, фрау Брылах.

Хлопчык прыкладна адных гадоў з яе сынам, ся-

дзеў за раялем і нешта панура брынчаў.

— Выйдзі на хвілінку,— сказаў урач.

Хлопчык умомант знік, пакінуўшы на жаўтаватых клавішах раскрыты нотны сшытак. Яна стомлена глянула на загаловак і прачытала: *«Эцюды. Опус 54»*. Урач уздыхнуў, сеў за чорны пісьмовы стол з моранага дубу, пакорпаўся доўгімі пальцамі ў картатэцы, выцягнуў яе картку, перагартаў нейкія белыя паперкі, падколатыя да яе, і сказаў:

— Не палохайцеся, калі ласка, я тут прыкінуў кошт.

Ён уздыхнуў і паглядзеў на яе, а яна глядзела на карціну, якая вісела за яго спінай на сцяне: «Ункель сонечным днём». Шмат пранізліва-жоўтай фарбы пераводзіў мастак, каб надаць Рэйну, вінаграднікам і маляўнічаму гарадку сонечны выгляд, але марна: Ункель выглядаў зусім не сонечна.

Урач выцягнуў са скрынкі стала пачак табакі, разарваў срэбраную абгортку і, усё яшчэ ўздыхаючы, пачаў нетаропка скручваць тоўстую цыгарэту. Ён падсунуў тытунь і паперу да яе, але яна пакруціла галавой і ціха сказала:

— Дзякуй, не хачу.

Яна ахвотна б закурыла, але ёй балеў увесь рот: урач нечым едкім памазаў ёй дзясны і выстукваў нікеліраваным малаточкам зубы, а затым, хітаючы галавой, пачаў рэзка і энергічна масіраваць дзясны сваімі тонкімі пальцамі і ўсё хітаў галавой. Ён рассклаў паперкі перад сабой, зацягнуўся і раптам сказаў:

— Не палохайцеся, калі ласка, але гэта будзе вам каштаваць тысячу дзвесце марак.

Яна перавяла вочы на «Ункель сонечным днём», яна залішне стамілася, каб спалохацца: яна разлічвала на пяцьсот, ну на шэсцьсот марак, але скажы ён цяпер дзве тысячы — гэта здалося б ёй ніколькі не горш, чым тысяча дзвесце. Пяцьдзесят марак — гэта вялікія, вельмі вялікія грошы, але ўсё, што больш за паўтараста, было для яе аднолькава недасягальнае,— усё роўна колькі — дзве сотні, дзве тысячы ці нават болей. Урач глыбока ўцягнуў дым: у яго быў моцны, свежы тытунь.

— Я мог бы зрабіць гэта і за восемсот, нават семсот, але тады я не дам гарантыі. А там я вам

ручаюся, што зубы будуць выглядаць, як сапраўдныя. Вы, канешне, бачылі зубы з таннай пластмасы, яны ж сiняватыя.

Так, яна iх бачыла i лiчыла агiднымi, такiя мела Люда, гаспадыня кандытарскага магазiна, i калi тая ўсмiхалася, зубы яе адлiвалi сiнiм, адразу было бачна, што яны штучныя.

— Паспрабуйце звярнуцца ў ведамства сацыяльнага забеспячэння i, магчыма, у дабрачынную арганiзацыю. Можа, вам пашанцуе, i яны вам нечым дапамогуць. Я падрыхтаваў для вас два рахункi — адзiн з iх на восемсот марак, таму што калi iм паказаць той, што даражэй, можна ўвогуле нiчога не атрымаць. Калi вам вельмi пашанцуе, вы атрымаеце ў агульнай суме марак пяцьсот: зубы цяпер выпадаюць у вельмi многiх. Колькi вы маглi б уносiць штомесячна?

Яна да гэтай пары яшчэ выплочвае за канфiрмацыю Генрыха — восем марак у тыдзень. Леа i так ужо сварыцца. Акрамя таго, ёй на нейкi час прыйдзецца кiнуць работу — не будзе ж яна выходзiць з дому без зубоў, яна зачынiцца ў сябе, абматае твар хусткай i толькi цiхенька, вечарамi будзе з заматанай галавой хадзiць да ўрача. Жанчына без зубоў — гэта проста жах. Нiхто староннi не будзе заходзiць да яе ў пакой, нават Генрыху яна не пакажацца. А пра Леа нават няма гаворкi. Вырваць трынаццаць зубоў! Люда тады вырвала ўсяго шэсць i то выглядала, як старая баба.

— Акрамя таго,— працягваў урач,— я хацеў бы атрымаць мiнiмум трыста марак задатку, а другi ўзнос прынясеце, як толькi атрымаеце грошы ад ведамства сацыяльнага забеспячэння i ў дабрачыннай касе. Вось i будзе амаль палова выплачана. Вы прыкiнулi, колькi зможаце плацiць штомесяц?

— Ды марак дваццаць,— стомлена сказала яна.

— Божа ж мой, гэтак вы i за год усяго не выплацiце!

— Нiчога ў нас не атрымаецца,— сказала яна,— мне i задатак не пацягнуць.

— Але вы павiнны зрабiць сабе зубы,— сказаў ён,— павiнны, i як мага хутчэй. Жанчына вы маладая, цiкавая, i калi будзеце адкладваць, гэта атрымаецца даражэй i горш.

Наўрад цi ён быў намнога старэйшым за яе, i выглядаў ён, як мужчына, якi ў ранняй маладосцi быў прыгожым: цёмныя вочы i светлыя валасы, але твар яго

быў стомлены, абрузглы, і валасы ўжо парадзелі. Ён лена круціў у руках рахунак.

— Я не магу,— ціха сказаў ён,— я ніяк не магу паіншаму. Я павінен загадзя заплаціць за матэрыял, разлічыцца з тэхнікам. Я не магу. Я з радасцю зрабіў бы вам гэта зараз жа, але я ведаю, як для вас гэта жахліва.

Яна верыла яму: ён зрабіў ёй некалькі ўколаў у дзясны і браў для ўколаў пробныя ампулы і нічога за ўсё гэта не налічыў, і рука ў яго была лёгкая, спакойная і ўпэўненая. Страшным здаўся толькі ўкол у балюча падатлівыя дзясны, а вадкасць з ампулы сабралася цвёрдым камяком і разыходзілася вельмі марудна, але ўжо праз паўгадзіны боль суняўся, і яна адчула сябе бадзёрай, маладой і здаровай.

— А як жа,— адказаў ён, калі яна расказала яму пра свой стан,— гэта ж гармоны і іншыя рэчывы, якіх не хапае вашаму арганізму,— выдатны сродак, абсалютна бясшкодны, але вельмі дарагі, калі яго даводзіцца купляць.

Яна паднялася, зашпіліла паліто і загаварыла ціха, баючыся расплакацца. Рот усё яшчэ балеў, а безнадзейна высокі кошт быў канчатковым, як смяротны прысуд; праз два месяцы, самае большае, у яе выпадуць трынаццаць зубоў, а гэта азначае, што жыццё скончана. Больш за ўсё на свеце Леа ненавідзіць кепскія зубы; у яго самога асляпляльна белыя, абсалютна здаровыя зубы, з якімі ён так няньчыцца. Зашпіляючы паліто, яна паўтарала моўчкі назву сваёй хваробы; яна гучала гэтак жа страшна, як смяротны дыягназ: *парадантоз.*

— Я вам паведамлю,— сказала яна.

— Вазьміце з сабой каштарыс. Вось сапраўдны, а гэта другі, усяго тры экземпляры. Вы павінны прыкласці па адным экземпляры да кожнай заявы, а трэці пакіньце сабе, каб ведаць кошт.

Урач скруціў яшчэ адну цыгарэту. Прыйшла сястра, і ён сказаў ёй:

— Паклічце Бернгарда, няхай іграе.

Яна засунула каштарысы ў кішэню паліто.

— Не журыцеся,— сказаў урач і горка ўсміхнуўся. Усмешка была цьмяная, як сонца над Ункелем. У Леа

Леа цяпер дома, а ёй не хацелася бачыць яго. У Леа такія асляпляльна здаровыя зубы, і ўжо некалькі ме-

сяцаў ён бурчыць, што ў яе зубы кепскія, што ў яе пахне з рота, і яна нічога не можа зрабіць. Яго цвёрдыя, чыста вымытыя рукі з дня ў дзень датыкаюцца да яе цела, вочы ў яго такія ж цвёрдыя, няўмольныя, як і рукі. Ён проста рассмяецца, калі яна папросіць у яго грошай. Ён толькі зрэдку дорыць ёй што-небудзь, дый то калі бывае пры грашах і моцна расчуліцца.

У пад'ездзе было цёмна, ціха і пуста, яна спынілася на лесвічнай пляцоўцы і паспрабавала ўявіць сабе зубы кандытара: у яго безумоўна кепскія зубы; яна, праўда, не надта да іх прыглядалася, але запомніўся іх мёртвы шэры колер.

Скрозь цьмянае аконнае шкло яна выглянула ў двор; там разносчык пакаваў у каляску апельсіны; ён вынімаў іх са скрыні і клаў вялікія направа, маленькія — налева, пасля разлажыў маленькія на дне каляскі, на іх паклаў тыя, што большыя, а самымі вялікімі закончыў пірамідку. Маленькі тоўсты хлапчук склаў скрынкі каля сметніцы. Там у цені пад сцяной дагнівала гара лімонаў — жаўцізна, пазначаная зеленню, а на зелені белыя плямы ў сіняватым цені, ад якога чырвоныя шчокі хлопчыка здаваліся фіялетавымі. Боль у роце суняўся, ёй захацелася выкурыць цыгарэту, выпіць кубачак кавы, і яна выцягнула кашалёк. Зношаны шэры замш заільсніўся да чарнаты; гэта быў яшчэ падарунак мужа, чые косці ўжо даўно сцлелі дзесьці паміж Запарожжам і Днепрапятроўскам. Трынаццаць гадоў назад падарыў ён ёй гэты парыжскі кашалёк,— падарыў усмешлівы фельдфебель з каляровага фотаздымка, усмешлівы слесар, усмешлівы жаніх,— нямнога засталося ад яго — патрапаны кашалёк, памяць пра яго першае прычасце, і пажоўклая патрапаная брашурка «Што павінен ведаць аўтаслесар пры здачы экзамена на падмайстра». Яшчэ ён пакінуў сына, удаву і калісь шэры, а цяпер да чарнаты зашмальцаваны замшавы кашалёк — падарунак з Парыжа, з якім яна ніколі не разлучалася.

Дзіўнае пісьмо прыйшло тады ад ротнага камандзіра: «...быў накіраваны са сваім танкам на падтрымку важнай разведвальнай аперацыі і не вярнуўся з задання. Аднак нам абсалютна дакладна вядома, што ваш муж, які быў адным з самых вопытных і надзейных салдат у роце, не трапіў у палон да рускіх. Ваш муж паў смерцю храбрых». Ні гадзінніка, ні салдац-

кай кніжкі, ні заручальнага пярсцёнка — і не ў палоне. Што ж тады з ім? Згарэў і абвугліўся ў сваім танку?

Лісты, якія яна дасылала камандзіру роты, вярнуліся праз паўгода назад з надпісам: «Загінуў за вялікую Германію». Іншы афіцэр напісаў ёй: «Мне вельмі шкада, але я вымушаны паведаміць вам, што ў нашай часці не засталося ніводнага чалавека, які мог бы расказаць вам пра гібель вашага мужа». Абвугленая мумія паміж Запарожжам і Днепрапятроўскам.

Унізе ў двары тоўсты хлапчук напісаў мелам: «Шэсць адборных апельсінаў усяго за адну марку». Бацька, чырванашчокі, як і сын, сцёр шасцёрку і напісаў пяць.

Яна пералічыла грошы ў кашальку: дзве паперкі па дваццаць марак — недатыкальныя, гэтыя грошы хлопчыку на гаспадарку на дзесяць дзён; заставалася яшчэ марка і восемдзесят пфенігаў дробнымі. Лепш за ўсё было б пайсці ў кіно: там цёмна, цёпла, не адчуваеш, як растае час, звычайна такі бязлітасны. Бывае, што гадзіны цягнуцца марудна, быццам жорны млына, марудна і ўпарта перамолваюць яны час. Пад вечар ломіць усё цела, галава быццам налітая свінцом і прыступ жадання, цяжкі для яе самой. Боязь з-за паху з рота і з-за сапсаваных зубоў; валасы страчваюць бляск, і няўмольна псуецца колер твару. А ў кіно добра і вусцішна — так яна яшчэ дзіцем пачувала сябе ў царкве: цудоўная гармонія спеваў і слоў, укленчванне і ўставанне, шчаслівая пасля смуроднай жорсткасці бацькоўскага дому, дзе ненажэра бацька здзекаваўся са святошы маці; маці старалася схаваць пад панчохамі набрынялыя вены, калі ёй было ўсяго трыццаць адзін год, столькі, колькі зараз ёй. Усё, што не мела дачынення да дому, было шчасцем: шчаслівая манатоннасць на макароннай фабрыцы Вамбергера, дзе яна ўзважвала макароны і раскладвала іх у пакункі, узважвала і раскладвала, узважвала, узважвала, пакавала. Адурваючая аднастайнасць і чысціня; цёмна-сінія кардонкі, сінія, як мора на геаграфічным атласе; жоўтыя макароны і вогненна-чырвоныя этыкеткі з «бамбергераўскай серый карцін» — стракатыя паштоўкі, на якіх адлюстраваны сцэны са «старых нямецкіх паданняў»: Зігфрыд з валасамі, як свежае масла, шчокамі, як персікавае марожанае, і Крымхілда,

у якой колер твару нагадвае ружовую зубную пасту, валасы, як маргарын, і вішнёва-пунсовы рот. Жоўтыя макароны, цёмна-сінія кардонкі, вогненна-чырвоныя этыкеткі з «бамбергераўскай серыяй карцін». Паўсюль чысціня, вясёлы смех у сталоўцы на фабрыцы Бамбергера, а ўвечары ружовыя лямпачкі ў кафэ.

Або танцы з Генрыхам, які кожныя два тыдні атрымлівае звальніцельную ў нядзелю, усмешлівы яфрэйтар танкавых войскаў, неўзабаве заканчваўся тэрмін ягонай службы.

Адной маркі і васьмідзесяці пфенігаў хопіць на кіно, але ўжо позна. Раніцы, на адзінаццаць гадзін, сеанс даўно пачаўся, а ў гадзіну яна павінна быць у пякарні. Хлопчык унізе, у двары, расчыніў зялёныя вароты, і бацька пакаціў каляску. Праз адчыненыя вароты бачна вуліца: аўтамабільныя шыны і ногі веласіпедыстаў. Яна паволі сышла ўніз па лесвіцы, спрабуючы ўцяміць, на якія выдаткі рашыцца кандытар дзеля задавальнення сваёй меланхалічнай страсці: ён хударлявы, але твар у яго вялікі, азызлы і самотныя вочы. Сам-насам з ёй ён, запінаючыся, усхваляе радасці кахання, глухім голасам спявае ён песні пра прыгажосць плоцкага кахання. Ён ненавідзіць сваю жонку, жонка ненавідзіць яго, ненавідзіць усіх мужчын, а ён, кандытар, любіць жанчын, услаўляе іх цела, іх сэрца, іх вусны, часам яго меланхолія даходзіць да шаленства, а яна слухае ўсё гэта і развažвае маргарын, распускае шакалад, узбівае крэм з прыгатаванай ім сумесі і выкладвае лыжачкай памадку і праліны. Яна выводзіла на тартах шакаладныя ўзоры, якія ён лічыў чароўнымі, і прылеплівала шакаладным свінкам шакаладныя лычыкі, а ён, запінаючыся, не пераставаў расхвальваць яе твар, яе рукі, яе пяшчотнае цела.

У пякарні ўсё здавалася белым і шэрым, тут перамешвалася чарната блях, чарната вугалю і белізна мукі: сотні адценняў шэрага, і толькі зрэдку — жоўтая або чырвоная пляма; чырвоны колер вішань, ядавіта-жоўты — лімонаў і пяшчотны — ананасаў. Амаль усё здавалася белым і шэрым, бясконцыя адценні шэрага, такі быў і твар пекара: дзіцячы, бясколерны, круглы рот, шэрыя вочы, шэрыя зубы і бякла-ружовы язык, які быў відаць, калі ён гаварыў, а гаварыў ён, застаўшыся з ёй сам-насам, безупынку.

Кандытар марыў знайсці прыстойную жанчыну, не праститутку. З таго часу як жонка ўзненавідзела яго, а разам з тым і ўсіх іншых мужын, яму прыпадалі толькі тыя радасці, якія можна знайсці ў публічных дамах, а гэткія радасці здаваліся яму недастаткова ўзвышанымі, і, акрамя таго, марным заставалася яшчэ адно яго жаданне — мець дзяцей.

Калі яна адпіхнула яго, назваўшы каханне брыдкім словам з лексікону Леа, ён проста спалохаўся, і тады яна зразумела, якая ў яго пяшчотная душа.

Словы гэтыя вырваліся ў яе напалову проці яе волі, напалову наўмысна, з-за супярэчлівасці, якую выклікала ў ёй ягоная рахманасць: гэта былі словы Леа, ёй нашэптвалі і крычалі іх [redacted] дня ў дзень вось ужо на працягу многіх гадоў, яны віселі над ёй, як праклён. Гэтыя словы жылі ў ёй, і вось вырваліся на волю, яна шпурнула іх у самотны твар кандытара, і выклікала вялікае замяшанне ў ягонай душы.

— Не, не,— сказаў кандытар,— не гавары так.

Леа скажа: «Што гэта з тваёй пашчай?», і ёй не хацелася ісці дадому, каб не чуць яго здзекаў і не бачыць асляпляльна белых зубоў.

Яна вернецца дадому, пасля таго як Леа пойдзе на працу. [redacted] асцярогі яна аднесла малую да фраў Барусяк — гожанькая жанчына, гады на чатыры старэйшая за яе, з цудоўнымі бялюткімі зубамі — жанчына, якая спалучала дзве якасці: набожнасць і ветлівасць. Яна зайшла ў кафэ насупраць дома зубнога ўрача, села каля акна і дастала з кішэні пачак *«Тамагаўка»* — вельмі доўгія, вельмі белыя і вельмі моцныя цыгарэты. «Сонца Віргініі выпесціла гэты тытунь». Гартаць ілюстраваныя часопісы не хацелася; памешваючы лыжачкай каву, яна раптам падумала, што трэба папрасіць у кандытара аванс, раптам ён падкіне ёй марак сто: яна цвёрда вырашыла ніколі больш не ўжываць слова Леа, каб не крыўдзіць кандытара. Магчыма, яна пашкадуе яго: нязграбныя, шалёныя ласкі, на якія ёй прыйдзецца адказваць,— гэта і будзе яе платай,— проста сярод блях для піражных і аблітых шакаладам парсючкоў будзе ён нашэптваць ёй свае гімны; сярод узгорачкаў какосавай мукі, сярод пасыпаных цукровай пудрай ромавых баб ён усміхнецца ёй, млеючы ад шчасця, і яна будзе прымаць трапяткія, слюнявыя пацалункі чалавека, які ненавідзіць пра-

дажнае каханне, а задавальняцца ў шлюбе не можа з тае пары, як яго жонка ўзненавідзела мужчын; жонка — худая, коратка падстрыжаная прыгажуня з палаючым, суровым позіркам, пальцы ўвесь час на ручцы касавага апарата, як у капітана на штурвале; у яе цвёрдая, маленькая рука «са сціплым» упрыгожаннем — халодныя, зялёныя каменьчыкі, амаль празрыстыя і вельмі дарагія, яе рукі падобныя на рукі Леа. Стройная багіня з хлапечай фігурай, усяго дзесяць гадоў назад — стройная і ўладная — яна маршыравала на чале атрада дзяўчатак у рудых куртках і горда спявала высокім, прыгожым голасам: «На берэце лунае пер'е» і «Смелы барабаншчык». Яе бацька гаспадар «Чырвонага капелюша», а мой бацька па пятніцах прапіваў там палову сваёй палучкі. Цяпер яна падобна на амазонку: ногі ў яе як у шаснаццацігадовай, а па твары ёй дасі ўсе сорак, і яна намагаецца з усяе сілы здавацца не старэйшай за трыццаць чатыры, упартая і ветлівая парушальніца шлюбнага абавязку, гэта яна давяла шэрага і самотнага чалавека з падвала да гімнаў адчаю.

Вільма паднесла кубачак да роту і, глянуўшы ў акно, убачыла на процілеглым баку вуліцы зубнога ўрача каля светла-жоўтай, падрапанай бармашыны; ён арудаваў борам, і паўзверх занавескі яна бачыла яго светлыя валасы, і цёмны цень на сцяне, і стомленую патыліцу чалавека, абцяжаранага пазыкамі. Піць каву было прыемна, і цыгарэты аказаліся выдатнымі.

Яна разумела, што кандытар значна лепшы, чым Леа: ён добры, працавіты, у яго больш грошай, але парваць з Леа і застацца жыць з ім — гэта жахліва перш за ўсё для дзяцей, і пасля трэба будзе судзіцца з Леа з-за аліментаў на дзяўчынку, якія ён цяпер выплочвае ў Ведамства абароны дзяцінства, а яна атрымлівае іх адтуль і ўпотай зноў падсоўвае яму. «Хіба я гэтага хацеў? Не ж, ты павінна чэсна прызнаць». У кандытара адзін пакой наверсе пусты, там раней жыў падручны, але ён некуды збег, і цяпер кандытар не хоча наймаць другога. «Ты заменіш мне падручнага».

Боязна толькі з-за хлопчыка, вось ужо тры тыдні ён адносіцца да яе не так, як раней: у яго зусім іншыя вочы, калі ён глядзіць на яе, няма ранейшага адкрытага позірку. Яна ведала, што гэта пачалося з таго дня,

калі Леа абвінавациў яе ва ўтойванні грошай; прыгожанькі белявы жэўжык ненавідзеў Леа, і Леа ненавідзеў яго. Лепш за ўсё было [redacted] застацца адной з дзецьмі: ёй даўно ўжо абрыдла блізкасць Леа, і яна ўпотай зайздросціла кандытарцы, якая магла сабе дазволіць так упарта ненавідзець мужчын. Яны з хлопчыкам так-сяк пераб'юцца. Яна часта палохалася, калі бачыла, які ён кемлівы: як ён дакладна лічыць, як ён разумна размяркоўвае ўсе расходы, і гаспадарку ён умее весці куды лепш, чым яна. Цвярозая галава, сарамлівы твар і позірк, які вось ужо тыдзень пазбягае яе позірку. А ў кандытара пусты пакой.

Лепш за ўсё было [redacted] вярнуцца на макаронную фабрыку Бамбергера: жоўтыя, гэтакія акуратныя трубачкі макаронін, цёмна-сінія пачкі і вогненна-чырвоныя паштоўкі — масляна-жоўтыя валасы Зігфрыда, маргарынавыя валасы Крымгільды і вочы Гагена, чорныя, як мангольская бародка Атылы, чорныя, як туш для веек; круглы з ухмылкаю твар Атылы, жоўты, як свежая гарчыца, і нарэшце ружаваскуры Гізельгер і чалавек з лірай у руда-чырвоным убранні, Фолькер — такі прыгожы, прыгажэйшы, на яе думку, за самога Зігфрыда; і языкі агню ў палаючым замку — чырвонае і жоўтае перамяшалася, як кроў з маслам.

Увечары — яркае ружовае святло ў кафэ Гензля. Жаўтавае бананавае марожанае — пятнаццаць пфенігаў за порцыю, яшчэ можна прайсціся з Генрыхам, апранутым у форму танкіста, да «Асы», дзе пануюць жоўтыя трубы: усмешлівы яфрэйтар, усмешлівы унтэрафіцэр, усмешлівы фельдфебель згарэў проста ў танку недзе паміж Запарожжам і Днепрапятроўскам, мумія — без салдацкай кніжкі, без гадзінніка, без заручальнага пярсцёнка, не вярнуўся з задання і не трапіў у палон.

Смяяцца ўмеў толькі Герт: стройны, маленькі абліцоўшчык, ён мог смяяцца нават ночччу, у самыя цёмныя моманты. З вайны ён прывёз трафеі — семнаццаць пар ручных гадзіннікаў, і ўсё, што ён рабіў, ён рабіў смеючыся. Ён смяяўся, калі загладжваў гіпс пры абліцоўцы дома, і, калі ён абдымаў яе, яна бачыла ў цемры яго ўсмешлівы твар, што схіляўся над ёй: часам яго ўсмешка была самотнай, але ён усё роўна ўсміхаўся. Пасля Герт перакачаваў у Мюнхен: «Не магу так доўга сядзець на адным месцы». Ён быў

лепшым сябрам Генрыха, адзіны чалавек, з кім часам, не саромеючыся, можна было пагаварыць пра мужа.

Урач на тым баку вуліцы расчыніў акно, выглянуў на некалькі хвілін і выкурыў чарговую цыгарэту — тоўстую самакрутку. Трыста марак задатку — ды колькі яшчэ кожны месяц? Трэба будзе пагаварыць пра гэта з хлопчыкам — ён падлічыць і прыкіне. Сумеў жа ён неяк уціснуцца за кошт харчавання, зэканоміў на туфлі, панчохі, і сумачку, і хустку. Сто пяцьдзесят марак ён адклаў ад грошай на гаспадарку, і яму ўдалося наскрэбці іх так, што гэтага амаль не адчулі: ён эканоміў на бульбе, на маргарыне, на каве, на зніклым з рацыёну мясе.

Ёй стала лягчэй, калі яна падумала пра хлопчыка: ён-то ўжо што-кольвечы прыдумае. Але тысяча дзвесце марак — гэта напалохае нават яго. «Табе трэба было раней глядзець за сваімі зубамі,— скажа Леа,— кожны дзень з'ядаць лімон і чысціць як след, вось так»,— тут ён прадэманструе ёй, як трэба чысціць зубы. «Маё здароўе — гэта ўсё, што я маю, таму я не магу не клапаціцца пра яго». Але макароннай фабрыкі Бамбергера больш і заваду няма, прайшло дванаццаць гадоў: Бамбергера знішчылі ў душагубцы, яго ператварылі ў зморшчаную, абгарэлую мумію, мумію без уласнай фабрыкі, без рахунку ў банку. Цёмна-сінія пачкі, ярка-жоўтыя макароны, вогненна-чырвоныя паштоўкі. Як звалі таго самавітага і вельмі сімпатычнага барадача з чырванавата-карычневым тварам, падобным на ледзянец? Дзітрых фон Берн. Наконт Вільмы, якая з дзесяці гадзін сядзіць у фрау Барусяк, хваляваццa няма чаго.

Пра Эрыха яна ўзгадвала рэдка: вельмі ўжо шмат прайшло часу — цэлых восем гадоў. Сярод ночы раптоўны прыпадак — скажоны страхам твар, пальцы сударгава сціскаюць яе руку, налітыя крывёю вочы, форма штурмавіка ў шафе, нясмелая ласка і нясмелы адказ на яе, і як узнагарода за ласку какава, шакалад і страх, калі ён раптам ноччу прыйшоў у яе пакой; штаны абы-як нацягнутыя паўзверх начной кашулі, босы, каб яго маці не пачула, напаўвар'яцкія вочы — яна зразумела, што зараз здарыцца тое, чаго яна не хоча. Толькі год прайшоў пасля смерці Генрыха. Яна не хацела гэтага, але нічога не сказала, і Эрых, які, відаць, пайшоў бы, калі б яна сказала хоць слова, не

пайшоў: ён быў здзіўлены яе пакорнасцю, а яе не пакідала панурае пачуццё, што ўсё гэтае непазбежна. Эрых жа ўспрыняў здарэнне як каханне, якога — без усялякіх на тое падстаў — чакаў ад яе. Ён патушыў святло. Свісцячае дыханне, у цемры, на фоне бляклай сінечы начнога неба яна бачыла яго бездапаможную і няскладную паставу, калі ён, спыніўшыся перад ложкам, здымаў штаны. Яшчэ не позна было сказаць: «Ідзі прэч!» — і ён бы пайшоў — бо гэта быў Эрых, а не Леа. Але яна нічога не сказала, яе скавала адчуванне, што ўсё так і павінна здарыцца, чаму ж тады не з Эрыхам, які да яе добра ставіцца?

Эрых быў такі ж добры, як і кандытар, і той светлай ноччу Эрых сказаў ёй: «Якая ты прыгожая!» — а сам так цяжка дыхаў.

Ніколі ніхто не гаварыў ёй такіх слоў, акрамя кандытара, які не быў нават за тое ўзнагароджаны.

Яна закурыла апошнюю цыгарэту. Кава была выпіта, зубны ўрач зачыніў акно і зноў пусціў у ход кола бормашыны: трыста марак задатку, цудоўныя, але вельмі дарагія ўколы, пасля якіх адчуваеш сябе такой маладой і бадзёрай. Гармоны — гэтае слова выкліча на твары Леа агідную ўсмешку.

У кафэ было яшчэ пуста: нейкі дзядуля паіў унучака вяршкамі і чытаў газету. Не адрываючыся ад газеты, ён запіхваў дзіцяці лыжку ў рот, і дзіця вылізвала яе.

Яна разлічылася за каву, выйшла і купіла тры апельсіны на кішэнныя грошы, што ёй выдаў Генрых,— ён аддаваў ёй палову адкладзеных на хлеб грошай, бо ёй цяпер не трэба было яго купляць: хлеб ім даваў кандытар. Але чаму Генрых вось ужо цэлы тыдзень не паяўляецца ў пякарні, і ёй адной прыходзіцца цягаць цяжкую сумку?

Яна прапусціла трамвай і пайшла пехатою: яшчэ няма паловы першай, значыцца, Леа яшчэ не пайшоў. Мусіць, лепш расказаць яму, у чым справа. Усё роўна ён даведаецца, можа, яму дадуць пазыку, але ці ж мала на свеце маладых прыгожых жанчын з асляпляльна белымі, здаровымі, дагледжанымі, бясплатна падоранымі прыродай зубамі?

Яна прайшла міма дома, дзе некалі жыў Вілі — сур'ёзны прыгожы хлопец, першы, хто яе пацалаваў,— блакіт неба і аддаленая музыка з рэстарана

ў парку, успышка феерверку над горадам, залаты дождж сыплецца са званіц, няўмелы пацалунак Вілі. Пасля ён сказаў: «Не ведаю, ці гэта грэх,— думаю, што не, пацалунак не грэх, грэх зусім іншае».

Іншае здарылася пазней, з Генрыхам — кусты ў расе, вецце лезе ў твар; абвіты зеленню, бледны, жахліва сур'ёзны твар, а ўдалечыні абрысы горада — вежы цэркваў, заблытаныя ў аблоках, і чаканне, нясмелае шалёнае чаканне апетай усімі асалоды, якая так і не прыйшла: расчараванне на вільготным твары Генрыха сярод зялёнага вецця; адкінуты ўбок мундзір танкіста з запэцканым ружаватым кантам.

Генрых згарэў паміж Запарожжам і Днепрапятроўскам; Вілі — сур'ёзнага, няўсмешлівага, бязгрэшнага расклейшчыка плакатаў, паглынула Чорнае мора паміж Адэсай і Севастопалем, яго абгрызены шкілет апусціўся на дно і ляжыць там сярод водарасцяў і цiны; Бамбергера спалілі ў газавай печы, і ён стаў попелам, попелам без залатых зубоў, а ў Бамбергера былі такія вялікія ззяючыя залатыя зубы.

Берна яшчэ жывая; ёй пашчасціла, яна выйшла замуж за мясніка, які хварэў на тую ж хваробу, што і Эрых. Трэба было б параіць усім жанчынам выходзіць замуж за хворых, якіх не возьмуць у войска. Воцат, камфара, чай для астматыкаў заўсёды стаяць на начным століку Берны. Усюды палатняны бінт, цяжкае, шумнае дыханне мясніка, жаданне, заглушанае астмай. Берна ўмела не таўсцець: яна стаяла за прылаўкам і з абыякавай упэўненасцю наразала цялячы філей. На чырвоных шчоках Берны блакітныя пражылкі, але моцныя маленькія рукі спрытна ўпраўляюцца з тонкім нажом: пяшчотна-карычневыя адценні ліvернай каўбасы, пяшчотна-ружовыя сакавітыя кумпякі. Раней, калі ім прыходзілася цяжка, Берна зрэдку совала ёй кавалак лою, велічынёю з пачак цыгарэт — маленькі прамаслены скрутак — гэта было ў тыя часы, калі ў доме гаспадарыў Карл і шлях на чорны рынак для іх быў перакрыты. Але даўно ўжо Берна перастала вітацца з ёю, а маці Віля заўсёды праходзіць міма яе моўчкі, як бы не заўважаючы, а калі прыязджае свякруха, яна выгаворвае тое, пра што іншыя маўчаць: «Як ты сябе паводзіш! Усяму ж ёсць мяжа».

Леа ўжо пайшоў. Яна з палёгкай уздыхнула, заўважыўшы, што ў гардэробе няма ні фуражкі, ні яго збруі. Фраў Барусяк узнікла на парозе і з усмешкай прыклала да вуснаў палец: малая заснула ў іх на канапе. У сне яна здавалася вельмі прыгожанькай, каштанавыя валасы адлівалі золатам, роцік, заўсёды складзены ў плаксівую грымаску, усміхаўся. На стале ў фраў Барусяк стаяла шклянка з мёдам, каля яе ляжала лыжка. Толькі лобік у малой быў нейкі вуглаваты — як у Леа. Фраў Барусяк была вельмі мілая і добразычлівая жанчына, яна толькі зрэдку і вельмі ціха намякала, што добра было б неяк наладзіць жыццё. «Дарма вы ўпусцілі добрага мужа, вам трэба было б трымаць яго ў руках». Фраў Барусяк мела на ўвазе Карла, але ж ёй і самой Карл падабаўся менш за ўсіх астатніх — ягоны хрыплы, напышлівы голас, яго бясконцая балбатня пра «новае жыццё», яго вечная боязь парушыць знешнюю прыстойнасць, ягоны педантызм і набожнасць — усё гэта, на яе думку, не стасавалася з хцівай цэпкасцю ягоных рук, з нашаптанымі ў вуха пяшчотамі, у якіх таілася нешта брыдкае, што выклікала страх. Голас крывадушніка, які зараз узносіць свае маленні ў царкве: у дзень канфірмацыі Генрыха яна чула гэты голас з царкоўных хораў. Фраў Барусяк асцярожна перадала ёй загорнутую ў коўдрачку дзяўчынку, уздыхнула і раптам, набраўшыся смеласці, сказала:

— Пара вам развязацца з гэтым малойчыкам.

На яе мілавідным ружовым твары адлюстравалася рашучасць, ён пацямнеў, стаў амаль карычневым.

— Гэта ж не каханне,— але больш яна нічога не сказала, зрабілася па-ранейшаму нясмелай і ціхай і шапнула: — Не ўспрымайце мяне кепска, не крыўдуйце, але дзеці...

Вільма не пакрыўдзілася, падзякавала, усміхнулася і аднесла дзяўчынку ўніз, да сябе ў пакой.

Усмешлівы фельдфебель, чый партрэт вісіць паміж дзвярамі і люстэркам, маладзейшы за яе на дванаццаць гадоў. Думка пра тое, што яна некалі спала з ім, раптам выклікала дзіўнае адчуванне віны — быццам яна спакусіла дзіця. Такім, як ён на гэтым фотаздымку, быў па гадах падручны пекара, хлапчук-шалапут, з якім, як ёй здавалася, сорамна звязвацца. Генрых далёка, ён загінуў, і звальніцельную яму давалі вельмі

ненадоўга: хапіла часу, каб зачаць дзіця, але не хапіла на тое, каб захаваць успаміны аб нармальным шлюбным жыцці. Пісьмы, нумары цягнікоў з адпускнікамі, паспешлівыя абдымкі на краі вучэбнага пляца: стэп, пясок, ахоўная афарбоўка баракаў, пах смалы і незразумелае, невытлумачальнае, страшнае, што «лунала ў паветры», у паветры і ў твары Генрыха, які схіляўся над ёй, бледны і сур'ёзны. Дзіўна, у жыцці ён зусім не так ужо часта смяяўся, затое на ўсіх здымках — усміхаецца, і ўсмешлівым захаваўся ён у яе памяці. З вялікага кафэ даносілася танцавальная музыка, удалечыні маршыравала рота салдат — «Мы да Рэйна крочым, крочым», пасля Генрых сказаў тое ж, што гаварыў заўсёды і Герт: «Дзярмо ўсё гэта!»

А ўвечары — зноў абдымкі ў пакоі з вялікай прыгожай і стракатай карцінай на сцяне: пакорлівая Маці Божая лунае на воблаку ў небе, з дзіцем Ісусам на руках, справа Пётр, такі, якім і павінен быць Пётр: барадаты і ласкавы, сур'ёзны і пакорлівы, каля яго папская тыяра і штосьці няўлоўнае ва ўсёй карціне, неапісальнае, гаварыла кожнаму, што гэта апостал Пётр. Унізе — прыгожанькія анёлы падперлі галоўкі рукамі, крыльцы ў іх, як у кажанкоў, а ручкі такія тоўсценькія і круглыя. Пасля яна купіла такую ж карціну, толькі меншую — унізе надпіс Rafael pinx[1], але карціна ператварылася ў попел, развеялася па ветры ў тую ноч, калі яна ў бамбасховішчы на запэцканых ваксай нарах нарадзіла сына, зачатага пад выявай Маці Божай. Яна бачыла гэтую карціну каля твару Генрыха — сур'ёзнага твару унтэр-афіцэра, ён даўно ўжо забыўся пра першае расчараванне; далёка ззаду, над стэпам пратрубілі зару — свабода да раніцы, і тое, што «насілася ў паветры», ценем легла на твар Генрыха, які з нянавісцю слухаў, як грукацелі ноччу танкі. Абвугліўся, ператварыўся ў мумію недзе паміж Запарожжам і Днепрапятроўскам: пабеданосны танк, пабеданосная душагубка, што паглынула пана Бамбергера, і ні салдацкай кніжкі, ні заручальнага пярсцёнка, ні грошай, ні гадзінніка, на якім набожная маці загадала выгравіраваць: «На памяць пра канфірмацыю». Усмешлівы на фота яфрэйтар, усмешлівы унтэр-афі-

---

[1] Пісаў Рафаэль (лац.).

цэр, усмешлівы фельдфебель — а ў жыцці такі сур'ёзны.

Свечы ў маленькай капліцы, і сухі самотны твар свякрухі: «Не заплям памяці майго сына».

Удава ў дваццаць адзін год, якой годам пазней Эрых прапанаваў сваё сэрца, сваю астму і какаву; нясмелы, дабрадушны, маленькі нацы з хворымі бронхамі — камфара, воцат, парваныя на бінт палатняныя кашулі і працяжныя, глухія стогны па начах. Нічога не зробіш, трэба паглядзецца ў люстэрка, што вісіць каля партрэта Генрыха,— зубы яшчэ белыя і на выгляд здаюцца моцнымі, але калі датыкнешся да іх — злавеснае хістанне. Вусны яшчэ сакавітыя, не такія вузкія і вялыя, як у Берны,— яна ўсё яшчэ прыгожая, зграбная жонка ўсмешлівага на здымку фельдфебеля, лялька з доўгай і ганарыстай шыяй, якая ўзяла верх над больш маладымі кандуктаркамі; тысячу дзвесце марак за трынаццаць зубоў — а дзясны ўсё сохнуць, усё больш агаляюцца зубы, і гэтага ўжо не адновіш.

Яна вырашыла паддацца маленням кандытара і саступіць Леа маладзенькім кандуктаркам. Леа з ягонай чыста паголенай фізіяноміяй, з вуглаватым ілбом, з пачырвонымі — ад шчоткі — рукамі, з паліраванымі пазногцямі і з упэўненасцю сутэнёра ў вачах. Трэба прымусіць кандытара яшчэ крыху пачакаць, няхай крыху памучыцца — пануры, абрузглы твар. Ён, відаць, аддасць ёй пакой, будуць, магчыма, і грошы, а для хлопчыка месца вучня, калі праз тры гады ён скончыць школу.

Яна старанна працерла твар ласьёнам, незразумела адкуль узніклы бруд застаўся на ватцы, злёгку напудрылася, падфарбавала вусны і сабрала рассыпаныя валасы. Да гэтага часу толькі два мужчыны звярнулі ўвагу на яе прыгожыя рукі: Генрых і кандытар. Нават Герт не заўважаў іх прыгажосці, хоць ён, як маленькае дзіця, часам гадзінамі прымушаў яе гладзіць яго па твары. А кандытар узгараўся жаданнем, варта яму было толькі зірнуць на яе рукі, закаханы без памяці дзівак, сярод бясконцых адценняў шэрага ў сваёй пякарні нашэптваючы ёй глупства за глупствам.

Яна ўздрыгнула, калі ў дзвярах паказаўся хлопчык. У яго быў выліты бацькаў твар — твар усмешлівага яфрэйтара, усмешлівага унтэр-афіцэра, усмешлі-

вага фельдфебеля, прыгожы, сур'ёзны твар, які быў у бацькі.

— Ты яшчэ не пайшла, мама? — спытаў ён.

— Зараз пайду,— адказала яна.— Не бяды, калі я і спазнюся разок. Ты сёння зойдзеш за мной?

Яна ўважліва сачыла за выразам яго твару, але і ценю не прамільгнула на ім.

— Так,— адразу адказаў ён.

— Падагрэй сабе суп,— сказала яна,— а тут вось апельсіны — адзін табе, другі — Вільме.

— Добра,— сказаў ён,— дзякуй, а што сказаў урач?

— Пасля раскажу, цяпер некалі. Значыцца, зойдзеш?

— Але,— адказаў ён.

Яна пацалавала яго, адчыніла дзверы, і ён крыкнуў ёй услед:

— Зайду, абавязкова зайду.

5

Марцін спыніўся, расшпіліў каўнер і пачаў выцягваць з-за пазухі павешаны на шнурок ключ ад кватэры. Раніцай ключ быў халодны, боўтаўся недзе каля пупа і крыху драпаў, пасля ён нагрэўся, і калі зрабіўся зусім цёплым, Марцін перастаў яго адчуваць. У паўзмроку ён адразу разгледзеў белую паперку, прыколатую да дзвярэй, але не спяшаўся запальваць святло, каб даведацца, што ў ёй напісана. Ён сагнуўся і так раскалыхаў ключ, што той праляцеў міма левага вуха, вакол галавы і плюхнуўся на правую шчаку. Марцін патрымаў яго крыху ў такім становішчы, затым моцным штуршком зноў паслаў яго наперад. Левай рукой ён намацаў кнопку аўтаматычнага выключальніка, правай — знайшоў дзірку замка і, прыклаўшы да яе вуха, стаў напружана ўслухоўвацца: ён хацеў упэўніцца, што ў кватэры нікога няма. У запісцы пэўна сказана, што Альберту таксама спатрэбілася паехаць. Калі ён думаў: «Нікога няма», ён не лічыў бабулі, якая безумоўна сядзіць дома. Думаць: «Дома нікога няма» — азначае думаць: «Бабуля дома, а *больш* — нікога». *«Больш»* было тут выращальным словам, гэтае слова ненавідзеў настаўнік, ён ненавідзеў і словы *ўлас-*

*на, увогуле* і *ўсё роўна* — словы куды больш значныя, чым гэта здаецца дарослым. Ён нават пачуў бабулю. Нешта мармычучы, яна хадзіла па сваім пакоі, і ад яе цяжкіх крокаў дрыжала шкляная горка. Пачуўшы бабулю, ён адразу ж уявіў яе сабе; яе і вялізную чорную старасвецкую горку з моранага дубу; горка была вельмі старая, ці, іншымі словамі, вельмі каштоўная. Усё, што было старым, лічылася таксама каштоўным. *Старыя цэрквы, старыя вазы.* Насціл пад паркетам рассохся, і горка, не перастаючы, дрыжала, калі бабуля хадзіла па пакоі, а посуд у горцы безупынку лёгенька звінеў. Бабуля ні ў якім разе не павінна пачуць, калі ён прыходзіць дадому. А то яна пакліча яго да сябе, пачне карміць усялякай усялячынай — кавалкамі недасмажанага мяса, якое ён не пераносіць, будзе задаваць пытанні з катэхізіса і старыя, нязменныя *пытанні пра Гезелера.* Ён націснуў кнопку выключальніка і прачытаў запіску, пакінутую дзядзькам Альбертам: «Мне ўсё-ткі давялося пайсці». «Усё-ткі» было тры разы падкрэслена. «Вярнуся ў сем. Пачакай мяне з абедам». Тое, што Альберт тройчы падкрэсліў «усё-ткі», лішні раз пацвярджала важкасць гэтых слоў, якія ненавідзеў настаўнік і выкарыстоўванне якіх забараняў. Ён узрадаваўся, калі святло зноў патухла,— была рызыка, што бабуля выскачыць на святло, пацягне яго да сябе, пачне экзаменаваць і напіхваць недасмажаным мясам, ласункамі; пасля пачнуцца пяшчоты, гульня ў катэхізіс і *пытанні пра Гезелера.* А то яна проста выскачыць на лесвіцу і закрычыць: «У мяне зноў кроў у мачы!» — будзе размахваць шкляным начным гаршком і абліваццца горкімі слязамі. Яго ванітавала ад бабулінай мачы, ён пабойваўся бабулі і таму ўзрадаваўся, калі выключальнік шчоўкнуў і святло зноў патухла.

На вуліцы ўжо запалілі ліхтары. Жаўтавата-зялёнае святло за спінай Марціна прабівалася праз тоўстае шкло параднага, падала на сцяну і адкідала ягоны цень — вузкі шэры цень на цёмныя дзверы. Ён усё яшчэ не адняў рукі ад выключальніка, неўзнарок націснуў на кнопку, і тут здарылася тое, чаго ён заўсёды чакаў з такім напружаннем: яго цень выскачыў са змроку, як цёмны, вельмі спрытны звер, чорны і страшны; ён пераскочыў праз парэнчы, і цень ад галавы ўпаў на філёнку дзвярэй, што вялі ў падвал; затым ён

зноў расхістаў ключ і прасачыў за рухам вузкага шэрага ценю ад шнурка, але тут у аўтамаце ціха цікнула, святло зноў патухла; ён зноў двойчы, нават тройчы — гэта ж было так прыгожа! — прымусіў спрытнага чорнага хуткага звера — свой цень — выскачыць з зеленаватага святла за спінай, так каб цёмная пляма ад галавы зноў падала на ранейшае месца і зноў забегаў па падлозе размыты, шэры цень ад шнурка, што завязаны на шыі. Раптам ён пачуў наверсе шоргаючыя крокі Больды: яна шмыганула праз пярэднюю, у ваннай зашумела вада, і тут ён скеміў, што ў гэты час Больда заўсёды спускаецца на кухню і гатуе сабе булён.

Цяпер самае важнае ўвайсці ў дом ціха, каб бабуля не пачула. Ён уставіў ключ у дзірку, асцярожна пакруціў яго абедзвюма рукамі, пасля піхнуў дзверы, зрабіў шырокі крок, каб пераступіць скрыпучую дошку, і нарэшце апынуўся на тоўстай іржава-чырвонай дарожцы. Не сыходзячы з месца, ён увесь пасунуўся наперад і ціха, каб не шчоўкнуў замок, зачыніў дзверы.

Ён стаіў дыханне і напружана прыслухаўся да гукаў, якія даносіліся з пакоя бабулі: яна, пэўна, нічога не пачула, таму што працягвала расхаджваць па пакоі. Усё гэтак жа звінеў посуд у горцы, і мармытанне бабулі нагадвала размову зняволенага з самім сабой. Яшчэ не настаў час *крыві ў мачы* — жудасная сцэна, якая перыядычна паўтаралася, калі бабуля ўрачыста праносіла жоўтую вадкасць праз увесь калідор,— з пакоя ў пакой, не саромеючыся разліваць яе, і гэтак жа без усялякага сораму плакала гаручымі слязамі. Маці ў такіх выпадках гаварыла:

— Нічога страшнага тут няма, мама. Я патэлефаную Гурвеберу.

І дзядзька Альберт гаварыў:

— Нічога страшнага тут няма, бабуля, мы патэлефануем Гурвеберу.

І Больда гаварыла:

— Нічога страшнага тут няма, дарагая Бэці, патэлефануй лепш урачу і перастань выломвацца.

І Глум раніцай, калі ён вяртаўся з царквы або з працы і яго сустракалі начным гаршком, таксама гаварыў:

— Нічога страшнага, дарагая бабуся, хутка прыйдзе доктар.

І Марціну даводзілася гаварыць:

— Нічога страшнага, мілая бабуля, мы паклічам урача.

Кожныя тры месяцы на працягу тыдня ўсе гулялі ў гэтую гульню, і з часу апошняга прадстаўлення прайшоў ужо немалы тэрмін — ёсць рызыка, што гульня можа ўзнавіцца менавіта гэтым вечарам, у любы момант.

Ён усё яшчэ стаяў, стаіўшы дыханне, і радаваўся, што бабуля працягвае мармытаць, працягвае хадзіць, а шкляная горка працягвае свой канцэрт.

Ён крадком прайшоў на кухню, у цемені знайшоў запіску ад маці — яна заўсёды пакідала яе на рагу стала на блакітных разводах абруса — і павесялеў, пачуўшы крокі Больды. Калі Больда дома — няма чаго асцерагацца крыкаў бабулі: «Крэў у мачы!» Больда і бабуля занадта доўга ведалі адна адну, і ў якасці адзінай слухачкі Больда не ўяўляла для бабулі аніякай цікавасці.

Больда сышла ўніз, шоргаючы пантофлямі па лесвіцы, запаліла ў калідоры святло; яна, адзіная ва ўсім доме, не баялася бабулі, і калі Больда ўвайшла ў кухню, запаліла святло і знайшла там Марціна, ён хуценька прыклаў палец да вуснаў, каб папярэдзіць яе. Больда нешта праклекатала, падышла да яго, пачухала па патыліцы і, як заўсёды, з раскацістым «р» прыглушана загаварыла:

— Прапашчае дзіця, ты, мусіць, есці хочаш?

— Так,— ціха адказаў ён.

— Булёну хочаш?

— Так,— адказаў ён і залюбаваўся яе гладка зачасанымі, чорнымі як смоль валасамі, глядзеў на яе белы, як папера, зморшчаны твар, на ўспыхнутае полымя газу ды гэтак і застаўся стаяць каля Больды, якая даставала з бляшанкі булёнавыя кубікі — тры, пасля чатыры.

— А хлебца з маслам, найсвежанькага?

— Вельмі хачу,— сказаў ён.

Яна зняла з яго ранец, шапку, зноў засунула шнурок з ключом пад кашулю: халодны ключ слізгануў да пупка і там павіс, крыху драпаючы скуру. Ён дастаў з кішэні запіску маці і прачытаў яе: «Мне зноў

неабходна было пайсці». «Неабходна» яна падкрэсліла чатыры разы. Больда ўзяла запіску ў яго з рук, зморшчыўшы лоб даскакала яе вывучыла і выкінула ў вядро для памыяў, якое стаяла пад ракавінай.

Па пакоі павольна распаўзаўся пах булёну, пах, які дзядзька Альберт называў «пошлым», маці — «агідным», бабуля «прасцяцкім», затое нос дзядзькі Глума асалодліва моршчыўся ад гэтага паху, дый самому Марціну ён вельмі падабаўся па прычыне, якую да гэтай пары ніхто не разгадаў: менавіта такі пах меў булён у Брылахаў — пах цыбулі, сала, часнаку і яшчэ нечага, што не паддаецца вызначэнню, што дзядзька Альберт называў «казарма». Ззаду, там, дзе ўздоўж пліты цягнулася труба, заўсёды стаяў зялёны кубак без ручкі, у ім Больда настойвала палыновы чай, напой, які сама прыдумала, да той пары, пакуль ён не ператвараўся ў густую, амаль што вязкую масу — цёплая горыч,— ад яе набягае сліна ў роце, у горле пяршыць, а ў страўніку разліваецца прыемнае цяпло, і пасля, калі ясі, усе стравы аддаюць гэтай горыччу, хлеб быццам замешаны на палыне, суп быццам прыпраўлены ім, і нават калі даўно ўжо ляжыш у ложку, жыватворная горыч быццам з патаемных закуткоў рота, са скрытых залоз прыцякае да нёба і набягае горкая сліна.

«Раз на тыдзень — глыток палыновага чаю» — такі быў нязменны рэцэпт Больды, і кожны, каму рабілася кепска, каму балеў жывот, павінен быў пакаштаваць з зялёнага кубка без ручкі. Нават бабуля, якая лічыла агідным усё, што ела і піла Больда, нават бабуля ўпотай цешылася глытком загусцелай горычы. Кожны тыдзень Больда выцягвала сухія шэра-зялёныя лісцікі з працёртага, рудога пакецікa і заварвала новы кубак. «Лепш чым каньяк,— прыгаворвала яна,— лепш чым усякія дактары, лепш чым дурное свінячае абжорства, лепш чым п'янства, чым курэнне да адурэння, лепш за ўсё на свеце палыновы чай і прыгожы харал». Яна сама нярэдка спявала, хоць голас у яе быў страшэнны: яе спробы ўлавіць мелодыю і рытм былі заўсёды марнымі, а ёй здавалася, што спявае яна цудоўна. Слых у яе быў такі ж немузыкальны, як і голас, таму яе невыносныя спевы ёй самой здаваліся дастаткова мілагучнымі і кожную праспяваную страфу яна суправаджала пераможнай ухмылкай. Нават Глум, які вельмі рэдка

выходзіў з сябе, Глум, які ставіўся з бясконцым цярпеннем да ўсіх і да ўсяго, які вытрымліваў маўкліва цэлы тыдзень крыкі пра «кроў у мачы», нават Глум даходзіў да стану, які быў яму зусім неўласцівы.

— Ой, Больда, пашкадуй мае нервы...— маліў ён яе.

Але вось булён у Больды падагрэўся, хлябцы намазаныя маслам, і, прыхапіўшы вялікі жоўты кубак, Марцін ціха, у адных панчохах, шмыгануў разам з Больдай уверх па лесвіцы ў яе пакой міма вялізнага, напісанага алеем партрэта дзядулі: з партрэта глядзеў самотны худы чалавек з дзіўна чырвоным тварам, ягоная рука з дымячай цыгарай ляжала на зялёным стале. А ўнізе медная дошчачка: «Нашаму паважанаму шэфу ў дзень дваццаціпяцігоддзя фабрыкі ад удзячных супрацоўнікаў. 1938».

І заўсёды здавалася, што светла-шэры, выдатны намаляваны попел вось-вось упадзе на бліскучы паліраваны стол; часам ён нават у сне бачыў, што попел упаў, прачынаўся раніцай, быццам ад штуршка, і бег да лесвіцы паглядзець; але попел усё яшчэ вісеў на кончыку цыгары. Ён заўсёды заставаўся там, светла-шэры, надзіва дакладна намаляваны, і, заўсёды знаходзячы яго на месцы, Марцін адчуваў нейкую палёгку, але адначасова і новы цяжар у грудзях: бо ўпаў бы гэты попел, нарэшце, і ўсё было б выдатна. І ланцужок ад гадзінніка так выпісаны, што яго хацелася схапіць рукой, і тонкі, срабрыста-шэры гальштук з блакітнаватай пярлінай. І кожны раз Больда гаварыла: «Але, Карл Гальштэге быў харошы чалавек», як бы даючы зразумець, што бабулі да яго далёка.

Ад сіняй спадніцы Больды заўсёды патыхала шчолакам, і заўсёды яна была абпырсканая зверху данізу мыльнай пенай, бо асноўны занятак Больды заключаўся ў дабрачынным прыбіранні ў цэрквах. З дабрачыннасці — не за грошы — прыбірала яна ў трох цэрквах: у прыходскай, дзе яна двойчы на тыдзень урачыста шлэпала па агромністых пакрытых мыльнай пенай лужынах ад уваход да лаўкі прычасця, з глыбокай пашанай скручвала дываны перад алтаром і, як чорны анёл на аблачынцы, праплывала вакол алтара па меншай лужыне, зусім белай ад мыльнай пены. Яшчэ яна прыбірала царкву ў парку і манастырскую капліцу, куды часта хадзіў і дзядзька Альберт: цём-

ная капліčка, справа за лаўкай прычасця вялікая рашотка, пакрытая чорным лакам, за ёй сіняя заналеска, што аддзяляе капліцу ад царквы, і за гэтай змрочнай падвойнай агароджай спяваюць манашкі, толькі галасы ў іх больш прыемныя, тыя ж харалы, якія, як уяўлялася Больдзе, няблага пяе і яна сама. Чатыры дні на тыдзень Больда прыбірае ў цэрквах, і чатыры дні лунае яна — худы чорны анёл з бялюткім зморшчаным тварам — у пакрытых пенай аселых на падлогу царквы аблоках. Калі Марцін зрэдчас заходзіў да яе, яму здавалася, што яе швабра — гэта вясло, а сіняя спадніца — ветразь, з іх дапамогай яна хоча закінуць зноў на нябёсы воблака, якое ўпала на зямлю, але воблака, прыляпілася да падлогі і паўзе ад увахода да лаўкі прычасця і пасля, яшчэ больш пабялеўшы ад пены, якая яго пакрывае, з паважнай павольнасцю прапаўзае вакол алтара.

У пакоі ў Больды вельмі ўтульна, хоць усё тут прапахла мыльнай пенай, разваранай рэпай і пошлым булёнам. А ад яе кушэткі, як казала маці, нясе манастырскай чакальняй; у гэтых словах заключаўся вельмі зразумелы яму намёк, намёк на мінулае Больды, калі яна была манашкай. Яе ложак — гэта таксама словы маці — нагадвае ложа Тарзана ў джунглях. Але зараз святло газавых ліхтароў пранікала з вуліцы ў пакой Больды, фарбавала ўсё ў зялёна-жоўты колер, і калі ён з'еў булён і два хлябцы, яна высунула нейкую скрынку і дастала нязменны пачастунак, які ён з усмешкай прымаў толькі дзеля яе самой,— пазліпаныя ў ком соладавыя ледзяўцы.

Ён прылёг на Больдзіну кушэтку, засунуў у рот ледзянец, крыху прыкрыў вочы і пачаў глядзець на зялёна-жоўтае святло вулічнага ліхтара. Больда не запальвала святла, калі ён прыходзіў да яе. Яна сядзела пры акне каля маленечкай кніжнай паліцы, на якой былі два віды літаратуры: малітоўнікі і кінапраграмы. Кожны раз, калі Больда хадзіла ў кіно, яна абавязкова купляла праграму, прыносіла яе дадому, разглядвала малюнкі і пераказвала Марціну змест, дакладна ўспамінаючы ўсе падрабязнасці. Каб лепш сабрацца з думкамі, яна заплюшчвала вочы і адкрывала іх толькі тады, калі хацела паглядзець на малюнкі і асвяжыць у памяці нейкі эпізод; яна пераказвала яму цэлыя фільмы, сцэну за сцэнай, злёгку перарабляючы іх на

свой густ. Калі ў ходзе падзей Больда закранала галоўных дзеючых асоб, яна тыцкала ў іх пальцам, і ўсё ў яе атрымлівалася цёмным, рэзкім, жахлівым, як у крывавай баладзе,— подласць, бязбожжа, распуста; але разам з тым у яе роспаведах фігуравалі высакароднасць і нявіннасць: асляпляльна прыгожыя мужчыны, якіх абманвалі асляпляльна прыгожыя жанчыны; асляпляльна прыгожыя жанчыны, якіх абманвалі асляпляльна прыгожыя мужчыны; і тут жа святы Павел, якога на шляху ў Дамаск забіла маланка господняя. Так, вось ён сам, святы Павел, барадаты, ахоплены полымем, на старонцы праграмкі. І святая Марыя Гарэці, подла забітая пажадлівай свіннёй,— цікава, што гэта — «пажадлівая свіння»? Яна, мусіць, мае нейкае дачыненне да *распусты* і *бессаромнасці*. Але часцей за ўсё гаворка ішла пра фільмы з дзівосна прыгожымі жанчынамі, якія станавіліся манашкамі, такіх фільмаў пра манашак было вельмі многа, і ніводнага з іх ён не бачыў, таму што на афішы з намаляванымі манашкамі ніколі не наклейвалі белую палоску: *«Дзецям уваход дазваляецца»*.

Але сёння, мяркуючы па ўсім, Больда не мела аніякага жадання расказваць пра чарговы фільм. У зялёна-жоўтым святле ліхтара яна прысела на акно і корпалася ў стосе малітоўнікаў, пакуль не знайшла патрэбны ёй. На шчасце, ён быў без нот, калі ён быў з нотамі, Больда цэлую гадзіну спявала б; а калі яна не спявае — слухаць, як яна мармыча словы малітвы, прыемна; худая, чорнавалосая, яна са спіны вельмі нагадвала маці Брылаха.

Спямнела, зелянкавае святло з вуліцы зрабілася гусцейшым, і ўсе рэчы ў Больдзіным пакоі заззялі, як панцыры паўзучых жукоў, і раптам — значна раней, чым можна было чакаць,— ён пачуў унізе голас маці, пачуў, як пад'язджаюць да дому аўтамабілі, пачуў смех маці і нечы чужы смех, і нянавісць да гэтых рагочучых чужакоў ахапіла яго, перш чым ён убачыў іх; ён ужо ненавідзеў шакалад, які яны прынясуць, пакункі з падарункамі, якія яны пачнуць разгортваць, словы, якія яны скажуць, пытанні, якія яны пачнуць яму ставіць. І ён шапнуў Больдзе:

— Скажы, што мяне пакуль няма, і не запальвай святла.

Больда перапыніла малітву.

— Маці спужаецца, калі пабачыць, што цябе яшчэ няма.

— А мы маглі і не пачуць, што яна прыйшла.

— Не трэба лгаць, сынок.

— Але яшчэ хоць на чвэрць гадзінкі можна застацца?

— Ну добра, але ні хвіліны больш.

Калі б маці вярнулася адна, ён бы пабег да яе, рызыкуючы нават, што адразу ж пачнецца прадстаўленне — «кроў у мачы». Але ён ненавідзеў людзей, якія прыходзілі да маці, асабліва таго тоўстага, які заўсёды гаварыў пра бацьку. Мяккія рукі і «найвыдатныя ласункі». Яшчэ больш густым зрабілася зялёнае святло, сама Больда — чарнейшай, а яе валасы — чарнейшымі, чым яна сама,— густая, чарнільная цемень валасоў, і на іх адзін толькі блік — слабы водблеск зялёнага святла; і мармытанне Больды, і, як заўсёды, у цемені выплываюць словы — *Гезелер*, і *распуста*, і *бессаромна*, і тое слова, якое маці Брылаха сказала кандытару, і члены катэхізіса, яны таксама выскокваюць з цемры: *«Навошта прыйшлі мы ў свет гэты?»*

Амаль усё на свеце распуснае, вельмі многае — бессаромнае, а ў Брылаха няма грошай, і ён цэлымі гадзінамі разлічвае, на чым бы зэканоміць.

Па-ранейшаму мармыча каля акна Больда, цёмная, як індыянка, і пакой напоўнены гульнёй зеленавата-жоўтага святла; будзільнік на палічцы над ложкам Больды; ціха, павольна цікае будзільнік, а ўнізе шум робіцца мацнейшым, няўмольны, апусташальны шум; хіхіканне жанчын, смех мужчын, крокі маці, рыпіць дрэнна змазаны кафейны млынок — «Можа, вы аддаяце перавагу чаю?» — і раптам зверху даносіцца дзікі крык: «У мяне кроў у мачы! Кроў!»

Напружаная цішыня ўнізе, сёння ён цешыцца бабуліным уварваннем. Больда закрыла малітоўнік, павярнулася да яго, паціснула плячамі, ад усёй душы рассмяялася і шапнула:

— Лоўка яна гэта зрабіла! Бачыў бы ты яе раней, не, не такая яна ўжо і дурная. *Кроў у мачы!*

Госці маці, відаць, яшчэ не ведалі гэтай гульні, і яна на нейкі момант змусіла іх здранцвець, а затым унізе зноў пачалася прыглушаная гаворка. Ён пачуў голас маці ў пакоі Альберта,— яна звaніла ўрачу,

і бабуля маўчала: цяпер, калі выклікалі ўрача, яна пэўна ведала, што атрымае жаданае — *шпрыц*. Дзіўны таемны прыбор з нікелю і шкла, маленькі і чысты, занадта нават чысты звярок з дзюбкай калібры — празрыстага калібры, які насмокчацца да адвалу са шкляной трубачкі і пасля ўвап'еццца ў бабуліну руку. Голас бабулі, нізкі і гучны, як арган, даносіўся ўжо з пакоя маці. Бабуля гутарыла з гасцямі.

Больда ўключыла святло, і адразу знікла чароўнасць, зялёная і чорная чароўнасць, збегла шчасце, і нельга больш ляжаць на Больдзінай кушэтцы, якая пахне манастырскай чакальняй, і слухаць мармытанне Больды.

— Ну, сынок, нічога не зробіш, ідзі ўніз, можаш адразу легчы ў ложак, ды ты не бойся, табе, канешне, дазволяць спаць у дзядзькі Альберта.

Больда ўсміхнулася: яна знайшла правільнае, чароўнае слова — спаць у дзядзькі Альберта.

Марцін усміхнуўся Больдзе, яна ўсміхнулася ў адказ, і ён павольна спусціўся ўніз па лесвіцы. Быццам цень вялізнага, дзіўнага звера, стаяла бабуля ў дзвярах мамінага пакоя, ён пачуў, як яна пяшчотна гаворыць сваім нізкім, гучным, як арган, голасам:

— Панове, вы толькі падумайце, у мяне кроў у мачы.

І нейкі боўдзіла адказаў ёй:

—Васпані, урачу ўжо пра ўсё паведамілі.

Але тут бабуля пачула крокі Марціна, паспешна абярнулася, кінулася да сябе ў пакой, быццам каштоўную здабычу, вынесла адтуль бутэльку з мачой, і, таму што ён стаяў на трэцяй прыступцы, бутэлька аказалася перад самым ягоным носам.

— Ты толькі падумай, мой даражэнькі, зноў у мяне тое ж самае!

І ён сказаў тое, што трэба было сказаць у гэты ўрачысты момант:

— Не так гэта ўжо і страшна, дарагая бабуля, хутка прыйдзе доктар.

Упэўніўшыся, што ён надаў цёмна-жоўтай вадкасці належную ўвагу, яна нетаропка адвяла ад яго носа бутэльку і сказала тое, што прывыкла гаварыць у такія імгненні.

— Ты ў мяне добры, шкадуеш сваю бабулю.

І яму зрабілася сорамна, таму што ён ні кроплі не шкадаваў сваёй бабулі.

Як каралева, падалася яна ў свой пакой. З кухні выскачыла маці, расцалавала яго, і па яе вачах ён убачыў, што яна не раз яшчэ паплача ў гэты вечар. Ён любіў маці, яна падабалася яму, валасы яе так хораша пахлі, але часам маці рабілася такой жа дурнаватай, як людзі, якіх яна прыводзіла з сабою ў дом.

— Шкада, што Альберт павінен быў пайсці, ён бы паабедаў з табой.

— Мяне Больда накарміла.

Маці паківала галавой і ўсміхнулася, як заўсёды, калі ён расказваў, што еў Больдзіны стравы. Другая жанчына, такая ж бялявая, як і маці, падвязаўшыся брудным Больдзіным фартухом, кружкамі наразала крутыя яйкі на кухонным стале; гэтая чужая жанчына злёгку ўсміхнулася яму, і маці сказала тое, што заўсёды гаварыла ў такіх выпадках, тое, з-за чаго ён проста ненавідзеў яе:

— Вы толькі падумайце, ён любіць грубую ежу — маргарын і да таго падобнае.

А жанчына адказала тое, што і трэба было чакаць, яна сказала:

— Гэта цудоўна!

— Цудоўна! — закрычалі і іншыя дурніцы, што з'явіліся ў дзвярах мамінага пакоя.

— Выдатна! — не пасаромеліся падхапіць гэты дурны крык два мужчыны.— Выдатна! — крычалі яны.

Усіх людзей, якія прыходзілі ўвечары да яго маці, ён лічыў вельмі дурнымі, і гэтыя два дурні вынайшлі мужчынскі варыянт слова «цудоўна». Яны закрычалі: «Выдатна!» — пацягнулі яго і пачалі карміць шакаладам, падарылі завадны аўтамабіль, а калі ён нарэшце вырваўся ад іх, яму яшчэ прыйшлося пачуць услед шэпт:

— Надзвычайнае дзіця!

Які цудоўны зялёны змрок у Больдзіным пакоі, і Больдзіна кушэтка, што пахне манастырскай чакальняй, які цудоўны пакой Глума з вялікай картай на сцяне.

Ён вярнуўся на кухню, дзе ўсё тая ж дурніца наразала кружкамі памідоры, і пачуў, што яна гаворыць: «Я абажаю імправізаваныя вячэры!» Маці адкаркоў-

вала бутэлькі, булькала вада ў чайніку, ружовыя кавалачкі вяндліны грувасціліся на стале і вараная курыца — белае мяса з крыху зеленаватым адлівам,— і чужая бялявая жанчына сказала:

— Салат з курыцай — гэта проста апаламляльна, дарагая Нэла!

Ён спужаўся: тыя, што называлі маці «дарагая Нэла», прыходзілі да іх часцей, чым тыя, што называлі яе проста «фрау Бах».

— Можна, я пайду ў пакой да дзядзькі Альберта?

— Так,— адказала маці,— ідзі, я прынясу табе паесці.

— А я не галодны.

— Праўда?

— Праўда! — сказаў Марцін, і яму раптам зрабілася шкада маці,— не надта ўжо шчаслівай выглядала яна,— і ён ціха дадаў: — Дзякуй, мама, я добра паеў.

— Нэла,— сказала чужая жанчына, якая ў гэты момант здзірала нажом мяса з курыных касцей,— я ўжо чула, дарагая, што ў вас жыве Альберт Мухаў, а я проста прагну пазнаёміцца з кругам людзей, якія ведалі вашага мужа. Быць у цэнтры культурнага жыцця — незвычайная асалода.

У пакоі ў Альберта было хораша: там стаяў пах тытуню і чыстай бялізны, якая заўсёды стосікамі ляжала ў ягонай шафе. Бялюткія кашулі, у зялёную палоску і ў ружавата-рудую палоску, чыста вымытыя, ■ цудоўным пахам. Яны пахлі гэтак жа прыемна, як дзяўчына з пральні, якая прыносіла іх; дзяўчына была такая светлавалосая, колер яе валасоў амаль не адрозніваўся ад колеру яе скуры. Пры дзённым святле яна здавалася вельмі прыгожай, і Марцін любіў яе, таму што яна была ветлівая і не гаварыла глупства. Часта яна прыносіла яму рэкламныя паветраныя шарыкі, ён надзімаў іх і гадзінамі разам з Брылахам гуляў у мяч проста ў пакоі, не баючыся што-небудзь разбіць; вялікія тугія шары ■ тонкай гумы, на іх красаваліся белыя надпісы: «Буфо адмые любыя плямы». На стале ў Альберта заўсёды стосам ляжала папера для малявання, а скрынка з фарбамі стаяла ў кутку каля шкатулкі ■ табакай.

Але за сцяной у пакоі маці моцна рагаталі, і ён злаваўся, і яму таксама хацелася размахваць начным гаршком і крычаць: «У мяне кроў у мачы!»

Яшчэ адзін вечар сапсаваны, таму што Альберту таксама давялося сысці. Звычайна, калі маці заставалася дома і не чакала аніякіх гасцей, яны ўвечары збіраліся ў яе пакоі; бывала, на паўгадзінкі заходзіў Глум і нешта расказваў, часам Альберт садзіўся за піяніна і іграў, а маці чытала, але лепш за ўсё было, калі Альберт позна ўвечары катаў яго на машыне або хадзіў з ім есці марожанае. Яму падабалася яркае стракатае святло ў кафэ, якое выпраменьваў певень, падабаліся прарэзлівыя гукі радыёлы, абпальваючы холад марожанага, зеленаваты ліманад, у якім плавалі льдзінкі, і ён ненавідзеў дурных жанчын і мужчын, якія лічылі яго цудоўным і надзвычайным і псавалі яму вечары. Ён надзьмуў вусны, адкінуў крышку скрынкі з фарбамі, дастаў доўгі тоўсты пэндзаль, памакнуў яго ў ваду і доўга набіраў на яго чорную фарбу. Перад домам спынілася машына, і ён адразу ж пачуў, што гэта машына ўрача, а не Альберта, ён адклаў пэндзаль убок, дачакаўся званка і кінуўся ў калідор, бо зараз павінна было здарыцца тое, што здаралася заўсёды і што кожны раз зноў хвалявала яго. Бабуля выскачыла са свайго пакоя з крыкам: «Доктар, мілы доктар, у мяне зноў кроў у мачы!» — і ціхі маленькі чарнавалосы доктар усміхнуўся, асцярожна падпіхнуў бабулю назад у пакой і дастаў з кішэні пінжака скураны футарал памерам не большы за партсігар, які Марцін бачыў у сталяра, суседа Брылаха.

Пасадзіўшы бабулю ў крэсла, урач асцярожна расшпіліў у яе манжэту, закасаў рукаў блузкі, як заўсёды, паківаў галавой, любуючыся яе поўнай, белай, быццам кашулі Альберта, рукой, і прамармытаў: «Ну, зусім як у маладой дзяўчыны, як у маладой дзяўчыны»,— а бабуля ўсміхалася і пераможна глядзела на бутэльку з мачой, якая ў гэты час красавалася або на сярэдзіне абедзеннага стала, або на чайным століку, што на колцах.

Марцін павінен быў трымаць ампулу, бо маці з гэтым ніколі не спраўлялася. «Мяне трасе ад аднаго позірку на ампулу»,— гаварыла яна. Калі ўрач зразаў галоўку ампулы, Марцін стаяў зусім спакойна, і доктар, як заўсёды, сказаў:

— Ты храбры хлапец!

Марцін уважліва сачыў, як маленькая, тоненькая дзюбка калібры апускаецца ў празрыстую вадкасць,

як урач адцягвае поршань, як шпрыц напаўняецца чымсьці бясколерным, што валодае цудадзейнай сілай. Бясконца шчаслівым, пакорным і прыгожым рабіўся твар бабулі. І ён не адчуваў ні кроплі страху, калі ўрач раптоўна ўтыкаў дзюбку калібры ў руку бабулі — гэта было як укус,— пяшчотная белая скура крыху напружвалася, быццам яе клюнула птушачка. Бабуля неадрыўна глядзела на ніжнюю паліцу чайнага століка, дзе стаяла «кроў у мачы», урач жа асцярожна націскаў на поршань і ўпрыскваў у бабулю бязмежнае шчасце. Яшчэ рывок, урач дастае дзюбку з бабулінай рукі — і загадкавы, шчаслівы ўздых бабулі. Ён заставаўся ў бабулі і пасля адыходу ўрача, хоць яму было страшна, але цікаўнасць была мацнейшай за страх, тут здзяйснялася нешта жахлівае, гэткае ж жахлівае, як і тое, што рабілі ў кустах Грэбхакэ і Вольтэрс, такое ж жахлівае, як слова, якое маці Брылаха сказала ў падвале кандытару,— жахлівае, але затое таемнае і прыцягальнае. Увогуле, па сваёй ахвоце, ён нізавошта не застаўся б у бабулі, але калі ёй рабілі ўкол, ён заставаўся. Бабуля ляжала ў ложку, над ёй паднімалася нейкая светлая хваля, якая рабіла яе маладой, шчаслівай і няшчаснай, яна глыбока ўздыхала і плакала, а твар яе расцвітаў і рабіўся такім жа гладкім і прыгожым, як твар маці. Разгладжваліся зморшчыкі, вочы ззялі, выпраменьваючы шчасце і спакой, а слёзы цяклі безупынку, і ў гэтыя хвіліны ён раптоўна пачынаў любіць бабулю, ён любіў яе вялікі квітнеючы твар, што заўсёды выклікаў у яго страх, і ён цвёрда ведаў, што ён зробіць, калі вырасце вялікім і адчуе сябе няшчасным: ён папросіць, каб яму пракалолі руку дзюбкай калібры, якая ўлівае шчасце,— некалькі кропель бясколернага Нечага. Цяпер яго не нудзіла ў бабуліным пакоі, не нудзіла нават ад бутэлькі, што стаяла на ніжняй палічцы чайнага століка на колцах.

Ён клаў руку на бабулін твар — спярша на левую шчаку, затым на правую, затым на лоб, пасля доўга трымаў далонь над яе вуснамі, каб адчуць яе спакойнае і цёплае дыханне, і ў канцы затрымліваў руку на бабулінай шчацэ, і ён больш не ненавідзеў яе: выдатны прыгожы твар, такі зменены ад нейкага паўнапарстка бясколернага Нечага. Бывала, бабуля нават не засынала, і, не расплюшчваючы вачэй, яна ласкава гаварыла яму: «Слаўны хлопчык!» — і яму рабілася сорамна,

таму што *звычайна* ён яе ненавідзеў. Калі яна засынала, ён мог спакойна агледзець яе пакой, у яго ніколі не знаходзілася часу для гэтага з-за страху і агіды. Вялікая чорная горка, каштоўная, старадаўняя, уся набітая крышталёвым посудам. Тут былі крышталёвыя вазы і малюпасенькія тонкія кілішкі для гарэлкі, шкляныя куфлі: сінявокая з матавым узорам лань, піўныя кружкі. Пасля, усё яшчэ не здымаючы рукі з твару бабулі, ён глядзеў на фотаздымак бацькі: ён быў большы, чым той, што вісеў над ложкам маці, і тут бацька быў яшчэ маладзейшы, зусім малады і ўсмешлівы, з люлькай у роце, цёмныя густыя валасы выразна выдзяляюцца на фоне неба, на небе белыя, бы шматкі ваты, аблачынкі. Здымак такі рэзкі, што можна нават распазнаць выпуклы ўзор — кветкі на металічных гузіках бацькавай вязанай камізэлькі, а вузкія цёмныя вочы глядзяць на Марціна так, быццам бацька на самай справе стаіць там, у цёмным кутку, паміж горкай і столікам, дзе вісіць здымак, і ніколі, ніколі яму не ўдавалася зразумець: маркотны бацька на гэтым здымку ці вясёлы. Вельмі ўжо молада ён выглядаў, амаль гэтак, як старэйшыя вучні ў іхняй школе. На бацьку, ва ўсякім выпадку, ён ні кроплі не падобны. Бацькі бываюць старэйшымі, больш саліднымі і сур'ёзнымі. Бацьку можна пазнаць па тым, як ён сядзіць за сталом,— яму абавязкова падаюць *яйка* на сняданак,— як ён чытае газету, як звыклым рухам ён здымае пінжак. Бацька гэтак жа мала быў падобны на бацькаў другіх дзяцей, як дзядзька Альберт на дзядзькаў іншых хлопчыкаў. Марцін ганарыўся, што ў яго такі малады бацька, але да гэтага прымешвалася адчуванне нейкай няёмкасці: здавалася, быццам ён не сапраўдны бацька, і маці здавалася не сапраўднай маці,— ад яе быў іншы пах, чым ад маці іншых хлопчыкаў, яна здавалася лягчэйшай і маладзейшай за іх і ніколі не гаварыла пра тое, чым жылі іншыя людзі, пра тое, што вызначала характар мацярок іншых хлопчыкаў,— яна ніколі не гаварыла *пра грошы.*

Выгляд у бацькі не вельмі шчаслівы,— да такой высновы ён заўсёды прыходзіў у канцы, але зусім не з-за таго слова, якое непарыўна звязана з іншымі бацькамі,— зусім не з-за *клопатаў. Клопаты* ёсць ва ўсіх бацькаў, усе бацькі старэйшыя, але ўсе яны,

кожны па-свойму, выглядаюць нікольki не шчаслівейшымі, чым яго бацька...

На Глумавай — на ўсю сцяну — карце свету было тры тлустыя кропкі: першая — месца, дзе нарадзіўся Глум, другая — месца, дзе яны жылі, а трэцяя — месца, дзе загінуў бацька,— Калінаўка.

Ён зусім забыўся пра бабулю, хоць рука яго ўсё яшчэ ляжала на яе спячым твары, забыўся пра маму і дурнаватых гасцей, пра Глума і Больду, нават пра дзядзьку Альберта,— ён спакойна разглядваў партрэт бацькі ў цёмным кутку паміж горкай і чайным столікам.

Ён усё яшчэ сядзеў там, калі маці паклікала яго,— Альберт даўно ўжо вярнуўся. Марцін пайшоў услед за маці, не вымавіўшы ні слова, распрануўся, лёг у ложак, прачытаў вячэрнюю малітву: *«Калі не адпусціш нам, Гасподзь, грахі нашыя»*, і калі Альберт спытаў у яго, ці стаміўся ён, адказаў — так, яму вельмі хацелася пабыць аднаму. А калі выключылі святло, нават дурны смех у суседнім пакоі перастаў перашкаджаць яму,— ён заплюшчыў вочы, убачыў партрэт бацькі, спадзеючыся, што бацька прыйдзе да яго ў сне такі ж малады, бесклапотны, магчыма, з усмешкай, значна маладзейшы, чым дзядзька Альберт. Ён хадзіў гуляць з бацькам у заапарк; ён падоўгу катаўся з ім на аўтамабілі, запальваў яму цыгарэту, набіваў люльку, дапамагаў яму мыць і рамантаваць машыну, ездзіў конна разам з ім па бясконцых раўнінах і ціха сам сабе з асалодай мармытаў: «Мы ляцім да гарызонту»,— слова «гарызонт» ён паўтараў павольна і ўрачыста, і маліўся, і спадзяваўся, што бацька гэтак і з'явіцца ў ягоных снах — конна або ў машыне, якая ляціць да гарызонту.

Гэта карціна стаяла перад яго вачыма, пакуль ён не засынаў, ён бачыў усе рэчы, якія належалі бацьку: наручны гадзіннік, вязаная камізэлька, запісная кніжка, у якой былі незавершаныя вершы. Але марным было яго палкае жаданне ўбачыць у сне бацьку. Бацька не з'яўляўся. У пакоі было цёмна, ён ляжаў адзін, і, калі дзядзька Альберт заходзіў зірнуць на яго, ён прыкідваўся, быццам спіць, ён не хацеў, каб яму перашкаджалі, і ўвесь час, пакуль Альберт быў у пакоі, ён не расплюшчваў вачэй, баючыся, што прападзе бацькаў твар, твар усмешлівага юнака з люлькай у ро-

це, які зусім не быў падобны на бацьку.

Ён качаваў па розных краінах і мармытаў сам сабе іх назвы: Францыя, Германія, Польшча, Расія, Украіна, Калінаўка,— а пасля плакаў у цемры і горача марыў убачыць сон, які яму так і не прысніўся. Дзядзька Альберт быў разам з бацькам, калі той загінуў, часам ён расказваў пра гэта: пра *Гезелера*, пра тую вёску, пра вайну, якую ён называў *бруднай вайной*, але і ў такія ночы бацька прыходзіў да яго ў снах не такім, якім ён хацеў бы яго бачыць.

Зямлю, у якой ляжыць бацька, ён уяўляў сабе падобнай на валасы Больды. Чарнільная цемень, што паглынула цела бацькі, закавала яго, як свежы вязкі асфальт, скавала так, што ён нават у сне не можа вырвацца і прыйсці да свайго сына. Самае большае, чаго мог дасягнуць Марцін,— гэта ўявіць сабе бацьку плачучым, але нават плачучы бацька ў сне не прыходзіў да яго.

Толькі ў цемры ён мог уявіць сабе бацькаў твар, дый то толькі калі перад гэтым у бабуліным пакоі ў цішы будзе доўга глядзець на яго партрэт, але так бывала, калі толькі на сцэну выступала «кроў у мачы», калі звалілі ўрачу і бабулі ўпырсквалі шчасце.

Ён прачытаў усе малітвы, якія толькі ведаў, і кожную заканчваў словамі: «Дай мне ў сне ўбачыць тату...»

Але калі ён, нарэшце, убачыў бацьку, той аказаўся зусім не такім, як яму хацелася: бацька сядзеў пад высокім дрэвам, закрыўшы твар рукамі, але Марцін адразу пазнаў бацьку, хоць ён і захінуў твар. Бацька быццам нечага чакаў, бясконца доўга чакаў; здавалася, што ён сядзіць так ужо мільёны гадоў і прыкрывае твар, таму што ён такі самотны, і калі бацька апускаў рукі, Марцін кожны раз палохаўся, хоць загадзя ведаў, што ўбачыць зараз. Аказвалася, што твару зусім няма і бацька быццам хоча сказаць яму: вось цяпер ты ўсё ведаеш. Магчыма, бацька чакаў новы твар пад гэтым дрэвам. Зямля была чорная, як валасы Больды, а бацька — зусім адзін і без твару, але нават без твару ён выглядаў бясконца самотным і стомленым, і, калі пачынаў гаварыць, Марцін заўсёды чакаў, што вось ён скажа: «Гезелер», але ніколі бацька не назваў гэтае імя, ні разу ні слова не сказаў пра Гезелера.

На нейкую дурніцу ў суседнім пакоі напаў прыступ

смеху, і гэта разбудзіла яго,— усю сваю злосць, усю нянавісць і расчараванне ён выплакаў у падушку, таму што так раптоўна абарваўся ягоны сон пра бацьку; а раптам бацька займеў бы твар і загаварыў з ім?

Ён плакаў доўга і моцна, пасля смех у суседнім пакоі пачаў заціхаць, ён гучаў усё цішэй і цішэй, і ў новым сне з'явілася бландзінка, якая валтузілася на кухні, але замест памідораў і крутых яек яна зразала цяпер галоўкі агромністых ампул, шкляных балонаў, а доктар з усмешкай напаўняў вялізны шпрыц іх змесцівам.

На мыльным воблаку павольна праплыла Больда з белым як снег тварам і чорнымі як смоль валасамі, твар у яе быў гладкі-гладкі, як у бабулі пасля ўколу, і Больда спявала, цудоўна спявала, нават лепш, чым фрау Барусяк, так яна і ўзнеслася на неба, заціснуўшы ў зубах, як пропуск у рай, кінапраграму з выявай святой Марыі Гарэці.

Але бацька, якога ён чакаў нават у сне, так і не вярнуўся, яго назаўсёды спудзіў дурны смех у суседнім пакоі, а Больду ў небе змяніла бландзінка, што наразала крутыя яйкі,— яна плыла, рассякаючы паветра, як ваду, і крычала: «Цудоўна, цудоўна, цудоўна!», пакуль аднекуль здалёку не даляцеў ніzкі, гучны, як арган, голас бабулі, яе дзікі крык: «Кроў у мачы!»

## 6

Не адразу зразумеў Генрых, што з ім: такое адчуванне бывае, калі ідзеш па лёдзе, па тонкім лёдзе, які толькі нядаўна пакрыў раку, і не ведаеш яе глыбіні. Лёд пад табой яшчэ не праламаўся, ды і патануць табе не дадуць; на абодвух берагах стаяць, усміхаючыся, людзі, якія гатовы кінуцца на дапамогу, калі ты толькі спатыкнешся, але гэта нічога не зменіць: лёд можа ў любы момант праламацца, а глыбіня застаецца невядомай. Першая трэшчына ўжо паказалася, невялікая пакуль — гэта калі ён прыкмеціў, як напалохала Марціна слова, якое ягоная маці сказала кандытару, брыдкае слова, што азначала сужыцельства мужчын і жанчын, але на яго, Генрыха, думку, сужыцельства — гэта *ўвогуле* занадта прыгожае слова для абазначэння не

вельмі ўжо прыгожай справы: барвова-чырвоныя твары, стогны. Даўно, калі Леа яшчэ не быў яго дзядзькам, ён застаў яго з нейкай кандуктаркай. Генрых хацеў аддаць яму суп і ўвайшоў без стуку. Прарэзлівы крык кандуктаркі і малпін твар Леа: «Зачыні дзверы, паршывец!» А на наступны дзень Леа балюча ўдарыў яго кампосцернымі шчыпцамі па галаве і сказаў: «Ну, дружа, я табе пакажу, *што такое прыстойнасць*. Ты што, не мог пастукацца?» Пасля ўжо Леа заўсёды запіраў дзверы, але калі маці перабралася да Леа, там, відаць, тварылася тое ж самае. Не, сужыцельства — занадта прыгожае слова для гэтакай мярзоты. Магчыма, у людзей, якія маюць грошы, гэта робіцца неяк іначай? Магчыма. Не, слова, якое прынёс з сабой Леа, брыдкае слова, але яно падыходзіць значна лепш.

Спалох Марціна яскрава паказаў, якая глыбокая вада пад лёдам. Бясконца глыбокая і халодная, і ніхто цябе не ўратуе, калі праломіцца лёд. Справа не толькі ў грашах і не толькі ў розніцы паміж тым, што заўсёды знойдзеш у халадзільніку ў Марціна, і тым, што кожны дзень купляеш сам, лічачы кожны пфеніг: хлеб, маргарын, бульба, яйка для скаціны Леа, зрэдку яйка для Вільмы, для сябе або для маці. Справа яшчэ ў адрозненні паміж дзядзькам Альбертам і Леа, паміж тым, як спужаўся Марцін, калі пачуў гэтае слова, і тым, як ён сам толькі злёгку ўздрыгнуў, калі яго пачуў,— яму проста зрабілася не па сабе ад таго, што гэтае слова ўвайшло ва ўжытак ягонай маці.

Розніца паміж яго маці і маці Марціна, уласна, не такая ўжо і вялікая, відаць, яна толькі ў грашах. І магчыма, магчыма, лёд так і не праломіцца?

І ў школе ён таксама хадзіў па лёдзе. Святар, напрыклад, ледзь не ўпаў з крэсла, калі Марцін на споведзі паўтарыў слова, якое маці сказала кандытару. Марцін павінен быў прачытаць пяць разоў «Ойча наш» і пяць разоў «Багародзіцэ Дзево, радуйся» толькі з-за таго, што пачуў гэтае слова; мяккі, прыветны голас святара расказваў пра бязгрэшнае зачацце, голас дзядзькі Вілі гаварыў пра святы Божы дар, пра сардэчную чысціню і нявіннасць душы; прыгожы голас і добры твар святара, ён дабіўся, каб маці Генрыха далі грошай на яго канфірмацыю, хоць маці і распусная. Ці хоць аднойчы бачыў святар чысты, вымыты, чырвоны, пахучы ад туалетнай вады малпін твар дзядзькі Леа,

хіба такія твары маюць нявінныя душы?

Ён ішоў па лёдзе праз раку, глыбіня якой выявіцца толькі тады, калі праломіцца лёд. І маці зрабілася іншай: яна вымавіла гэтае слова, але яшчэ раней яна зрабілася іншай — няласкавай: ён помніў яе мяккай, прыветнай, пакорлівай, калі яна ноччу цярпліва мяняла воцатныя кампрэсы на грудзях дзядзькі Эрыха, або ўсміхалася Герту, або размаўляла з Карлам перад тым, як пазбавілася ад «гэтага». Жорсткім зрабіўся яе твар пасля бальніцы.

Лёд ужо дзе-нідзе трэснуў па краях на мелкіх, бяспечных мясцінах, дзе ён яшчэ можа зноў падмерзнуць. Гісторыя з «начной патлівасцю» Віля, напрыклад, выклікала ў Генрыха толькі смех. Ён смяяўся, як смяяўся і з разважанняў Віля пра кнігі і кіно: бязладнае мармытанне, вадзяныя струменьчыкі, што бягуць з рота зачараванага духа, яны падымаюцца з глыбіні ракі і, пераліваючыся, іскрацца, як фантан у кафэ Генэля.

Зразумелай была цана на маргарын, якая, дарэчы, зноў паднялася, зразумелыя падлікі, што ён рабіў для маці,— маці зусім не ўмела лічыць, не ўмела эканоміць, разлічваць увесь дамашні бюджэт было яго абавязкам; зразумелым быў чыста паголены твар дзядзькі Леа, што казаў словы, у параўнанні з якімі «дзярмо», што засталося ў спадчыну ад Герта, здавалася пяшчотным і далікатным; зразумелым і блізкім быў фотаздымак бацькі, да якога ён паціхеньку дарастаў, зразумелы і блізкі твар маці, ён робіцца ўсё больш жорсткім, вусны — усё танчэйшымі, усё часцей зрываюцца з іх словы Леа, усё часцей хадзіла яна з Леа на танцы, спявала песні Леа, рабіла ўсё тое, што рабілі некаторыя жанчыны ў фільмах, тыя жанчыны, якіх малююць на афішах з чырвоным надпісам: «Дзецям да 16 гадоў...»

Лепш за ўсё ў кіно, утульна, цёпла. Ніхто на цябе не глядзіць, ніхто з табой не размаўляе, і ты можаш дазволіць сабе тое, чаго не дазволіш нідзе,— *забыцца.*

Словы настаўніка былі, як словы святара — яркія, ззяючыя, але чужыя; яны пераліваліся пад лёдам, на які ён ступіў, але да яго не даходзілі, ён быў глухі да іх. Падаражалі яйкі, цана на хлеб падскочыла на пяць пфенігаў, і свіння Леа скардзіцца на тое, што сняданак стаў горшым, што яйкі яму падаюць вельмі дробныя,

і абвінавацію Генрыха *ў крадзяжы грошай*. Вось гэта хвалюе — *нянавісць* да гэтай малпы, да ўсяго яшчэ і *дурной*. Прыйшлося сунуць яму пад нос усе разлікі, каб ён сам мог пераканацца, але ж слова засталося: *крадзеж*. І маці — Генрых уважліва назіраў за ёю — *на нейкі момант* паверыла Леа, праўда, усяго толькі *на момант*, але і моманту дастаткова. Яму даводзілася эканоміць — таму што яны падоўгу бывалі на вуліцы, а Вільме не куплялі сукенак. *Крадзеж*, і нікому гэтага не раскажаш. Марцін — той бы зусім нічога не зразумеў, а з дзядзькам Альбертам ён пакуль саромеўся гаварыць. Калі-небудзь пасля ён гэта зробіць, бо дзядзька Альберт адзіны, хто можа зразумець, што для яго азначае такое абвінавачванне. Ён адпомсціў проста і жорстка. Два тыдні ён не браўся за дамашнія справы, адмовіўся рабіць пакупкі: няхай маці сама купляе, хай Леа паклапоціцца пра гэта, хай сам пабачыць. Не прайшло і тыдня, як уся гаспадарка пайшла да д'ябла, у доме не было чаго жэрці; маці раўла. Леа скрыгатаў зубамі, і, нарэшце, абое ў адзін голас пачалі ўпрошваць яго зноў заняцца гаспадаркай — і ён заняўся, але так і не забыў таго *моманту*, калі маці западозрыла яго.

Пра такія рэчы ў доме Марціна ён мог гаварыць толькі з дзядзькам Альбертам, але некалі потым, на канікулах, калі яны паедуць з Альбертам да яго маці, дзе Віль будзе наглядаць за Вільмай; там знойдзецца выпадак пагаварыць з Альбертам пра невыноснае слова «крадзеж». Дзівачка Больда — вельмі добрая жанчына, але з ёю таксама нельга гаварыць пра грошы, а маці Марціна адрозніваецца ад яго ўласнай маці толькі тым, што яна мае грошы, праўда тут яшчэ і тое, што яна вельмі прыгожая, на свой лад прыгажэйшая нават за ягоную маму, такая, як жанчыны ў фільмах, але ў грашах яна мала разумее. Гаварыць пра грошы з бабуляй няёмка: яна зараз жа выцягне сваю чэкавую кніжку. Усе яны дарылі яму грошы — Альберт, бабуля, Віль, маці Марціна, але і ад грошай лёд не рабіўся мацнейшым і глыбіня вады заставалася такой жа невымернай. Зразумела, можна зрабіць маме нейкі падарунак — сумачку з чырвонай скуры і да яе чырвоныя скураныя пальчаткі, гэтакія, як ён бачыў у адной жанчыны ў кіно, можна нешта купіць і для Вільмы, можна пайсці ў кіно, з'есці марожанага, папоўніць

дамашнюю касу і прытым прынцыпова нічога не купляць для Леа і прынцыпова не даць яму адчуць ніякага паляпшэння. Але грошай усё роўна не хопіць, каб купіць дом і ўсё з ім звязанае, каб набыць пачуццё ўпэўненасці, усведамленне, што ты не ходзіш больш па лёдзе, а галоўнае, ні за якія грошы не купіць таго, што адрознівае дзядзьку Альберта ад дзядзькі Леа.

Словы настаўніка ў школе і словы святара супадалі з тым, што гаварыў Карл «новае жыццё»: прыгожыя словы, з імі ў Генрыха звязана нават пэўнае ўяўленне, якое — ён гэта ведаў — ніколі нельга ажыццявіць. Твар маці пакруглеў і адначасова стаў больш жорсткім, яна ўсё далей адыходзіла ад бацькі, рабілася старэйшай за бацьку, а сам ён паступова даганяў бацьку. Маці была цяпер старой, бясконца старой здавалася яна яму, а зусім жа нядаўна, калі яна ўпершыню танцавала з Леа, калі ў бальніцы вызвалілася ад «яго», маці здавалася яму зусім маладой. І рука яе стала цяжэйшай, рука, якой яна вечарамі таропка гладзіла ягоны лоб, перш чым перайсці ў пакой да Леа, каб сужыцельстваваць з ім.

А ў яго на руках дзіця, ад якога маці не пазбавілася. Вільме хутка ўжо два гады, і яна чамусьці заўсёды мурзатая. Леа ненавідзіць бруд; Леа такі чысцёха, яго за вярсту можна пазнаць па паху туалетнай вады і памады. Рукі ў яго да чырвані нацёртыя шчоткай, пазногці адпаліраваныя, і разам з кандуктарскім кампосцерам ён у якасці зброі выкарыстоўваў пілку для пазногцяў — нясkладную доўгую жалязяку. Гэтай жалезкай ён біў Вільму па пальцах. Кожную раніцу Генрых падаграваў ваду, каб памыць Вільму, як найчасцей мяняў ёй бялізну, але Вільма чамусьці заўсёды здавалася бруднай, запэцканай, хоць гэта была разумная і мілая дзяўчынка. Было ад чаго прыйсці ў адчай.

Калі Леа працаваў у начную змену, малая ўдзень на гадзіну заставалася пад яго наглядам, таму што маці ішла цяпер у пякарню да паловы першай, і з таго часу, як Вільма ўпершыню засталася адна з Леа, яна, як толькі яго ўбачыць, пачынала раўці. Варта было Леа паграбжальна падняць свае нікеліраваныя кампосцерныя шчыпцы, каб прыстрашыць дзяўчынку, як яна заходзілася ў плачы, з ровам кідалася да Генрыха, чаплялася за яго і не супакойвалася, пакуль Леа не

пойдзе, дый то яшчэ Генрых павінен быў некалькі разоў паўтарыць ёй: «Леа няма, Леа няма, Леа няма». Але слёзы ўсё цяклі па яе твары і залівалі рукі Генрыха. Па абедзе часцей за ўсё ён заставаўся з ёю адзін, і дзяўчынка паводзіла сябе спакойна, зусім не плакала, а яшчэ лепш было вечарамі, калі Леа з маці ішлі на танцы. Генрых тады апавяшчаў Марціна, які згаджаўся бываць у іх толькі ў адсутнасць Леа,— ён баяўся Леа не менш, чым Вільма,— і яны разам купалі дзяўчынку, кармілі яе і гулялі з ёю. Або проста пакідалі Вільму ў садзе ў Марціна, а самі гулялі ў футбол. Такімі вечарамі Генрых з Вільмай адны ўкладваліся спаць, і ён у думках шаптаў вячэрнія малітвы і думаў пра ўсялякага роду дзядзькаў. Вільма, засунуўшы палец у рот, чыстая, вымытая, засынала каля яго. Калі ў яго самога пачыналі зліпацца вочы, ён пераносіў Вільму ў яе ложачак. А ў суседнім пакоі маці сужыцельствавала з Леа — ён нічога не чуў, але ведаў усё, што там адбываецца.

Калі Генрых пачынаў думаць, які з дзядзькаў падабаўся яму больш, ён заўсёды вагаўся паміж Карлам і Гертам. Карл быў ветлівы і акуратны. Карл — «новае жыццё», Карл — «дадатковы паёк». Карл, ад якога пахла супам са сталоўкі магістратуры, Карл, які пакінуў у іх брызентавую сумку для алюмініевых абедзенных судкоў, у якую Вільма складвала цяпер свае цацкі. Да таго ж Карл умеў рабіць падарункі, як і Герт,— той прыходзіў увечары з вядзёркам з-пад павідла і вывальваў на стол увесь свой інструмент — кельню, шпатэль, фуганак, ватэрпас — і свой дзённы заробак, які яму заўсёды плацілі натурай: маргарын, хлеб, табаку, мяса, муку і нават часам яйкі — рэч надзвычайнага смаку, надзвычай рэдкую і дарагую па тым часе. І маці смяялася больш за ўсё ў часы Герта. Герт быў малады, цемнавалосы і быў не супраць згуляць з ім у лато і ў фішкі. Калі тушылі святло, Генрых часта чуў, як маці і Герт смяюцца, лежачы ў ложку, і гэты смех не здаваўся яму непрыемным, у адрозненне ад дурнаватага хіхікання маці пры Карле. Пра Герта захаваліся такія добрыя ўспаміны, што нават думка пра яго сужыцельства з маці не азмрочвала іх. У Герта заставалася цёмна-зялёная пляма на рукаве мундзіра, там, дзе раней былі яфрэйтарскія нашыўкі, а вечарамі Герт гандляваў алебастрам і цэментам — ён прадаваў

іх на фунты; разважваючы, ён набіраў алебастр і цэмент кельняй з папяровых мяшкоў — як муку.

Карл быў зусім іншы, але таксама слаўны. З усіх дзядзькаў ён адзіны хадзіў у царкву. Карл і яго браў з сабою, тлумачыў яму ўсю царкоўную службу і малітвы, а ўвечары пасля вячэры надзяваў акуляры, і пачыналіся разважанні пра «новае жыццё». Спавядацца, праўда, ён не хадзіў і да прычасця — таксама, але ў царкве ён бываў, і на ўсё ўмеў даць адказ. Карл быў сур'ёзны, уніклівы, але прыветлівы і дарыў цукеркі, цацкі, і, калі Карл гаварыў: «Мы пачнём новае жыццё», ён пасля гэтага дадаваў: «Ведаеш, Вільма, я хачу неяк уладкаваць нашае жыццё, разумееш, упарадкаваць», да ўладкавання адносілася і тое, што Генрых павінен быў называць яго татам, а не дзядзькам. Або ўзяць Эрыха — настоі з дзіўным пахам, воцатныя кампрэсы, запальнічка, якая да гэтага часу не паламалася. Эрых застаўся ў Саксоніі. А Герт у адзін цудоўны дзень проста не вярнуўся, і яны доўга нічога пра яго не ведалі, пакуль праз некалькі месяцаў не атрымалі ліст з Мюнхена: «Давялося пайсці, я не вярнуся. Мне было добра з табой, пакідаю табе на памяць свой гадзіннік». У памяці захаваўся пах вільготнага алебастру, а ў лексіконе маці слова «дзярмо», што засталося ад Герта. І Карл таксама пайшоў, таму што маці пазбавілася ад «яго». Ніякага «новага жыцця» так і не атрымалася, ён да гэтай пары часам сустракаў Карла ў царкве. У Карла цяпер былі новая жонка і дзіця такога ж узросту, як Вільма, у нядзелю ён гуляў, ведучы малога за руку. Але Карл, здавалася, зусім забыўся і пра Генрыха, і пра маці, ён з імі не вітаўся. Цяпер Карл хадзіў да прычасця, і нават з нейкага часу ён першым запяваў у царкве малітвы, і калі з хораў даносіўся голас, які гаварыў раней пра «новае жыццё», пра «дадатковы паёк», пра «парадак», Генрых не мог зразумець, чаму маці пазбавілася ад «яго», Карл быў бы цяпер ягоным бацькам.

Нехта з жыльцоў дома кожны дзень унізе, у пад'ездзе, пісаў на сцяне алоўкам слова, што маці сказала кандытару. Невядома было, хто гэтым займаецца. Часам слова гэтае заставалася на сцяне цэлы дзень, але к вечару яно знікала, таму што прыходзіў сталяр, у якога пад лесвіцай была маленькая майстэрня, саскрэбваў гэтае месца цвіком, і на каменных плітах

падлогі заставаўся белы след ад паабсыпанай тынкоўкі, а на сцяне — глыбокія драпіны. Але невядомы зноў пісаў гэтае слова, а сталяр зноў саскрэбваў яго. Сцяна пад'езда была ўжо пашкрабаная ў дваццаці месцах. Гэта была нямая барацьба, і абодва бакі вялі яе з аднолькавай упартасцю — зноў і зноў з'яўлялася на сцяне гэтае слова, і сталяр, ад якога пахла камфарай, як некалі ад Эрыха, выходзіў ■ майстэрні з саракадзюймовым цвіком і саскрэбваў яго. Сталяр быў цудоўным чалавекам. Асабліва добра ён адносіўся да Вільмы: у суботу, калі вучань падмятаў у майстэрні, сталяр загадваў яму выбіраць са смецця ўсе драўляныя цуркі, адмываць іх і адносіць Вільме, і асабліва доўгія і кучаравыя стружкі таксама аддаваць ёй, а сам сталяр, калі збіраў грошы за кватэру, прыносіў Вільме цукеркі.

Калі сталяр заставаў дома Леа, ён казаў яму: «Я вам яшчэ пакажу», на што Леа адказваў: «І я вам таксама». Больш яны адзін з адным не размаўлялі.

Толькі пасля Генрых скеміў і здзіўляўся, як гэта ён раней не здагадаўся, што слова на сцяне піша Леа; толькі ён і мог гэта рабіць, дый слова тое было з яго лексікону. Генрых пачаў сачыць за Леа, калі той ішоў на працу або вяртаўся з працы дамоў. Леа нічога не пісаў. Але затое і слова ў тыя дні, калі ён сачыў за Леа, на сцяне не з'яўлялася. Слова з'яўлялася толькі тады, калі ён не мог прасачыць за Леа. Гісторыя гэта цягнулася даволі доўга, ужо паўсцяны было ў шкрабінах і драпінах. Аднойчы, вярнуўшыся са школы і зноў убачыўшы ў пад'ездзе надпіс, ён зірнуў падчас абеду на аловак Леа — аловак тырчаў у Леа за вухам, грыфель быў увесь сцёрты і вакол грыфеля было маленькае белае кольца: так выглядае аловак, калі ім пішуць па сцяне. Значыцца, Леа быў тым невідзімкам, хто пісаў на сцяне.

Маці таксама сварылася на таго, хто піша на сцяне, і казала: «Дзеці не павінны чытаць такое», і звычайна дадавала, крыху прыцішыўшы голас: «Яны і так занадта рана спазнаюць увесь гэты бруд».

Але ж маці сама сказала кандытару гэтае слова ў цёмным, цёплым, прапахлым здобным цестам падвале пякарні.

А Леа працягваў пісаць на сцяне, і сталяр працягваў саскрэбваць яго надпісы, а Генрых усё ніяк не

мог набрацца мужнасці паведаміць сталяру пра сваё адкрыццё.

Пасля, калі яны будуць размаўляць з дзядзькам Альбертам пра ўсякае-ўсялякае, ён раскажа і пра гэта.

Увечары, лежачы ў ложку, ён разглядваў фотаздымак бацькі, які быў асветлены вулічным ліхтаром, ціха, ледзь прыкметна дрыжачую фотакартку, яна разгойдвалася, калі міма праязджалі аўтамабілі, і асабліва моцна, калі праязджаў грузавік або трыццаць чацвёрты аўтобус.

Нямнога засталося ад бацькі: фотакартка на стале ды кніжка, якую маці ўпарта захоўвала, заклаўшы паміж дэтэктыўнымі раманамі і ілюстраванымі часопісамі,— завэдзганая, тонкая, жаўтавая брашурка: «Што павінен ведаць аўтаслесар пры здачы экзамена на падмайстра». Паміж лісткамі брашуркі ляжала складзеная ў чатыры столкі, пашкамутаная, але яшчэ даволі яркая літаграфія з выявай «Тайнай вячэры»,— гэтакая ж літаграфія ёсць і ў яго самога з гэтакім жа подпісам: «Генрых Брылах прыняў канфірмацыю ў прыходскай царкве святой Ганны ў нядзелю, на Фаміным тыдні 1930 года». А ў яго была прыходская царква святога Паўла ў нядзелю на Фаміным тыдні 1952 года.

Дзядуля, бацька мамы, застаўся ў Саксоніі. Ён скардзіўся на мізэрную пенсію і кожную паштоўку заканчваў словамі: «Няўжо ў вас не знойдзецца пакойчыка для мяне, каб мне вярнуцца на радзіму?» А маці пасылала яму табаку і маргарын і пісала: «З жытлом тут вельмі кепска: усё вельмі дорага». Маці мамы памерла ў Саксоніі, а бацька бацькі ляжыць на тутэйшых могілках — пакошаны драўляны крыж, да падножжа якога яны прыносілі кветкі ў Дзень памінання і запальвалі яркую свечку. Маці бацькі — бабуля не ладзіла з мамай, яна прыязджала толькі на другі дзень Каляд, прывозіла яму падарункі, а Вільме дэманстрацыйна *нічога* не прывозіла і гаварыла гэтак жа, як і Карл: «парадак», «новае жыццё», «гэта дабром не скончыцца». Адзін з яе выразаў гучаў так: «Бачыў бы гэта мой бедны хлопчык».

Але яна аб'яўлялася рэдка і не падабалася яму, таму што нават не глядзела ў бок Вільмы і ніколі не прынесла ёй гасцінца. А яму яна заўсёды гаварыла: «Ты хоць бы калі зайшоў да мяне». Але ён наведаў яе

ўсяго толькі адзін-адзіны раз. У яе была чысціня, такая ж чысціня, як у Леа: пахла масцікай, яго частавалі піражнымі і какавай, далі грошай на трамвай. Але затым бабуля стала яго дапытваць, а ён ёй нічога не сказаў і больш ніколі да яе не ездзіў, таму што яна гаварыла тое ж, што ён ужо чуў ад іншых, ад тых, якія былі пад ледзяным покрывам,— «цнатлівая душа, чыстае сэрца», і, між іншым, дапытвалася пра Леа, пра Карла, пра Герта і ўсё прыгаворвала, ківаючы галавой: «Няма тут парадку, калі б мой бедны сын, а твой бацька, убачыў усё гэта», і паказвала яму здымкі, на якіх бацька быў адных гадоў з ім, здымак бацькі ў дзень канфірмацыі, а затым яго здымак у камбінезоне слесара, але да бабулі Генрых больш не ездзіў, таму што не мог браць з сабой Вільму.

Калі Нэла прыводзіла да сябе гасцей, яна заўсёды клікала Альберта, каб ён дапамог ёй перанесці спячага хлопчыка з яе пакоя да яго. Спячы, ён здаваўся вельмі цяжкім, нешта мармытаў са сну, і яны заўсёды баяліся, што разбудзяць яго, але звычайна ён адразу ж скручваўся ў клубочак у ложку Альберта і працягваў спакойна спаць. Нэла часта прыводзіла гасцей, і Альберт не менш двух разоў на тыдзень пераносіў хлопчыка да сябе. Тады яму даводзілася прыпыняць работу — ён не хацеў ні курыць, ні працаваць, калі хлопчык у яго, і неяк атрымлівалася само па сабе, што ён ішоў у Нэлін пакой і далучаўся да яе гасцей. Некалькі разоў ён спрабаваў перайсці з работай у вольны пакой наверсе, каля Глума, але і там ён адчуваў сябе не на месцы, яму не хапала тысячы звыклых дробязей, што былі неабходныя для работы, а ў сябе на гэта не патрэбна было ніякіх намаганняў, варта было толькі высунуць скрынку рабочага стала, і ўсё было пад рукой: нажніцы, усялякі клей, алоўкі, пэндзлікі, і ўвогуле яму здавалася, што не варта рабіць майстэрню з гэтага пакоя. Быў вольны пакой і ўнізе, але ён таксама быў непрыгодны для працы: аранжавая кушэтка, аранжавыя крэслы, дыван таго ж колеру, на сценах — карціны мастака, якога апекаваў бацька Нэлы,— бясталентнае выпісванне дробязяў — і да ўсяго панылы і затхлы дух пакоя, у якім гадамі ніхто не жыве, але які тым не менш рэгулярна прыбіраюць. Хлопчык упарта адмаўляўся перасяліцца ў адзін з пустых па-

кояў, таму Альберту не заставалася нічога іншага, як ісці да Нэлы і далучацца да яе гасцей. Але гэта заўсёды псавала яму настрой, дый нудна яму было з імі. Бывала, ён сыходзіў некуды з дому, каб напіцца, але і ў такіх выпадках яму рабілася шкада Нэлу, калі ён вяртаўся і заставаў яе адну сярод попельніц, поўных недакуркаў, пустых бутэлек і талерак з рэшткамі бутэрбродаў.

Часцей за ўсё прыходзілі нейкія снобы, з якімі Нэла пазнаёмілася ў дарозе, на нейкім зборышчы, або яны былі прадстаўлены ёй у час нейкага даклада. Альберт не выносіў іх заўсёднай балбатні пра мастацтва. Ён ніколі не ўдзельнічаў у гэтых размовах, піў віно і чай, і калі нехта пачынаў чытаць вершы Рая, яму рабілася не па сабе, але, падпарадкоўваючыся ўсмешцы Нэлы, ён супраць волі адказваў пасля на роспыты пра Рая.

Каб не шкадаваць дарма патрачанага часу, ён многа піў; часам сярод гасцей сустракаліся гожанькія дзяўчаты, а на прыгожых дзяўчат ён гатовы быў глядзець заўсёды, нават калі на іх быў лёгкі налёт снабізму. Ён уважліва сачыў за ўсім, што адбывалася, час ад часу ўставаў, каб адкаркаваць бутэльку віна, а калі госці заседжваліся позна, ён ехаў па новае віно, новыя бісквіты і новыя цыгарэты. У доме яго ўтрымліваў толькі хлопчык, што спаў у ягоным ложку,— часам ён прачынаўся сярод ночы і, убачыўшы схіленыя над ім незнаёмыя фізіяноміі, вельмі палохаўся; магло здарыцца, што Нэліна маці сярод ночы выкіне нейкую сцэну. Калі «кроў у мачы» не была ў парадку дня, яна вынаходзіла нешта іншае, не такое для яе звычайнае. Яна магла на працягу тыдняў спакойна сядзець у сябе за бутэлькай чырвонага віна і талеркай, поўнай бутэрбродаў з мясам, курыць цыгарэты «Тамагаўк» з вогненна-чырвоных пачкаў і або перабіраць старыя лісты, або ўдакладняць памеры свайго багацця, або перагортваць старыя падручнікі і хрэстаматыі 1896—1900 гадоў выдання і старую Біблію, якая захавала яшчэ сляды каляровых алоўкаў там, дзе яна, дзесяцігадовая сялянская дзяўчынка, больш за пяцьдзесят гадоў таму скрэмзала запырсканае крывёю адзенне егіпецкага Іосіфа і гарчычнага колеру львоў, што мірна леглі і пазасыналі вакол Даніїла.

Цэлымі тыднямі яна была спакойная, але раптам

у яе ўзнікала жаданне ўчыніць сцэну. Здаралася, у гадзіну ночы ёй раптам прыстрэнчыць зрабіць салату, і, апрануўшы чорную ў блакітныя кветачкі ранішнюю капоту, яна спускалася да Нэлі і, стоячы ў дзвярах, размахвала пустой бутэлькай з-пад воцату і раўла: «Што гэта за свінства, зноў у доме ні кроплі воцату, а мне неабходна, разумееш, неабходна зрабіць салату». Расстарацца воцату а другой гадзіне ночы не гэтак проста, але Альберт на ўсялякі выпадак заключыў сяброўскае пагадненне з буфетчыцай прывакзальнага рэстарана і зрэшты мог раздабыць там самыя розныя прадукты. Калі Больдзе здаралася спускацца ноччу на кухню, а бабуля яшчэ не спала і ў яе быў настрой учыніць сцэну, яна накідвалася на Больду: «Ах ты, беглая манашка — двойчы ўдава» — і пачынала пералічваць усе грахі бацькі Больды, які, мяркуючы па ўсім, быў кантрабандыстам і браканьерам, але вось ужо больш пяцідзесяці пяці гадоў спачываў на невялічкіх могілках у горнай вёсачцы. А калі ў бабулі не было імпэту рабіць сцэну, яна не перашкаджала Больдзе валэндацца або зачынала з ёй самую мірную гутарку. Гэтак жа яна з'яўлялася раптоўна ў пакоі Нэлы з крыкам: «Зноў швэндаешся? А муж твой, бедалага, спіць у рускай зямлі!»

Супакоіць яе мог тады толькі Альберт або Глум, і было лепш, каб ён заставаўся дома, таму што Нэла баялася сваёй маці.

І вось два дні ■ сямі тырчаў Альберт сярод Нэліных гасцей, сцярог сон хлопчыка і быў гатовы на манер вогнетушыцеля ў выпадку неабходнасці ўлагодзіць Нэліну маці.

Яго ніколькі не бянтэжыла, што пасля, пры раз'ездзе гасцей, яму навязвалі ролю шафёра таксі: ён падвозіў гасцей Нэлы да трамвайнага прыпынку, адкуль і ноччу кожную гадзіну адыходзіў трамвай, а калі быў у настроі, ён па адным развозіў іх дадому. Альберт стараўся як мага даўжэй не вяртацца, разлічваючы, што Нэла за гэты час ужо ляжа спаць.

Добра раз'язджаць аднаму па начным горадзе. Вуліцы пустыя, сады ляжаць у густой цемры, і ён глядзіць на чары, якія ствараюць фары ягонай машыны: неспакойныя, рэзкія чорныя цені і жаўтавата-зялёнае святло ліхтароў. Ён любіў гэтае халоднае зялёнае святло, ад якога і ўлетку патыхала ледзяным холадам.

Сады і паркі ў гэтым жаўтава-зялёным святле нават у пару цвіцення здаваліся халоднымі, безжыццёва застылымі. Часта ён пакідаў горад ззаду, вёў машыну праз спячыя вёскі і, выбраўшыся на аўтастраду, імчаў колькі кіламетраў на агромністай хуткасці, пасля на бліжэйшым развілку паварочваў і вяртаўся ў горад. Кожны раз ён адчуваў глыбокае хваляванне, калі ў промні пражэктара з цемры ўзнікала чалавечая постаць; часцей за ўсё гэта аказваліся прастытуткі, яны ўладкоўваліся ў месцах, якія асвятляліся фарамі, калі аўтамабілісты на паваротах уключалі дальняе святло: адзінокія, нежывыя, страката ўбраныя лялькі, яны нават не ўсміхаліся, калі машына праязджала міма іх. На цёмным фоне ночы іхнія залітыя яркім святлом белыя ногі заўсёды нагадвалі Альберту драўляныя постаці на рострах, і здавалася, што стаяць яны на караблях, якія затанулі. Калі зноў і зноў на паваротах ён уключаў фары і яркае святло выхоплівала іх з цемры, ён здзіўляўся, як дакладна яны выбіраюць сабе месца, але яшчэ ніводнага разу ён не бачыў, каб машына спынілася і павезла якую-небудзь з дзяўчат.

На краі моста, на яго апорах прыляпіўся маленькі шынок, які не зачыняўся ўсю ноч. Тут ён выпіваў куфаль піва і кілішак гарэлкі, каб адцягнуць вяртанне дадому. Гаспадыня ўжо ведала яго, таму што ў Нэлы часта бывалі госці і ён заўсёды развозіў іх дадому, абы не заставацца сам-насам з Нэлай. Ён доўга заседжваўся ў гэтым шынку і думаў пра справы, якія міжволі ўсплывалі ў думках з-за Нэліных гасцей. За столікамі звычайна сядзелі некалькі матросаў з рэйнскіх параходаў, яны гулялі ў косці, з рэпрадуктара далятаў ціхія далёкія галасы. Каля печкі з вязаннем сядзела маленькая цёмнавалосая гаспадыня. Яна заўсёды расказвала яму, што і для каго вяжа: светла-зялёны світэр для зяця, руда-чырвоныя пальчаткі для дачкі; але часцей за ўсё яна вязала цудоўныя маленькія штонікі для ўнучыкаў. Узор для гэтых штонікаў яна прыдумвала сама, часта яна раілася з ім, і некалькімі штрыхамі ён удакладняў яе малюнкі. Аднойчы ён нават параіў ёй вывязаць на светла-жоўтай спадніччы для чатырнаццацігадовай унучкі цёмна-зялёныя бутэлькі са стракатымі наклейкамі. Ён накідваў узор каляровымі алоўкамі, якія заўсёды насіў пры сабе, на белай абгортачнай паперы, у якую яна загортвала халодныя катлеты

або біточкі для матросаў. Часам, калі ён задумваўся над падзеямі, пра якія напаміналі яму Нэліны госці, ён заседжваўся да трох, а то і да чатырох гадзін раніцы.

Перад вайной ён быў лонданскім карэспандэнтам маленькай нямецкай газеты, але газета выгнала яго, і ён вярнуўся пасля смерці Лін, Нэла дамаглася, зноў у Германію, і Нэлін бацька ўладкаваў яго на сваёй мармеладавай фабрыцы, каб яму не быць назідавоку. Да самага пачатку вайны ён разам з Раймундам вёў там невялікі аддзел статыстыкі збыту, і ўсе сродкі яны выдаткоўвалі не столькі на тое, што прынесла б карысць фабрыцы, колькі на ўсялякія дробязі, якія надавалі ім самім добранадзейны выгляд: па першым запатрабаванні яны маглі даказаць, што займаюцца разумнай і ніяк не звязанай з палітыкай дзейнасцю, што яны ўключыліся ў так званы працоўны працэс. У іхнім кабінеце заўсёды было дастаткова беспарадку, каб выклікаць уяўленне пра самую кіпучую дзейнасць. На чарцёжных дошках кнопкамі былі прымацаваны эскізы, вакол валяліся цюбікі і пэндзлі, на паліцах стаялі адчыненыя бутэлькі з тушшу, і кожны тыдзень з аддзела збыту прыходзіў каштарыс, запоўнены лічбамі, якія яны пераносілі на свае табліцы,— акуратныя слупкі лічбаў, распісаныя па ўсіх землях Германіі, ператвараліся ў мініяцюрныя мармеладавыя вядзерцы на стракатых геаграфічных картах.

Пасля яны навучыліся прыдумваць новыя назвы для новых гатункаў мармеладу і гэтак хутка апрацоўваць лічбавыя даныя, што ў любы момант маглі дакладна сказаць, дзе і ў якой колькасці елі і ядуць той або іншы гатунак мармеладу. Вяршыняй іх цынізму з'явілася складанне памяткі, якую яны назвалі «Вытворчасць і збыт араматычных канфіцюраў фабрыкі Гольштэге» і выпусцілі ў 1938 годзе да дваццаціпяцігадовага юбілею фірмы. Гэта была надрукаваная на паперы ручной выпрацоўкі ярка ілюстраваная брашура, якую яны бясплатна разаслалі ўсім спажыўцам. Альберт маляваў усё новыя і новыя рэкламныя плакаты, Рай прыдумваў да іх вершаваныя подпісы, а вечары яны праводзілі разам з Нэлай і тымі нешматлікімі сябрамі, якіх яны маглі яшчэ захаваць у 1938 годзе. Адчувалі яны сябе на тую пару не вельмі добра, і ўвечары схаванае раздражненне міжволі прарывалася,

асабліва калі да іх прыходзіў Вілiброрд. Рай ненавідзеў патэра Віліброрда, а як толькі ён сыходзіў, напіваліся і абмяркоўвалі магчымасць эміграцыі. Раніцай яны з'яўляліся на фабрыку са спазненнем, галовы ў іх трашчалі, і, часта ахопленыя раптоўным шаленствам, яны разрывалі на шматкі ўсе малюнкі і дыяграмы.

Але на наступны дзень яны зноў браліся за работу, прыдумвалі новыя малюнкі, новыя фарбы для прыцягнення пакупнікоў, стваралі графічныя характарыстыкі розных гатункаў мармеладу. Апошнім іх тварэннем, да таго як іх абодвух адправілі на фронт, стаў гістарычны агляд, у якім Рай паставіў сабе за мэту даказаць, што, пачынаючы з каменнага веку, усе народы — рымляне, грэкі, фінікійцы, іудзеі, інкі і германцы — радасна паядалі мармелад. У гэтую працу Рай уклаў усю сваю фантазію, а Альберт — свой талент мастака, і ў іх атрымаўся шэдэўр, які здабыў фабрыцы шмат новых пакупнікоў. Але ў гэтым не было ўжо неабходнасці. Прыйшоў новы спажывец, які пачаў пагльнаць мармелад без усялякай рэкламы: прыйшла вайна.

У час вайны паўсюль, дзе толькі спыняліся ваенныя абозы, яны натыкаліся на бляшанкі з-пад павідла вытворчасці іхняй фабрыкі, якія валяліся абапал дарогі. Этыкеткі, надрукаваныя па эскізах Альберта, подпісы, складзеныя Раем. Французскія дзеці гулялі ў футбол гэтымі бляшанкамі, для рускіх жанчын яны былі каштоўным набыткам, і нават калі наклейкі ўжо даўно былі садраныя або змытыя, а бляшанкі сплюшчаныя і заржавелыя, усё роўна яны пазнавалі іх па штампаванай манаграме «Э. Г.» — Эдмунд Гольштэге (гэтак звалі Нэлінага бацьку).

Нават калі спыняліся на начлег у нейкай глушы, яны навобмацак у цемры пазнавалі гэтыя бляшанкі, пальцы самі адшуквалі выпуклыя літары «Э. Г.» і стылізаваную вішню, тварэнне Альберта.

Пераможны шлях нямецкай арміі быў усеяны не толькі снарадамі, не толькі разваліamі і падлаю, але і бляшанкамі з-пад павідла і мармеладу. У Польшчы і Францыі, у Даніі і Нарвегіі, на Балканах кожны мог прачытаць выраз, які склаў Рай: «Дурны той, хто сам сабе варыць варэнне: Гольштэге зробіць гэта замест цябе». Словы «Дурны той, хто сам сабе варыць ва-

рэнне» былі адштампаваны вялікімі чырвонымі літарамі, астатнія — крыху меншымі. Гэты выраз быў вынікам працяглай нарады з дырэкцыяй, услед за якой пачалася разгорнутая кампанія супраць усіх, хто сам варыць варэнне. Але кампанію давялося прыпыніць з-за ўмяшання органаў прапаганды, якія са свайго боку лічылі варку варэння адной са спаконвечных дабрачыннасцей сапраўдных нямецкіх гаспадынь. Але этыкеткі і плакаты былі ўжо надрукаваны, а тут пачалася вайна, і гэтае пытанне нікога больш не займала, іх так і наклейвалі і прывалаклі нават у глыб Расіі.

Першы год вайны Альберт і Рай праслужылі ў розных часцях, на розных франтах, але нават удалечыні адзін ад другога яны бачылі адно і тое ж — у прадмесцях Варшавы і каля Ам'енскага сабора валяліся ўсё тыя ж нямецкія бляшанкі з-пад мармеладу.

Акрамя таго, яны яшчэ атрымлівалі лісты ад Нэлінай маці, пасылкі з прыгожанькімі маленечкімі вядзерцамі з храміраванай бляхі — рэкламныя сюрпрызы, якія бясплатна выдаваліся кожнаму, хто купіць тры вялікія бляшанкі, а Нэліна маці лічыла не лішнім кожны раз паведамляць ім, што справы ідуць выдатна.

У шынку нікога не было, ён глынуў піва і адставіў куфаль убок,— піва зусім вытхнулася. Пасля агледзеў батарэю бутэлек на стойцы і, не паднімаючы галавы, сказаў:

— Наліце, калі ласка, шварцвальдскага кіршу.

Пальцы гаспадыні не варухнуліся, клубок воўны і пруткі ляжалі на падлозе, ён падняў галаву, паглядзеў на яе: гаспадыня драмала. Па радыё жаночы голас ціха спяваў нейкую мексіканскую песню. Ён устаў, пайшоў за стойку і сам сабе наліў кіршу, затым падняў клубок воўны і пруткі і глянуў на гадзіннік: было тры гадзіны раніцы. Ён павольна, ледзь не па кроплях, выпіў кірш і раскурыў люльку. Нэла, канешне ж, яшчэ не легла,— яму так ні разу і не ўдалося перачакаць тут, пакуль яна засне. Усё, што ён ёй скажа, вярнуўшыся, яна выслухае з вялікай пакорай: пра нянавісць Рая да Віліброрда, пра цынічнасць і снабізм Рая і пра тое, што за пяць апошніх гадоў жыцця Рай не напісаў ніводнага радка вершаў — толькі рэкламныя лозунгі, і пра тое, што яна таксама вінаватая ў стварэнні хлуслівай легенды.

Ён дапіў кірш, пабудзіў гаспадыню, ціхенька закрануўшы яе за плячо,— яна адразу ж прачнулася і з усмешкай сказала:

— Ну вось што са мной здарылася. Калі б не было вас, мяне б тут маглі абрабаваць.

Яна ўстала, выключыла радыё. Альберт разлічыўся, выйшаў на вуліцу і пачакаў гаспадыню, якая, апускаючы на дзверы жалезную рашотку, запірала іх.

— Сядайце,— сказаў ён,— я падвязу вас дадому.

— Вось і цудоўна.

Быў панядзелак, і на вуліцы ў гэты час амаль не бачна было людзей, толькі цяжкія грузавікі з гароднінай ішлі ў бок рынку.

З-за гаспадыні яму давялося зрабіць невялікі круг, пасля ён высадзіў яе і паехаў дадому, па-ранейшаму нетаропка.

Нэла, канешне, не спала яшчэ, у пакоі было непрыбрана: паўсюль стаялі шклянкі, кубкі, талеркі з рэштамі бутэрбродаў, раскрышанае пячэнне ў вазачках, парожнія каробкі з-пад цыгарэт, нават попельніц яна не вытрасла, бутэлькі грувасціліся на стале, валяліся коркі.

Нэла сядзела ў крэсле, курыла і глядзела нерухомым позіркам некуды праз сцены пакоя. Часам яму здавалася, што яна ўжо цэлую вечнасць сядзіць у гэтым крэсле і вечна будзе сядзець у ім, і ён спрабаваў у думках ахапіць усё значэнне і сэнс слова «вечнасць»; у пракураным пакоі, адкінуўшыся, сядзіць яна ў зялёным крэсле, курыць і нерухома глядзіць некуды ўдалеч. Яна згатавала каву, кафейнік накрыла старым каўпаком, каб не астыў, і калі яна зняла каўпак, у Альберта было адчуванне, што свежая зяляніна кафейніка — адзіная свежасць у гэтым пакоі, дзе нават кветкі, прынесеныя гасцямі, патаналі ў табачным дыме, а на століку ў пярэдняй валяліся яшчэ загорнутыя ў паперу кветкі. Нэліна бязладнасць заўсёды здавалася яму мілай, але з таго часу, як яны жылі разам, ён узненавідзеў гэтую бязладнасць. Кафейнік стаяў на стале, і Альберт зразумеў, што ноч пагражае задоўжыцца. Ён ненавідзеў каву, ненавідзеў Нэлу, яе гасцей, ночы, праведзеныя за нікчэмнай балбатнёй, але варта было Нэлі ўсміхнуцца, і ён забываў пра ўсё: такая моц таілася ў адзіным, непаўторным руху мускулаў яе твару. І хоць ён ведаў, што яна механічна

карыстаецца сваёй усмешкай, ён ніколі не мог устаяць перад ёю, таму што кожны раз ён зноў верыў, што яна ўсміхаецца яму. Ён сеў і пачаў аўтаматычна паўтараць словы, якія гаварыў ужо тысячу разоў у такія часы і пры такіх абставінах. Нэла любіла прамаўляць па начах доўгія маналогі пра сваё загубленае жыццё, рабіць яму прызнанні або распісваць, як магло б скласціся, калі [redacted] Рай не загінуў. Яна з усяе сілы спрабавала павярнуць час назад, адкінуць усё, што здарылася на працягу гэтых дзесяці гадоў, і ўзяць яго ў свае снабачанні.

Каля паловы чацвёртай яна паднялася, каб другі раз заварыць кавы. Не жадаючы заставацца без яе ў гэтым пакоі, поўным табачанага дыму і ўспамінаў пра Рая, у пакоі, які ён ведаў дваццаць гадоў, Альберт сабраў шклянкі і брудныя талеркі, вытрас попельніцы, адсунуў зялёную штору, расчыніў акно і пайшоў услед за Нэлай на кухню, дастаў вазы з насценнай шафы, наліў вады, паставіў у іх кветкі, а затым, стоячы каля Нэлы, якая чакала, пакуль закіпіць вада на пліце, жаваў халоднае мяса, бутэрброд або адзін [redacted] яе апетытных салатаў, які заўсёды можна было знайсці ў халадзільніку.

Гэта і быў той момант, якога яна чакала; магчыма, і валтузню з гасцямі яна заводзіла дзеля гэтага моманту, таму што дваццаць гадоў назад ўсё было гэтак жа — менавіта гэтак жа ён стаяў на кухні каля Нэлы, глядзеў, як яна гатуе каву, каштаваў яе салаты — гадзіны ў тры або чатыры ночы — і разглядваў выраз, выкладзены чорнымі пліткамі па белых: *«Шлях да сэрца мужчыны пралягае праз яго страўнік»*. А Рай заўсёды заставаўся ў пакоі Нэлы і драмаў там, і тады госці гэтак жа позна заседжваліся: балбатня пра палітыку запаўняла гэтыя ночы, спрэчкі з Шурбігелем, які заклікаў усіх іх уступаць ў арганізацыю штурмавікоў — і хрысціянізаваць яе. Такія словы, як «дрожджы», «закваска», такія фразы, як «абагаціць нацыянал-сацыялізм скарбамі хрысціянскай думкі»,— усё гэта абурала іх. І тады былі сярод гасцей прыгожыя дзяўчаты, але цяпер адны з іх памерлі, іншыя раз'ехаліся ў гады вайны па розных гарадах і краінах, а дзве з гэтых дзяўчат выйшлі замуж за нацыстаў і павянчаліся пад дубамі.

Пасля яны перасварыліся амаль з усімі. Вечары

яны праводзілі над картамі і дыяграмамі, якія прыносілі з фабрыкі, і,седзячы да позняй ночы, двойчы пілі каву, першы раз — у дзве гадзіны, другі — у тры.

На шчасце, хоць кафейнік, у якім Нэла заварвала каву, быў цяпер іншы, ды і не толькі адзін кафейнік няўмольна нагадваў, што час ужо не той.

Сэрца яго білася мацней, калі ён сярод ночы праходзіў у свой пакой, каб паглядзець, як спіць хлопчык. Марцін вельмі падрос, хутка і нечакана, на яго погляд, і яму рабілася неяк боязна, калі ён глядзеў на раскіданага ў ложку вялікага, адзінаццацігадовага хлапчука, бялявага, мілавіднага, вельмі падобнага на Нэлу. Праз адчыненае акно ўжо даносіліся ранішнія шумы: далёкае грукатанне трамвая, шчабятанне птушак; за сцяной таполяў, што акружалі сад, парадзела і паблякла чарнільная сінеча ночы, а наверсе, у пакоі, які займаў цяпер Глум, не пачуеш больш, ніколі не пачуеш, цяжкія і размераныя крокі бацькі Нэлы, крокі селяніна, які занадта доўга хадзіў за плугам, каб мяняць на старасці год хаду.

Мінулае і сучаснае круціліся, перамяшчаючыся, быццам дыскі, што адшукваюць адзіны цэнтр: адзін круціўся раўнамерна, вось яго праходзіла якраз пасярэдзіне, і гэта было мінулае, якое, як яму здавалася, ён бачыць з гранічнай яснасцю, але цяперашняе круцілася значна хутчэй,чым мінулае, як быццам вакол іншага цэнтра, і з гэтым нічога нельга было зрабіць, гледзячы на твар хлопчыка, на дыханне хлопчыка, якое ён адчуваў на сваёй руцэ, нягледзячы на добры круглы твар Глума. Нічога нельга было зрабіць, хай сабе нават мінулыя дваццаць гадоў пакінулі нявыводныя сляды на твары Нэлы, і ён бачыў іх, ясна бачыў: зморшчынкі каля вачэй, і складка тлушчу на распаўнелай з узростам шыі, і вусны, якія парэпаліся ад безупыннага курэння, і жорсткія зморшчыны на твары — усё роўна з гэтым нічога не зробіш. Ён паддаўся на яе ўсмешку, на аўтаматычна раздадзеныя чары, якія распускалі час, ператваралі ў здань дзіця, што спала ў ягоным ложку, і паміж цяперашнім і, здавалася, такім роўным, такім раўнамерным вярчэннем мінулага раптоўна ўклініўся ярка-жоўты дыск: час, які ніколі не існаваў, жыццё, якое ніхто не пражыў, мара Нэлы. Яна ўцягнула яго ў сваю мару, хай ненадоўга, на тыя кароткія імгненні, калі ноччу на кухні

яна гатавала каву і рыхтавала бутэрброды, якія зачарсцвеюць на талерцы. Кафейнік, бутэрброды, усмешка і шэрае малочнае ранішняе святло за акном — усё гэта служыла рэквізітам і кулісамі для пакутлівай мары Нэлы, мары пражыць жыццё, якое не было пражытае і ніколі не будзе пражыта, мары пра жыццё з Раймундам.

— Ах,— прамармытаў ён,— ты звядзеш мяне з глузду.

Ён заплюшчыў вочы, каб не бачыць галавакружнага вярчэння: шалёнага мільгацення трох дыскаў, якія ніколі не сумясцяцца; забойчая несумяшчальнасць, у якой няма ні імгнення спакою.

Кава, якую ніхто не вып'е, бутэрброды, якія ніхто не з'есць,— рэквізіт крывавай драмы, куды яго ўцягнулі як адзінага і неабходнага статыста,— але яго ўсё ж суцяшала, што Больда падагрэе сабе гэтую каву, што Глум загорне гэтыя бутэрброды і возьме іх з сабой на працу.

— Можаш ісці,— стомлена вымавіла Нэла, накрываючы кафейнік зялёнай крышкай.

Ён адмоўна хітнуў галавой.

— Чаму б нам не паспрабаваць неяк спрасціць жыццё? — сказаў ён.

— Што ж нам, ажаніцца, ці што? — адказала яна.— Мяркуеш, гэта нешта спросціць?

— Чаму б і не?

— Ідзі лепш спаць. Я не хачу цябе мучыць.

Ён выйшаў, не гаворачы ні слова. Ціха прайшоў праз пярэднюю ў ванны пакой. Там запаліў газ, пусціў ваду і паклаў шланг гнуткага душа так, каб вада бясшумна напаўняла ванну.

Ён доўга стаяў нерухома і тупа глядзеў на ваду, што паднімалася лёгкімі блакітнаватымі струменьчыкамі з дна ванны, і напружана лавіў гукі, якія даносіліся звонку; ён чуў, як Нэла прайшла да сябе, затым як яна заплакала. Яна пакінула адчыненымі дзверы ў свой пакой, хай ён пачуе яе плач. У доме было ціха, прахалодна. Ужо світала. Заняты сваімі думкамі, ён кінуў у ванну недакурак і, ледзь не падаючы ад стомы, назіраў, як размакае недакурак, як асядае на дно цёмна-шэры пыл — гэта зацвярдзелы попел, а светлажоўтыя крупкі табакі спачатку ідуць густой палосай, затым расплываюцца па паверхні вады, і вакол кож-

най крупкі жаўтавае воблачка; цыгарэта пацямнела, і на ёй выразна праступіў надпіс: «Тамагаўк». Калі ён курыў цыгарэты, то для зручнасці выбіраў бабулін гатунак, каб заўсёды быць гатовым да яе набегаў. Жаўтавае воблачка разраслося ўжо да памераў грыба, але вада, што біла з душа на дне ванны, выпіхвала наверх разлезлае, бляклае воблачка, не давала яму апусціцца, а ўнізе, на чыстым сінім дне ванны, круціліся чорныя зацвярдзелыя часцінкі попелу і невядомая сіла павольна цягнула іх да стоку.

Нэла не пераставала плакаць, дзверы заставаліся расчыненымі, ён выключыў раптам газ, закруціў кран, выцягнуў за нікеліраваны ланцужок корак з ванны і прасачыў, як жаўтавае табачнае воблачка знікла ў водавароце.

Ён патушыў святло і накіраваўся да Нэлы. Яна курыла і плакала. Ён спыніўся ў дзвярах і суровым голасам, які здзівіў яго самога, крыкнуў:

— Чаго ты, уласна, хочаш?

— Зайдзі, прысядзь,— адказала яна. Усмешка ў яе не адразу атрымалася, і гэта кранула яго; не часта такое з ёю здаралася. Ён сеў, узяў цыгарэту з пачка, які яна падала яму, а яна зноў усміхнулася, і цяпер ужо шырока; здавалася, што нехта націснуў патаемную спружынку; як фатограф карыстаецца лямпайуспышкай, так і яна карысталася сваёй усмешкай,— яна славілася ёю, але цяпер гэтая ўсмешка стамляла яго, як стамляў і выгляд яе пяшчотных белых рук, праслаўленых не менш, чым яе ўсмешка: яна не пагрэбавала і самай таннай хітрасцю: паклала нагу на нагу і крыху адкінулася назад, каб лепш бачнымі былі яе прыгожыя грудзі.

У ваннай забулькалі рэшткі вады: кароткі ўсхліп, і ўжо не чутно болей супакойваючага шуму.

— Замуж,— ціха прамовіла яна,— я не хачу больш. На гэта я больш не пайду. Калі хочаш, я зараз жа зраблюся тваёй палюбоўніцай, ты гэта ведаеш, і буду табе больш вернай, чым жонка, але замуж я больш ніколі не пайду. [redacted] той пары, як я па-сапраўднаму зразумела, што Рая больш няма, я часта думала, што лепш было б мне ўвогуле не выходзіць замуж: дзеля чаго ўвесь гэты маскарад, гэтае крыўлянне, гэтая жахлівая сур'ёзнасць у шлюбе — і боязь удаўства? Грамадзянская рэгістрацыя, вянчанне ў царкве, а за-

тым з'яўляецца нейкая нікчэмнасць і пасылае твайго мужа на верную смерць. Тры мільёны, чатыры мільёны ўрачыстых саюзаў разбураны вайной: удовы, удовы — у мяне няма аніякага жадання быць удавой, і нічыёй жонкай я таксама не хачу быць, і дзяцей я не хачу больш мець — вось мае ўмовы.

— А мае ты ведаеш,— сказаў ён.

— Зразумела,— спакойна сказала яна.— Табе трэба ажаніцца і ўсынавіць хлопчыка, і потым ты, відаць, захочаш уласных дзяцей.

— Дабранач,— сказаў ён і хацеў было ўстаць.

— Не, не пакідай мяне,— сказала яна роўным голасам,— зараз, калі робіцца крыху весялей, ты хочаш збегчы. Дзеля чаго трэба так карэктна, так педантычна, так строга прытрымлівацца агульнапрынятай маралі: я гэтага проста не разумею.

— Дзеля хлопчыка. Усе твае мары нічога не вартыя ў параўнанні з ім. І потым табе ўжо амаль сорак.

— Пры Раі ўсё было б добра, і я была [redacted] вернай яму, і ў нас нарадзіліся [redacted] яшчэ дзеці, але смерць яго мяне зламала, як ты любіш выказвацца, і мне больш не хочацца быць нічыёй жонкай. Ты ж і так Марціну замест бацькі. Табе гэтага мала?

— Баюся,— сказаў ён,— што ты выйдзеш за некага іншага, і хлопчык дастанецца яму.

— Значыцца, ты любіш хлопчыка больш, чым мяне?

— Не,— сказаў ён ціха,— яго я люблю, а цябе — не. Тут не можа быць больш альбо менш. Я занадта добра цябе ведаю, каб закахацца ў цябе, але ты даволі прыгожая, і мне было б прыемна жыць з табой,— але зараз я так не магу. Я вельмі часта думаю пра Рая, дый хлопчык увесь час каля мяне. Вось у чым справа.

— А,— сказала яна,— цяпер я ведаю, чаму я за цябе не пайду: проста таму, што ты мяне не кахаеш.

— Затое ты з нейкай пары ўгаварыла сябе, што ты мяне кахаеш. Гэта супадае з тваімі марамі.

— Не,— адказала яна,— я сябе не ўгаворваю і ведаю, што гэта не так. Але ў мяне з табой атрымліваецца, як у цябе са мной. Раней гэта называлася пагаварыць адкрыта, але вось адкрытасці у нас якраз і не хапае. Гавары адкрыта, калі табе гэта па душы.

Альберт хацеў устаць, прайсціся па пакоі або падысці да акна, але яму часта здаралася бачыць у кіна-

фільмах, як мужчыны падчас шчырай гаворкі з жанчынай ходзяць па пакоі. Ён застаўся сядзець у нязручным крэсле і ўзяў цыгарэту, якую прапанавала яму Нэла.

— Госпадзі,— сказаў ён,— гаварыць пра любоў ужо проста смешна. Хіба мы з табой не рассмяяліся б, калі б аднойчы я заявіў: «Я кахаю цябе!»

— Так, відаць.

— І потым гэта розныя рэчы — жыць з удавой свайго сябра або ажаніцца з ёй,— а вось ажаніцца з жанчынай, якая жыве марамі, быццам абпіўшыся морфіем, на гэта я пайшоў бы толькі дзеля Марціна, але якраз цяпер я пачынаю разумець, што ні з адной нельга жаніцца толькі дзеля яе дзіцяці.

Нэла заплакала, і ён усё ж падняўся з крэсла і захадзіў па пакоі, узрушаны і збянтэжаны, хоць ён столькі разоў бачыў усё гэта ў кінафільмах.

— Усё ж аднаго я ад цябе чакаю — я і ўсе мы: каб ты стала хоць крыху абачлівай дзеля хлопчыка.

— Ты памыляешся, і ўсе вы памыляецеся: вы лічыце мяне ледзь не прастытуткай, але пасля смерці Рая я не ведала ніводнага мужчыны.

— Тым горш,— сказаў ён,— ты іх усіх узвінчваеш сваёй усмешкай, як дзеці завадных пеўнікаў. Не, нягледзячы ні на што, нам трэба было б пажаніцца, мы маглі б ціха і спакойна жыць з хлопчыкам і не валтузіцца з усялякімі ідыётамі, якія бессаромна крадуць у нас час, мы маглі б вырвацца з гэтай д'ябальскай мітусні, паехаць у іншую краіну, і, хто ведае, магчыма, аднойчы на нас сышло б, як нечаканы дождж, як навальніца, тое, што да гэтага часу называлася каханнем,— Рай жа мёртвы,— і ён паўтарыў яшчэ больш сурова і жорстка: — Мёртвы.

— Гэта гучыць так, быццам ты гэтаму рады,— сказала яна.

— Ты выдатна ведаеш, што, хоць і па-іншаму, мне было нікольки не лягчэй страціць яго — чым табе. Мне здаецца, што значна больш жанчын, з якімі можна было б ажаніцца, чым мужчын, з якімі можна сябраваць. А жанчынам, з якімі можна пераспаць, увогуле няма ліку. Так ці інакш, а Рай загінуў... І магчымасцей у цябе не так і шмат: быць удавой або стаць жонкай іншага чалавека; ты ж спрабуеш заняць нейкае трэцяе, прамежкавае становішча, а такога не існуе.

— Але яно можа ўзнікнуць,— перабіла яна,— становішча, якому няма вызначэння, але час дасць яму імя. О, як я вас усіх ненавіджу за тое, што вам здаецца, быццам жыццё ідзе сваёй чарадой. Пасыпаць смерць попелам забыцця, як лёд пасыпаюць попелам. Дзеля дзяцей, ах, дзеля дзяцей: гэта цудоўна гучыць і служыць цудоўным апраўданнем; напоўніць свет новымі ўдовамі, новымі мужамі, якім наканавана загінуць і зрабіць сваіх жонак удовамі. Заключаць новыя шлюбы... Мізэрныя вы нікчэмнасці. Няўжо вы нічога лепшага не прыдумаеце? Так, я ведаю, ведаю.— Яна ўстала, перасела ў другое крэсла і глянула на партрэт Рая над сваім ложкам.— Я ведаю,— са злосцю паўтарыла яна, падрабляючы голас патэра Вілiброрда: — «Свята ахоўвайце дзіця і справу вашага мужа. Шлюб ёсць таемнасць. Шлюбы заключаюцца на нябёсах». І яны ўсміхаюцца, як аўгуры, і моляцца ў сваіх цэрквах, каб храбрыя мужчыны, здаровыя і цэлыя, бадзёра, весела крочылі на вайну, каб безупынку працавалі фабрыкі ўдоў. Дастаткова паштальёнаў, каб данесці гэтую вестку, і папоў таксама дастаткова, каб асцярожненька падрыхтаваць вас да гэтай весткі. Ужо калі і ёсць чалавек, які ўсведамляе, што Рая няма сярод жывых, дык гэта я. Гэта я ведаю, што яго няма са мной, што яго няма і ніколі больш не будзе на гэтым свеце, ведаю абсалютна дакладна — і я пачынаю ненавідзець цябе за тое, што ты ўсур'ёз збіраешся паўторна ператварыць мяне ў патэнцыяльную ўдаву. Калі пачаць раней, з шаснаццаці, як я, напрыклад, то да благаснага скону можна выдатна паспець пяць, а то і шэсць разоў пабыць удавой і ўсё ж застацца маладой, як я. Урачыстыя клятвы, урачыстыя саюзы, і з лагоднай усмешачкай табе падносяць тайну: шлюбы заключаюцца на нябёсах. Няхай сабе, але тады пусціце мяне на неба, дзе мой шлюб сапраўды будзе заключаны. Ці не хочаш ты мне сказаць, што я не ў стане знішчыць смерць, мусіць жа, хочаш?

— Гэта я якраз і збіраўся сказаць.

— А я нічога іншага і не чакала. Раскошны выраз, дарагі мой, можаш ганарыцца. Ці не хацеў ты мне яшчэ сказаць, што можна пачаць новае жыццё?

— Можа, і хацеў.

— Ды перастань ты, нельга забыць мінулае... а па-

чынаць новае жыццё... па-твойму, гэта новы шлюб... з табой...

— Ну і хопіць,— узарваўся ён,— не ўяўляй, калі ласка, што я толькі пра тое і думаю, як бы ажаніцца з табой, проста я лічу гэта адзіна разумным.

— Вельмі прыемна пачуць — выдатна сказана, ты мастак рабіць кампліменты.

— Прабач, калі ласка, я зусім не тое хацеў сказаць,— ён усміхнуўся,— я якраз не супраць ажаніцца з табой.

— Час ад часу не лягчэй. Ты хочаш сказаць, што не памёр бы ад гэтага.

— Глупства,— сказаў ён,— ты выдатна ведаеш, што ты падабаешся мне і што ты прыгожая.

— Аднак не зусім табе да густу, так?

— Лухта,— сказаў ён,— і я працягваю сцвярджаць, што пачаць новае жыццё можна і неабходна.

— А зараз ідзі,— сказала яна,— ідзі.

Ужо зусім развіднела. Ён устаў і зашмаргнуў зялёную штору.

— Добра,— сказаў ён,— пайду.

— У глыбіні душы ты, мусіць, думаеш, што ты мяне яшчэ ўламаеш і я выйду за цябе, але ты памыляешся.

— Табе ванна патрэбна?

— Не, я памыюся на кухні, ідзі, калі ласка.

Ён прайшоў у ванную, адкруціў кран, запаліў газ, зноў паклаў шланг душа так, каб вада цякла бясшумна, а гадзіннік павесіў на цвіку, на якім звычайна вісеў шланг. Вярнуўся да Нэлы — яна чысціла зубы на кухні.

— Ты забываеш,— сказаў ён,— што мы ўжо спрабавалі аднойчы жыць менавіта так, як табе хочацца. Ты ўвогуле пра вельмі многае забываеш.

Яна прапаласкала рот, паставіла шклянку і бяздумна правяла пальцамі па кафлі.

— Так,— сказала яна,— тады я не хацела гэтага з-за хлопчыка — ён быў яшчэ зусім малюпасенькі — я проста не магла. Даруй, калі ласка, пра гэта я ніколі не ўспаміналa...

Тады, адразу пасля вайны, ён вельмі жадаў яе. Яна была першай жанчынай, з якой ён жыў пад адным дахам пасля пятнаццацігадовага знаходжання сярод мужчын, і яна была прыгожай жанчынай. Праз не-

калькі дзён пасля вяртання ён неяк ноччу нацягнуў штаны, накінуў пінжак паўзверх начной кашулі і басанож накіраваўся да яе. У яе яшчэ гарэла святло, яна сядзела ў ложку і чытала ў накінутым на плечы вялікім чорным шалі, каля ложка ціха гудзела не зусім спраўная электрычная печка. Нэла ўсміхнулася, калі ён увайшоў, паглядзела на ягоныя неабутыя ногі і ўскрыкнула: «Ты здурэў, ты ж прастудзішся — садзіся сюды во». На вуліцы было холадна, і ў пакоі пахла бульбай, мяшкі даводзілася трымаць ва ўсіх адзежных шафах, таму што ў падвал ужо колькі разоў наведваліся зладзеі. Нэла закрыла кнігу, паказала на старую аўчыну, што ляжала каля яе ложка, пасля кінула яму пушыстую вязаную кофтачку: «Захутай ногі». Ён нічога не сказаў, сеў, укруціў ногі і ўзяў цыгарэту з пачка, што ляжаў на начным століку. Пасля ўсеўся зручней і адчуў дабрадзейнае цяпло напаленай печкі. Нэла не гаварыла і не ўсміхалася. Дзіця спала ў калысцы каля кніжнай шафы, яно было прастуджанае і роўна пасапвала. Без пудры і памады Нэла выглядала старэй, чым удзень, яна была бледная і стомленая, яе дыханне аддавала вінным перагарам, ён яўна гэта адчуваў. Збянтэжана ён утаропіўся на кнігу, якую яна паклала на начны столік: Тэрэза Дэкейру. На ніжняй паліцы століка бязладна ляжала яе бялізна. Яму было вельмі няёмка, што ён так, раптоўна і без стуку, увайшоў да яе, і ён, пазбягаючы яе позірку, упарта глядзеў міма яе — на сцяну, дзе вісеў партрэт Рая, або проста перад сабой, але нават калі адводзіў вочы ад партрэта, ён з пакутлівай яснасцю бачыў твар Рая — неспакойны, сярдзіты твар чалавека, якога злуе гэта выпадковая, бессэнсоўная смерць.

— Хочаш выпіць? — спытала Нэла, і ён быў удзячны ёй за тое, што яна змагла пры тым усміхнуцца.

— Але, з задавальненнем,— адказаў ён.

Нэла вылавіла з-пад ложка шклянку і бутэльку з мутнай, рудой гарэлкай, наліла яму. Яна нічога не гаварыла, яна не падбадзёрвала яго і не расхалоджвала, яна крыху насцярожана чакала.

Тады ён сказаў:

— Выпі са мной.

І зноў яна згодна кіўнула, вылавіла з той жа шчыліны кафейны кубак, выплюхнула асадак проста цераз галаву на паркет і падставіла яму кубак. Ён наліў ёй, і

яны абое выпілі і закурылі, а печка за ягонай спінай гудзела, як вялікая ласкавая кошка. Не паспелі яны дапіць, як ён патушыў святло і, застаючыся ў промні напаленай пячной спіралі, сказаў: «Калі не хочаш, скажы, і я пайду».— «Не»,— адказала яна і збянтэжана ўсміхнулася, ён так і не зразумеў, што азначала ў гэтае імгненне яе «Не»: «Так» або «Не». Ён выключыў печку, счакаў, пакуль пацямнее напаленая спіраль, і схіліўся над яе ложкам. Яна ў цемені абхапіла яго галаву рукамі, быццам пятлёй, пацалавала яго ў шчаку і шапнула: «Лепш бы ты пайшоў», і ён адчуў дзіўнае расчараванне: яго расчараваў рот Нэлы, вялікім і друзлым падаўся ён яму, расчараваў пацалунак Нэлы, не такіх ён чакаў ад яе. Ён зноў запаліў святло, уключыў печку і вырашыў, што ўсё на лепшае, што яму няма чаго саромецца, Нэла трымалася вельмі добра, і ён не адчуваў аніякага расчаравання ад таго, што яго жаданне не здзейснілася. Як толькі ўспыхнула святло, Нэла усміхнулася, зноў, бы пятлёй, абхапіла яго шыю рукой і пацалавала ў другую шчаку, і ён зноў адчуў расчараванне. Нэла сказала яму: «Мы не павінны гэтага рабіць», і ён вярнуўся ў свой пакой, і больш пра гэта гаворкі не было, і ён пра ўсё забыў, і толькі сёння ў ванным пакоі ўсё зноў успомнілася.

Нэла паставіла кубак на палічку і задумліва паглядзела на яго.

— Так, тады я не хацела з-за дзіцяці...

— А зараз,— сказаў ён,— я не магу, і таксама з-за хлопчыка.

— Як дзіўна,— усміхнулася яна,— што я пра гэта забылася.

— Многае забываецца,— сказаў ён, таксама усміхаючыся,— і нам пачынае здавацца, быццам ніколі нічога і не было. Спадзяюся, ты не пакрыўдзілася на мяне за тое, што я нагаварыў.

— Мы пастарэлі з тае пары на дзевяць гадоў,— сказала яна.— Дабранач.

Ён вярнуўся ў ванную і хутка пачуў, як Нэла пайшла да сябе і зачыніла за сабою дзверы. Ён распрануўся, сеў у ванну, цяпер яго ўжо злавала стомленасць, якая, канешне, авалодае ім гадзін да дзевяці. Ён любіў рана лажыцца, спаць моцна і доўга, раніцай рана ўставаць, снедаць разам з хлопчыкам і дапамагаць

яму збірацца ў школу, таму што добра разумеў, як цяжка дзіцяці, калі яно раніцай устае раней за ўсіх, снедае ў адзіноце і ідзе ў школу, ведаючы, што ўсе ў доме могуць яшчэ спакойна спаць. Бацькі Альберта, уладальнікі невялікага рэстаранчыка, раней трох-чатырох ніколі не лажыліся, і ўсе гады свайго дзяцінства ён раніцай праходзіў праз накураную залу ў вялікую і халодную кухню. Там пахла застылым тлушчам, пракіслымі салатамі, на палічцы ляжалі яго бутэрброды, а на газавай пліце стаяла ў алюмініевай каструлі кава. Шыпенне газу ў золкай халадэчы кухні з кепскім пахам, наспех праглынутая кава з нясвежым смакам, бутэрброды з вялікімі, наспех нарэзанымі кавалкамі мяса, якога ён не любіў. З той пары як Альберт пакінуў бацькоўскі дом, ён марыў пра тое, каб рана класціся і рана ўставаць, але лёс вечна зводзіў яго з людзьмі, якія рабілі нездзяйсняльным такі рытм жыцця. Ён стаў пад халодны душ, пасля абцёрся і ціха пайшоў на кухню. Глум ужо паспеў пабыць тут, пакуль ён сядзеў у ванне. Кафейнік Глума быў парожні, цёплы каўпак, што накрываў яго, ляжаў побач. Больда, мяркуючы па ўсім, таксама сышла. На стале валяліся крошкі кіслага чорнага хлеба.

Ён прайшоў да сябе і хацеў пабудзіць Марціна, але Марцін ужо не спаў і ўсміхнуўся яму. Хлопчык, несумненна, быў рады, што Альберт тут і будзе з ім снедаць.

— Прабач,— сказаў Альберт,— што ўчора вечарам, як ты прыйшоў са школы, мяне не было дома,— давялося пайсці. Мне пазванілі. Ну, пара ўставаць.

Калі хлопчык ускочыў з ложка, і ўстаў на ўвесь рост, Альберт спалохаўся: хлопчык вырас, а Нэла ўпарта не хацела гэтага заўважаць, як і шмат чаго іншага. Ён пакінуў хлопчыка і вярнуўся на кухню, каб зварыць яйкі і падрыхтаваць бутэрброды. У пакоі Нэлы было ціха, і на нейкі момант ён зразумеў яе: яго ж таксама палохала, што хлопчык так хутка вырас і, несумненна, жыве зусім у іншым свеце, чым яны.

## 8

Дом усё больш рабіўся непрыдатным, хоць грошай на тое, каб яго ўтрымліваць у парадку, хапіла б з ліш-

кам. Але нікому не было да гэтага аніякай справы. Дах падцякаў, і Глум часта скардзіўся, што пляма на столі ў ягоным пакоі ўсё расце. Калі ішоў моцны дождж, са столі проста капала, і тады, ахопленыя жаданнем дзейнічаць, яны паднімаліся на гарышча, каб падставіць таз пад дзірку на даху, і Глум меў невялікую перадышку. Тэрмін гэтай перадышкі залежаў ад памераў таза, а таксама ад інтэнсіўнасці і працяглаcці дажджу: калі таз быў неглыбокі, а дождж моцны і працяглы, перадышка заканчвалася вельмі хутка, вада ў тазе цякла праз край, і цёмная пляма на столі павялічвалася. Тады на гарышчы падстаўлялі глыбейшы таз. Хутка плямы пачалі паказвацца і на столі ў Больды, і ў вольным пакоі, дзе раней жыў дзядуля. А ў ваннай неяк адваліўся вялікі кавалак тынкоўкі. Больда падмяла смецце, а Глум падрыхтаваў дзіўную сумесь з вапны, пяску і крэйды і замазаў аголеныя дранічыны.

Нэла надзвычай ганарылася сваёй кемлівасцю: неяк раз яна з'ездзіла ў горад і прывезла дзесяць вялікіх цынкавых ваннаў, іх расставілі па ўсім гарышчы, — і яны пакрылі амаль усю столь. «Цяпер не пацячэ»,— заявіла яна, патраціўшы на ванны столькі грошай, што на іх, відаць, можна было б зрабіць капітальны рамонт даху. Цяпер, калі ішоў дождж, яны слухалі перазвон кропляў, з глухім і грозным шумам падалі яны ў парожнія, гулкія ванны. Нягледзячы на ванны, Глуму ўсё часцей даводзілася замазваць столь сумессю з вапны, пяску і крэйды. Лесвіцы і гарнітур Глума ў такіх выпадках заўсёды былі запэцканыя, і Марцін, які дапамагаў яму, таксама быў перапэцканы з галавы да ног, яго касцюм здавалі тады ў хімчыстку.

Зрэдку на гарышча падымалася бабуля, каб агледзець пашкоджанні. Яна лавіравала сярод цынкавых ваннаў, яе цяжкія шаўковыя спадніцы чапляліся за краі ваннаў, і па гарышчы праносіўся тады вясёлы звонкі шоргат. Для такіх выпадкаў бабуля надзявала акуляры, і ўся яе постаць выпраменьвала распарадчасць і пачуццё абавязку. У ходзе аглядаў яна вырашала пакапацца ў старых запісах і знайсці адрас страхара, які раней выконваў такую работу ў доме. Затым яна некалькі дзён сядзела адна ў сваім пакоі, з усіх бакоў абкладвалася блакнотамі і папкамі, корпалася ў старых паперах і з галавой патанала ў выву-

чэнні старых каштарысаў. Але адрас страхара так і не быў знойдзены, хоць па яе патрабаванні ёй перацягалі з архіваў фабрыкі ўсе паперы. Падшыўку за падшыўкай, падабраныя па гадах, прывозілі на маленькім чырвоным аўтамабілі, пакуль не завалілі папкамі ўвесь яе пакой. Супакоілася яна толькі тады, калі дабралася да самага першага года зацвілых каштарысных кніг 1913 года.

Тады яна паклікала Марціна да сябе, і ён павінен быў гадзінамі слухаць і спасцігаць тайны araматычных мармеладаў, якія прыдумаў і прадаваў па ўсім свеце ягоны дзядуля. Першая сусветная вайна выклікала небывалы росквіт маладога прадпрыемства, і сваю лекцыю бабуля закончыла дэманстрацыяй дыяграм і табліц. Акуратна вычарчаныя тушшу лініі, падобныя на папярочныя разрэзы гары, сведчылі пра тое, што галодныя гады спрыяльныя для мармеладных фабрык. Год 1917. «У гэтым годзе, дарагі, нарадзілася твая мамачка». 1917 год — адзінокая вяршыня на дыяграме, вышыня, якая да самага 1941 года заставалася недасягальнай. Але хлопчыку, якога прымусілі вывучаць усе гэтыя табліцы, кінулася ў вочы, што круты ўздым пачаўся ўжо з 1933 года. Ён спытаўся ў бабулі, у чым справа, таму што пабойваўся яе і хацеў зрабіць выгляд, быццам яму ўсё гэта цікава. У адказ бабуля распачала доўгую і палымяную прамову; яна гаварыла пра летнія лагеры, пра мнагалюдныя зборышчы партайтагі і ў канцы ўрачыста торкнула доўгім жаўтавым указальным пальцам у год 1939, дзе адзначаўся новы ўзлёт.

— Усе войны, якія вяла Германія, звязаны з ростам вытворчасці мармеладных фабрык,— заключыла яна.

Калі скрозь тоўшчу папер яна дабралася да 1913 года і растлумачыла хлопчыку «самае неабходнае», яна пазваніла ў праўленне завода, чырвоны аўтамабільчык зрабіў некалькі рэйсаў, і ўсе сорак гадоў былі ўсталёваны на ранейшым месцы.

А пра страхара тым часам зусім забыліся, цынкавыя ванны так і засталіся на гарышчы, і кожны дождж ператвараўся ў выдатны, хоць крыху і аднастайны канцэрт. Але аконныя рамы таксама патрабавалі рамонту, а ў падвале месяцамі стаяла вада, таму што сапсаваўся насос. Калі Больда распачынала вялікае мыццё бялізны, вада з вузкай цэментаванай трубы

залівала кацельню, мыла і бруд пакрывалі цэментавую падлогу слізкай, падобнай на цвіль, скарынкай. Адусюль несла гніллю, а пах бульбы, якая захоўвалася ў рашотчатых скрынях і дружна прарастала, прыцягваў пацукоў.

Альберт пра гэта нават і не ведаў. Пацукоў ён выявіў толькі тады, калі пасля доўгага перапынку зайшоў у падвал. Пасля жорсткай сутычкі з Нэлай ён вырашыў адшукаць у вялікай скрынцы лісты, якія Рай пісаў яму ў Лондан: ён хацеў даказаць, што вярнуўся з Лондана не па просьбе Рая, а па просьбе Нэлы. Альберт звычайна ў падвал не заглядваў і спужаўся, калі ўбачыў, як там брудна: паўсюль стаялі пакрытыя пылам скрыні, па кутках валяліся нейкія анучы, а каля ўвахода ў пральню стаяла паўмяха гнілой мукі, і калі Альберт запаліў святло, з меха саскочыла некалькі пацукоў. З той пары як Альберт пабыў у ваеннай турме пад Адэсай, пацукі выклікалі ў яго страх, яго заванітавала, калі ён бачыў чорныя цені, што праносіліся па падвале. Ён кінуў ім услед некалькі камякаў коксу і, перасіліўшы сябе, павольна падышоў да вялікай рудой скрыні, што стаяла пад газавым лічыльнікам.

Рай толькі зрэдку пісаў яму, ён атрымаў ад яго не больш дзесятка лістоў, і Альберт памятаў, што перавязаў іх шпагатам і схаваў у гэтай скрыні. Скрутак з Нэлінымі пісьмамі быў значна большым, а пісьмы Лін ледзь змесціліся ў двух карабках з-пад абутку. Чорны пыл і мышыны памёт пакрылі паперы. У падвале было цёмна, ён баяўся пацукоў. У нямецкай ваеннай турме пад Адэсай яны ноччу шмыгалі па ягоным твары, і, адчуваючы, як мяккае валасатае пузка датыкаецца да яго твару, ён пужаўся ўласнага крыку. Ён выцягнуў са скрыні запэцканыя стосы папер, праклінаючы безгаспадарчасць Нэлы і бабулі.

маленькай каморкі ў куце падвала, дзе стаялі пустыя скрынкі і бляшанкі з-пад павідла, раптам пачулася нейкая валтузня і грукат бляхі. Ён падышоў туды, адчыніў рашотчатыя дзверы і, не помнячы сябе ад злосці, пачаў кідаць у цёмны кут усё, што ні трапляла яму пад руку: дзяржанне ад мятлы, разбіты гаршчок з-пад кветак, палазы ад старых санак Марціна, і калі змоўк узняты ім грукат, у каморцы таксама заціхла.

У скрыні аказаліся яго ўласныя лісты, якія ён пісаў Нэлі да вайны і ў час вайны, і цяпер, упершыню за дзесяць гадоў перабіраючы іх, Альберт вырашыў некалі абавязкова ўсё перачытаць. Тут, магчыма, захаваліся і вершы Рая, і лісты Авесалома Біліга, і тое, што ён хацеў бы знайсці перш за ўсё — пісьмы Шурбігеля, несумненна з каментарыямі Рая, лісты за 1940 год, калі Шурбігель апяваў перамогу над Францыяй і ў газетных артыкулах заклікаў нямецкую моладзь пакончыць з гальскім дэкадансам. Павінны тут быць і сякія-такія рэчы Рая ў прозе, і шмат ягоных пісем даваеннай пары.

Зараз ён узяў толькі невялічкі стосік лістоў Рая, узяў лісты Нэлы і раптам застыў, убачыўшы на дне скрыні вялікі карабок з-пад мыла з чырвона-рудым надпісам «*Санлайт* — Сонечнае святло». Ён выцягнуў яго, пабіў аб сцяну, каб вытрасці пыл, прыхапіў пачкі з пісьмамі і падняўся наверх. Нэла сядзела ў сваім пакоі і плакала. Яна не зачыніла дзверы, каб бачыць, калі ён вылезе з падвала, але ён прайшоў па калідоры паўз адкрытыя дзверы. Ён саромеўся бессэнсоўнай сваркі, якую яны вось ужо шмат гадоў — перыядычна — узнаўлялі, прыводзячы адны і тыя ж доказы і заканчваючы кожны раз прымірэннем.

Ён занёс карабок «Санлайт» у свой пакой, паклаў на яго абодва стосы лістоў і пайшоў у ванную, каб грунтоўна абчысціцца. Думка пра тое, што ўнізе, у падвале, валтузяцца пацукі, абурала яго, і, ахоплены раптоўнай гідлівасцю, ён вырашыў памяняць бялізну.

Калі ён вярнуўся з ваннай, дзверы ў Нэлін пакой былі па-ранейшаму адчынены.

— Будзеш піць каву? — аклікнула яна.

— Зараз,— адазваўся ён.

Ён выпісаў з тэлефоннай кнігі нумары муляра, страхара, манцёра і труцільшчыка пацукоў, пазваніў усім чатыром і папрасіў іх прыйсці. На ўсё гэта пайшло роўна восем хвілін, пасля чаго ён накіраваўся да Нэлы і сеў у крэсла насупраць яе.

— Ты ведала, што ў нас у падвале пацукі?

Яна паціснула плячамі.

— Так, Больда неяк скардзілася.

— Вульба прарастае,— абурана працягваў ён,— паўсюль валяюцца гнілыя прадукты, каля ўвахода ў пральню стаіць паўмеха цвілой мукі. Уся гэта мярзо-

та гніе ў падвале, а бляшанкі з рэшткамі павідла не памытыя, у іх раскашуюць пацукі. Проста чорт ведае што!

Нэла наморшчыла лоб і прамаўчала.

— З той хвіліны як я трапіў у гэтую праклятую сям'ю, я толькі і раблю, што змагаюся з брудам і безгаспадарчасцю, але, пасля таго як памёр твой бацька, я адзін не магу з вамі суладаць. Хутка ў падвал нельга будзе ўвайсці без пісталета, і ты магла б там унізе накруціць уласны экзістэнцыяналістычны фільм — і амаль без затрат...

— Пі каву,— сказала яна.

Ён падсунуў да сябе кубак, размяшаў малако.

— Я адрамантую дах і столь, вычышчу склеп і адрамантую насос. Няўжо ты думаеш, што хлопчыку карысна бачыць усю гэтую брыдоту і прывыкаць да яе?

— Я і не ведала, што ты такі змагар за парадак, што цябе можа ахапіць такое жаданне дзейнасці,— стомлена адказала яна.

— Ты ўвогуле шмат чаго не ведаеш. Ты не ведаеш, напрыклад, што Рай на самай справе быў добрым паэтам, нягледзячы на брыдкую валтузню, якую яны цяпер узнімаюць вакол яго імя,— і я мяркую сёе-тое зрабіць, я знайду ў скрыні пісьмы Шурбігеля, перш чым пацукі зжаруць гэтыя неацэнныя дакументы.

— Рай быў маім мужам,— сказала яна,— і я любіла яго. Я любіла ў ім усё, але вершы яго я любіла менш за ўсё,— я не разумела іх. Я больш хацела б, каб ён не быў паэтам і жыў бы да гэтай пары. Знайшоў ты, нарэшце, пісьмы, якія шукаў?

— Так,— адказаў ён,— я знайшоў іх, і мне вельмі шкада, што я ўлез у сварку з-за гэтай старой гісторыі, пра якую і ўвогуле нявартa было ўспамінаць.

— Не, усё вельмі добра. Я хацела б прачытаць гэтыя пісьмы, хоць гэта зусім і не патрэбна,— я ж ведаю, ты маеш рацыю, што я вінаватая ў тваім вяртанні з Лондана, і ўсё ж я хацела б прачытаць гэтыя пісьмы. Мне гэта будзе толькі на карысць.

— Можаш іх прачытаць і пакінуць сабе, па мне, дык можаш нават спаліць іх. Я зусім не імкнуся даказаць табе, што праўда за мной. Проста заўсёды здаецца, што было б лепш, калі б шмат гадоў назад ты зрабіў бы не так, а па-іншаму. Але ўсё гэта лухта.

— Я яшчэ раз прачытаю пісьмы Рая. Перш за ўсё я хачу пераканацца, ці правільна я думаю, што ён сам хацеў памерці?

— Калі будзеш чытаць, не выкідвай ніводнага, дзе гаворка ідзе пра Шурбігеля, і ніводнага з тых, што адрасаваны самому Раю.

— Зразумела, не. Я нічога не буду выкідваць. Я проста хачу ведаць, што ж з ім было. Ты ж ведаеш, бацька мог усё так абставіць, каб яго не бралі ў армію. Я ўпэўнена, што ён мог нават ад вайны яго ўратаваць. Бацька меў дзелавыя сувязі ў самых высокіх колах, але Рай не захацеў. Ён не хацеў эмігрыраваць, не хацеў атрымаць вызваленне ад вайсковай службы, хоць больш за ўсё на свеце ненавідзеў армію. Часам мне здаецца, што ён проста хацеў памерці. Я часта думаю пра гэта, і гэта адна ■ прычын, чаму сваю нянавісць да Гезелера мне заўсёды даводзіцца падаграваць штучна.

Альберт сустрэў яе дапытлівы позірк і спытаў:

— Чаму ты раптам успомніла пра Гезелера?

— Ды так, проста я падумала пра тое, што ты ж ніколі не гаворыш пра Рая. Ты павінен быў бы ўсё ведаць, але ты ніколі ні пра што не гаворыш.

Альберт маўчаў. У апошнія тыдні перад смерцю Рай абсалютна атупеў, ён ледзь валок ногі, і ўсё іх сяброўства зводзілася цяпер да таго, што яны дзяліліся цыгарэтамі і дапамагалі адзін аднаму ўладкоўвацца на прывалах і чысціць зброю. Рай стаміўся, як і большасць пехацінцаў, ад якіх ён амаль нічым не адрозніваўся. Але калі ён бачыў некаторых афіцэраў, ён загараўся нянавісцю.

— Ёсць і яшчэ нешта, пра што ты ніколі не гаварыў,— сказала Нэла.

Альберт глянуў на яе, падаў ёй пусты кубак, яна наліла яму кавы; пакуль ён размешваў малако і драбніў лыжачкай цукар у кубку, ён выгадваў час, каб усё абдумаць.

— Многа тут не скажаш,— адказаў ён.— Рай стаміўся, ён быў вельмі падаўлены, і калі я не гаварыў табе пра гэта, то толькі таму, што і сам толкам нічога не ведаю. Няшмат ва ўсякім выпадку.

Ён злавіў сябе на тым, што думае пра вялікі карабок «Санлайт» і пра бурклівую маленькую прадаўшчыцу, якая дала яму тады гэты карабок: было ўжо

цёмна, а яму зусім не хацелася ісці дадому ў пусты пакой, дзе дыміла печка, дзе горкі тлусты чад пранізаў усю мэблю, усё адзенне, усю пасцельную бялізну, дзе на табурэтцы яшчэ стаяла спіртоўка Лін, заляпаная супамі, якія заўсёды ў яе выкіпалі.

— Рай неяк атупеў і апусціўся,— працягваў Альберт, калі Нэла зірнула на яго,— але я ўжо застаў яго такім, калі вярнуўся з Англіі. У ім забілі душу, спустошылі; за чатыры гады ён не напісаў нічога, што магло б яго парадаваць.

Альберту ўспомнілася напружаная цішыня, якая ўсталявалася адразу пасля аб'яўлення вайны: на нейкае імгненне стала ціха ва ўсім свеце, пакуль не прыйшла ў рух першая шасцярня ў гатовым да пуску механізме, але вось яна зрабіла першы абарот, механізм запрацаваў, паглыбляючы тупасць і пакору.

Калі Нэла падала яму цыгарэту, ён адмоўна пакруціў галавоў, але па звычцы палез у кішэню па агонь і даў ёй прыкурыць, пазбягаючы, аднак, сустракацца з яе чакальным позіркам.

— Праўда,— сказаў ён,— ніякай тайны ў гэтым няма. Але паэту, зразумела, не вельмі прыемна паўсюль натрапляць на рэкламныя лозунгі мармеладу, якія ён сам склаў. «Гэтакі, значыцца, мой уклад у вайну супраць вайны»,— сказаў мне аднойчы Рай і са злосцю адшпурнуў нагой бляшанае вядзерца з фабрыкі твайго бацькі. Гэта было на рынку, у Вінніцы, нейкая бабулька прадавала пячэнне — арэхавае пячэнне ў чысценькім вядзерцы з-пад мармеладу; усё пячэнне пакацілася па зямлі, мы з Раймундам дапамаглі жанчыне сабраць пячэнне, заплацілі ёй колькі трэба было і папрасілі прабачэння ў яе.

— Працягвай,— сказала Нэла, і ён убачыў, што яна надзвычай узбуджаная, быццам чакае самага нечаканага выкрыцця.

— Вось і ўсё,— сказаў ён.— Праз два тыдні Рай загінуў, але нават шлях да смерці быў для яго ўсеяны бляшанкамі з-пад мармеладу: не соладка нам было паўсюль натыкацца на гэтае дабро, гэта проста вымотвала нас, а іншыя нічога не заўважалі, толькі... ты ж раззлуешся і ўзненавідзіш мяне за тое, што я табе ўсё гэта расказваю.

— А табе так важна, ненавіджу я цябе альбо не?

— Канешне,— адказаў ён,— мне вельмі важна.

На працягу ўсёй гаворкі ён не адрываў ад Нэлы вачэй, глядзеў ёй проста ў твар, але выраз яе твару не мяняўся. Праўда, яна выцягнула з пачкі другую цыгарэту і закурыла яе, хоць старая, яшчэ не дакураная, дыміла ў попельніцы.

— Пра ўсё гэта, Нэла, я больш не хацеў бы гаварыць, мы ведаем, што Рай мёртвы, мы ведаем, як ён памёр, а вышукваць прычыны няма сэнсу.

— Гэта праўда, што ён ні пра што больш з табой не гаварыў, як ты мяне заўсёды пераконваеш?

— Не, ён ужо не мог гаварыць, у яго было прастрэлена дыхальнае горла. Ён толькі глядзеў на мяне, але ж я ведаў яго, і ў яго поглядзе, у поціску ягонай рукі я мог прачытаць, што ён злы на вайну, злы, магчыма, на самога сябе, і што ён любіць цябе, і што ён просіць мяне паклапаціцца пра дзіця. Ты пісала яму, што чакаеш дзіця. Вось і ўсё.

— Ён не маліўся? Ты ж заўсёды гаварыў...

— Можа быць, ва ўсякім выпадку, ён перахрысціўся, але пра гэта я нікому і ніколі не скажу, а калі ты раскажаш каму з гэтых свіней, я заб'ю цябе. Вось была б для іх нажыва, і легенда была [redacted] поўнасцю завершана.

Нэла ўбачыла цыгарэту ў попельніцы, якая дымела, усміхнулася і затушыла яе.

— Абяцаю табе нічога нікому не расказваць.

— Добра было б, калі б ты ўвогуле прагнала ўсіх гэтых людзей.

— А хлопчыку ты ўсё раскажаш?

— [redacted] часам.

— Ну а Гезелер?

— Што «Гезелер»?

— Нічога, проста я, бывае, папракаю сябе за тое, што не адчуваю нязгаснай помслівай нянавісці да яго.

— Уласна, ён з Шурбігелем выдатная пара. Што, што з табой? Чаму ты раптам пачырванела?

— Пакінь мяне, пакінь мяне ў спакоі на некалькі дзён: я павінна ў вольны час пра многае перадумаць. Дай мне, калі ласка, пісьмы.

Ён дапіў каву, пайшоў у свой пакой, узяў абодва стосы пісьмаў і паклаў іх на стол перад Нэлай.

Нэла так і не дакранулася да гэтых пісьмаў; праз некалькі тыдняў ён убачыў, што абодва стосы ляжаць

неразвязаныя на яе пісьмовым стале.

Альберт цэлымі днямі займаўся з рабочымі, раіўся з імі, рабіў разлікі. Насос у падвале адрамантавалі, дах — таксама. На другім паверсе нанова атынкавалі столь. Больда магла цяпер, мыючы бялізну, спускаць ваду ў вадасцёк, падвал вычысцілі і патруцілі пацукоў. З падвала выкінулі цвілыя прадукты, горы ануч і бульбу з доўгімі, як спаржа, парасткамі.

Альберт загадаў памяняць у вокнах пярэдняй зялёнае шкло, што зацямняла святло, і там зрабілася святлей.

Бабуля толькі галавой хітала, назіраючы гэтую кіпучую дзейнасць, яна цяпер часцей выходзіла са свайго пакоя, сачыла за рабочымі і зрабіла ашаламляльную заяву, што яна сама заплаціць за рамонт. Нэла выказала здагадку, што гэтае рашэнне прадыктавана выключна любоўю бабулі да чэкавай кніжкі, якой яна карысталася з нейкай дзіцячай гордасцю. Яна задаволена выцягвала яе са скрынкі пісьмовага стала, раскрывала, запаўняла з міністэрскім выглядам блакітны чэк, прыкладвала да яго прамакальную паперу і элегантным жэстам адрывала яго ад карашка. Свісцячы шэлест пры адрыве чэка выклікаў на яе вялікім ружовым твары задаволеную ўсмешку. З таго моманту, як яна, дваццацітрохгадовая жанчына, сорак гадоў назад зрабілася ўладальніцай чэкавай кніжкі, яе дзіцячая радасць з прычыны таго, што яна адным росчыркам пяра робіць грошы, ніколькі не зменшылася. Яна пераводзіла плойму чэкавых кніжак, бо разлічвалася чэкамі за ўсялякую драбязу, нават за яду ў кафэ і рэстаранах, а нярэдка было, што яна пасылала Марціна з чэкам на чатыры маркі да латочніка — купіць чатыры дзесяткі *«Тамагаўка»*. А калі плаціць ужо зусім не было за што — і цыгарэтніца поўная, і халадзільнік набіты ўсялякімі харчамі,— тады бабуля блукала па дому і ўсім прапаноўвала грошы дзеля таго толькі, каб пачуць рыпучую, як голас пілы, мелодыю адрывання чэка. З цыгарэтаю ў роце, з чэкавай кніжкай у руках — пры з'яўленні ў крыві мачы яна гэтак жа цягала за сабой начны гаршчок,— бабуля сноўдала з пакоя ў пакой і ўсім гаварыла: «Калі табе патрэбны грошы, я магу табе падкінуць», пасля чаго адразу ж сядала на стул, адкрывала самапіску — ёю яна таксама карысталася з

дзіцячай ганарлівасцю — і пытала: «Колькі табе?» Глум у такіх выпадках трымаўся лепш за ўсіх, ён называў велізарную суму, падсядаў да яе, доўга таргаваўся, затым, нарэшце, бабуля запаўняла чэк і вырывала яго. Але не паспявала яна выйсці, як Глум адразу ж разрываў чэк — гэтак жа рабілі і ўсе іншыя — і выкідваў абрыўкі ў скрыню для смецця.

Але больш за ўсё бабуля сядзела ў сваім пакоі, і ніхто толкам не ведаў, чым яна ўвесь дзень займаецца. Яна не падыходзіла да тэлефона, не адчыняла дзвярэй на званок. Часта яна аб'яўлялася са свайго пакоя толькі каля паўдня і ў цёплым квяцістым халаце накіроўвалася на кухню, каб узяць снеданне. Звычайна быў чуваць толькі яе кашаль, таму што пакой бабулі заўсёды быў поўны дыму ад незлічоных цыгарэт, і дым гэты вузкімі шэрымі струменьчыкамі прасочваўся ў пярэднюю. У такія дні нікому не дазвалялася бачыць яе, нікому акрамя Марціна, якога яна клікала да сябе.

Калі ўдавалася, хлопчык уцякаў, як толькі пачуе бабулін голас, але часта яна даганяла яго, цягнула да сябе ў пакой, і ён павінен быў гадзінамі выслухваць доўгія павучанні і малазразумелыя разважанні пра жыццё і смерць і дэманстраваць свае пазнанні ў катэхізісе. Больда, якая некалі вучылася з бабуляй у адной школе, яхідна пасмейваючыся, не прамінала заўважыць, што сама бабуля ніколі не вылучалася па частцы катэхізіса.

Задыхаючыся ў бабуліным пакоі, напоўненым дымам, Марцін сядзеў у крэсле каля пісьмовага стала, глядзеў на пакамечаную пасцель, на чайны столік з непрыбраным пасля снедання посудам і сачыў за рознымі адценнямі дыму: сінія, асляпляльна сінія маленькія круглыя аблачынкі выпускала з рота бабуля. Яна вельмі ганарылася тым, што вось ужо трыццаць гадоў курыць. Пасля глыбокай зацяжкі [redacted] яе рота вырываліся густыя светла-шэрыя з просінню клубы дыму, прафільтраваныя ў лёгкіх. [redacted] сілай выпхнуты струмень дыму некалькі секунд трымаўся ў цяжкім, шыза-шэрым, наскрозь пракураным паветры пакоя; удушлівы, горкі, шэры чад асядаў на стале, пад ложкам, на люстэрку, збіраўся ў шыза-шэрыя клубы, у густыя бялёсыя воблакі, якія нагадвалі пашкамутаную вату.

— Твой бацька загінуў, так?
— Але.
— Што азначае загінуў?
— Загінуў на полі бою, быў забіты.
— Дзе?
— Пад Каліна́ўкай.
— Калі?
— Сёмага ліпеня тысяча дзевяцьсот сорак другога года.
— А калі нарадзіўся ты?
— Восьмага верасня тысяча дзевяцьсот сорак другога года.
— Як завуць чалавека, які вінаваты ў смерці твайго бацькі?
— Гезелер.
— Паўтары гэта імя.
— Гезелер.
— Яшчэ раз.
— Гезелер.
— Навошта прыйшлі мы ў свет гэты?
— Каб служыць Богу, шанаваць яго і тым здабыць царства нябеснае.
— Ці ведаеш ты, што гэта значыць, калі ў дзіцяці адбіраюць бацьку?
— Так,— адказваў Марцін.

Ён ведаў. Іншыя дзеці мелі бацькаў: у Гробшыка, напрыклад, быў высокі бялявы бацька, у Вебера — маленькі, чарнявы. Дзецям, у якіх былі бацькі, даводзілася цяжэй у школе, чым тым, у якіх іх не было. Такі няпісаны закон. Калі Вебер, здаралася, кепска адказваў на ўроку, на яго сварыліся больш, чым на Брылаха, калі той не падрыхтуе дамашняга задання. Настаўнік быў стары, сівы, ён сам «страціў на вайне сына». Пра хлопчыкаў, якія не мелі бацькаў, казалі: «Ён страціў бацьку на вайне», пра гэта шапталі на вуха інспектарам, калі вучань запінаўся ў іх прысутнасці,— настаўнікі паведамлялі пра навічкоў: «Ён страціў бацьку на вайне». Гэта гучала так, быццам хлопчык недзе пакінуў свайго бацьку — як парасон, або згубіў яго, як губляюць манету. Бацькі не было ў сямі хлопчыкаў: у Брылаха і Вельцкама, у Нігемаера і Поскэ, у Берэндта, і ў яго самога не было бацькі, і ў Грэбхакэ, але ў Грэбхакэ быў новы бацька, і няпісаны закон паблажлівасці прымяняўся ў дачы-

нenнi да яго не гэтак безагаворачна, як да астатніх шасці: у паблажлівасці былі адценні. Поўнай паблажлівасцю карысталіся толькі трое: Нігемаер, Поскэ і ён,— па прычынах, якія яму ўдалося зразумець толькі пасля доўгіх назіранняў; у Грэбхакэ быў новы бацька, у маці Брылаха і ў маці Берэндта былі дзеці не ад бацькаў-нябожчыкаў, а ад іншых мужчын. Ён ведаў, як дзеці з'яўляюцца на свет. Дзядзька Альберт растлумачыў яму, што яны нараджаюцца ад сужыцельства мужчын і жанчын. І вось маці Брылаха і маці Берэндта жылі з мужчынамі, якія не былі іхнімі мужамі, а проста дзядзькамі. А гэты факт, у сваю чаргу, звязаны яшчэ з адным, таксама малазразумелым словам: распусна. Але і маці Вельцкама таксама *распусная*, хоць у яе няма дзяцей ад Вельцкамавага дзядзькі; вось і новае адкрыццё — мужчыны і жанчыны могуць жыць адно з адным і не мець дзяцей, а калі жанчына жыве з дзядзькам, гэта *распусна*. Хлопчыкі, у якіх былі распусныя маці, не карысталіся паблажлівасцю ў такой жа меры, як дзеці высокамаральных мацярок, але горш за ўсё даводзілася тым і менш за ўсё паблажлівасці прыпадала на долю тых хлопчыкаў, чые маці завялі новых дзяцей ад дзядзькаў; крыўдна і незразумела, чаму распусныя маці зніжалі ступень паблажлівасці. У хлопчыкаў, якія мелі бацькаў, усё было інакш; усё зразумела, усё ясна і ніякай распусты.

— Слухай як след,— кажа бабуля,— пытанне трыццаць пятае. Навошта з'явіцца Хрыстос перад канцом свету?

— Хрыстос з'явіцца перад канцом свету, каб судзіць людзей.

Цікава, а *распусных* таксама будуць судзіць? Ім авалодала нейкае сумненне.

— Не спі,— загадвае бабуля.— Пытанне васьмідзесятае. Хто чыніць грэх?

— Грэх чыніць той, хто па ўласнай волі пераступае Божую запаведзь.

Бабуля любіла ганяць па ўсім катэхізісе, але яшчэ ніводнага разу яна не злавіла яго на няведанні.

Нарэшце яна закрывае кнігу, раскурвае новую цыгарэту і глыбока зацягваецца.

— Вось калі ты падрасцеш,— гаворыць яна ласкава,— ты сам зразумееш, чаму...

Але з гэтага моманту можна ўжо не слухаць. Пасля

катэхізіса ідзе доўгае заключнае слова, у якім няма ніякіх пытанняў, і таму яно не патрабуе аніякай увагі: цяпер бабуля пачне гаварыць пра абавязкі, пра грошы, пра араматычныя канфіцюры, пра дзядулю, пра бацькавы вершы, пачне чытаць выразкі з газет, якія яна клапатліва загадала наклеіць на тоўстую чырвоную паперу, пачне ў загадкавых выразах круціцца вакол шостай запаведзі.

Але нават Нігемаер, нават Поскэ, у якіх былі дастаткова маральныя маці, не карысталіся той паблажлівасцю, якой карыстаўся ён, і ён даўно ўжо зразумеў, у чым тут справа: іх бацькі таксама загінулі, іх маці таксама не жывуць з іншымі дзядзькамі, але затое імя ягонага бацькі час ад часу з'яўляецца на старонках газет, а ў ягонай маці, да ўсяго, ёсць *грошы*. Гэтыя два важнейшыя пункты адсутнічаюць у Поскэ і ў Нігемаера; пра іх бацькаў нічога не пішуць у газетах, а ў іх мацярок *грошай* або вельмі мала, або зусім няма.

Часам ён марыў, каб гэтыя два пункты адпалі і для яго, яму не хацелася гэтай празмернай паблажлівасці. Ён ні з кім не дзяліўся сваімі думкамі, нават з Брылахам і з дзядзькам Альбертам, і часам цэлымі днямі стараўся кепска сябе паводзіць у школе, каб прымусіць настаўніка аказваць яму не больш паблажлівасці, чым Вебэру, які штодзённа атрымліваў наганяй; Вебэр, чый бацька не загінуў, Вебэр, чый бацька не меў грошай.

Але настаўнік працягваў ставіцца да яго паблажліва. Гэта быў стары, сівы, стомлены настаўнік, ён «страціў сына на вайне» і глядзеў на Марціна гэтак самотна, калі той рабіў выгляд, быццам не вывучыў урок, што Марцін, ахоплены шкадаваннем і спачуваннем, усё ж адказваў добра.

Пакуль заключнае слова бабулі падыходзіла да канца, Марцін мог назіраць, як усё больш густцеў у пакоі дым; толькі час ад часу трэба было пазіраць на бабулю, каб ёй здавалася, быццам ён уважліва слухае, а самому працягваць думаць пра рэчы, якія больш цікавілі яго: пра брыдкае слова, якое маці Брылаха сказала кандытару, пра слова, якое заўсёды красавалася на сцяне ў пад'ездзе дома, дзе жыў Брылах; можна думаць і пра футбольны матч, які пачнецца праз тры, чатыры, большае праз пяць хвілін на лужку перад іх домам. Бабулі засталося гаварыць яшчэ хвілі-

ны дзве, таму што яна дайшла ўжо да канфіцюра, які нейкім чынам сутыкаўся з ягонымі абавязкамі. Няўжо яна ўсур'ёз думае, што ён будзе гаспадарыць на мармеладавай фабрыцы? Не, ён усё жыццё будзе гуляць у футбол, і яму было забаўна і адначасова страшна, калі ён уяўляў сабе, што будзе гуляць у футбол дваццаць гадоў запар, трыццаць гадоў запар. Застаецца яшчэ хвіліна,— ён пачуў шалясценне — гэта бабуля вырвала чэк са сваёй чэкавай кніжкі. Яна заўсёды ўзнагароджвала яго за бездакорнае веданне катэхізіса і за ўвагу, з якой ён слухаў яе.

Бабуля складвае чэк удвая, ён бярэ гэтую складзеную блакітнаватую паперку і ведае, што зараз можна пайсці, трэба толькі пакланіцца і сказаць: «Дзякуй, мілая бабуля», і вось ён ужо адчыняе дзверы, і воблака дыму вырываецца за ім у пярэднюю.

## 9

Два дні не браў Альберт у рукі карабок «Санлайт». Ён баяўся яго адкрываць і ў той жа час ускладаў надзеі на ягонае змесціва: ён ведаў, што ў карабку ляжыць шмат малюнкаў, якія ён зрабіў у Лондане да і пасля смерці Лін; ён баяўся, што малюнкі нічога не вартыя, і ўсё ж спадзяваўся, што яны акажуцца неблагімі; ён жа ўзяў абавязак штотыдзень здаваць серыю карыкатур у «Суботні вечар» і, бывала, цэлымі днямі снаўдаў з кута ў кут, і нічога не прыходзіла ў галаву. Ён адкрыў карабок, у гэты дзень яны былі дома толькі ўдвух з Глумам; маці Нэлы паехала з Марцінам за горад. Ён бачыў, з якім нясмелым і разгубленым тварам хлопчык садзіўся ў таксі. Нэла пайшла ў кіно. Яна вельмі змянілася, у ёй з'явілася нейкая дзіўная нервознасць, і ён здагадваўся, што яна нешта ўтойвае ад яго. Развязваючы шпагат на карабку, ён вырашыў пагаварыць з Нэлай. На кардонцы яшчэ можна было прачытаць адрас, надпісаны ім у Лондане: «Пану Раймунду Баху», і яму здавалася, што яшчэ чуваць пах клею, які патыхаў мучной баўтухай, што ён замясіў на вадзе з рэшткаў мукі ў Лін, каб наклеіць паперку з адрасам на кардон.

Ён развязаў вузел, размятаў шпагат, але марудзіў адкрываць кардонку. Ён выглянуў у сад, дзе сябры

Марціна, Генрых і Вальтэр, гулялі ў футбол парожнімі кансервавымі бляшанкамі, яны моўчкі, злосна, але з бачным задавальненнем ганялі мяч. Гледзячы на хлапчукоў, ён успомніў год, пражыты з Лін у Лондане, цудоўны год, калі ён быў вельмі шчаслівы, хоць Лін і пасля вяселля захавала свае «халасцяцкія» звычкі. Лін пагарджала шафамі, пагарджала ўвогуле ўсякай мэбляй, і ўсё сваё дабро яна ўдзень звальвала на ложак: кнігі і часопісы, газеты і губную памаду, агрызкі яблыкаў у папяровых фанціках, парасон, берэт, капялюшык, паліто, неправераныя сшыткі, якія яна правярала ўвечары, прыткнуўшыся каля начнога століка: сачыненні пра раслінны свет Паўднёвай Англіі і пра жывёльны свет Індыі. Удзень усё гэта грувасцілася на ложку; вечарам або па абедзе, калі ёй хацелася прылегчы і перагледзець вячэрнія газеты, яна дбайна выбуджвала толькі кавалкі хлеба, а астатняе барахло проста змахвала энергічным рухам рукі на падлогу: сшыткі, парасончык, садавіну. Усё ляцела пад ложак і качалася па пакоі, а раніцай яна зграбала ўсё да кучы і зноў шпурляла на ложак. За ўсё сваё жыццё яна толькі аднойчы надзела як след адпрасаваную сукенку — гэта быў дзень іхняга вяселля,— хатні алтар у сталовай загараднай вілы, абстаўленай з безгустоўнай раскошай, што надавала ўражанне пышнасці, востры пах смажанага сала, што ішоў ад расы сімпатычнага францысканца, нязвыклае гучанне латыні і пакуль нязвыклае гучанне англійскай мовы (пакуль смерць не разлучыць вас...).

Але менавіта ў той дзень, калі Лін надзела адпрасаваную сукенку,— яе маці прыехала з Ірландыі, папрасавала сукенку ў сябе ў гатэлі і клапатліва павесіла ў шафу,— менавіта ў гэты дзень Лін брыдка выглядала: прасы не былі для яе рэчамі ўжытку, прас — рэч цяжкая, і, дарэчы, сукенкі, якія неабходна было прасаваць, былі ёй не да твару.

У першы месяц пасля вяселля яны спалі на ложку Лін, але Альберт усю ноч не мог змружыць вачэй, бо Лін была неспакойная, як маладая кабылка, яна кідалася ў сне, скідвала долу коўдру, бясконца варочалася з боку на бок, піхала яго, узнагароджвала тумакамі, з грудзей яе вырываліся дзіўныя сухія хрыпы. Ён падымаўся сярод ночы, запальваў святло, прыкрываў лямпу газетай і садзіўся чытаць. Пра тое, каб заснуць,

нечага было і думаць, ён задавальняўся тым, што падымаў бясконца спаўзаючую коўдру і падтыкаў Лін з усіх бакоў. Калі яна на некалькі хвілін заціхала, ён паварочваўся і глядзеў на яе: доўгія каштанавыя валасы, тонкі смуглявы твар, профіль пародзістага жарабяці. Пасля ён тушыў святло, ляжаў у цемры каля яе і быў шчаслівы. Часам з ложка нешта падала, што ўдзень забілася пад матрац або не паспела зваліцца на падлогу ад энергічнага вячэрняга шпурляння Лін, а цяпер звалілася ад яе дзікай валтузні: лыжка, аловак, банан, а неяк раз нават крутое яйка; яно пакацілася па выцертым дыванку і спынілася каля ножак ложка. Ён устаў, аблупіў яйка і тут жа з'еў яго, таму што ў тыя часы ён заўсёды хацеў есці.

Раніцай, калі Лін сыходзіла, яму звычайна ўдавалася крыху прыдрамнуць. Лін працавала настаўніцай у манастырскай школе за горадам. Ён дапамагаў ёй збірацца ў школу, складваў усё, што ёй было неабходна, у партфель. Яго абавязкам было таксама сачыць за старым, аблезлым будзільнікам, які, як і ўсе рэчы, што належалі Лін, кожны дзень рабіў падарожжа з ложка на падлогу і з падлогі на ложак, але тым не менш ішоў вельмі дакладна. Ён сачыў за будзільнікам і папярэджваў Лін, калі ёй трэба было выходзіць. Ён сядзеў у гэты час на ложку ў начной кашулі і чытаў ранішнюю газету, а Лін гатавала на спіртоўцы чай і суп. Як толькі вялікая стрэлка набліжалася да адзінаццаці і заставалася пяць хвілін да васьмі гадзін, Лін хапала партфель, таропка цалавала яго і неслася па лесвіцы ўніз, да аўтобуса. Бывала, яе суп заставаўся на спіртоўцы, ён прагна з'ядаў аўсяную баўтушку без смаку, залазіў у ложак і спаў да адзінаццаці.

Толькі праз месяц яны наскрэблі грошай, каб купіць другі ложак, і цяпер ён мог ноччу спаць. Толькі зрэдку ён прабуджаўся ад глыбокага сну, гэта калі нешта падала на падлогу з ложка Лін: кніжка, паўпліткі шакаладу або адзін з яе цяжкіх срэбраных бранзалетаў.

Ён стараўся давесці ёй, што ён разумее пад словам «парадак»: акуратна складзеныя ў шафах рэчы і чыстую спіртоўку. Ён нават купіў употай патрыманую шафу, загадаў прывезці яе, калі Лін была ў школе, і навёў усюды парадак; усё барахло Лін, усе яе сукенкі ён

развесіў на плечыках з нямецкай акуратнасцю так, як гэта рабіла яго маці: «Каб пахла бялізнай, адпрасаванай бялізнай». Але Лін узненавідзела шафу, і, жадаючы зрабіць ёй прыемнае, ён загадаў адвезці яе і прадаў са стратай. Адзіным родам мэблі, з якім Лін яшчэ мірылася, была маленькая палічка, на якой стаялі спіртоўка, чыгунок, дзве каструлькі, кансерваваныя бляшанкі з мясам і гароднінай, усялякія загадкавыя прыправы і пачкі з кансерваванымі супамі. Яна выдатна ўмела гатаваць, і яму вельмі падабалася, як яна заварвае чай: цёмны, з залатым адлівам; і калі Лін вярталася са школы, яны ляжалі на сваіх ложках, курылі і чыталі, чайнік стаяў на табурэце паміж ложкамі. Месяцы два ён пакутаваў ад таго, што называў тады беспарадкам, і шкадаваў, што ў Лін так мала жадання набыць рэчы — купіць, напрыклад, хоць адну яшчэ змену прасцін. Але яна не выносіла рэчаў, як не выносіла шафаў, і пасля ён здагадаўся, што яна не выносіць шафаў менавіта таму, што ў іх захоўваюцца рэчы. Яна любіла надзіманыя шары, любіла кіно і пры ўсёй яе неўраўнаважанасці была вельмі набожнай. Яна фанатычна захаплялася царкоўнай мішурой, францысканскімі манахамі, у якіх спавядалася; у нядзелю яна звычайна цягала яго да абедні ў жаночы манастыр, дзе яна ўвесь тыдзень выкладала, і ён злаваўся на манашак, якія ўпарта называлі яго «мужам міс Ганігэн» і ў час снедання накладвалі ў ягоную талерку гару ўсялякай ежы, бо нейкім чынам разведалі, што ён заўсёды галодны. Але так было толькі напачатку, пасля манашкі яму спадабаліся, ён з'ядаў на снеданне да васьмі сандвічаў, яго казачны апетыт выклікаў бурную радасць у манашак. У нядзельныя дні Лін праводзіла са сваімі дзяўчынкамі трэніроўкі па травяным хакеі, рыхтуючы іх да чарговага спаборніцтва, а ён пасмейваўся з яе захаплення і захапляўся яе прыгожай, дакладнай і моцнай гульнёй.

Муж міс Ганігэн смешна выглядаў на ўскрайку поля. Калі трэніроўка заканчвалася, яны з Лін рабілі прабежку ў тры кругі па пляцоўцы. Дзяўчынкі з хакейнай каманды і пансіянеркі з манастырскай школы абступалі пляцоўку і падбадзёрвалі яго вокрыкамі, і, калі ён прыбягаў першым, гэта выклікала агульную радасць, а ён амаль заўсёды прыбягаў першым, таму што быў на тыя часы неблагім бегуном.

Потым яны з'ездзілі разам з Лін на поўдзень, у графства Сэрэй,— гадзінамі блукалі па лугах і кустах, паўсюль атрымлівалі асалоду ад таго, чаму безаглядна аддавалася Лін і што жартам называла «радасцямі сямейнага жыцця». Тады было яму дваццаць пяць гадоў, а Лін незадоўга споўнілася дваццаць, яна была самай любімай настаўніцай у школе.

У будзень ён спаў звычайна да паловы адзінаццатай, бо людзі, з якімі яму даводзілася мець справу, раней паловы дванаццатай прыёму не пачыналі, дый неспакойныя ночы добра такі стамлялі яго. Ён вышукваў негаваркіх трэцеразрадных палітыканаў і ў час снедання вывуджваў у іх мізэрную інфармацыю. Асноўныя звесткі ён атрымліваў нават не ад іх, а з чацвёртых, пятых рук, ад гэтакіх жа няўдачлівых журналістаў, як і ён сам. Пасля ён падняўся на новую ступень і пачаў сам прыдумваць усялякія рызыкоўныя рэчы, выдатна разумеючы, што даброй гэта не скончыцца. Звычайна ён сядзеў у маленькіх шынках, піў слабае віскі і чакаў Лін; перад ім заўсёды ляжаў стос паперы для малявання, і ён маляваў усё, што яму прыходзіла ў галаву. Ён сам прыдумваў жарты і ілюстраваў іх або ілюстраваў чужыя жарты, што знаходзіў у газетах. У карабку з-пад мыла «Санлайт» накопліваліся малюнкі, сотні малюнкаў, і пасля смерці Лін ён усе іх адаслаў Раю ў Германію.

Так, там набяруцца сотні малюнкаў, але ён усё яшчэ не раскрываў кардонку і працягваў назіраць за хлопчыкамі,— кожны з іх з неаслабнай упартасцю стараўся трапіць у вароты праціўніка. Магчыма, малюнкі добрыя, і тады ён пазбавіцца ад стамляючага абавязку кожны тыдзень высасваць тэмы з пальца.

Назіраючы за хлопчыкамі, ён паспеў накідаць на абрыўку паперы Больдзін партрэт, але затым зноў адклаў аловак убок.

Звесткі, якія яму ўдавалася тады раздабыць, рабіліся ўсё больш мізэрнымі, а тыя неправераныя матэрыялы, якія ён прыдумваў сам і перасылаў у Германію, усё менш адпавядалі сапраўднасці; зрэшты маленькая нацысцкая газетка, чыім лонданскім карэспандэнтам ён з'яўляўся, пазбавіла яго нават мінімальнага фіксу, а праз месяц і зусім выкрасліла са

спіса супрацоўнікаў, і ён жыў на настаўніцкі заробак Лін, радасна сустракаючы кожную нядзелю, калі можна было ўволю наесціся ў манашак. Пакуль Лін праводзіла трэніроўкі з дзяўчынкамі, ён часам заходзіў у школьную капліцу, слухаў малітвы і любаваўся грандыёзнай безгустоўшчынай: нідзе, як яму здавалася, не бачыў ён яшчэ такога гранічна аляпаватага Антонія, нідзе — такой жудаснай Тэрэзы Лізье.

А ў будзень ён хадзіў па гораду і распрадаваў букіністам свае кнігі — паўшылінга за два кіло. Выручаных грошай ледзь хапала на цыгарэты. Спрабаваў ён даваць урокі, але мала хто з англічан хацеў вывучаць нямецкую мову, дый эмігрантаў у Лондане і без яго было дастаткова. Лін суцяшала яго, і ён быў шчаслівы, нягледзячы ні на што. Яна напісала сваім, як ім цяжка прыходзіцца, і яе бацька адказаў, каб яны прыязджалі ў Ірландыю. Альберт зможа дапамагаць па гаспадарцы і, калі захоча, ніколі не вяртацца да гэтых праклятых нацы. Цяпер, праз пятнаццаць гадоў, ён усё яшчэ не мог зразумець, чаму ён тады не прыняў прапанову бацькі Лін. Ім авалодала хвароба Нэлы — мара пра жыццё, якое не было пражытае і ніколі не будзе пражыта, бо час, які для яго прызначаны, беззваротна прайшоў. Але было сваё хараство ў тым, каб на некалькі хвілін перанесціся ў мясцовасць, якую ён ніколі не бачыў, пажыць невядомым яму жыццём сярод людзей, якіх ён не ведаў.

Нават і цяпер, праз пятнаццаць гадоў, ён не мог усвядоміць, што Лін памерла,— такой нечаканай была яе смерць, і якраз тады, калі ён быў поўны надзеямі. Ён пачаў зарабляць, у яго з'явіліся грошы; для фабрыкі, якая выпускала мыла, ён пісаў рэкламныя плакаты і малюнкі на абгортках, і яму ўдалося, нарэшце, прыстасавацца да густаў англічан.

З таго часу як яго заробкі павялічыліся, ён перастаў піць у шынках без Лін, ён сядзеў дома, піў халодны чай і ўвесь дзень працаваў. Раніцай ён уставаў разам з Лін, рыхтаваў снеданне, праводзіў яе да аўтобуса.

Хлопчыкі разгарачыліся і стаміліся. Генрых сядзеў на траве, спінаю да дрэва, і жаваў травінку. Альберт высунуўся з акна і крыкнуў:

— Вазьміце кока-колу з халадзільніка!

Калі хлопчыкі павярнуліся і са здзіўленнем глянулі на яго, ён дадаў:

— Заходзьце і дастаньце бутэлькі, ты ж ведаеш, Генрых, дзе што стаіць.

Ён чуў, як дзеці з радаснымі воклічамі павярнулі за вугал, забеглі ў дом, але тут загаварылі шэптам і на дыбачках прайшлі на кухню. Ён зачыніў акно, набіў люльку, але раскурваць яе не стаў і рашучым рухам адкрыў кардонку «Санлайт»: там аказаўся цэлы стос вельмі тонкай паперы, усе малюнкі былі павернуты другім бокам. Толькі тады ён скеміў, што адкрыў не крышку, а дно карабка. Ён узяў першы малюнак, перавярнуў яго і здзівіўся — да таго ён аказаўся добрым! Гэта быў заашарж, забаўнае выяўленне звяркоў, а гэты жанр зноў уваходзіў у моду.

Пасля вайны ён не маляваў так добра. Мяккі, вельмі тлусты аловак — малюнак зусім яшчэ свежы. Ён адчуў вялікую палёгку: ён ведаў, што Брэзгот ахвотна возьме гэтыя малюнкі. Кожная з танюткіх паперак, размаляваная пятнаццаць гадоў назад у лонданскіх шынках, прынясе яму пяцьдзесят марак. Нейкія трэба лепш абрэзаць, наноў наклеіць на кардон, да нейкіх прыдумаць тэкст. Ён ніколі не паказваў гэтыя малюнкі Лін, бо тады яны здаваліся яму кепскімі, але сёння ён зразумеў, што яны добрыя і ўжо ва ўсякім выпадку лепшыя, чым вельмі многае, што ён зрабіў для «Суботняга вечара». Ён корпаўся ў карабку, выцягваў лісткі з сярэдзіны і з самага дна і здзіўляўся, наколькі яны добрыя. Нехта з хлопчыкаў паклікаў яго:

— Дзядзька Альберт, дзядзька Альберт!

Ён адчыніў дзверы ў пярэднюю і спытаў:

— Што здарылася?

Ён адразу зразумеў, што клікаў яго Брылах, які спытаў:

— Можна нам зрабіць сабе па бутэрброду? Мы хочам пачакаць, пакуль вернецца Марцін.

— Гэта доўгая справа.

— А мы пачакаем.

— Ну, як хочаце,— і бутэрброды вы сабе, зразумела, можаце зрабіць.

— Вялікае-вялікае дзякуй.

Ён зачыніў дзверы, сабраў раскіданыя лісткі і паклаў іх зноў у карабок.

У той дзень, як заўсёды, Лін раніцай паехала ў школу, а ён сядзеў дома і рабіў накід рэкламнага плаката. Ён маляваў ільва, які густа намазваў гарчыцай баранову нагу. Альберт адчуваў, што плакат атрымліваецца добра, а заказчык — далёкая радня Авесалома Біліга — абяцаў добры ганарар. Гэта быў яўрэй-эмігрант, з якім ён пазнаёміўся ў журналісцкім рэстаранчыку. Спачатку той ставіўся да яго з недаверам, таму што прыняў яго за шпіка, але пры пятай сустрэчы ён даў яму заказ: ён супрацоўнічаў у рэкламным аддзеле фабрыкі прыпраў. Альберт працаваў так заўзята, што не прыкмячаў, як ідзе час, і таму вельмі здзівіўся, калі ў пакой увайшла Лін.

— Божа,— сказаў ён,— ужо тры гадзіны?

Але калі ён пацалаваў яе і яна стомлена ўсміхнулася ў адказ, ён зразумеў, што да трох яшчэ вельмі далёка і што Лін вярнулася з-за таго, што ёй нездаровіцца. Рукі ў яе гарэлі, і яна курчылася ад болю ў жываце.

— Гэта ўжо даўно пачалося,— сказала яна,— але я думала, што я цяжарная, а сёння высветлілася, што я зусім не цяжарная, а баліць усё роўна.

Ніколі ён яшчэ не бачыў, каб яна падала духам, але цяпер яна кінулася на ложак і застагнала. Ёй цяжка было гаварыць, і, калі ён схіліўся над ёй, яна шапнула:

— Выкліч таксі, мне ў аўтобусе было кепска, а цяпер робіцца яшчэ горш. Завязі мяне ў бальніцу.

Ён узяў з пасцелі яе сумачку і пабег да стаянкі таксі, на хаду пералічваючы грошы; у кашальку набралася чатыры фунты і цэлая гара дробязі. Урэшт разгублены, сеў ён у таксі, загадаў спыніцца перад домам і адным духам падняўся па лесвіцы. Лін званітавала, і, калі ён узяў яе на рукі, каб знесці ўніз, яна застагнала; на лесвіцы яна ўвесь час крычала, і яе зноў званітавала. Каля дзвярэй сабраліся жанчыны і глядзелі, хітаючы галовамі. Ён крыкнуў адной з іх, каб яна прыгледзела за кватэрай, што засталася незачыненай. Жанчына згодна кіўнула галавой, і цяпер, гледзячы на хлопчыкаў, якія вярталіся ў сад, ён выразна ўспомніў яе тупы, бледны, азызлы ад гарэлкі твар. З бутэрбродамі ў руках хлопчыкі працягвалі ганяць мяч.

У таксі ён трымаў Лін на каленях, каб абараніць яе ад штуршкоў машыны, але яна ўсё крычала, і яе зноў

званітавала проста на рудыя пацёртыя падушкі, а ён думаў, што трэба будзе сказаць урачам. Ён усё не мог успомніць англійскае слова, якое азначала запаленне адростка сляпой кішкі, але калі таксі спынілася перад бальніцай, ён, трымаючы Лін на руках, хутка ўзбег на ганак, піхнуў нагой дзверы ў прыёмны пакой і закрычаў:

— Апендыкс, апендыкс!

Яна страшэнна закрычала, калі ён хацеў апусціць яе на кушэтку; цяпер яна зусім скурчылася; здавалася, што ў такім становішчы ёй было не так балюча, і, хоць сілы пакідалі яго, ён працягваў трымаць яе на руках, прыхіліўся толькі да чырванаватага колеру калоны і спрабаваў зразумець, што яна шэпча перакрыўленымі вуснамі. Твар у яе пажаўцеў і пайшоў плямамі, у вачах яе ён бачыў жудасную пакуту, і шэпт яе здаўся яму трызненнем вар'яткі: «Едзь у Ірландыю, у Ір-лан-дыю»,— ён не зразумеў тады, што яна хоча гэтым сказаць, і стараўся зразумець, пра што яго пытае худая заклапочаная бальнічная сястра, якая стаіць з ім каля калоны. Ён тупа паўтараў толькі адно слова: «Апендыкс»,— і сястра кіўнула, калі пачула гэта слова. Лін давілася, але ванітаў ужо не было — толькі жоўтая, з цяжкім пахам слізь паказалася на яе вуснах, і, калі да іх падпіхнулі насілкі на колцах і ён паклаў яе, яна яшчэ раз абвіла яго шыю рукамі, пацалавала яго і зноў прашаптала: «Едзь у Ірландыю, мой дарагі, мой дарагі, мой дарагі»,— але ўрач, які падышоў, адпіхнуў яго, і насілкі ад'ехалі і зніклі за вярчальнымі шклянымі дзвярамі. У апошні раз ён пачуў крык Лін. Праз дваццаць пяць хвілін аперацыя закончылася, Лін была мёртвая, і ён не паспеў больш перамовіць з ёй ні слоўка. Уся брушная поласць была запоўнена гноем. Ён да гэтага часу не забыў маладога, шэрага твару ўрача, калі той выйшаў у прыёмны пакой і сказаў: «Вельмі спачуваю», і затым павольна і спакойна загаварыў з ім, і ён зразумеў, што ўжо тады, калі ён сядзеў ▪ Лін у таксі, было занадта позна. Урач выглядаў вельмі стомленым і спытаў, ці не хацеў бы ён зноў убачыць сваю жонку.

Яму загадалі пачакаць, пакуль можна будзе прайсці да Лін, і ён стаяў каля акна і чакаў, але раптам успомніў пра шафёра, выйшаў і разлічыўся з ім. Шафёр паказаў на сляды ванітаў, забурчаў, не вымаю-

чы цыгарэты з рота, і ён даў яму цэлы фунт звыш патрабаванага і быў рады, калі сярдзіты твар шафёра праясніўся. Ён вярнуўся ў прыёмны пакой. Шпалеры тут былі шэра-зялёныя, шэра-зялёнымі былі абабітыя крэслы, і стол быў пакрыты шэра-зялёным сукном. Гэта надарылася ў тыя дні, калі Чэмберлен вылецеў у Германію на перагаворы з Гітлерам. Пасля ў прыёмны пакой увайшла маладая жанчына ў паношаным паліто. Яна стала ля акна, і цыгарэта, якую яна трымала ў руцэ, пацямнела ад слёз, якія падалі на яе. Цыгарэта патухла, жанчына кінула яе на падлогу і, усхліпваючы, прыціснулася да аконнага шкла. Па вуліцы ішлі людзі і неслі плакаты *«Свету — мір»* і іншыя — «Пакажам Гітлеру, што мы яго не баімся», і маладая жанчына ў паношаным паліто зняла акуляры і працерла іх крысом. Ад яе паліто ішоў пах булёну і табакі, і яна няспынна мармытала: «Сыночак, сыночак мой, сыночак мой»,— але затым з'явіўся ўрач, і жанчына кінулася да яго, і па яе твары можна было зразумець, што ўсё скончылася добра. Жанчына выйшла з урачом, а яго павяла бальнічная сястра па доўгім, абкладзеным жоўтай кафляй калідоры. Пахла застылым авечым лоем і распушчаным маслам, каля дзвярэй стаялі вялізныя алюмініевыя чайнікі з гарачым чаем, прыгожанькая цёмнавалосая дзяўчына разносіла на падносе бутэрброды, каля акна стаяў хлопчык з гіпсавай павязкай на руцэ і крычаў некаму на вуліцу: «Пракляты сабака, я табе пакажу!» Сястра падышла да хлопчыка, торгнула яго за здаровую руку і прыклала палец да вуснаў, і хлопчык паплёўся ўслед за дзяўчынай з бутэрбродамі.

У пакоі, куды прывяла яго сястра, былі шэрыя сцены без усялякіх упрыгожанняў і два высокія вузкія акны з сінім шклом. На левым акне была намалявана жоўтай фарбай альфа, на правым — амега.

Лін ляжала на насілках, залітая непрыемным сінім святлом. Сястра пакінула яго аднаго, і ён падышоў бліжэй і ўбачыў, што твар Лін стаў такім, як раней. Адно толькі падалося яму новым — выраз спакою, і было дзіўна бачыць спакойным яе тонкі малады твар. Магчыма, з-за асвятлення, але плямы на твары зніклі, і ён зноў набыў роўны колер, і стаў ранейшым яе перакрыўлены пакутай рот. Ён запаліў свечы, што стаялі ў медных падсвечніках за насілкамі, прачытаў «Ойча

наш» і «Багародзіцы Дзево, радуйся». Няўцямна было для яго, што яны пражылі разам цэлы год. Здавалася, што ён зусім нядаўна пазнаёміўся з ёй. Што яна памерла, ён разумеў, але вось тое, што яна жыла на зямлі,— гэта яму здавалася сном, падрабязнасці, якія ўспаміналіся, нічога не маглі змяніць. Як быццам толькі суткі назад прыехаў ён у Лондан. Усё здарылася за адзін дзень: вянчанне ў адпрасаванай сукенцы, якая была ёй не да твару, раса францысканца, хакей і снеданне ў манашак, і луг у Сэрэі, і радасць валодання... затым крык: «Едзь у Ірландыю». Ірвота ў таксі, і ён тупа паўтарае: «Апендыкс, апендыкс...», і сіняватая капліца з жоўтай альфай і амегай, паветраныя шары, што Лін дарыла дзецям, і мыльныя бурбалкі, якія яна з акна свайго пакоя пускала ў вялікі шэры двор,— нянавісць да шафаў, спакойнае гарэнне дзвюх свечак... Так гараць яны толькі ў капліцах. Ён не адчуваў самоты, ён адчуваў толькі тупую, пакутлівую спагаду да Лін за мучэнні, якія яна перанесла, знікаючы з крыкам за дзвярыма аперацыйнай залы, а цяпер яна так спакойна ляжыць у гэтай капліцы. Свечы гарэлі, ён падышоў да дзвярэй, але раптам павярнуўся і заплакаў. Усё паплыло перад яго вачамі, стала змрочным і туманным: хісткія насілкі і спакойны твар Лін. У капліцы здавалася, што на вуліцы дождж, але, калі выйшаў з капліцы, ён убачыў, што свеціць сонца. Сястра некуды пайшла, і ён заблудзіўся ў бясконцых калідорах, трапіў у палату, зноў выскачыў, апынуўся каля ўвахода на кухню і толькі тады пазнаў калідор з жоўтай кафляй, і зноў прыгожанькая цёмнавалосая дзяўчына пранесла на падносе гару бутэрбродаў, і з расчыненых дзвярэй пачуўся нечы крык: «Гарчыцы!» — і ён успомніў пра льва, які намазваў гарчыцай барановую нагу.

Калі ён вярнуўся дадому, была гадзіна дня. Нехта памыў лесвіцу і прыбраў у пакоі. Ён так і не даведаўся ніколі, хто гэта зрабіў, і вельмі здзівіўся, бо яму заўсёды здавалася, быццам у доме яго не любяць: заўсёды ён быў заняты, таропка, мімаходзь вітаўся з суседзямі. А зараз і на лесвіцы і ў пакоі ўсё прыбрана.

Ён узяў з крэсла плакат з ільвом, хацеў яго парваць, але затым скруціў у трубку і кінуў у куток. Ён лёг на ложак і ўперыў вочы на маленькае распяцце, якое Лін павесіла над дзвярамі. Ён па-ранейшаму

выдатна разумеў, што Лін памерла, але ніяк не мог паверыць, што цэлы год пражыў з ёй. Ад яе нічога не засталося, акрамя ложка, які быў завалены ўсялячынай, каструлькі з выкіпелым супам на спіртоўцы, шчарбатага кубка, у якім яна звычайна распускала мыла, каб пускаць бурбалкі, ды стосіка неправераных сшыткаў з сачыненнямі пра цынкавыя руднікі ў Паўднёвай Англіі.

Пасля ён заснуў і прачнуўся толькі тады, калі ўвайшла маленькая настаўніца, якая працавала разам з Лін, і адразу адчуў боль у руках,— на іх так доўга ляжала Лін. Разам з Лін і маленькай настаўніцай яны часта ўвечары хадзілі ў кіно, звалі яе Блай Грозэр, яна была прыгожанькай бландзінкай, і Лін заўсёды спрабавала абярнуць яе ў каталіцтва.

Ён тупа ўтаропіўся ў Блай і адчуў боль у зведзеных мышцах рук. Пасля паспрабаваў растлумачыць Блай, што Лін памерла. Ён сам спалохаўся — так холадна і як нешта само сабой зразумелае вымавіў ён — «памерла», і толькі цяпер ён сам спасціг усё значэнне гэтага слова: Лін больш няма. Блай з вялікай цяжкасцю раздабыла білеты на вячэрні сеанс, каб паглядзець фільм, які тады ўсе імкнуліся паглядзець. Гэта быў фільм з удзелам Чарлі Чапліна, і ён сам, помніцца, назаляў Блай, каб яна здабыла білеты, таму што ў Германіі, пэўна, такога не ўбачыш. Блай прынесла і піражныя для Лін, маленькія міндальныя піражныя, пакрытыя яечным крэмам. У руках яна трымала зялёныя білеты, і, калі ён ёй сказаў, што Лін памерла, яна спачатку засмяялася. Яна смяялася таму, што не магла зразумець, з чаго ён раптам надумаў так па-дурному жартаваць, яна смяялася незвычайна — злосна і адрывіста. Потым яна зразумела, што гэта не жарт, і разгублена заплакала, і зялёныя білеты ўпалі на падлогу, і міндальныя піражныя, пакрытыя жоўтым крэмам,— такія любіла Лін,— ляжалі паміж парасонам і чырвоным берэтам на ложку Лін сярод мноства іншых рэчаў.

Ён працягваў ляжаць, холадна гледзячы на Блай. Яна сядзела на табурэце і плакала, і, як толькі ўбачыў яе слёзы і пачуў яе рыданні, ён зноў усвядоміў, што здарылася: Лін памерла. Блай паднялася, прайшлася па пакоі, падняла з падлогі згорнуты плакат, што валяўся ў куче каля спіртоўкі, і, рыдаючы, паглядзела

на задаволенага, ухмылістага льва, які намазваў гарчыцай «Хічх юмара» баранову нагу. Ён ведаў, што пасля возьме яе за плечы, паспрабуе супакоіць і будзе гаварыць пра справы — пра пахаванне, пра ўсемагчымыя дакументы, якія неабходна аформіць. І ўсё ж ён працягваў ляжаць і думаць пра Лін, пра хуткаплыннасць і прыгажосць яе жыцця, якое пакіне ў гэтым свеце ледзь прыкметны след. Хіба што ў вестыбюлі школы павесяць яе фотаздымак, і пасля на школьных сустрэчах дзяўчаткі, жанчыны, з кожным годам старэючыя жанчыны будуць гаварыць: «Гэта была наша настаўніца па гімнастыцы і прыродазнаўству», але аднойчы фатаграфію здымуць і павесяць на яе месца партрэт нейкага кардынала або папы — і тады на нейкі прадпісаны законам тэрмін застануцца толькі паметкі Лін у школьных сшытках, якія захоўваюцца ў архіве, ды грудок на вялікім могільніку. Блай супакоілася раней, чым ён устаў. Яна ўспомніла пра мноства ўсялякіх спраў і ўхапілася за магчымасць усё зрабіць самой і «збавіць яго ад гэтага»; паведаміць у школе, бацькам Лін і яе брату — інжынеру ў Манчэстэры.

Мокрая пляма на падлозе, там, дзе невядомая суседка прыбрала за Лін, паступова падсыхала, засталіся толькі сляды мыла на даўно не мытай падлозе, і калі праз месяц ён па просьбе Нэлы вяртаўся ў Германію, у пакоі ўсё яшчэ стаяў кубак без ручкі, у якім Лін распускала мыла, каб пускаць бурбалкі, у кубку заставалася белая клейкая сумесь, і пазней ён уцяміў, што ў газетным паведамленні і ў надмагільным надпісе на невялікім крыжы стаяла яе дзявочае прозвішча — міс Ганігэн і што манашкі на памінальным абедзе ўпарта называлі яго мужам міс Ганігэн.

Брат Лін узяўся дапамагчы яму знайсці работу ў Манчэстэры, бацькі Лін, з якімі ён быў у добрых адносінах, запрасілі яго пераехаць да іх у Ірландыю на ферму — «там заўсёды хопіць работы і ежы»,— усе былі цвёрда пераканаты, што неўзабаве пачнецца вайна і што ў Германію яму лепш не вяртацца. Ён нікому не расказаў, як Лін шаптала яму: «Едзь у Ірландыю». Ён доўга вагаўся, а сам працягваў жыць у лонданскім пакоі і атрымаў нават добры ганарар за льва і гарчыцай, і след мыла так і застаўся на тым месцы, дзе нехта прыбраў за Лін. Ён яшчэ вагаўся, але лісты Нэлы рабіліся ўсё больш настойлівымі, і адным такім

днём, калі ён жыў, нечага чакаючы, ён адаслаў вялікі карабок з малюнкамі ў Германію на адрас Рая. Ён зрабіў гэта неяк ўвечары, калі вярнуўся з могілак, дзе доўга разважаў, ці павінен ён выканаць просьбу Лін. Ужо седзячы ў аўтобусе, ён цвёрда вырашыў паехаць у Германію, і калі ён вызваляў пакой і разбіраў ложак Лін, з-пад матраца выпалі дзве рэчы — пілка для пазногцяў і чырвоны бляшаны карабочак з цукеркамі ад кашлю.

Ён пачуў, што хлопчыкі ў двары з некім размаўляюць, і расчыніў акно. Генрых стаяў насупраць Больдзінага пакоя і крычаў:

— Добра, мы будзем больш асцярожнымі!

А Больда зверху адказвала:

— Я сама бачыла, як вы зламалі дзве кветачкі.

Альберт высунуўся з акна, задраў галаву і крыкнуў Больдзе:

— Яны больш не будуць.

Хлопчыкі засмяяліся. Больда таксама засмяялася і крыкнула:

— Ну ты ўжо... па табе дык хай яны хоць усё тут растопчуць.

Ён пакінуў акно расчыненым і пачаў парадкаваць малюнкі — мноства тонкіх лісцікаў — іх было некалькі соцень. Тут ён раптам падумаў, што трэба было неяк напісаць бацькам Лін,— яны заўсёды дасылалі яму шынку, чай і табаку, а ён за ўвесь гэты час не сабраўся з духам, каб напісаць ім падрабязнае пісьмо, а толькі коратка дзякаваў ім ды дасылаў кнігі.

## 10

Было проста жахліва, калі бабуля брала яго з сабой у рэстаран. Праўда, яна рэдка выходзіла з дому, але менавіта таму яе добра ведалі ў некаторых рэстаранах, і, заўважыўшы яе, афіцыянты пачыналі неяк дзіўна ўсміхацца. Марцін ніколі не мог зразумець, кпіны гэта ці шчырая павага. Яна любіла цяжкую і багатую ежу, любіла тлустыя супы — рудыя, вязкія, адзін іх пах выклікаў у яго млосць, і потым яна заўсёды патрабавала паставіць маянэз на лёд, каб пасля гарачага тлушчу атрымаць асалоду ад ледзянога соусу. Яна

заказвала вялізныя кавалкі смажаніны, абнюхвала іх, нажом і відэльцам правярала іх мяккасць і бесцырымонна адпраўляла іх назад, калі мяса не адпавядала яе смаку. Затым ішлі пяць розных салатаў, якія яна сама ўдасканальвала шляхам доўгіх маніпуляцый з прыправамі, якія ёй падавалі ў бутэлечках, у загадкавых срэбраных гарлачыках, у медных кропельніцах, і гэтакіх жа доўгіх перагавораў [redacted] афіцыянтамі пра ўласцівасці прыпраў. Паратункам была толькі талерка з гарой нарэзанага вялікімі лустамі хлеба, што ўзвышалася на сярэдзіне стала, але марна было яму чакаць тут бульбы — гэта адзінае, што ён бы [redacted] задавальненнем еў, акрамя хлеба. Бела-жоўтыя дымячыя бульбіны, [redacted] маслам і соллю, ён вельмі любіў, але бабуля пагарджала бульбай.

Бабуля піла віно і патрабавала, каб ён піў яблычны ліманад — напітак, які яна любіла ў дзяцінстве. Яна вельмі засмучалася, калі ён адмаўляўся піць ліманад: яна не магла зразумець, як можа яму не падабацца тое, што ёй у дзяцінстве здавалася такім смачным. Ён еў мала: салату, суп і хлеб, і яна, якая глытала ўсё, як удаў, глядзела на гэта, ківаючы галавой. Перад ядой яна заўзята жагналася: размахваючы рукою, як вятрак, яна біла сабе далонню па лбе, грудзях і жываце. Але не толькі гэта прыцягвала да яе агульную ўвагу, кідаўся ў вочы і яе ўбор: цяжкі чорны шоўк і палаючая, як агонь, чырвоная блузка, якая вельмі пасавала да яе квітнеючага твару. Афіцыянт, метрдатэль і буфетчыца лічылі яе рускай эмігранткай, але яна нарадзілася і правяла дзяцінства ў найвялікшай беднаце. Падчас добрага абеду яна любіла расказваць, як кепска ела яна ў дзяцінстве: уголас, так, што прыслухоўваліся людзі за суседнімі столікамі, бабуля расказвала пра прыкры салодкі смак параных буракоў, пра горыч падгарэлага супу са знятага малака, дакладна апісвала салату з крапівы, кіслы чорны хлеб, які яна ела ў дзяцінстве, і тут жа пераможна разломвала лусту белага хлеба.

На бульбу яна вылівала плойму праклёнаў, называла яе мучністай атрутай, прусацкім хлебам і рознымі незразумелымі зняважлівымі мянушкамі на дыялекце свайго дзяцінства. Затым яна брала кавалак белага хлеба, мачала яго ў соус, і ў яе яркіх сініх вачах загараўся дзікаваты агеньчык, які палохаў яго.

Ён пачынаў разумець, чаму баіцца яе, калі яна пачынае апісваць, як у іх дома білі трусоў. Ён яўна чуў трашчанне далікатных костачак, бачыў выкачаныя вочы і кроў; найдакладным чынам бабуля расказвала, што і як рабілі з вантробамі, з цёмна-чырвоным месівам з лёгкіх, печані, сэрца; расказвала і пра тое, як яе заўжды падманвалі галодныя старэйшыя браты і сёстры. І зараз яна трэслася ад злосці, калі ўспамінала свайго брата Мацiаса, які пяцьдзесят гадоў назад заўсёды ўхітраўся забраць сабе трусінае сэрца; яна называла яго падлюкам і нягоднікам, хоць Мацiас ужо больш за дваццаць гадоў спачывае на могілках у іхняй роднай вёсачцы. Марцін чуў адчайнае кудахтанне курэй, якія пачыналі насіцца па бедным дворыку, калі там з'яўляўся бабулін бацька з сякерай у руках. «Былі ў нас худыя птушкі, годныя толькі на суп»,— гаварыла бабуля. [redacted] сумам успамінала яна, як хадзіла па багатых дварах, калі там білі скаціну, выпрошвала міску крыві і цягнула дадому — тлустую, густую, у камяках. Калі яна даходзіла да гэтага месца, ён ведаў, што неўзабаве пададуць дэсерт і што яго абавязкова званітуе, таму што мясныя стравы яна завяршала барановай адбіўной, мяккай, з крывёй,— яна разразала яе, праглынала вялікія кавалкі, нахвальваючы далікатнасць мяса; а яму бачыліся забітыя і асвежаваныя дзеці, і, чакаючы асалоды ад марожанага, кавы і піражных, ён усё ж цвёрда ведаў, што яго званітуе і што потым ён нічога не зможа есці. Усе пададзеныя на стол стравы мільгацелі перад вачамі — тлусты, вогненна-гарачы суп, салаты, кавалкі мяса і соусы падазронага чырвонага колеру; ён з агідай глядзеў на бабуліну талерку, дзе кроў перамешвалася [redacted] тлушчам, кроў з вочкамі тлушчу. На працягу ўсяго абеду каля яе ў попельніцы ляжала дымячая цыгарэта, і час ад часу яна зацягвалася і пераможна азірала залу.

Ён думаў пра тое, што Брылах і Берэндт гуляюць зараз у футбол у іхнем садзе, п'юць халодны, як лёд, ліманад, ядуць хлеб з павідлам, а пасля Альберт павязе іх некуды і пачастуе марожаным — магчыма, на мосце або ўнізе, каля Рэйна, дзе можна проста з-за столікаў кідаць каменьчыкі ў ваду і назіраць, як рабочыя выцягваюць з ракі пакрытыя ржой карабельныя абломкі. А тут прыходзіцца сядзець сярод ненажэр

і любавацца, як задаволеная бабуля мачае кавалкі хлеба ў крывавы тлушч.

Кожнага разу ён занадта доўга раздумваў, як бы паспець дабрацца да туалета, як яго занудзіць, але бабуля заўсёды садзілася каля самага ўвахода, і каб трапіць у туалет, трэба было прайсці міма пяці, шасці, сямі вялікіх сталоў. Ён нясмела пералічваў іх, рудачырвоная дарожка, здавалася, праходзіла ўздоўж бясконцага рада ненажэрных людзей. Ён ненавідзеў іх, як ненавідзеў бабулю, іх разгарачаныя твары здаваліся каля белых сурвэтак яшчэ больш чырвонымі. Дымячыя судкі, храбусценне костак, дзіцячых костак, кроў з вочкамі тлушчу, халодныя, прагныя вочы худых ненажэр і гарачыя, налітыя крывёй, да брыдкасці лагодныя вочы тоўстых ненажэр; а афіцыянты ўсё падносілі і падносілі ад буфетнай стойкі забітых, *скрамсаных* дзяцей, і тыя, у каго на сталах яшчэ не было талерак, праводзілі афіцыянтаў прагнымі вачамі.

Дабірацца да туалета трэба было вельмі доўга. Толькі аднойчы ён паспеў дабегчы туды. Хістаючыся, прайшоў між радамі ненажэр, з кожным крокам усё больш няўпэўнена, але ўсё ж паспеў: белыя каменныя пліткі, пах мачы, пах лімоннай эсэнцыі і мыла. Столік прыслужніка, на ім — стракатыя пакецікі, грабянцы, сурвэткі і ўсё тыя ж ненажэры перад яго вачамі: яны падвойваюцца, яны — ў люстэрку і ў натуры. Здвоены рад забойцаў — яны корпаюцца ў зубах, надуваюць шчокі, каб праверыць, ці гладка яны пагалены, праводзяць языком па зубах.

Расшпіленыя гузікі, белыя кашулі, вось нарэшце вольнае месца. Ён нахіліўся над ракавінай, і рэзкі пах мачы ўзмацніў млосць, яму хацелася толькі, каб хутчэй усё гэта скончылася і настала жаданая палёгка. Каля яго ўзнікла свежая ружовая фізіяномія.

— Засунь палец у рот, засунь палец у рот,— пачуў ён.

Добразычлівая назойлівасць гэтага чырванамордага ненажэры выклікала агіду, і яму нясцерпна захацелася ўбачыць каля сябе дзядзьку Альберта, маці, просты скуласты твар Глума, чорныя як смоль гладкія валасы Больды і яе белы твар, захацелася пагуляць у футбол з Брылахам і Берэндтам. Але ён злоўлены, ён згубіўся сярод рыгаючых ненажэр, ён запёрты ў гэтай знішчаль-

на чыстай, белай кафлянай турме, асуджаны навек удыхаць толькі пах мачы і адэкалону. Цёплая мяккая далонь прыслужніка легла на патыліцу, і расплыўчаты лагодны твар схіліўся над ім.

— Што з табой, хлопчык?

Але тут у мужчынскую ўборную ўварвалася бабуля, і вочы лагоднага прыслужніка акругліліся ад жаху. Мужчыны збянтэжана пачалі зашпільвацца.

— Што з табой, дзіця маё, што здарылася?

Рукі яе лёгкія, але ўпэўненыя, яна прымусіла яго нахіліць галаву і засунула яму ў рот, хоць ён і крычаў з перапуду, свой доўгі жоўты палец, і ўсё ж яго не званітавала,— жалезны камяк млосці, безвыходны, сударгавы жах стаіўся недзе ў страўніку; праз рады ненажэраў бабуля пацягнула яго назад у залу, але якраз тут усё і здарылася: калі ён праходзіў міма століка аднаго жывадзёра, які драпежным рухам нажа з асалодай рассякаў ружовае дзіцячае мяса, што сачылася крывёй, ён адчуў, як жах падымаецца ў горла і шукае выйсця. Ні сораму, ні шкадавання ён не перажыў — толькі халодную радасць. Цяпер, калі страўнік яго апаражніўся ад жаху, ён змог нават усміхнуцца.

Жывадзёр спачатку зрабіўся барвовым, пасля ад шыі ў яго пайшла жаўцізна і заліла ўсю ягоную фізіяномію, пачуліся крыкі, закалгаціліся афіцыянты, задаволеная бабуля з усмешкай адкрыла чэкавую кніжку, маючы намер пакрыць страты. Гарнітура ён не запэцкаў, твару таксама, толькі вусны давялося выцерці насоўкай. Яму зрабілася лягчэй, ён выйшаў пераможцам у гэтай барацьбе. Ён не запэцкаў рук, не запэцкаў душы, ён проста абрынуў тое, што сілком у яго ўвапхнулі. Нават у бабулі прапаў цяпер апетыт, яна не дакранулася ні да піражнага, ні да пламбіру і кавы, вырвала з кніжкі чэк, затым другі — за пашкоджаны гарнітур жывадзёра, яшчэ адзін, каб уладзіць афіцыянта; цяпер, калі страўнік яго быў пусты, ён без сораму і страху прайшоў разам з бабуляй па доўгай, жаўтава-рудой дарожцы.

Пасля, калі яны вярталіся дадому, у таксі, бабуля прачытала невялікую лекцыю пра нікчэмныя страўнікі цяперашняй моладзі. Ніхто не ўмее цяпер як след паесці, ніхто не ўмее выпіць як след, ніхто не ў стане выкурыць заборыстую цыгарэту — друзлае, згубленае пакаленне!

Такія прагулянкі яны здзяйснялі прыблізна раз у паўгода. Ён прадчуваў іх, як прадчуваў *крой у мачы*, і, пры магчымасці, стараўся ўхіліцца: знікаў перад абедам або ўпрошваў дзядзьку Альберта некуды паехаць з ім, але ўцёкі азначалі толькі адтэрміноўку — рана ці позна бабулі ўдавалася яго злавіць. Такія абеды ўваходзілі, на думку бабулі, ў праграму выхавання. Калі яму споўнілася пяць гадоў, бабуля аднойчы абвясціла:

— Я хачу табе паказаць, як людзі ядуць па-сапраўднаму,— і ўпершыню павяла яго ў рэстаран Фавінкеля.

Ужо тады ў яго склалася ўражанне, што з кухні прыносяць у залу асвежаваных дзяцей, і людаеды нецярпліва чакаюць місак з ружовым мясам з парай. Пачынаючы з пяці гадоў, ён уважліва сачыў за тым, што ядуць дарослыя і як яны ядуць, і прыйшоў да смелага заключэння, што ўсё гэта мае нейкае дачыненне да распусты. Але бабуля ўпарта цягала яго з сабой, і даўным-даўно яго ведаў ужо і гаспадар, і буфетчыца, і афіцыянты, і аднойчы ён пачуў, як яны перашэптваюцца: «Прыйшла вялікая княгіня са сваім блевуном». Але бабуля не здавалася. Яна паставіла сабе за мэту прывучыць яго грунтоўна есці. На вачах у яго яна разбівала і высосвала гусіныя косці, ела мяса, наразала крывавыя біфштэксы. Ён ненавідзеў усё гэта, а бабуля за ўсё гэта разлічвалася вялікімі дозамі загадкавага рэчыва, якое называлася *грошы*. Крэдыткі і манеты — за што яшчэ можна так дорага плаціць, як не за дзяцей?

Калі яму даводзілася абедаць з бабуляй, ён пасля месяцамі не еў мяса; толькі хлеб, яйкі, сыр, малако, гародніну і выдатныя супы, якія Глум варыў унізе, на кухні. Глум гатаваў суп у запас на цэлы тыдзень. Гэта было варыва, у якім усё, што ён туды засыпаў, разварвалася ў кашу: гародніна і косці, рыба і яблыкі. Самым дзіўным было, што супы гэтыя атрымліваліся вельмі смачнымі. Глум гатаваў адразу пяць літраў супу, каб менш валэндацца з гатаваннем. Увогуле Глум харчаваўся хлебам, яйкамі і гуркамі, якія грыз, як яблыкі, а яшчэ ён прыносіў вялікія гарбузы і, пакурваючы люльку, гадзінамі стаяў над чыгунком, размешваў, каштаваў, нешта падбаўляў — цыбуліну або кубікі булёну, сухія траўкі, якія ён расціраў і прасей-

ваў між пальцаў. Глум нюхаў, каштаваў, ухмыляўся, затым здымаў чыгунок з агню і ставіў у халадзільнік. Цяпер можна было жыць без клопату. Ідучы на работу, ён наліваў поўны судок, завінчваў крышку, затым засоўваў у кішэню паўагурка, лусту хлеба, кавалак каўбасы і кнігу. Глум чытаў дзіўныя кнігі. На адной тоўстай кнізе было напісана: *Дагматы*, на другой — *Багаслоўе і маральнасць*. Чытаючы, ён падкрэсліваў алоўкам. Загалоўкі ў кніг былі зусім незразумелыя. Багаслоўе і маральнасць, мяркуючы па ўсім, маюць нейкія адносіны да слова распуста. Глум добра ведаў, што азначае *распуста*, але, па словах Глума, крывапіўцы ў рэстаране Фавінкеля дзяцей не паядаюць і *увогуле нічога распуснага* не робяць; хоць, магчыма, кніга Глума проста ўстарэла — у ёй нічога не гаворыцца пра гэтых крывапіўцаў.

Глум амаль не вымаў з рота люлькі, часам нават спаць лажыўся з люлькай; ён гатаваў суп, чытаў тоўстыя кнігі, раніцай ішоў на работу: ён працаваў на бабулінай фабрыцы.

Глум быў дзіваком, але добрым. Марцін любіў Глума, хоць часам бяззубы рот і лысая галава Глума палохалі яго. Але ж і лысая галава, і бяззубы рот мелі сваю гісторыю. Глум быў у канцэнтрацыйным лагеры. Сам ён пра гэта не ўспамінаў, але дзядзька Альберт расказваў што-кольвечы пра лагеры: смерць, забойствы, насілле і страх мільёнаў людзей — Глум бачыў усё гэта, таму ён і здаецца старэй сваіх гадоў. Марцін заўсёды думаў, што Глум старэйшы за бабулю, а на самай справе ён на пятнаццаць гадоў маладзейшы за яе.

Глум вельмі дзіўна гаварыў. Выццам цяжкія глыбы, выпіхваў ён словы з рота, а рот разяваў так шырока, што бачнымі былі голыя ружовыя дзясны, цёмна-чырвонае нёба і язык, якім ён вырабляў нейкія незвычайныя выкрунтасы: здавалася, што Глум вось-вось выпхне з рота нешта круглае і цяжкае, але з рота з'яўлялася проста слова: «Маці». Наступнае слова яшчэ больш круглае, большае, цяжэйшае, зусім як маленькі гарбузік, яно спела яшчэ павольней, абкатвалася яшчэ цярплівей, але з рота зноў выходзіла проста словам — «Божая». Гэтае слова вырастала да страшэнных памераў у роце Глума, яно ўжо хутчэй нагадвала паветраны шар, а не маленькі гарбуз. Вочы Глума

бліскалі, вузкі нос уздрыгваў, але з рота выкочвайся не паветраны шар і нават не гарбуз, а так нешта накшталт буйнога яблыка — «здарава». «Здарава» было любімым словам Глума, асабліва кругла і пяшчотна атрымліваўся ў яго сярэдні склад — «ра». Глум быў набожным і вельмі добрым, але слухаць яго расказы было цяжка: надта вялікія прамежкі аддзялялі адно слова ад другога,— пакуль ён вымавіць другое слова, паспяваеш забыць першае і губляеш сувязь паміж імі. Глум расказваў павольна, незвычайна ўрачыста і з вялікім цярпеннем. «Цярпенне» — таксама было адным з яго любімых слоў,— з найвялікшым цярпеннем расказваў Глум. І калі ўважліва слухаць яго, можна даведацца пра найцікавейшыя гісторыі.

У Глума на ўсю сцяну вісела карта свету, якую ён сам вычэрчваў і размалёўваў. Ён наклеіў некалькі аркушаў вельмі тоўстай паперы адзін на другі, на працягу некалькіх месяцаў разлічваў маштабы адносна памеру сцяны і пасля старанна, акуратна і цярпліва нанёс на карту граніцы, горы, рэкі, моры і азёры; ён саскрэбваў, асцярожна заштрыхоўваў і пасля доўгай падрыхтоўкі нарэшце пачаў размалёўваць зямную паверхню — перавёў шмат зелені на агромністыя нізіны, шмат рудога — на горы і сіняга — на моры.

Глум паспеў усялякае пабачыць ужо да таго, як пасяліўся ў іх доме, а здарылася гэта, мабыць, даўно, бо, колькі Марцін сябе помніў, Глум заўсёды жыў у іх. Нямала пабачыў Глум на шляху ад сваёй радзімы да берагоў Рэйна, але аднаго ён яшчэ не бачыў ніколі, не бачыў эцюдніка, і эцюднік, які ён убачыў у Альберта, прывёў яго ў большае захапленне, чым саборы і самалёты; Глум дакладна паўтараў усе рухі дзядзькі Альберта: змачыў пэндзлік у вадзе, і, калі папера зрабілася чырвонай, ярка-чырвонай, Глум засмяяўся ад радасці і ў той жа дзень набыў уласны эцюднік.

Звычайна павольна, вельмі акуратна і вельмі цярпліва маляваў Глум зямны шар, ён пачаў здалёку — з Сібіры, дзе ўсё было зялёным, там ён і пасадзіў на карту чорную кропку. «Там,— сказаў ён,— за пятнаццаць тысяч кіламетраў адсюль, я нарадзіўся». На тое, каб сказаць «пятнаццаць тысяч кіламетраў», яму патрэбна была амаль цэлая хвіліна: яблык, гарбуз, яблык, яблык, мячык, мячык, яблык, гарбуз; ён быццам пёк словы недзе там, на нёбе, і толькі затым выпускаў

іх на волю, ды яшчэ каштаваў і прыхлопваў языком, надаваў ім неабходную форму і затым выпіхаў — склад за складам — беражліва і клапатліва.

Глум нарадзіўся за пятнаццаць тысяч кіламетраў адсюль, і імя яго, уласна, не Глум, а Глумбіх Халакустэбан, і нічога нельга было прыдумаць больш прыемнага, чым слухаць, як Глум выгаворвае сваё імя і тлумачыць яго значэнне. А азначала яно: сонца, пад якім спеюць ягады.

Разам з Генрыхам Брылахам яны, калі ім уздумаецца, падымаліся да Глума і прасілі яго вымавіць і растлумачыць сваё імя — гэта было вельмі цікава, як у кіно.

Шкада толькі, што заставалі Глума яны толькі зрэдку: Глум вельмі рана сыходзіў з дому, ён ішоў у царкву, затым на фабрыку і вяртаўся дадому позна ўвечары. Перад сном Больда заўсёды падрыхтоўвала яму на заўтрашнюю раніцу: каву, гуркі, хлеб і крывяную каўбасу. Але Глумава каўбаса не мела нічога агульнага з дзетазабойствам: яна хоць і была чырвоная, але смак у яе быў мучністы і далікатны, і, як тлумачыла Больда, яна і на самай справе гатавалася з мукі, маргарыну з прымессю бычынай крыві.

У нядзелю Глум спаў да паўдня. Потым еў — суп і гарбуз, а калі ў кафейніку заставалася яшчэ крыху кавы ад снедання, Глум падаграваў яе і забіраў сабе. Ён сядзеў да чатырох у сваім пакоі і чытаў незразумелыя тоўстыя кнігі; раз на месяц да яго прыходзіў старэнькі святар, што жыў у манастыры, ён прыходзіў у нядзелю і заставаўся ў Глума на ўвесь дзень. Яны гутарылі пра тое, што Глум вычытаў у сваіх кнігах. Пасля яны звычайна заходзілі да маці піць каву — Глум і святар, дзядзька Альберт і Марцін; і часта спрачаліся — маці са святаром або дзядзька Альберт са святаром, а Глум заўсёды падтакваў святару і ў канцы гаварыў, цярпліва качаючы словы ў роце: «Пойдзем, айцец, вып'ем па адной, бо тут сабраліся адны дурні». Тут усе пачыналі смяяцца, а Глум і сапраўды ішоў выпіць са святаром.

У нядзелю — з чатырох да паловы сёмай — Глум корпаўся са сваёй картай, і ў гэты час Марцін мог наведваць яго. За пяць гадоў Глум не зрабіў нават і чвэрці карты, ён старанна пераносіў адценне за адценнем з геаграфічнага атласа дзядзькі Альберта; калі

ён корпаўся з Паўночным Ледавітым акіянам, яму даводзілася стаяць на лесках, пасля лескі паставілі ў падвал і прынеслі назад толькі тады, калі Глум прасунуўся ўлева настолькі, што дабраўся да Шпіцбергена, Грэнландыі і Паўночнага полюса.

Дзядзька Альберт, які разумее ў гэтай справе, гаварыў, што Глум выдатна малюе. І сапраўды, Глум маляваў проста пэндзлікам звяроў, дамы, людзей, дрэвы, і, калі ён быў у добрым настроі, на паперы з'яўляліся чырвоныя каровы, жоўты конь, а на кані — тоўсты чорны чалавек. «Мой бацька меў чырвоных кароў, зусім чырвоных, можаш смяяцца, колькі хочаш, але яны былі чырвоныя, як спелыя памідоры, і яшчэ бацька меў жоўтага каня, а барада ў бацькі была чорная, і валасы таксама чорныя, але вочы блакітныя, зусім блакітныя, як Паўночны Ледавіты акіян на гэтай карце. Я пасвіў гэтых кароў на лясных палянах, трава там расла чэзлая, часам мне даводзілася ганяць статак праз лес да самай ракі, дзе трава была больш сакавітая і густая. Рака называлася Шахцішэхна-Шахціхо, і гэта азначала: вада, якая дае нам рыбу, лёд і золата».

Плынь гукаў з рота Глума выяўляла раку — шырокую, бурную, хуткаплынную і халодную, рака цякла з высокіх гор, за якімі ляжыць Індыя.

«Мой бацька быў важаком племя, пасля ён пачаў называць сябе камісарам, але ён усё роўна заставаўся важаком, нават калі называў сябе камісарам, і кожны год, увесну, калі Шахцішэхна-Шахціхо вызвалялася ад ільдоў, калі ў лесе зацвіталі ягаднікі і зелянела трава, бацька, нават пасля таго як зрабіўся камісарам, рабіў тое, што рабілі да яго з векапомных часоў усе важакі пляменаў: ён кідаў жэрабя, і аднаго з вясковых хлапчукоў, на каго выпадала жэрабя, кідалі ў раку, каб рака не затапіла пасяленне і прынесла многа-многа золата. Гэта здзяйснялася ўпотай, і людзі, што прызначылі бацьку камісарам, не павінны былі ведаць пра тое, і ніхто нічога не расказваў, і ніхто з тых людзей нічога не заўважаў, таму што ніхто не падлічваў хлопчыкаў, іх было шмат у пасяленні».

Спатрэбілася нямала дзён, каб Глум змог усё гэта расказаць вельмі павольна,— на працягу гадоў распытваючы і выпытваючы, Марцін вывудзіў у Глума ўсю ягоную гісторыю.

У Шахцішэхне намывалі золата і частку яго аддава-

лі тым людзям, якія зрабілі камісарам Глумавага бацьку, але больш за ўсё золата атрымаў Фрыц. Расказваючы пра Фрыца, Глум маляваў кусты, лес, ягады і халодную, як лёд, Шахцішэхну. Фрыц ведаў, як пераходзіць раку ўброд, ён прыходзіў, прыносіў з сабой цыгарэты — белыя палачкі, якія запаўнялі мазгі сухім шчасцем, і яшчэ нешта прыносіў Фрыц — нешта белае ў шкляных трубачках. [redacted] апісанняў Глума Марцін заключыў, што гэта былі ампулы, як тыя, у якія ўрач апускаў шпрыц і, напоўнены, усаджваў у руку бабулі.

— Глум, а што ж з імі рабіў твой бацька?

— Я толькі пасля гэта зразумеў. Кожную вясну ў лясной хацінцы ладзілі свята, у ім павінны былі браць удзел маладыя дзяўчаты, ніводнай паджылай жанчыны, толькі маладыя, а з імі мой бацька і яшчэ два чалавекі, мы іх называлі шаманамі, і калі дзяўчаты адмаўляліся прыйсці на свята, шаманы аддавалі на іх праклянцце, і дзяўчаты хварэлі.— Тут Глум замоўк і пачырванеў, чырвань разлілася ад шыі па ўсім твары, і Марцін здагадаўся, што ў леснічоўцы, за пятнаццаць тысяч кіламетраў адсюль, здзяйснялася нешта *бессаромнае* і нават *распуснае*. Але варта было дзяўчатам згадзіцца, і яны зараз жа папраўляліся, і ўсё гэта — хвароба і выздараўленне — Фрыц прыносіў у сваіх шкляных трубачках.

А пасля Глум уцёк, таму што па жэрабю яго павінны былі кінуць у Шахцішахну, і ўцячы яму дапамог Фрыц. Глум расказваў павольна, часам скажа дватры сказы, а пасля пройдуць тыдні — і ніводнага слова больш; як толькі час набліжаўся да паловы сёмай, Глум абрываў свой расповед на сярэдзіне сказа, апалосквалі пэндзаль, старанна абсушваў яго, зноў раскурваў люльку і асцярожна сядаў на край ложка, каб зняць пантофлі і абуць чаравікі. За ягонай спінай прыгожа пераліваліся колеры на карце, але незамаляваная частка карты здавалася Марціну бясконцай — белыя моры, аддзеленыя ад сушы толькі тонкай лініяй алоўка, абрысы астравоў, рэкі, якія сабраліся каля маленечкай чорнай кропкі — радзімы Глума; ніжэй і лявей, у Еўропе, была другая чорная кропка, яна называлася Калінаўка,— месца, дзе загінуў бацька Марціна, а там, вышэй і намнога лявей, амаль на краі мора, ляжала чорная кропка — месца, дзе яны жывуць,— малень-

кі трохкутнік, што згубіўся на агромністай раўніне. Пераапранаючыся, Глум адразаў ад гарбуза, што ляжаў на тумбачцы, некалькі лустак, укладаў «Дагматы» і «Багаслоўе і маральнасць» у сумку, спускаўся ў кухню, каб напоўніць судок, і ішоў на трамвай.

Часам праходзіла нямала нядзель, пакуль у Глума зноў з'яўляўся настрой расказваць, часам за шмат тыдняў з яго ўдавалася выціснуць два ці тры сказы, але заўсёды ён пачынаў дакладна з таго месца, на якім спыніўся ў мінулы раз. Ужо трыццаць гадоў, як Глум пакінуў сваю радзіму. Фрыц дапамог яму, і ён перабраўся ў горад, дзе жылі людзі, якія прызначылі ягонага бацьку камісарам,— горад называўся Ачынск. Там Глум масціў вуліцы, затым стаў салдатам і пакаціўся ўсё далей і далей на захад. Глум рухаў рукамі, быццам каціў снежны ком, калі хацеў паказаць, як ён каціўся на захад. Новыя назвы паўсталі ў яго расказе: Омск, Магнітагорск і яшчэ далей на поўнач іншы горад, Тамбоў. Але там ужо Глум не быў салдатам, ён уладкаваўся на чыгунку і разгружаў вагоны: дровы, зноў дровы, вугаль, бульбу. А ўвечары Глум хадзіў у школу і вучыўся чытаць і пісаць. Жыў ён у сапраўдным доме, і была ў яго жонка; звалася жонка Тата. Глум апісваў Тату, маляваў яе, яна была бялявая, круглая з твару, вясёлая; Глум пазнаёміўся з ёй у школе, дзе ён вучыўся чытаць і пісаць. Тата таксама працавала на чыгунцы, пакуль што проста цягала цюкі, але збіралася заняцца нечым больш цікавым і важным, як толькі навучыцца чытаць і пісаць,— у гэтым месцы круглатварая бялявая Тата на малюнку Глума пачынала ўсміхацца на ўвесь рот, таму што яна яшчэ мелася зрабіцца перонным кантралёрам на Тамбоўскім вакзале і прабіваць шчыпцамі білеты. І Тата на малюнку Глума стаяла ўжо ў фуражцы, з-пад якой выглядвала яе тоўстая белая каса, і з кампосцернымі шчыпцамі ў руках.

Але самае значнае для Глума здарылася толькі праз год пасля яго жаніцьбы з Татай, калі Тата даўно ўжо была кантралёрам на Тамбоўскім вакзале. Толькі праз год Тата паказала яму, што захоўваецца ў яе на дне скрынкі, якая стаяла ў кухні: распяцце і абразок, і ўначы, калі Тата ляжала ў ложку каля яго, яна расказала яму ўсё, і Глума ахапіла полымем. Глум намаляваў гэта полымя — шмат чырвонага і шмат жоўта-

га,— але тут Глума зноў сарвала і пакаціла на захад, як снежны ком, які рабіўся ўсё большым і большым. Глума зносіла ўсё далей і далей ад Таты, таму што пачалася вайна. Глума параніла, ён пакаціўся назад, на ўсход, у Тамбоў, але Таты там ужо не было, і ніхто не ведаў, куды яна падзелася; у сваёй чыгуначнай фуражцы і са шчыпцамі ў руках яна пайшла неяк раніцай і не вярнулася. Глум застаўся ў Тамбове, шукаў Тату, але і следу яе не знайшоў. І зноў ён пакаціўся на захад, і зноў вайна — рана ўжо загаілася, і зноў ён усё каціўся, каціўся да новага прыпынку,— Глум называў яго не канцэнтрацыйны лагер, а проста лагер. Тут Глум страціў валасы і зубы, і не толькі ад голаду, але і ад жаху. Калі Глум вымаўляў слова «жах», гэта гучала не жахліва, не яблыкі, не паветраныя шары, а ножыкі сыпаліся з ягонага рота, і твар яго так мяняўся, што Марцін палохаўся, як палохаўся ён, калі Глум, бывае, засмяецца. А смяяўся Глум тады, калі Больда прыходзіла да яго ў пакой, каб спяваць разам з ім харалы. Глум спяваў хораша. У яго быў высокі моцны голас. Але варта было заспяваць Больдзе, як на Глума нападаў смех, а смех яго гучаў так, быццам сотні маленькіх ножыкаў рассякалі паветра. Калі Больда працягвала спеў, нягледзячы на смех Глума, Глум вельмі злаваўся і гаварыў з маленнем:

— Ох, Больда, ты псуеш мне нервы.

Глума прывёў дзядзька Альберт, ён падабраў гэтае бяззубае і безвалосае страшыдла, якое прасіла работы каля брамы мармеладнай фабрыкі, а вартаўнік адпіхваў яго. Дзядзька Альберт прывёў Глума з сабой, а бабуля добра аднеслася да яго, і гэта было вялікім плюсам для бабулі, яна і да Больды, нягледзячы на іх лаянкі, адносілася добра.

Да Больды можна было прымяніць тое ж загадкавае слова, якое маці так часта ўжывала, гаворачы сама пра сябе: «Сурочаная». Больда была адных гадоў з бабуляй, і кожнага разу, калі яна пачынала расказваць пра сябе, выходзіла так, што жыццё ў яе вечна мянялася. Спачатку яна была манашкай, затым выйшла замуж, муж яе памёр, яна зноў выйшла замуж, і калі бабуля сварылася з Больдай, яна называла яе «беглая манашка» і «двойчы ўдава», а Больда хіхікала. Больда, зразумела, была «сурочаная», але добрая, а Глум ней-

кі дзіўны, нават страшны, але таксама добры. Калі Больда пачынала расказваць пра сваё жыццё, у яе ўсё збівалася ў адну кучу: манастыр, замужжа, удоўства, спачатку першае, затым другое. Яна магла пачаць так: «Калі я жыла ў манастыры», праз два сказы яна раптам гаварыла: «Калі я мела лаўку ў Кобленцы, электратавары, разумееш? Ну, прасы там усялякія, пліткі», затым зноў пераскоквала на манастыр і распісвала свой пасаг. «Калі я аўдавела першы раз»,— і зноў нечаканы пераход: «Харошы быў чалавек».

— Хто?

— Ды вось, другі мой, ён, на шчасце, не займаўся гандлем, ён быў чыноўнікам. Служыў у паліцыі маралі.

— У якой паліцыі?

— Гэтага табе не зразумець. Ад іх я, дзякуй Богу, і пенсію атрымліваю.

Няўцямныя намёкі пра функцыі паліцыі маралі наводзілі Марціна на падазрэнне, што яна мае нейкія адносіны да распуснага і бессаромнага,— і ад гэтай паліцыі Больда і мае пенсію. У расказах Больды фігуравалі кусты, якія, мяркуючы па ўсім, абшарваў яе муж. І Марцін успомніў, чым займаліся ў кустах Грэбхакэ і Вольтэрс,— яны займаліся бессаромным: барвовыя твары, расшпіленыя штаны, гаркавы пах свежай зелені.

— Свінства ўсё гэта,— прыгаворвала Больда, заходзячы да Глума, калі Марцін сядзеў у яго, а Глум, слухаючы яе байкі, толькі галавой хітаў, ды так ціха і цярпліва, што Больда проста з сябе выходзіла і крычала яму: — Што ты разумееш у культуры, стары ты...

Яна дарэмна шукала падыходзячае слова і нічога іншага не знаходзіла, як «стары турак». Глум заліваўся смехам, і быццам сотні нажоў рассякалі паветра. Толькі навошта было тады хадзіць да Глума, калі яна так злуе на яго? А хадзіла яна часта, размаўляла пра снеданне, хоць, здавалася, пра што тут гаварыць,— усе заўсёды мелі аднолькавы сняданак, праўда, канешне, кожны меў свой, і не такі, як у астатніх, але кожны з дня ў дзень атрымліваў адно і тое ж. Маці піла натуральную каву, такую ж моцную, якую піў і дзядзька Альберт; для іх з Глумам варылі сурагат, а Больда піла гарачае малако з мёдам. Кожны атрымліваў кубак кавы, накрыты каўпачком, нарэзаны

хлеб, масла, каўбасу або мармелад на талерачцы — падрыхтоўваць усё гэта было абавязкам Больды. Але кожны, калі [redacted] ён ні ўставаў, павінен быў сам прыносіць сабе сняданак з кухні.

Больда была «сурочаная», але добрая, маці таксама «сурочаная», і ён меў падазрэнне, што яна да таго яшчэ і распусная — прыглушаны шэпт у пярэдняй: *«Дзе ты толькі швэндаешся?»* Глум быў не сурочаны, але дзіўны і добры, а дзядзька Альберт і зусім добры, хоць не дзіўны і не сурочаны. Альберт быў гэтакі ж, як бацькі ў іншых хлопчыкаў. Да бабулі слова «сурочаная» не падыходзіла і слова «дзіўная» — таксама. Уласна кажучы,— ён гэта добра ведаў,— бабуля таксама добрая, не *ўвогуле* добрая, не проста добрая, а *ўласна кажучы*, і ніяк нельга было зразумець, чаму настаўнік так нападае на словы *ўвогуле, уласна кажучы* і *іначай* — гэтыя словы дапамагаюць выказаць паняцці, якія нізавошта не выказаць без іх. Больда, напрыклад, увогуле добрая, маці таксама. Але маці, верагодна, *уласна кажучы*, распусная. Між іншым, апошняе трэба яшчэ абдумаць, і ён баяўся, што, як ні думаў, ні да чога добрага гэта не прывядзе.

Больда і бабуля ведалі адна адну яшчэ з дзяцінства, і кожная лічыла другую шалапутнай, толькі ў дні вялікага прымірэння — на Каляды або ў іншае вялікае свята — яны сядзелі, абняўшыся, і ўспаміналі: «Мы ж разам пасвілі кароў, а ты помніш, што... а ты помніш, як... а ты помніш, чаму...». І яны ўспаміналі злы вецер у гарах, хацінкі, складзеныя з вецця, камянёў і саломы, і як яны гатавалі каву і суп на палявых кастрах, а пасля яны спявалі песні, якія ніхто не разумеў, і Глум спяваў песні, якія ніхто не разумеў — песні-нажы. Але варта было бабулі сустрэцца з Больдай у любы іншы дзень, як зараз жа паміж імі ўсчыналася лаянка. Бабуля, тыцкаючы пальцам у лоб, гаварыла:

— Як была кранутай, так і засталася.

Больда адказвала гэтакім жа жэстам і гаварыла:

— А ты заўсёды была ненармальная, ды яшчэ ў дадатак...

— Што «ў дадатак»? — крычала бабуля, але на гэтае пытанне Больда ніколі не адказвала.

Прычынай сваркі часцей за ўсё былі Больдзіны кулінарныя рэцэпты: параная рэпа, саладкаватая поліўка з дранай бульбы на знятым малацэ, запраўленая

распушчаным маргарынам, суп на знятым малацэ, якому яна, па словах бабулі, «наўмысна дае падгарэць». «Яна наўмысна так робіць, гэтая свіння, яна хоча прыпомніць мне маё ніпгчымнае дзяцінства. Я яе вышпурну з дому. Дом мой, каго захачу, таго і пасялю, а яе вышпурну!» Але яна не вышпурвала Больду. Больда жыла ў гэтым доме амаль столькі ж, колькі і Глум, і здаралася, што бабуля нясмела пракрадвалася на кухню, каб паспытаць Больдзінага варыва: кашу з рэпы, суп на знятым малацэ і кіслы чорны хлеб, які Больда раздабывала недзе ў горадзе. І тады па квітнеючым твары бабулі каціліся слёзы і падалі проста ў талерку, з якой яна стоячы ела, а па твары Больды, худым, белым, як папера, прабягала нязвыклая, добрая ўсмешка, ад якой ён рабіўся зусім маладым.

Абед кожны ладзіў самастойна. У Глума быў звычайны суп, а ў халадзільніку і на кухонных паліцах ляжалі ягоныя гуркі, дыні, бульба і вялікія ліловыя колцы крывяной каўбасы, якая, уласна, і не была нават каўбасой. У Больды заўсёды ў запасе была нейкая бясколерная вадкасць, якая павольна закісала ў рудых эмаліраваных гаршках. У бабулі ў халадзільніку было сваё, самае вялікае аддзяленне. Там ляжалі каўбасы, біфштэксы, горы вялікіх свежых яек, садавіна і гародніна; бывала, яна гадзін каля чатырох па абедзе з цыгарэтай у роце сама станавілася каля газавай пліты і, мурлычучы песню, пачынала нешта смажыць, выпускаючы праз нос клубы дыму. Даволі часта яна званіла ў рэстаран і заказвала гарачы абед: гарачыя, як агонь, срэбраныя судкі, высокія бакалы з марожаным з вянком збітых пышнай шапкай вяршкоў, чырвонае віно; нават каву прыносілі ёй з рэстарана. Але гэтак жа часта яна ўвогуле нічога не ела пасля снедання, а часам у ранішнім халаце блукала па садзе з нязменным «Тамагаўкам» у роце, надзявала старыя скураныя пальчаткі і зразала крапіву, зараслі якой ішлі ўздоўж замшэлай агароджы і вакол альтанкі. Бабуля клапатліва выбірала самыя маладыя і зялёныя парасткі, загортвала іх у газету, потым рабіла на кухні салату і ела яе з кіслым чорным хлебам з запасаў Больды. Часам маці забывала прыгатаваць абед для яго і Альберта. Сама яна ела мала — на сняданак грэнкі, яйка, але піла шмат кавы. Калі маці была дома, яна ў тры-чатыры гадзіны раптам прахоплівала-

ся, што добра было б прыгатаваць абед: умомант у яе закіпаў суп з кансерваў, з'яўляліся маленькія місачкі з салатай, але было і так, што суп яна брала з запасаў Глума, хуценька разагравала яго, а ўзамен клала Глуму колца каўбасы або пачак табакі; вечарам Глум, ухмыляючыся, падліваў у сваю каструлю роўна стольні вады, колькі маці ўзяла з яе супу. Але часцей за ўсё маці раптоўна некуды з'язджала, так і не згатаваўшы абеду, тады абедам займаўся дзядзька Альберт: ён браў у Больды яе кашу ■ рэпы, запраўляў яе маслам і малаком, пёк на скорую руку блінцы або яешню. Але здаралася і так, што ні Альберта, ні маці, ні Больды, ні Глума дома не было: тады Марціну нічога не заставалася, як адліць крыху супу з каструлі Глума, падагрэць яго або пакорпацца ў пакоі маці — ці не знойдзецца там шакаладу або пячэння. Ісці да бабулі не хацелася. Яна пачне смажыць мяса або павязе яго ў горад, і тады ўжо пойдзе прадстаўленне «Вялікая княгіня і яе блявун».

Але бульба, смачная бульба, даставалася яму вельмі рэдка: бульба, толькі што звараная ў мундзірах або аблупленая, дымячая, жоўтая, з маслам і з соллю. Бульбу ён вельмі любіў, але ніхто не ведаў пра гэта: нават Альберт і дзядзька Віль не ведалі. Часам яму ўдавалася пераканаць Больду зварыць бульбы: тады на стале з'яўлялася поўная міса гарачай бульбы, зверху кавалак масла, які вельмі павольна раставаў, ён пальцамі браў шчапоць сухой тоўчанай солі, белай як снег, і нетаропка пасыпаў бульбу. Іншыя людзі маглі есці бульбу штодня, і ён зайздросціў ім. Генрых штодня варыў бульбу на вячэру, часам Марцін дапамагаў Генрыху і атрымліваў узнагароду з некалькіх гарачых бульбін. У другіх людзей — ён гэта добра ведаў — усё было па-іншаму; там гатавалі заўсёды ў адзін час і для ўсіх тое ж самае: гародніна, бульба, падліва. Усе елі адно і тое ж: бабулі, маці, бацькі і дзядзькі. І халадзільнікаў у іх не было, дзе кожны мог бы захоўваць свае дзіўныя стравы, і не было вялікіх кухняў, дзе кожны мог бы прыгатаваць для сябе ўсё, што ўздумаецца. У людзей раніцай на стале стаяў вялікі кафейнік, маргарын, хлеб і павідла, і ўсе елі разам, і для ўсіх рабілі бутэрброды і давалі іх з сабой у школу, на службу, на заводы, а яйкі там елі рэдка, дый то толькі дзядзькі і бацькі; і толькі гэта адрознівала іх сняданак

ад снядання астатніх членаў сям'і.

У другіх хлопчыкаў маці варылі, шылі, рабілі бутэрброды — нават распусныя маці, а ягоная маці гатавала вельмі рэдка, ніколі не шыла і не рабіла бутэрбродаў. Пра тое, што ў школу неабходна браць бутэрброды, успамінаў заўсёды толькі дзядзька Альберт.

Здаралася, што і Больда зміласцівіцца і суне яму ў ранец некалькі бутэрбродаў; на шчасце, калі ён адыходзіў у школу, бабуля звычайна спала, яна ж усяляк старалася прыахвоціць яго да мяса, давала яму тоўстыя ружовыя кавалкі смажаніны, вырваныя з коранем парасячыя ножкі, халоднае, барвяна-чырвонае мяса.

На яго вялікую радасць, бабуля, здаралася, з'язджала на цэлы месяц, і тады ўсё атрымлівалася вельмі здорава. Вялікія карзіны, чамаданы, пакеты адпраўляліся на вакзал, выклікалі два таксі, бабуля ўзначальвала калону і ехала ў першым таксі; летам і зімой яна з'язджала на цэлы месяц, і ад яе прыходзіла паштоўка. Горы, рэкі, азёры і «Тысячу разоў цалую хлопчыка і ўсіх астатніх, нават беглую манашку». Тут Больда пырскала і гаварыла: «У дзяцінстве ёй нябось ніхто не спяваў, што ёй суджана ездзіць на воды». Размашыстыя каракулі пакрывалі паштоўку, літары былі такія вялікія, як на пачку цыгарэт. Прыходзілі ад яе і пасылачкі — ліпкія, нязвыклыя, склееныя ў духаце паштовых аддзяленняў прысмакі, цацкі, сувеніры і «Тысяча пацалункаў! Твая бабуля».

Калі бабуля ад'язджала, Марцін думаў пра яе з пяшчотай і нават расчулена, таму што не адчуваў над сабой непасрэднай пагрозы: былі дні, калі ён хацеў, каб яна была ўжо дома,— без яе дом здаваўся пустым і сціханым, і пакой яе быў замкнёны, і ён не мог разглядваць вялікі фотаздымак бацькі, і не было каму крычаць: «*Кроў у мачы*».

Больда рабілася ціхай і самотнай, калі ад'язджала бабуля, і нават калі прыходзілі шматлікія маміны госці, яму здавалася, што дом не такі поўны, як пры ёй.

Але чым бліжэй быў дзень вяртання, тым мацней хацеў ён, каб яна даўжэй заставалася там. Ён не хацеў, каб яна памерла, хай сабе жыве, толькі дзесьці далёка, ён вельмі баяўся яе наскокаў. Пасля вяртання яна заўсёды старалася нагнаць упушчанае. Наладжва-

ла дома піры, замаўляючы ўсё па тэлефоне: паслужлівыя бледныя хлопчыкі ў белых куртачках праносілі праз пярэднюю срэбраныя судкі, бабуля з прагным бляскам у вачах сачыла за ўсім, кухар на кухні не даваў астыць ужо прынесеным стравам, а бледныя хлопчыкі снавалі паміж кухняй і бабуліным пакоем. Біфштэксы з кроўю, гародніна, салата, смажаніна, а калі прыходзіў час дэсерту, кухар званіў у рэстаран, жвавы крэмавы аўтамабільчык прывозіў каву і марожанае, пірожныя і фрукты ў цукры. У памыйнае вядро ляцелі абгрызеныя косці, і шалясценне вырваных чэкаў сведчыла пра заканчэнне трапезы і пачатак яго пакут, бо, падсілкаваўшыся ежай і раскурыўшы свежую цыгарэту, бабуля клікала Марціна да сябе, каб ліквідаваць прабелы ў яго выхаванні.

— Пытанне пяцьдзесят першае. Калі паўстануць мёртвыя?

— Мёртвыя паўстануць у дзень Страшнага суда.

— Твой бацька загінуў, так?

— Так.

— Што азначае «загінуў»?

— Загінуў на вайне — быў забіты.

— Дзе?

— Пад Калінаўкай.

— Калі?

— Сёмага ліпеня тысяча дзевяцьсот сорак другога года.

— А калі нарадзіўся ты?

— Восьмага верасня тысяча дзевяцьсот сорак другога года.

— Як звалі чалавека, які вінаваты ў смерці твайго бацькі?

— Гезелер.

— Паўтары гэта імя.

— Гезелер.

— Яшчэ раз.

— Гезелер.

— Ці ведаеш ты, што значыць адабраць у дзіцяці бацьку?

— Так.

Ён гэта ведаў.

Бывала, тры дні запар яна кожны дзень клікала яго ў свой пакой і кожны раз пытала адно і тое ж:

— Што загадаў нам Гасподзь у шостай і дзевятай запаведзі?

— Гасподзь загадаў нам у шостай і дзевятай запаведзі быць сарамлівымі і цнатлівымі.

— Як спытаюць за грэх бессаромнасці?

Ён хутка і без запінкі барабаніў:

— «Ці не глядзеў я на бессаромнае з ахвотаю?
Ці не слухаў я бессаромнае з ахвотаю?
Ці не марыў я пра бессаромнае з ахвотаю?
Ці не жадаў я бессаромнага?
Ці не прамаўляў я бессаромнае з ахвотаю?
Ці не тварыў я бессаромнага? (Адзін або з таварышамі)».

Ён так і гаварыў:

— У дужках: адзін або з таварышамі.

І на заключэнне:

— Вось падрасцеш, тады ты зразумееш, чаму...

Грэбхакэ і Вольтэрс рабілі ў кустах бессаромнае: барвовыя твары, расшпіленыя штаны і гаркавы пах свежай зелені. Незразумелая валтузня і незразумелы дзіўны спалох, разгубленасць на іх тварах ашаламілі яго і змусілі падазраваць нешта кепскае. Ён не ведаў, чым займаліся Грэбхакэ і Вольтэрс, але разумеў, што яны рабілі нешта бессаромнае. На пытанне пра шостую запаведзь ім прыйдзецца адказаць — «так», і не проста «так», але і «з таварышамі». [redacted] таго часу як ён даведаўся, што рабілі Грэбхакэ і Вольтэрс, ён пільна сачыў за выразам твару капелана падчас урокаў Закона Божага, таму што абодва хадзілі да гэтага капелана спавядацца. Але твар капелана, калі ён звяртаўся да Грэбхакэ і Вольтэрса, заставаўся нязменным. А раптам Грэбхакэ і Вольтэрс не сказалі на споведзі пра гэта, хоць і хадзілі да прычасця? Ён замёр, калі такая думка прыйшла яму ў галаву, і твар заліўся чырванню, што нават бабуля спытала: «Што з табой?» А ён адказаў: «Нічога, гэта ад дыму», і бабуля паспяшала скончыць сваю лекцыю, вырвала чэк, тады ён пайшоў да дзядзькі Альберта і проста з парога выпаліў:

— А Грэбхакэ і Вольтэрс рабілі нешта бессаромнае.

Дзядзька Альберт адразу ж змяніўся [redacted] твару, ён прыкусіў вусны, крыху збляднеў і спытаў:

— Дзе, што ты бачыў? Адкуль ты гэта ўзяў?

Гаварыць было нялёгка, але ён працягваў:

— У кустах.— І яшчэ, заікаючыся, дадаў: — Шта-

ны расшпіленыя, твары чырвоныя-чырвоныя.

Дзядзька Альберт спакойна набіў люльку, закурыў і павольна, крыху павольней, чым звычайна, загаварыў пра прыцягненне полаў, пра прыгажосць жанчыны. Не забытымі засталіся Адам і Ева, у голасе дзядзькі Альберта гучала натхненне, крыху смешнае, калі ён распачаў апяваць прыгажосць жанчын і імкненне мужчын з'яднацца з імі, ціхае і незразумелае захапленне.

— Увогуле ж,— дзядзька Альберт выбіў люльку невядома чаму, бо табака яшчэ тлела, і закурыў проці звычайнага цыгарэту,— увогуле ж ты ўжо, пэўна, ведаеш, што ад гэтага нараджаюцца дзеці — ад сужыцця мужчын з жанчынамі.

Зноў былі памянуты Адам і Ева, затым кветкі, жывёлы, карова ў Бітэнхане — і зноў Адам і Ева; словы дзядзькі Альберта гучалі вельмі разумна, спакойна і пераканаўча, але Марцін так і не зразумеў, чым жа, уласна, займаліся ў кустах Грэбхакэ і Вольтэрс, ён сам добра нічога не разгледзеў і здагадацца таксама не мог: расшпіленыя штаны, барвовыя твары і гаркавы пах свежай зелені.

Дзядзька Альберт гаварыў доўга пра некаторыя таямніцы, якія яму, Марціну, яшчэ рана ведаць, пра цёмныя сілы, пра тое, як цяжка юнаку дачакацца таго часу, калі ён саспее для збліжэння з жанчынай. Зноў былі ўспамянуты кветкі і жывёлы.

— Ну, напрыклад, зусім маладая цялушачка,— сказаў дзядзька Альберт,— яна яшчэ не можа злучыцца з быком, яна яшчэ не можа мець дзяцей — праўда ж? Але гэта не азначае, што цёлка не мае полу. Пол ёсць ва ўсіх жывёл, ва ўсіх людзей.

Не адну цыгарэту выкурыў дзядзька Альберт, ён часта запінаўся ў час гэтай размовы.

А Марцін падумаў: «Трэба яшчэ спытаць пра распусту, пра дзядзькаў і пра жаніцьбу».

— Ты ж быў жанаты там, у Англіі?

— Так.

— А ты сужыцельстваваў са сваёй жонкай?

— Так,— адказаў дзядзька Альберт, і, як ні прыглядаўся Марцін, ён не заўважыў аніякай змены ў твары дзядзькі Альберта, ніколечкі збянтэжанасці.

— А дзяцей чаму ў цябе не было?

— Не ад усялякага сужыцця бываюць дзеці,—

адказаў дзядзька Альберт, затым зноў пайшлі кветкі і звяры, а пра Адама і Еву — ні слоўка, і ён перапыніў дзядзьку Альберта:

— Значыць, правільна тое, што я думаў?

— Што ты думаў?

— Жанчына можа быць распуснай, нават калі ў яе няма дзяцей ад таго мужчыны, з якім яна жыве,— вось як у маці Вельцкама?

— Д'ябал! — сказаў дзядзька Альберт.— Што гэта ты прыдумаў?

— Таму што ў Брылаха маці распусная,— у яе ёсць дзіця, і яна жыве з мужчынам, які ёй не муж.

— Хто табе сказаў, што яна распусная?

— Брылах сам чуў, як дырэктар гаварыў інспектару: «Ён жыве ў жахлівых умовах, у яго зусім распусная маці».

— Ах, так,— сказаў дзядзька Альберт, і Марцін зразумеў, што ён вельмі раззлаваўся, і дадаў ужо не так упэўнена:

— Праўда, праўда, Генрых гэта пачуў, ды ён і сам ведае, што маці ў яго распусная.

— Няхай сабе,— сказаў дзядзька Альберт,— яшчэ што?

— Яшчэ,— адказаў Марцін,— у Вельцкама маці таксама распусная, хоць і не мае дзяцей. Я ведаю.

Дзядзька Альберт нічога не адказаў, ён толькі паглядзеў на яго здзіўлена і вельмі пяшчотна.

— Бессаромна — гэта тое, што робяць дзеці,— раптам пачаў Марцін, бо гэтая думка толькі што прыйшла яму ў галаву,— распусна — тое, што робяць дарослыя, але вось Грэбхакэ і Вольтэрс — яны таксама сужыцельствалі?

— Не, што ты,— адказаў дзядзька Альберт, і тут ён увесь счырванеў,— гэта не тое, яны заблыталіся, збіліся са шляху; не думай больш пра гэта і заўсёды пытай у мяне, калі пачуеш тое, што не зможаш зразумець.— Голас Альберта гучаў пераканаўча і сур'ёзна, але па-ранейшаму пяшчотна.— Запомніў? Заўсёды пытай у мяне. Лепш, калі пра ўсё пагаворыш адкрыта. Я ведаю далёка не ўсё, але тое, што я ведаю, я табе растлумачу абавязкова, не забудзься толькі спытаць.

Заставалася яшчэ слова, якое маці Брылаха сказала кандытару. Ён падумаў пра яго і пачырванеў, але вымавіць гэтае слова ён нізавошта не адважыўся б.

— Ну,— спытаў дзядзька Альберт,— што ў цябе яшчэ?

— Нічога,— адказаў Марцін і пасаромеўся спытаць пра сваю маму — ці распусная яна? Гэта ён спытае пасля, праз доўгі-доўгі час.

З гэтага дня дзядзька Альберт пачаў аддаваць яму значна больш часу. Ён часта браў яго з сабой катацца на аўтамабілі, дый маці — а можа, гэта толькі так здалося яму — вельмі змянілася з гэтага дня. Маці змянілася, і Марцін не сумняваўся, што дзядзька Альберт з ёй пагаварыў. Часам яны ездзілі ўтраіх, і Генрых мог прыходзіць да яго, калі захоча, а часта яны і Генрыха бралі з сабой, калі ездзілі на машыне ў лес, на азёры, або ўсе разам хадзілі ў кіно, або есці марожанае.

І кожны дзень — відаць, пра гэта між імі было дамоўлена — яны пачалі праглядаць ягоныя дамашнія заданні, правяралі яго, дапамагалі, і абое — маці і Альберт — былі ласкавыя з ім. Маці зрабілася такой цярплівай, больш сядзела дома і нейкі час яго штодня кармілі абедам і нават бульбай, але толькі нейкі час. Цярпення ў яе хапіла ненадоўга. І вось зноў яна пачала рэдка бываць дома, і абедаць яму даводзілася не кожны дзень. Не, на маці нельга было спадзявацца так, як ён мог, па-іншаму, зразумела, спадзявацца на Глума, Альберта і Больду.

## 11

Нэла стаяла за зялёнай шторай, курыла, выпускаючы клубы дыму ў прастору паміж шторай і акном, і назірала, як на сонцы рассейваецца дым і цягнецца ўверх вузкімі струменьчыкамі — бясколерная сумесь з пылу і дыму. Вуліца была пустая. Каля пад'езда стаяла машына Альберта, верх яе яшчэ не высах пасля начнога дажджу, хоць на бруку не было і следу ад лужын. У гэтым жа пакоі, за гэтай жа зялёнай шторай яна стаяла дваццаць гадоў назад і назірала за юнымі паклоннікамі, якія з ракеткамі ў руках таропка ішлі па алеі. Дурнаватыя і чуллівыя героі, яны нават не здагадваліся, што за імі сочаць. У цені царквы, якраз насупраць дома, яны спыняліся, яшчэ раз паспешліва праводзілі грабянцом па валасах, аглядалі пазногці,

крадком пералічвалі выцягнутыя з кашалька грошы і перакладвалі ў кішэню, каб мець іх пад рукой — яны лічылі гэта прыкметай зухаватасці. А зухаватасць была для іх важней за ўсё; крыху задыхаўшыся, падыходзілі яны да дома, наступаючы на чырвонае лісце каштанаў, што засыпала гародчык,— яго збіла першым дажджом, і зараз жа даносіўся званок. Але нават самыя зухаватыя з іх гаварылі, думалі, дзейнічалі гэтак жа дакладна, як дзейнічалі, думалі і гаварылі маладыя, зухаватыя тэнісісты ў кінакарцінах. Яны ведалі, што розумам не вылучаюцца, але і гэта лічылася зухаватасцю, хоць нічога па сутнасці не мяняла; розумам яны і сапраўды не вылучаліся.

Вось ужо новы герой ідзе па алеі, у руках тэнісная ракетка, ён расчэсвае валасы ў цяні царквы, аглядвае пазногці, вымае грошы з кашалька і нядбайна кладзе іх у кішэню — ці прывід гэта крочыць на дыване з чырвонага лісця, ці гэта проста кінастужка? Бываюць фільмы, якія здаюцца ёй жыццём, яна сама асудзіла сябе на гэтае жыццё, заплаціўшы адну марку восемдзесят пфенігаў за білет, а жыццё здаецца ёй кепскім фільмам. Вельмі падобна: цёмныя валасы мільгаюць перад вачыма, празрыстая шэрая плёнка старой кінастужкі,— вось юны герой з тэніснай ракеткай, мільгануў у цяні царквы, выходзіць на вуліцу, ён спяшаецца да нейкай маладой дзяўчыны тут па суседстве.

Не паварочваючыся, яна пытае:

— Хіба ў гэты час ужо адчынены тэнісныя корты?

— Канешне, мама,— адказвае Марцін,— некаторыя дык адчыняюцца нават раней.

Між іншым і тады было ўсё гэтак жа сама, але гэта ёй было без патрэбы: яна любіла позна ўставаць і не вельмі захаплялася тэнісам. Але ёй падабалася пасыпаная чырвоным пяском пляцоўка і зялёныя, ярказялёныя бутэлькі з ліманадам на белых століках. Рэзкі пах паветра, саланаваты пах туману, што падымаўся над Рэйнам, часам да гэтага паху прымешвалася горыч, калі міма праходзіла свежапрасмаленая баржа і вымпелы параходаў павольна праплывалі над купамі дрэў, быццам нябачная рука, схаваная за кулісамі, прыводзіла іх у рух. Клубы вугальна-чорнага дыму, працяжныя гудкі, гук падкінутых мячоў і мяккі стук імгненнага ўдару ракетак, звонкія, адрывістыя воклічы партнёраў.

Юны герой прамчаўся міма дома. Яна нават пазнала яго: такая жаўтавая скура толькі ў сямейства Надольтэ, жаўтавая скура і светлыя валасы, незвычайнае размеркаванне пігменту, якое ўжо Вільфрыду Надольтэ, бацьку гэтага героя, надавала асаблівую пікантнасць, ад яго яна перайшла да сына. Магчыма, і ў сына на твары выступае гэтакі ж пот з вострым пахам і гэтак жа адлівае зялёным на жоўтай скуры, ад чаго ўсе ўспацелыя Надольтэ нагадваюць абпырсканыя купарвасам трупы. Ягоны бацька — лётчык — быў збіты недзе над Атлантычным акіянам, і ніколі не будзе знойдзены яго труп. Але нават і гэтая паэтычная смерць — смерць Ікара, пераможанага каварным ворагам, як выказаўся тады патэр, нават гэтая паэтычная смерць не перашкодзіла ягонаму сыну зрабіцца ўдзельнікам дрэннага кінафільма, статыстам, які ўсё прымае ўсур'ёз; праўда, ён няблага спраўляўся са сваёй роляй: ён быў менавіта такім, як і ўсе тэнісісты ў кепскіх фільмах.

Яна патушыла цыгарэту ў вузкім мармуровым жалабку на падаконніку, дзе яшчэ заставаліся сляды начнога дажджу, і вызваленую правую руку прадзела ў вялікую пятлю з залатой парчы; гэтая пятля, як і ўся штора, перажыла вайну. У дзяцінстве яна марыла хутчэй падрасці, каб, стоячы каля акна, прасоўваць правую руку ў гэтую пятлю. Яна даўно падрасла, і ўжо дваццаць гадоў яна лёгка дастае рукой да пятлі.

Яна чуе за спіной валтузню Марціна: ён здымае накрыўку з кафейніка, намазвае хлеб, стукае лыжкай па краі банкі з павідлам; яна чуе, як храбусцяць грэнкі ў яго на зубах, і трэск, калі ён па звычцы перавернае ў кілішку выедзенае яйка і разбівае шкарлупінне, і візглявае гудзенне электрычнай жароўні для грэнак. Калі яна прачыналася раней звычайнага, каб папіць з хлопчыкам кавы, яе сустракаў у сталовай пах крыху падгарэлага хлеба і плёскат вады, які даносіўся сюды з ваннай, дзе мыўся Альберт. Але сёння плёскату не было чуваць, Альберт, мабыць, яшчэ не мыўся.

— Альберт яшчэ не ўстаў?

— Устаў,— адказаў хлопчык.— Хіба ты не чуеш?

Але яна нічога не чула. Тры дні запар яна ўстае ранічкай, у яе ўжо з'явілася адчуванне нейкага парадку, упарадкаванасці: грэнкі, яйка, кава, шчасстаянства,

лівы твар хлопчыка, калі ён назірае, як яна накрывае на стол, як разлівае каву, калі снедае з ім. Па вуліцы вяртаецца малады Надольтэ, ён з дзяўчынай. Дзяўчына прыгожанькая і вельмі маладая, яна паказвае асляпляльна белыя зубкі, яе вабны кірпаты носік з надзеяй удыхае мяккі паўднёвы вецер. Яна робіць усё, што патрабуе ад яе рэжысёр: усмешка — і яна ўсміхаецца, хітанне галавой — і яна хітае, добра трэніраваная статыстка, якая хутка стане зоркай, яна таксама зведае, чым пахне незвычайны надольтаўскі пот, які, калі ты ў зялёных кустах цалуешся з кімсьці з Надольтэ, надае яго твару падабенства з завялымі лістамі салаты.

Толькі тут Нэла пачула плёскат з ваннай і зразумела, што гэта мыецца Альберт. Ужо на працягу дваццаці гадоў яна ведае яго, і ён, мабыць, уяўляе сабе, што вывучыў яе, а між тым за дваццаць доўгіх год ён так і не змог зразумець, як хвалююць яе мужчынскія туалетныя прыналежнасці і як пакутна для яе тое, што ў іх агульны ванны пакой.

Раніцай, у ваннай, яна ўлюблялася ў абыякавы бляск ягонага прыбора для галення, ён дзейнічаў на яе, як узбуджальны водар, пальцы яе з пяшчотай слізгалі па абыякава выціснутым цюбіку з крэмам для галення, па сіняй баначцы з крэмам для скуры — вось ужо пяць гадоў усё тая ж баначка стаяла тут. Ягоная зубная шчотка, ягоны грабянец, ягонае мыла і запылены флакон з лавандай, колькасць якой ніяк не змяншалася. Здаецца, ужо шмат гадоў вадкасць стаяла якраз на ўзроўні рота ружовай жанчыны, што ўпрыгожвала этыкетку. Жанчына на этыкетцы пастарэла, прыгажосць яе паблякла, і яна з меланхалічнай усмешкай назірала сваё завяданне, як шмат гадоў назад, калі яна была яшчэ новай, і надзеяй пазірала ўдалеч. Твар яе пастарэў, сукенка абнасілася — бедная, змарнелая прыгажуня, яна не прывыкла да такога абыходжання. Ужо занадта даўно стаіць гэты флакон. Як здаецца, Альберт зусім не здагадваецца, якая пакута для яе жыць гэтак блізка з мужчынам, які падабаецца,— і навошта гэтая страшэнная сур'ёзнасць, і навошта толькі ён настойвае на шлюбе з ёй?

Мужчын яна вызначала па тым, як яны падыходзяць да тэлефона. Большасць падыходзіць гэтак, як гэта зазвычай у пасрэдных фільмах: размашыстыя

крокі, твар пыша важнасцю і абыякавасцю, на ім можна прачытаць нешта сярэдняе паміж: «Ах, пакіньце мяне, нарэшце, ў спакоі» і «Усё ж без мяне, значыцца, не абысціся». Затым у гаворку, нават у самую нязначную — а калі ўвогуле размовы бываюць значнымі? — яны спрабуюць уставіць слова накшталт «перагледзець» і «пытанне застаецца адкрытым»; і самы крытычны момант — калі яны кладуць трубку. Хто цяпер умее пакласці трубку не так, як гэта робяць кепскія акцёры? Альберт умее, ды яшчэ ўмеў Рай. Хто можа адмовіцца ад задавальнення ўплятаць падхопленыя дзесьці пярліны дасціпнасці ў свае тэлефонныя размовы, як уплятаюць штучныя кветкі ў яловы вянок. Дый курыць амаль ніхто не ўмее па-іншаму, як гэта робяць у фільмах. Свет перанасычаны эпігонамі, магчыма, Альберт таму і застаецца такім натуральным, што рэдка ходзіць у кіно? Часта яна зайздросціла яго абыякавасці і пакутавала ад таго, што ёй даводзіцца мець зносіны з ідыётамі,— траціць на іх час і раздорваць усмешкі.

Чамадан ужо складзены, яе чакаюць тры дні суму ў Брэрніху, у той час як Альберт паедзе катацца з хлопчыкам. Калі яна думала пра тое, што ў Брэрніху давядзецца ўсе гэтыя дні слухаць Шурбігеля, ёй здавалася гэта раўназначным вечнаму зняволенню ў цырульні: саладкаватая духата, утульная і агідная — і ўсе «наймілейшыя людзі», якіх будзе прадстаўляць патэр Віліброрд. «Ах, няўжо вы яшчэ незнаёмыя? Пара, пара!» Яна асуджана на свецкую балбатню. Чаму ж Альберт бывае здзіўлены, калі яна так імгненна захапляецца кожным, хто хоць крышачку прыемны або здаецца прыемным чалавекам?

Нэла адвярнулася ад акна, павольна абышла вакол авальнага стала і прысунула да яго зялёнае крэсла.

— Кава яшчэ засталася?

— Так, мама.

Марцін устаў, асцярожна зняў з кафейніка каўпак і наліў ёй кавы. Ён ледзь не перавярнуў бляшанку з павідлам. Звычайна ён здаваўся вельмі спакойным і нават запаволеным, але, гаворачы з ёй або робячы нешта для яе, ён рабіўся мітуслівым ад марнага жадання здавацца спрытным. Твар у яго рабіўся заклапочаным, амаль змрочным, як у дарослых, калі яны нянькаюцца з зусім бездапаможнымі дзецьмі, часам ён

уздыхаў, як уздыхаюць дзеці, калі ім прыходзіцца цяжка. Ён зноў уключыў жароўню, паклаў у яе хлеб і пачаў цярпліва назіраць, як ён падсмажваецца, а гатовыя лусты здымаў і выкладваў на краі хлебніцы.

— Ты будзеш яшчэ есці?

— Не, гэта для Альберта.

— А дзе Альбертава яйка?

— Тут,— усміхнуўся ён, затым устаў, падышоў да свайго ложка і падняў падушку: пад ёй ляжала яйка, рудаватае, чысценькае.

— Каб не астыла. Альберт не любіць халодных. Кава яму таксама засталася.

Пра Альберта ён клапаціўся зусім не так, як пра яе. Таму, магчыма, што Альберт больш расказваў яму пра бацьку і паступова стаў незаменным сябрам для хлопчыка. Ва ўсякім разе, калі ён рабіў нешта для Альберта, ён заставаўся зусім спакойным.

Сама яна мала расказвала яму пра Рая. І толькі зрэдку вымала папку, у якой захоўваліся вершы Рая: газетныя выразкі, рукапісы і маленькі зборнік, што ўмясціўся на дваццаці пяці старонках у сіняй вокладцы і які ўпамінаецца зараз у кожным артыкуле пра сучасную лірыку. Нейкі час яна ганарылася, калі сустракала імя Рая ў анталогіях, калі чула ягоныя вершы па радыё і атрымлівала ганарары. Яе наведвалі людзі, якіх яна ніколі не ведала і з якімі не хацела б знаёміцца: юнакі, апранутыя з наўмыснай неахайнасцю, якія ўпіваліся сваёй неахайнасцю, як каньяком; захапленне ў іх было дакладна адмеранае і ніколі не выходзіла з вызначаных рамак. І калі такія людзі з'яўляліся ў яе, яна ўжо ведала, што дзесьці рыхтуецца чарговае даследаванне пра сучасную лірыку. Часам яе дом захлынала сапраўднае паломніцтва, артыкулы ў часопісах з'яўляліся, як грыбы пасля дажджу, ганарары цяклі з усіх бакоў, вершы Рая выдаваліся і перавыдаваліся. Але пасля вытанчана неахайныя юнакі знаходзілі новую ахвяру, Нэла атрымлівала кароткую перадышку, а імя Рая ўсплывала на паверхню ў час чарговага зацішша, бо гэтая тэма была прыдатная для ўсіх часоў: паэт, загінуў у Расіі, праціўнік рэжыму — ці ж гэта не сімвал маладосці, якая прынесла бессэнсоўную ахвяру, або, калі змяніць аспект — ці гэта не сімвал маладосці, якая прынесла ахвяру, поўную глыбокага сэнсу? Вельмі дзіўныя ноткі гучалі ў дакладах

патэра Віліброрда і Шурбігеля! Так ці іначай Рай зрабіўся ўлюбёнай тэмай для ўсемагчымых эсэ, а вытанчана апранутых, неахайных юнакоў, якія займаліся напісаннем эсэ і з пахвальнай нястомнасцю адшуквалі для гэтага новыя сімвалы, развялося багата. Рупна, старанна, дбайна, без распальвання імпэту, але і не змяншаючы яго, яны ткалі габелен культуры — спрытныя шарлатаны, што, як аўгуры, усміхаюцца адзін аднаму пры сустрэчы. Ім аддавалі на водкуп усе вантробы, і па гэтых мізэрных вантробах яны ўмелі прарочыць: яны складалі цягучыя гімны над аголеным, крывавячым сэрцам; у схаваных ад старонняга вока лабараторыях яны адчышчалі ад бруду абпаленыя кішкі ахвярнай жывёліны і ўпотай збывалі пячонку; замаскіраваныя скуралупы, яны выраблялі з падлы не мыла, а культуру, выраблялі самі або аддавалі на водкуп іншым. Мяснікі і прарокі, яны корпаліся ў памыйных вёдрах і складалі оды ў гонар сваіх дасягненняў. Пры сустрэчах яны ўсміхаліся адзін аднаму, усміхаліся, як аўгуры, а Шурбігель быў у іх вярхоўным жрацом, гэты загрузлы ў брудзе чалавекалюбец, увенчаны неапісальнай шавялюрай.

Нянавісць ахапіла Нэлу, і яна з жахам адчула, што пачынае разважаць зусім як Альберт: раскінутае сіло, гатовае паглынуць яе.

Пакуль Рай быў яшчэ жывы, яна настойліва і прагна чакала чарговай пошты, як драпежнік у клетцы чакае мяса: трымаючыся правай рукой за парчовую пельку і схаваўшыся за зялёнай шторай, яна насцярожана сачыла за з'яўленнем паштальёна. Калі ён паказваўся з-за вугла дома святара, наступны ягоны крок вызначаў увесь яе дзень: калі ён пад прамым вуглом перасякаў вуліцу насупраць яе дома, яна ведала, што ён нешта мае і для яе, калі ж ён зварочваў на нябачную дыяганаль, што вядзе да суседняга дома,— тады ў гэты дзень не было ўжо на што спадзявацца. Тады яна ўпівалася пазногцямі ў цяжкую зялёную тканіну, выдзірала з яе ніткі і не адыходзіла ад акна з вар'яцкім спадзяваннем, што паштальён, магчыма, памыліўся і вернецца яшчэ назад. Але паштальён ніколі не памыляўся і ніводнага разу не вярнуўся назад пасля таго, як прайшоў па дыяганалі міма яе дома. Дзікія думкі авалодвалі ёю, калі яна бачыла, што ён канчаткова прамінуў яе дом: ці не ўтойвае ён пісьмы, ці не

ўдзельнічае ён у змове супраць яе і супраць Рая? Садыст у сіняй форме з вышытым на ёй залатым паштовым ражком. Нягоднік пад маскай сціплага абывацеля. Але паштальён не быў ні садыстам, ні нягоднікам; ён быў вельмі добрапрыстойны і шчыра адданы ёй. Яна адчувала гэта, калі ён прыносіў ёй пісьмы.

Вось ужо шмат гадоў яна не бачыць паштальёна, не ведае, як ён выглядае, не ведае, калі ён разносіць пошту. Нечая рука кідала ў скрынку рэкламныя праспекты і пісьмы, нехта выцягваў гэтыя праспекты і пісьмы са скрынкі: усялякія фірмы прапаноўвалі бюстгальтары, рыслінг і какаву. Усё гэта яе не займала. Вось ужо дзесяць гадоў, як яна не чытае ніякіх пісьмаў, нават ёй адрасаваных. На гэта скардзіліся часам і багемныя юнакі — сцярвятнікі ад культуры, што вышукваюць сімвалы ў кішках падлы,— яны неаднойчы скардзіліся на гэта патэру Віліброрду, але ўсё роўна яна не чытала пісем. Адзіны сябра, які застаўся ў яе, жыве ў суседнім пакоі, а калі ён ад'язджае на некалькі дзён, да яе паслуг — тэлефон. Толькі не чытанне пісьмаў. Ад Рая прыходзілі пісьмы ўжо пасля таго, як ён загінуў і калі яна ўжо ведала, што ён загінуў. О, надзейная пошта, спраўны, хвалёны апарат, пошта была ні ў чым не вінаватая, яна дастаўляла адказы на пытанні, якіх ужо ніхто не задаваў.

Толькі не чытанне пісьмаў. Паклоннікі могуць і патэлефанаваць, а калі яны дасылаюць пісьмы, няхай не разлічваюць на адказ. Усе пісьмы нераспячатанымі ляцелі ў сметніцу, а затым іх у дакладна вызначаны тэрмін вывозіў смяцяр. Апошні ліст яна прачытала адзінаццаць гадоў назад, яго напісаў Альберт, ён быў вельмі кароткі: Рай загінуў. Яго забілі ўчора. Ён загінуў з-за аднаго нягодніка. Запомні імя вінаватага: яго завуць Гезелер. Пасля напішу больш падрабязна.

Яна запомніла імя Гезелера, але і пісьмы ад Альберта перастала распячатваць. Таму яна і не даведалася, што ён паўгода прасядзеў у турме: дарагая плата за аплявуху па прыгожанькай, нічым не адметнай фізіяноміі. І афіцыйнага паведамлення пра смерць яна не захацела чытаць. Яго прынёс святар, але яна адмовілася прыняць святара, які ўзносіў раскацістым басам урачыстыя малітвы за айчыну, які ўсяляў у душы патрыятычны ўздым, які вымольваў перамогу,— яна

не хацела бачыць яго. Ён стаяў з яе маці за дзвярыма і прасіў:

— О Нэла, дарагая Нэла, адчыніце!

I да яе даносіўся шэпт:

— Спадзяюся, бедная дзяўчынка нічога над сабой не ўчыніць.

Не, яна нічога не збіралася над сабой учыняць. Хіба ён не ведае, што яна цяжарная?

Ёй непрыемна было слухаць яго: фальшывы пафас, завучанае семінарскае красамоўе — у асобных мясцінах яно патрабавала асаблівых інтанацый. Хваля фальшывых пачуццяў, няўлоўная хлусня, эфектныя раскаты і, як фінал, падобнае на ўдар грому слова «пекла». Навошта гэты крык, гэтае галашэнне? Ілжывы пафас, якім семінарскі настаўнік рыторыкі нашпігаваў два пакаленні патэраў, лунаў над сотнямі тысяч людзей.

«Адчыніце, дарагая Нэла».

Навошта? Ты мне патрэбны толькі таму, што мне патрэбны Бог, а я яму, і калі ты мне спатрэбішся, я сама прыйду да цябе; грымі сваім раскацістым «р» у словах «Германія» і «фюрэр», пазвоньвай сваім «н» у слове «народ» і прыслухайся да ўбогага рэха, народжанага тваім ілжывым пафасам пад скляпеннямі капэлы — «...юрэр», «...арод», «...ерманія...».

«Будзем спадзявацца, што яна нічога над сабой не ўчыніць».

Так, я нічога не ўчыню, але дзвярэй не адчыню: мільёны ўдоў, мільёны сірот — за фюрэра, за народ, за Германію.

О бязгрэшнае рэха, ты не вернеш мне Рая!

Яна чула, як патэр пакрыўджана сапе ў пярэдняй, чула, як ён шэпчацца з маці, і на нейкае імгненне ёй зрабілася шкада яго, пакуль зноў у вушах не зазвінела патэтычнае рэха.

Зноў Гезелер, зноў замкнулася кола? Дзесяць гадоў назад — ліст Альберта, зараз — прыветная ўсмешка патэра Віліброрда: «Дазволь прадставіць табе пана Гезелера». Затым запрашэнне ў Брэрніх — чамадан складзены і стаіць каля кніжнай шафы.

Вуліца перад домам была пустая. Было зусім яшчэ рана, малочнік яшчэ не дайшоў да іх, зрэбныя мяшэчкі з хлебам яшчэ віселі на дзвярных ручках, а ў доме чуўся смех: Альберт правяраў, як хлопчык падрыхтаваў урокі: *Калі не даруеш нам, Гаспадзь, гра-*

*хі...* — зноў смех. Ішоў фільм, у якім яна не жадала іграць, фільм пад назвай «Сямейнае шчасце». Усміхаецца дзіця, усміхаецца будучы бацька, усміхаецца маці; раўнавага, шчасце, будучыня. Усё здавалася ёй вельмі знаёмым, наўздзіў блізкім і знаёмым: усмешлівае дзіця, усмешлівая маці і Альберт, які ўсміхаецца ў ролі бацькі? Не, не, яна закурыла цыгарэту і, трымаючы яе ў руцэ, глядзела на блакітнаватыя клубы дыму, якія павольна паднімаліся. Жонка Альберта, здаецца, любіла паветраныя шары больш за мэблю, часовае большае за пастаяннае, і аддавала перавагу мыльным бурбалкам перад запасам пасцельнай бялізны. «О, халаднаватае палатно ў шафе гаспадыні». Усмешлівы бацька, усмешлівы сын, але яна не жадае разыгрываць усмешлівую маці дзеля поўнай пафасу хлусні, якая разносіцца з капэлы, як рэха.

Марудна датлявала цыгарэта ў яе руцэ, светлы, сіні дым ткаў прывідныя ўзоры, а за сцяной гучаў голас хлопчыка, што адказваў Альберту ўрок: *З прадоння звяртаюся да цябе, о Гасподзь...*

Колькі гадоў пакутуе яна ад думкі пра тое, як усё гэта магло б скласціся: шмат дзяцей, дом, а для Рая справа, пра якую ён марыў — мара пра шчасце, якую ён пеставаў з юначых гадоў, мара, якую пранёс праз сталыя гады, праз гады нацызму і вайну, мара, пра якую ён пісаў у сваіх пісьмах: мара выдаваць часопіс, мара ўсіх мужчын, якія маюць хоць нейкае дачыненне да літаратуры.

Яна ведае не менш за дваццаць чалавек, якія носяцца з намерамі выдання часопіса. Нават Альберт і той ужо некалькі гадоў вядзе перамовы з уладальнікам друкарні, якога ён кансультуе па пытаннях афармлення; нават Альберт хоча заснаваць сатырычны часопіс.

Нягледзячы на скепсіс, лёгкі скепсіс, з якім яна ў глыбіні душы адносілася да гэтага праекта, ёй прыносіла задавальненне ўяўляць сабе, як яна з Раймундам сядзіць у адным пакоі, дзе размяшчаецца і рэдакцыя: на сталах грувасцяцца кнігі, вакол раскіданыя гранкі, вядуцца бясконцыя тэлефонныя размовы пра ўсялякія навіны, і да ўсяго радаснае разуменне, што нацыстаў больш няма і вайна скончана. Яна магла глядзець гэты фільм, пакуль ішла вайна. І яна бачыла гэтае жыццё, выразна бачыла; яна ўдыхала гаркавы

пах свежай друкарскай фарбы, якая адціснулася на тоўстай паперы, яна бачыла, як сама яна коціць у пакой чайны столік і п'е з наведвальнікамі каву, як частуе іх цыгарэтамі з вялікіх светла-блакітных бляшаных карабкоў, а дзеці тым часам шумна бегаюць па садзе. Малюнак з часопіса «Культура побыту»: дзеці скачуць вакол шланга, на вокнах апушчаныя жалюзі, на стале раскіданыя страшэнна скрэсленыя почыркам Рая гранкі, аловак мяккі, вельмі тлусты. Ажылы малюнак з часопіса «Культура побыту»: на кватэры ў пісьменніка спакойнае зялёнае святло, ва ўсім адчуванне шчасця, нехта звоніць — голас Альберта, ён пытае: «Ты чытаў новую рэч Хемінгуэя?» — «Не, не, артыкул ужо замоўлены». Смех. Рай такі шчаслівы, як ён бываў шчаслівы толькі да 1933 года. Да драбнейшых дэталяў паўставаў гэты малюнак у яе ўяўленні — яна бачыла Рая, свае ўборы, карціны на сценах, бачыла сябе схіліўшыся над вялікімі, з густам падабранымі вазамі, яна лушчыць апельсін, яна накладвае горкай арэхі, яна прыдумвае напоі, якімі будзе частаваць у летнюю спякоту: дзіўна прыгожыя сокі, чырвоныя, зялёныя, блакітныя, у бакалах плаваюць ільдзінкі, і пераліваюцца пярлінкі вуглекіслаты; Рай пырскае ў твар разгарачаным дзецям, што прыбеглі з саду, газіраванай вадой, і голас Альберта ў тэлефоннай трубцы: «Я вам кажу, што малады Базулькэ — гэта талент». Фільм, адзняты да канца, які, аднак, так і не ўбачыў экрана. Нікчэмная няздара абарвала стужку.

— *Хто застанецца праведным?* — спытаў хлопчык за сцяной, а Альберт пастукаў кулаком у сцяну і крыкнуў:

— Цябе да тэлефона, Нэла.

Яна адазвалася:

— Дзякуй, іду,— і павольна пайшла да тэлефона. Альберт таксама ўдзельнічаў у яе марах: ён незаменны сябра, для яго яна з асаблівай дбайнасцю ўзбівае самыя вытанчаныя кактэйлі. Ён застаецца ў іх, калі іншыя госці ўжо даўно разышліся. Але цяпер, бачачы, як ён сядзіць на ложку з недаедзеным бутэрбродам у руцэ, яна спалохалася: Альберт пастарэў, выглядаў вельмі стомленым, валасы ў яго парадзелі, і цяпер ён рашуча не падыходзіў для ўдзелу ў яе раскошным фільме.

Яна паглядзела на Альберта, прывіталася з ім і зра-

зумела па ягоным твары, што Гезелер не назваў сябе. Марцін з кнігай у руках стаяў каля ложка Альберта і чытаў: *Паслухай, Гасподзь!*

— Калі ласка, памаўчы крыху,— сказала яна. Пасля зняла трубку.

— Алё!

Глухі голас з фільма, у якім ёй зусім не хацелася іграць, прагучаў зусім блізка і вярнуў яе да таго, што яна ненавідзела: да рэчаіснасці, да сучаснасці.

— Гэта вы, Нэла?

— Так.

— З вамі гаворыць Гезелер.

— Спадзяюся, што вы...

— Не, не, я не назваў імя. Я пазваніў проста дзеля таго, каб пераканацца, ці памятаеце вы пра нашу дамоўленасць.

— Канешне,— сказала яна.

— Пакой замоўлены, і патэр Віліброрд вельмі рады, што вы будзеце. Атрымаецца выдатна.

— Канешне, я прыеду,— раздражнёна адказала яна, але раздражненне яе было выклікана тым, што пад рукой не аказалася цыгарэты,— якое глупства размаўляць па тэлефоне без цыгарэты.

Гезелер замоўк, нейкую долю секунды маўчалі абое, пасля ён нясмела сказаў:

— Добра, значыцца, я чакаю вас, як мы і дамовіліся, каля Крэдытнага банка.— І яшчэ больш нясмела дадаў: — Я вельмі рады, Нэла. Да хуткай сустрэчы.

— Да сустрэчы,— адказала яна і паклала трубку.

Затым уважліва паглядзела на чорны апарат і, гледзячы на яго, успомніла, што ва ўсіх фільмах жанчыны пасля вырашальных размоў уважліва глядзяць на апарат — вось як яна зараз. Так дзейнічаюць жанчыны ў фільмах, калі дамаўляюцца з палюбоўнікам у прысутнасці мужа; пасля гэтыя жанчыны з сумам глядзяць на мужа, на дзяцей, абводзяць позіркам пакой, усведамляючы, «ад чаго яны адмаўляюцца», але адначасова адчуваючы, што «не маюць сілы супраціўляцца поклічу кахання».

Яна з цяжкасцю адвяла вочы ад тэлефона, уздыхнула і павярнулася да Альберта.

— Я хацела б пагутарыць з табой, калі Марцін пойдзе. Ты нікуды не збіраешся?

У голасе мамы пяшчота, мілы мамін голас! Марцін

зірнуў на будзільнік, што стаяў у Альберта на тумбачцы, і закрычаў:

— Божа, я спазняюся!

— Ідзі,— сказала яна,— паспяшай.

Так было кожны раз: да самай апошняй хвіліны яны забываліся пра час, затым паспешна складвалі ранец і наразалі бутэрброды.

Яны дапамаглі Марціну ўпіхнуць падручнікі ў ранец. Альберт ускочыў, намазаў бутэрброд, яна пацалавала сына ў лоб і спытала:

— Можа, табе даць запіску, хутка дзевяць, ты ўсё роўна спознішся.

— Не трэба,— рашуча адмовіўся Марцін.— Гэта ні да чаго. Настаўнік ужо даўно перастаў чытаць твае запіскі. Калі мне ўдаецца прыйсці своечасова, увесь клас памірае са смеху.

— Мы ж сёння вечарам ад'язджаем у Бітэнхан. Ну добра, ідзі. Заўтра ў цябе вольны дзень.

Альберт стаяў з вінаватым выглядам каля свайго ложка.

— Мне вельмі шкада, Марцін.

Нэла пазвала хлопчыка, калі ён пайшоў да дзвярэй, зноў яго пацалавала і сказала:

— Мне трэба паехаць, але Альберт за табой прыгледзіць.

— А калі ты вернешся?

— Дай яму нарэшце пайсці,— сказаў Альберт,— вельмі непрыемна, што яму ўвесь час даводзіцца спазняцца.

— Гэта не мае значэння,— сказаў Марцін,— я ўжо ўсё роўна спазніўся.

— Не ведаю,— адказала Нэла,— магчыма, што прыйдзецца затрымацца на некалькі дзён, а можа, я вярнуся нават заўтра ўвечары.

— Ну добра,— прамовіў хлопчык, і на ягоным твары яна не заўважыла шкадавання.

Яна ўсунула яму ў кішэню апельсін, і ён павольна выйшаў.

Дзверы ў пакой Альберта так і засталіся адчыненымі. Яна памарудзіла, затым усё ж зачыніла дзверы і вярнулася да сябе. Цыгарэта на мармуровым падаконніку яшчэ тлела, вялікія сіняватыя колцы падымаліся ад яе. Яна патушыла цыгарэту, кінула яе ў попельніцу і ўбачыла, што на падаконніку стала яшчэ

больш жоўтых плямаў. Хлопчык павольна, вельмі павольна перасек вуліцу і схаваўся за домам пастара. Вуліца зрабілася шматлюднай, малочнік гутарыў з рассыльным, худы мужчына з цяжкасцю піхаў цялежку і меланхалічна нараспеў прапаноўваў качанную салату — яркую, як ліманадныя бутэлькі ў кафэ на тэнісным корце, сакавітую зяляніну. Затым малочнік і зяленіўшчык зніклі з вачэй. На вуліцы з'явіліся жанчыны з сумкамі для прадуктаў, нейкі вандроўны гандляр узышоў на тую ўяўную лінію, па якой гадамі хадзіў паштальён, калі нёс ёй пісьмо; у вандроўнага гандляра набіты чамадан, перацягнуты вяроўкай, і безнадзейна паніклая галава. Ён адчыніў брамку, а яна глядзела на яго, як глядзяць на кінаэкран, і, калі пачуўся самы сапраўдны званок, яна спалохалася. Хіба гэта не проста цёмная эпізадычная фігура, уведзеная ў сонечны фільм,— сон пра рэдакцыю, часопіс, гранкі і крушон з лёдам. Ён пазваніў ціха і нерашуча, і яна счакала, ці не адчыніць Альберт, але Альберт не крануўся з месца, тады яна выйшла ў пярэднюю і адчыніла дзверы. Чамадан быў ужо адкрыты, і ў ім — акуратна раскладзеныя кардонкі з падвязкамі, гузікамі, падшытымі да паперы, і бландзінка з ласкавай усмешкай, такая, як у Альберта на флаконе з лавандай, свежая, прыветлівая куртызанка ў суконцы стылю ракако ўзмахвала хустачкай услед ад'язджаючай паштовай карэце. Шаўковая хустачка, і на заднім плане дрэвы, дакладна з карціны Фраганара. Размытыя контуры малюнка адмыслова ствараюць уражанне суму, а ўдалечыні развяваецца хустка ўлюбёнага, які махае з акна паштовай карэты, усё аддаляючыся, але не робячыся ад гэтага меншым. Крыху кранутае золатам зялёнае лісце фраганаравых дрэў, і пяшчотная, маленькая рука трымае хустачку, ружовая ручка, створаная для ласкі. Чалавек, які прапаноўваў усю гэтую раскошу, неяк дзіўна паглядзеў на яе: ён нават і падумаць не мог, што яна купіць у яго нешта. Да таго ж лаванду, самае дарагое з усяго змесціва чамадана,— ён ведаў, што яна можа гэта купіць, але не смеў спадзявацца, не адважваўся верыць, што вялікая срэбраная манета з яе рук перакачуе ў ягоную кішэню. Надзея яго была слабейшай і вера мізэрнейшай за вопыт. На пакамечаным твары была страшэнная стомленасць.

Яна ўзяла флакон і ціха спытала:

— Колькі каштуе?

— Тры маркі,— адказаў ён і пабялеў ад страху: гэтая пакупка была звыш усякага чакання, яна была мяжой яго надзей.

Ён ўздыхнуў, калі Нэла выбрала яшчэ што-кольвечы, зноў тую ж прыгажуню, толькі гэтым разам прыгажуня мыла рукі ў фарфоравым тазіку. Ружовыя маленькія пальчыкі, што прывыклі да ласкі, песціліся ў неверагоднай колькасці найпразрыстай вады, на абгортцы мыла ўздымаўся асляпляльны бюст прыгажуні, праз расчыненае акно быў бачны садзік на фраганараў густ.

— А за гэта колькі? — спытала Нэла і ўзяла кавалак мыла.

— Адну марку,— адказаў ён, і твар яго зрабіўся амаль злым ад таго, што надзеі здзяйсняліся, плён якіх ён спажыве праз два тыдні, ад перапоўненасці шчасцем, якому ён радаваўся з пачуццём недаверу, з трывожным прадчуваннем, што дабром гэта не скончыцца.

— Значыцца, усяго чатыры маркі,— сказала яна, і ён з палёгкай кіўнуў галавой.

Яна дала яму чатыры маркі — чатыры срэбраныя манеты, і паклала на крышку чамадана тры цыгарэты.

Ад нечаканасці ён нават не рашыўся падзякаваць. Ён толькі ўтаропіўся на яе і атрымаў у дадатак усмешку, якая не каштавала ні грошай, ні намаганняў. Усмешка падзейнічала імгненна — сляпая страсць, дзікае жаданне авалодаць прыгажосцю, якую ён сустракаў да гэтай пары толькі на мыльных абгортках, прыгажосцю, якую можна ўбачыць толькі на экране, і гэтая ўсёсакрушальная ўсмешка ў цемры пярэдняй. Нэла спалохалася і ціхенька зачыніла дзверы.

— Альберт,— крыкнула яна,— Альберт, хадзі ж, я зараз пайду.

— Добра,— адазваўся ён,— іду.

Яна пайшла ў свой пакой, пакінуўшы дзверы адчыненымі. Альберт прыйшоў да яе ўжо гатовы да выхаду з дому: у кішэні — газета, у руцэ — ключ ад машыны, у роце — люлька.

— Ну што? — спытаў ён, спыняючыся ў дзвярах.

— Ды зайдзі ж,— сказала яна,— ці ты не маеш часу?

— Лішняга няма,— сказаў ён, але ўсё ж увайшоў, не зачыняючы дзвярэй, і апусціўся на краёчак крэсла.— Ты ад'язджаеш?

— Так.

— Надоўга?

— Не ведаю, магчыма, заўтра вярнуся. Я на семінар.

— Пра што семінар? Хто там будзе?

— Будуць даклады «Літаратура і грамадства», «Літаратура і царква»,— сказала яна.

— Ну што ж, нядрэнна,— сказаў ён.

— Павінна ж я зрэшты хоць нешта рабіць. Лепш за ўсё мне б, канешне, уладкавацца на работу.

«Зноў за сваё»,— падумаў ён, а ўголас сказаў:

— Канешне, табе трэба нейкі занятак, але ўладкоўвацца на работу проста не мае для цябе ніякага сэнсу. Большасць людзей працуе па простай прычыне — ім трэба карміць сям'ю, плаціць за кватэру і ўсялякае іншае. Мець занятак — гэта не тое што працаваць, а заняткаў табе пры жаданні хапіла б на цэлы дзень.

— Так, я ведаю,— уздыхнула яна,— дзіця,— і загаварыла ў тоне патэра Вілiброрда: — «Выхоўваць дзіця, і працягваць справу свайго мужа, і захоўваць яго творы».

— Менавіта,— сказаў ён,— так і зрабі, перарый усю гэтую скрыню, дастань пісьмы Віліброрда, пісьмы Шурбігеля і падлічы, колькі разоў яны там ухваляюць фюрэра,— вось табе і будзе цудоўны занятак.

— Хопіць! — кінула Нэла, стоячы каля акна.— Няўжо я павінна ўсё жыццё сцерагчы трыццаць сем вершаў? [illegible] хлопчыкам ты спраўляешся значна лепш за мяне, а замуж я больш не збіраюся. Я не жадаю строіць з сябе ўсмешлівую матулю з вокладкі ілюстраванага часопіса. Я больш не жадаю быць нічыёй жонкай — такога, як Рай, мне ўжо больш ніколі не сустрэць, і самога Рая таксама не вярнуць. Яго забілі, я стала ўдавой — за ...юрэра, ...ерманію і ...арод,— і яна здражніла рэха, што ішло ад сценаў капэлы, рэха, поўнае хлусні і пагроз, таннага семінарскага пафасу.— Ты думаеш, мне і на самай справе прыемна ездзіць на семінары з усялякімі ідыётамі?

— Тады не ездзі,— сказаў ён.— Я разбагацеў, уласна кажучы, за адну ноч.— Ён слаба ўсміхнуўся, думаючы пра знойдзены карабок з замалёўкамі.— Мы

наладзім сабе выдатны суботні адпачынак разам з хлопчыкам, а ты можаш памалоць языком з Вілем пра кіно. А калі ты захочаш,— і яна зірнула на яго таму, што голас у яго нечакана змяніўся,— калі захочаш, мы паедзем яшчэ далей.

— Удваіх?

— Не, з хлопчыкам,— адказаў ён,— а калі ты не супраць, то з абодвума — прыхопім сябра Марціна, калі яму захочацца.

— А чаму не ўдваіх, дзеля чаго разыгрываць шчаслівае сямейства, калі шчасце — гэта суцэльная мана: усмешлівы бацька, усмешлівы сын, усмешлівая маці?

— Нельга,— сказаў ён,— будзь жа разумнай. Для хлопчыка гэта будзе проста жахліва, гэта будзе апошняй кропляй, а яшчэ горш — для яго таварыша. Я нічога не магу зрабіць,— ціха дадаў ён,— але для дзяцей я апошняя надзея, для іх гэта будзе цяжкім ударам, ад якога ім не ачуняць, калі я — я таксама — з катэгорыі тых дзядзькаў, да якой я зараз належу, перайду ў зусім іншую.

— А для цябе?

— Для мяне? Ды ты здурнела, няўжо табе і сапраўды прыносіць задавальненне ставіць мяне ў няёмкае становішча, ад якога я адбіваюся рукамі і нагамі? Ну, пайшлі, мне пара, мяне чакае Бразгот.

— Ах, рукамі і нагамі? — паўтарыла яна, не паварочваючы галавы.

— Але, рукамі і нагамі, калі гэта цябе так цікавіць, а можа, ты хочаш, каб тут, у гэтым доме, які наскрозь пранізаны ўспамінамі, мы ўпотай завялі раман, а знешне разыгрывалі б добрага дзядзьку і добрую матулю? І потым, гэта марна, дзеці ўсё роўна пра ўсё здагадаюцца.

— Зноў дзеці,— стомлена адказала яна,— колькі шуму з-за дзяцей.

— Называй гэта шумам, але замужжа табе не пазбегнуць.

— А вось і пазбегну! Я больш ніколі не выйду замуж, лепш ужо я буду прыкідвацца няўцешнай удавой, чым усмешлівай жонкай — першапачатковай клетачкай — ...адзімы, ...арода...

— А зараз час ісці, ці ўжо заставайся дома. Ты там ад нуды памрэш.

— Не,— сказала яна,— сёння мне сапраўды трэба

ехаць. Звычайна для гэтага няма асаблівай прычыны, а вось сёння ёсць. Мне проста неабходна.

Яна падумала, як можа падзейнічаць на Альберта імя Гезелера.

— Пойдзем,— сказала яна. Ён узяў яе чамадан, і ўжо ў дзвярах яна сказала, як нешта не маючае значэння: — Больш, чым ты зараз робіш для мяне, проста немагчыма зрабіць, і яшчэ добра, што ты клапоцішся пра хлопчыка; мушу табе сказаць, што я не адчуваю пры гэтым ні кроплі рэўнасці.

На вуліцы пацяплела. Альберт зняў пальчаткі, капялюш і сеў у машыну каля Нэлы.

І, калі ён уключыў матор, Нэла сказала:

— Я вельмі хацела б мець такі занятак, як у цябе. Мне здаецца, ты вельмі шчаслівы.

— Ніколькі,— адказаў ён, астатнія яго словы патанулі ў шуме матора, і яна ўхапіла толькі канец: — ...ніколькі я не шчаслівы. А занятак і ты знайшла б сабе колькі заўгодна.

— Ведаю, я магла б дапамагаць манашкам, магла [redacted] прасаваць бялізну і ўсялякае такое, весці разлікі па гаспадарцы, вязаць кальсоны і да таго падобнае, і ігумення сказала б: «Мы цяпер маем цудоўную памочніцу — удаву паэта імярэк».

— Не дурыся,— сказаў ён, і па тым, як ён пераключыў хуткасць, яна зразумела, што ён проста раз'юшаны.

— Балбачы што хочаш, мяне гэта ніколькі не кранае, і манашак можаш лаяць, як табе ўздумаецца, але жыццё яны вядуць не бессэнсоўнае, у іх ёсць занятак, які заўсёды здаваўся мне найбольш разумным, хоць, зрэшты, мне ён зусім не падыходзіць. Яны моляцца — і я хачу зняць з іх частку клопатаў, каб ім хапала часу для малітваў.

— Проста зайздросна слухаць, як іншыя людзі выдатна абсталявалі сваё жыццё.— Яна ўсхліпнула, але перасіліла сябе і сказала: — Табе б толькі жонку, і тваё жыццё было б цалкам уладкавана.

— А чаму [redacted] і не,— сказаў ён, спыняючы машыну перад святлафорам на Піпінштрасэ.— Цябе загубіць снабізм.— Ён сціснуў яе руку.

Яна адказала на поціск і сказала:

— Не, справа не ў снабізме, я проста не магу ім даравадь, што яны забілі майго мужа,— ні дараваць,

ні забыць, і не хацела б даць ім задавальненне і паўторна строіць з сябе шчаслівую, усмешлівую жонку.

— Задавальненне каму?

— Ім,— паўтарыла яна спакойна.— Здагадайся сам, каго я маю на ўвазе. Зялёнае святло — едзь далей.

Ён паехаў далей.

— З усіх тваіх спраў ты нічога не даводзіш да канца. Маці ты ніякая, удава таксама ніякая, і гуляшчай цябе не назавеш, і нават нічыёй палюбоўніцай — я проста раўную, раўную цябе, і нават не да гэтых ідыётаў, а да марна растрачанага часу — і адно заўсёды застанецца нязменным: мужчына не можа зрабіць большага для жанчыны, чым прапанаваць ёй выйсці за яго замуж.

— Не,— сказала яна,— часам значна важней стаць яе каханым. Неяк дзіўна атрымліваецца: раней жанчыны радаваліся, калі ім удавалася выйсці замуж, а цяпер, наадварот, мне, ва ўсякім разе, гэта зусім непатрэбна.

— Таму што ты поўная снабізму. Гадамі выслухоўваеш гэтакіх аболтусаў — гэта дарэмна прайсці не можа. Дзе цябе высадзіць?

— Каля ашчадкасы,— сказала яна.

Ён счакаў, пакуль паліцэйскі падасць знак на праезд, аб'ехаў пляц Карла Вялікага і спыніўся каля ашчадкасы. Затым выйшаў, дапамог ёй выйсці і дастаў з багажніка яе чамадан.

— На гэты раз,— усміхнулася яна,— я сапраўды не буду дарма губляць часу.

Ён паціснуў плячамі.

— Ну што ж,— сказаў ён,— у нас жа ўсё наадварот — раней адданыя жанчыны чакалі, калі іх возьмуць няверныя мужчыны, цяпер жа я, мужчына, буду верна чакаць, пакуль няверная дазволіць з ёй ажаніцца.

— Але, ты адданы,— сказала яна,— і я ведаю, што гэта добра.

Ён паціснуў ёй руку, сеў у машыну і другі раз аб'ехаў пляц.

Яна пачакала, пакуль яго машына схавалася за рагом вуліцы Меравінгаў, затым паклікала таксі са стаянкі каля Старой гарадской брамы і сказала шафёру:

— Да Крэдытнага банка.

## 12

Звычайна ён не спяшаўся са школы дадому. Ён далучаўся да кампаніі так званых абібокаў, але нават сярод іх не было ніводнага, хто так не хацеў бы ісці дадому, як Марцін. Нехта бег дадому з усіх ног, таму што згаладаўся, або таму, што дома іх чакала штосьці прыемнае, або таму, што ім трэба было ісці за пакупкамі або падаграваць абед для малодшых братоў і сясцёр. Генрых сам гатаваў ежу для сваёй маленькай сястрычкі, на ўроках ён сядзеў вельмі стомлены і стрымгалоў кідаўся бегчы, як толькі празвініць званок. Яго маці ішла на працу за дваццаць хвілін да канца заняткаў у школе, і Вільма заставалася адна з Леа, а Брылах сядзеў як на голках, калі ведаў, што Вільма адна з Леа. На апошнім уроку ён усё шаптаў: «Я не магу сядзець на месцы ад хваляванння!»

Спакою ў Генрыха не было ніколі, занадта ўжо многа ў яго было ўсялякіх клопатаў, і школу ён успрымаў як справу другарадную, непатрэбную, але адначасова сімпатычную, як нешта далёкае ад жыцця. Бурбалкі паветра пад ледзяной карой, мілыя цацкі, забаўляцца ■ якімі надзвычай прыемна, хоць яны і забіраюць многа часу. А парой у школе было проста сумна, і тады Брылах на апошнім уроку засынаў, калі толькі страх за Вільму не перашкаджаў яму заснуць.

Затое Марцін не спаў і чакаў званка. Час спыняўся, час застываў, каб адным рыўком перакінуць вялікую стрэлку на дванаццаць,— і тады звінеў званок. Генрых ускокваў, яны хапалі ранцы, на бягу надзявалі іх праз плячо і несліся па калідоры, затым праз двор — на вуліцу, наперагонкі да вугла: там ён зварочваў направа, а Генрых — налева. Яны абганялі астатніх і беглі па бруку, а не па тратуары, каб не сутыкацца з плынню дзяўчынак, якія ішлі ў школу.

Брылах першы дабег да вугла, ён спяшаўся дамоў, але пачакаў Марціна. На развітанне Марцін крыкнуў:

— Паедзеш з намі ў Бітэнхаў? Мы па цябе заедзем!

— Трэба спытаць у маці!

— Ну, бывай здаровы!

На дарогу ў Марціна звычайна ішло пятнаццаць хвілін, але ён мог прабегчы яе і за пяць хвілін. Сёння ён бег вельмі хутка, задыхаючыся ад нецярпення,

і ўжо здалёк убачыў, што машыны Альберта няма каля дома. Ён спыніўся каля нейкага плота, перавёў дыханне і азірнуўся назад, на алею, па якой Альберт павінен вярнуцца ад Бразгота. Ісці дадому не хацелася. Больды няма, Глума няма і ўвогуле пятніца — дзень небяспечны, гэта бабулін дзень. Яшчэ не канчаткова разыграна *кроў у мачы*, у Фавінкеля сёння падаюць пяцьдзесят розных рыбных страў, а ён не выносіць рыбы. Калі Альберт выедзе з-за вугла, то адразу ўбачыць, што ён сядзіць тут, і ён злаваў на Альберта за тое, што ягонай машыны да гэтага часу яшчэ няма каля пад'езда Марцін устаў і пацягнуўся да бензакалонкі ў самым канцы алеі.

Толькі цяпер на алеі з'явіліся дзяўчынкі, якія спазняліся, якіх звычайна ён сустракаў на вуглу; яны перасеклі маставую, зірнулі на вялікую залатую стрэлку вежавага гадзінніка і пусціліся трушком. Некалькі дзяўчынак, задыхаючыся, беглі па алеі, а ўдалечыні група дзяўчынак ішла зусім не спяшаючыся. Ён добра ведаў іх усіх, таму што тых, якія зараз пусціліся трушком, ён сустракаў штодня перад пачаткам першай змены, каля самай школы; тых, якія беглі па алеі, ён сустракаў заўсёды каля бензакалонкі, на агароджы якой зараз сядзеў. Сёння ўсё пераблыталася, і Марцін злаваў, што так паспяшыў дадому. Заўсёды ён ішоў адным з апошніх, і калі з'яўляліся панылыя прагульшчыцы, ён звычайна ўжо сядзеў на агароджы калонкі, а яны не беглі, ведаючы, што ўсё роўна не паспеюць. Гэта былі тыя дзяўчынкі, якія зараз удалечыні спакойна пераскоквалі цераз цені дрэў, быццам цераз прыступкі. Ён сустракаў іх заўсёды каля калонкі, а сёння ён паспеў дайсці да самага дома і вярнуцца, а яны ўсё яшчэ не дабраліся да калонкі. З развеянымі валасамі, з палаючымі тварамі пранесліся паблізу яго тыя, што яшчэ не прывыклі спазняцца. Мінутная стрэлка гадзінніка на царкоўнай вежы зусім наблізілася да трох, бегчы было не варта, таму што паспець на ўрок ім ужо не ўдасца.

Машыны Альберта ўсё яшчэ не было, чаканне рабілася невыносным, і вінаваты ва ўсім быў Альберт. Паказалася група нетаропкіх прагульшчыц, на вежы прабіла чвэрць другой, і нармальны рытм жыцця быў адноўлены. Дарма ён бег, дарма спяшаўся, з гэтай хвіліны ўсё пайшло, як у звычайныя дні. Прагуль-

шчыцы смяяліся, балбаталі, а ён з зайдрасцю глядзеў на іх — яны належалі да ліку *адчайных*, і сам ён вельмі хацеў бы быць на іх месцы. *Адчайнымі* лічыліся тыя, якім было на ўсё напляваць. Само па сабе паняцце *адчайны* заставалася загадкавым, сярод іх сустракаліся такія, чые бацькі мелі грошы, і тыя, у каго грошай не было. На Брылаха гэта часам находзіла, і ў яго да адчайнасці прымешвалася пэўная доля ганарыстасці, на твары Брылаха можна было прачытаць: «Ну што вам ад мяне патрэбна?» Адчайнымі лічыліся тыя, пра якіх дырэктар гаварыў, што іх трэба пераламаць,— гэта гучала жахліва, быццам гаворка ішла не пра дзяцей, а пра запалкі або косці. Нейкі час ён нават думаў, што пераломленыя гэта якраз і ёсць тыя, якіх падаюць на стол у скляпку Фавінкеля. У другім класе пераломвалі Хэвеля, а пасля ён знік. Паліцыя прыводзіла яго ў школу, але на перапынках ён усё роўна знікаў. Пасля ён падбіў на гэтае і Борна. Борн і Хэвель жылі разам у бамбасховішчы, і ўжо тады яны рабілі бессаромнае, а калі іх ушчувалі, яны толькі смяяліся, і дырэктар гаварыў: іх неабходна *пераламаць*. Затым Хэвель і Борн зніклі, і ён рашыў, што іх проста *пераламалі* і падаюць на стол у скляпку Фавінкеля паглынальнікам дзяцей і перамолвальнікам касцей, якія плацяць за гэта многа-многа грошай.

Альберт пасля яму гэта растлумачыў, але ўсё роўна справа заставалася вельмі загадкавай, а бамбасховішча, у якім жылі некалі Хэвель і Борн, так і засталося сярод нейкіх агародаў — загадкавая бетонная аграмадзіна без вокнаў. Іх *пераламалі*, і пасля гэтага яны бясследна зніклі,— трапілі ў калонію, як гаворыць Альберт.

А Альберта ўсё няма, і больш ён ніколі не прыедзе. Напаўзакрыўшы вочы, Марцін глядзеў на набліжаючыяся з боку горада машыны, толькі Альбертавага «мерсэдэса» — старэнькага, нехлямяжага, мышынага колеру — сярод іх не было,— Марцін не зблытаў бы яго ні з якой іншай машынай.

І падацца некуды: ісці да Генрыха не хочацца. Там зараз дзядзька Леа, і на працу ён пойдзе толькі ў тры. Больда прыбірае ў царкве. Можна, зразумела, пайсці да яе, з'есці, забіўшыся ў рызніцу, адзін з яе бутэрбродаў і запіць яго гарачым булёнам з тэрмаса.

Ён зірнуў на безнадзейную прагульшчыцу, якая зараз толькі паказалася ў канцы алеі і зусім не спяшалася. Ён добра ведаў гэты стан — ці не ўсё роўна спазніцца на дваццаць хвілін або на дваццаць пяць. Дзяўчынка з вялікай цікаўнасцю разглядвала першыя апалыя лісты, набрала цэлы букет вялікіх, амаль зялёных, толькі крыху кранутых жаўцізной. З букетам лісця ў руках яна спакойна перасякала вуліцу.

Дзяўчынка была незнаёмая. У яе былі цёмныя раскудлачаныя валасы, і яго зачараваў спакой, з якім яна спынілася каля кінатэатра «Атрыум», каб паглядзець афішы. Ён нават пасунуўся бліжэй да «Атрыума»; бензакалонка стаяла якраз каля кінатэатра. Афішы яны разам з Генрыхам ужо разглядвалі і вырашылі ў панядзелак пайсці ў кіно.

Паміж дзвюма зялёнымі таполямі на афішы віднелася бронзавая брама парка, яна была прачынена, у прасвеце стаяла жанчына ў ліловай сукенцы з залатым высокім каўняром. Шырока раскрытыя вочы жанчыны ўтаропліваліся на таго, хто ў той момант стаяў перад плакатам, а наўкось праз яе ліловы жывот цягнуўся белы надпіс: *«Сеанс для дзяцей»*. На заднім плане быў замак, а на самым версе, на светла-блакітным небе назва фільма: *«У палоне ў сэрца»*. Марцін не любіў фільмы, пра якія паведамлялі афішы з жанчынамі ў закрытых сукенках і з белым надпісам: *«Сеанс для дзяцей»*, гэтыя фільмы абяцалі бясконцую нуду, а фільмы з жанчынамі ў адкрытых сукенках і з чырвоным надпісам: *«Дзецям да 16 гадоў...»* — прадвяшчалі распуснае. Але ні *распуснае*, ні нуда не захаплялі яго, лепшымі за ўсё былі фільмы пра каўбояў і мультыплікацыі.

На гэтым тыдні пойдзе распусны фільм. Афіша вісіць каля афішы дзіцячага фільма, на ёй жанчына з адкрытымі грудзямі, яе адбымае мужчына, у якога гальштук з'ехаў набок. Гальштук здорава з'ехаў набок, выгляд у мужчыны ўскудлачаны, і ўсё гэта вельмі нагадвае тое слова, якое маці Брылаха сказала кандытару, калі яны разам з Генрыхам і Вільмай хадзілі сустракаць яе пасля працы.

У падвале стаяў салодкі, цёплы дух. Паўсюль на драўляных паліцах ляжалі горы свежаспечанага, яшчэ цёплага хлеба; яму падабалася чвяканне машыны, якая мясіла цеста, падабаўся шпрыц для крэму, якім

кандытар выпісваў на тартах: «З днём нараджэння». Кандытар пісаў шпарка, акуратна і правільна, хутчэй, чым хто піша аўтаручкай, а маці Брылаха лёгка і спрытна наносіла шпрыцам кветкі і хаткі, дым з каміноў і ўсялякія прыгажосці. Калі яны прыходзілі разам з Брылахам, яны спыняліся перад няшчыльна прычыненымі, абітымі бляхай дзвярыма, да якіх звычайна пад'язджалі грузавікі з мукой, і, заплюшчыўшы вочы, удыхалі цёплае салодкае паветра. Затым ціха адчынялі дзверы, урываліся туды і крычалі: «Бэ-э-э!» — гэтая гульня вельмі падабалася маленькай Вільме. Яна вішчала ад захаплення, а разам з ёй радаваліся кандытар і маці Брылаха.

Недзе тыдзень назад яны неяк стаялі, стаіўшыся за дзвярмі, ужо збіраючыся адчыніць іх, і раптам у панаваўшай тут цішыні пачулі, як маці Брылаха сказала кандытару:

— Не табе мяне...— і тое слова. Марцін увесь успыхнуў, успомніўшы гэтае слова, і нават цяпер яму боязна было добра ўдумацца ў яго сэнс. А кандытар адказаў спакойна і сумна:

— Ты не павінна так гаварыць, не трэба...

Вільма пачала падштурхоўваць іх у цемнаце, ёй хацелася пачаць гульню і закрычаць: «Бэ-э-э», але яны абодва стаялі, быццам удараныя маланкай, быццам акамянелыя, а кандытар у пякарні мармытаў нешта зусім незразумелае, нейкую загадкавую лухту, неспакойны, страсны і ў той жа час пакорны; словы яго пераменжаліся са звонкім смехам маці Брылаха, а Марцін думаў пра тое, як дзядзька Альберт гаварыў пра тугу мужчын, пра іх жаданне жыць з жанчынамі. Кандытар, мяркуючы па ўсім, проста дурнеў ад жадання з'яднацца з маці Брылаха, ён амаль што не спяваў, ён мармытаў нешта незразумелае. Марцін нават дзверы прачыніў, каб паглядзець, ці не злучаюцца яны там на самай справе, але Генрых шалёна рвануў яго назад, затым узяў Вільму на рукі, і яны пайшлі дадому, так і не паказваючыся на вочы маці.

Пасля гэтага Брылах цэлы тыдзень не хадзіў у пякарню, і Марцін спрабаваў уявіць сабе пакуты Брылаха, ставячы сябе на яго месца,— як ён сам цяжка перажываў бы, калі б гэтае слова сказала ягоная мама. Ён выпрабоўваў гэтае слова, у думках укладваючы яго ў вусны ўсіх сваіх знаёмых, але з вуснаў дзядзькі

Альберта проста немагчыма пачуць такое слова, а вось у вуснах ягонай уласнай маці,— тут сэрца Марціна пачынала біцца мацней, і ён разумеў, як пакутуе Брылах,— у вуснах ягонай уласнай маці гэтае слова здавалася магчымым. Ніколі б не прамовілі гэта слова Віль, Вольда, Глум, маці Альберта і бабуля таксама; гэта слова ніяк да іх не падыходзіла, а вось калі б яго мама вымавіла гэтае слова, яно прагучала б, мабыць, зусім натуральна.

На ўсіх — на настаўніку, на капелане, на бармэне — на ўсіх выпрабаваў ён гэтае слова, але быў адзін рот, для якога гэтае слова проста было створана, як корак для бутэлькі з чарнілам,— гэта быў рот дзядзькі Леа. Леа прамаўляў яго значна выразней, чым гэта зрабіла маці Брылаха.

Маленькая прагульшчыца зусім знікла з вачэй, было ўжо без чвэрці дзве, ён спрабаваў уявіць сабе, як яна заходзіць у клас; яна ўсміхнецца і нешта нахлусіць, пасля яе будуць ушчуваць, а яна ўсё будзе ўсміхацца. Гэтая ўжо зусім *адчайная*. Затым яе, пэўна ж, *пераломяць*,— і хоць ён ужо даўным-даўно ведаў ад Альберта, што ніхто не забівае дзяцей дзеля яды, але ўсё роўна спрабаваў уявіць сабе, як дзяўчынка, *наламаная* на кавалкі, трапляе на кухню ў скляпку Фавінкеля. Ён знарок даваў волю сваёй фантазіі, таму што злаваў на Альберта і хацеў яму дапячы. Таму што не ведаў, куды падзецца,— бо ў Брылаха яшчэ не сышоў дзядзька Леа, а яму не хацелася бачыць рота, з якім так стасуецца гэтае слова; пустая, бязлюдная царква, дзе зараз прыбірае Вольда, палохала яго не менш, чым перспектыва папасці ў шынок Фавінкеля, дзе наведвальнікі паглынаюць наламаных дзяцей, дзе яго абавязкова званітуе ў паскудным туалеце сярод мярзотных скуралупаў.

Ён яшчэ бліжэй падышоў да «Атрыума» і раптам адчуў, што прагаладаўся. Заставалася адно: пайсці дадому, ціхенька пракрасціся на кухню і падагрэць абед. Ён на памяць ужо ведаў інструкцыю па падаграванні ежы, інструкцыя была напісана наададраным ад газеты кавалку паперы: «Не адкрывай газавы кран да адказу — не адыходзь ад пліты» (тры разы падкрэслена). Але выгляд халоднай ежы заўсёды псаваў яму апетыт — пра гэта як быццам ніхто яшчэ не здагадваўся,— застылы тлушч падліўкі, засохлая бульба,

густы, увесь у камяках суп,— і да ўсяго небяспека, што ў любы момант можа з'явіцца бабуля. Паўсотні рыбных страў у рэстаране Фавінкеля — чырванаватыя, сіняватыя, зеленаватыя кавалкі рыбы, агідныя пухіры тлушчу скочваюцца па скурцы вугра, празрыстыя зеленаватыя, чырванаватыя, сіняватыя соусы, зморшчаная скурка адваранай пікшы, падобная на кучку крошак, якія пакідае алоўкавая гумка.

Альберт усё яшчэ не ідзе, і не прыйдзе, і, каб адпомсціць Альберту, ён пачаў паўтараць гэтае брыдкае слова і паўтараў яго да той пары, пакуль яно, нарэшце, не загучала з вуснаў Альберта.

Думаць пра бацьку было вельмі самотна: забіты недзе на чужыне, малады, занадта малады чалавек, усмешлівы, з люлькай у роце, ён нізавошта не змог бы вымавіць гэтае слова.

Капелан уздрыгнуў, калі Марцін сказаў яму гэта слова на споведзі. Сказаў нерашуча, увесь пачырванеў, каб неяк вызваліцца ад гэтага слова, якое яны [redacted] Брылахам не асмельваліся паўтарыць нават адзін на адзін. Бледны твар маладога святара перасмыкнуўся, капелан скурчыўся, быццам *пераломаны*. [redacted] невыразнай тугой пахітаў ён галавой — не так, як чалавек, што хоча сказаць «не трэба», не так, як чалавек, які здзівіўся, а проста як чалавек, які ледзь трымаецца на нагах і вось-вось упадзе.

З-за ліловай занавескі самотны твар капелана здаўся прывідным, як у велікамучаніка, ён уздыхнуў і загадаў, каб Марцін усё расказаў яму, і загаварыў пра *млынавыя жорны*; гэтыя жорны прывязваюць на шыю таму, хто спакусіць дзіця; затым ён адпусціў Марціна і папрасіў, толькі папрасіў, а не наляжыў пакаянне, кожны дзень чытаць па тры разы «Ойча наш» і тры разы «Багародзіцэ Дзево, радуйся», каб вытравіць [redacted] сябе гэта брыдкае слова. І зараз, седзячы на агароджы, Марцін тройчы ў думках паўтарыў гэтыя малітвы. Ён больш не назіраў за машынамі, якія праносіліся міма; калі ласка, няхай Альбертаў «мерсэдэс» праязджае міма. Ён маліўся павольна, з напаўзакрытымі вачамі і прытым думаў пра млынавыя жорны. Млынавыя жорны былі прывязаны да шыі Леа, і Леа патанаў, ішоў на дно, усё глыбей і глыбей скрозь сінявата-зялёную цемень мора, а міма праплывалі дзіўныя, усё больш дзіўныя рыбы. Абломкі затану-

лых караблёў, водарасці, буза, марскія страшыдлы, і Леа ішоў на дно ўслед за цяжарам жорнаў. Не на шыі маці Брылаха былі гэтыя жорны, а ў Леа, у таго сама-га Леа, які здзекаваўся над Вільмай, пагражаў ёй шчыпцамі, біў яе па пальчыках доўгай пілкай для пазногцяў, у Леа, чый рот быў проста створаны для гэтага слова.

Марцін у апошні раз прачытаў «Ойча наш», устаў і зайшоў у *«Атрыум»*. Тут ён спалохаўся: прагуль-шчыца стаяла каля дзвярэй і гутарыла з білецёрам. Білецёр гаварыў ёй:

— Зараз, дзетка, зараз, праз некалькі хвілін па-чнецца. Ты ж ужо са школы?

І прагульшчыца адразу вымавіла зразумелую, вы-разную і апаламляльную хлусню:

— Так.

— А дадому табе не трэба?

— Не, мама на працы.

— А бацька?

— Бацька загінуў.

— Пакажы білет.

Яна падала білет — зялёненькую паперку, а каля ўвахода красавалася афіша, і на ёй, наўскос праз ліловы жывот жанчыны, цягнуўся надпіс: *«Сеанс для дзяцей»*. Калі прагульшчыца знікла, Марцін падышоў бліжэй і нерашуча спыніўся каля касы. У шкляной будцы сядзела жанчына з цёмнымі валасамі і нешта чытала. Потым падняла на яго вочы і ўсміхнулася, але ён не адказаў на яе ўсмешку. Усмешка не спадабалася яму — нешта ў ёй нагадвала слова, якое маці Брылаха сказала кандытару. Касірка зноў утаропілася ў кнігу, а ён уважліва разглядваў яе беласнежны прабор і сіня-вата-чорныя валасы, затым яна зноў падняла вочы, прачыніла акенца і спытала:

— Што табе трэба?

— Пачнецца хутка? — ціха спытаў ён.

— У дзве,— сказала яна і зірнула на гадзіннік, што вісеў за яе спінай.— Праз пяць хвілін. Пойдзеш?

— Так,— адказаў ён і адразу ж успомніў, што якраз гэтую карціну ён прапанаваў Брылаху пагля-дзець у панядзелак.

Касірка ўсміхнулася, кранула зялёны, жоўты і сіні валік з білетамі і спытала:

— Які рад?

Ён расшпіліў кішэньку, дастаў грошы, сказаў:
— Дзесяты рад,— і падумаў, што няблага прымусіць Альберта пачакаць, і што няблага пасядзець аднаму ў цемры, і што, нарэшце, у панядзелак можна з Брылахам паглядзець іншую карціну.

Касірка адарвала білецік ад жоўтай катушкі і падгрэбла грошы да сябе.

Білецёр сустрэў яго суровым позіркам.

— А ты ўжо быў у школе? — спытаў ён.

— Так,— адказаў ён і адразу ж, не чакаючы другога і трэцяга пытання, дадаў: — Маці мая паехала, а бацька загінуў.

Білецёр нічога не сказаў, адарваў ад білета кантроль і ўпусціў яго. Толькі апынуўшыся за цяжкой парцьерай, Марцін скеміў, які дурны білецёр. Няўжо ён не ведае, што хлопчыкі і дзяўчынкі вучацца асобна і што ён не мог прыйсці са школы адначасова з гэтай прагульшчыцай.

Было цёмна. Дзяўчына-кантралёр узяла яго за руку і вывела на сярэдзіну залы. У дзяўчыны была халаднаватая і лёгкая рука, і калі яго вочы прывыклі да цемнаты, ён убачыў, што ў зале амаль пуста: толькі ў першых і апошніх радах сядзелі некалькі чалавек, а сярэднія рады пуставалі, тут быў толькі ён. Прагульшчыца сядзела наперадзе, паміж двух маладых людзей, яе галава з чорнымі паблытанымі валасамі ледзь віднелася над спінкай крэсла.

Ён уважліва прагледзеў рэкламу гуталіну: ліліпуцікі-канькабежцы споўдалі па асляпляльных чаравіках велікана. У руках у іх хакейныя клюшкі, толькі замест звычайных загагулін унізе прымацаваны шчоткі для ботаў, і чаравікі велікана ззялі ўсё ярчэй і ярчэй, і нечы голас сказаў:

— Калі б Гулівер карыстаўся *Бляскам*, ён заўсёды меў бы такія чаравікі.

Пачаўся новы рэкламны фільм: жанчыны гулялі ў тэніс, гарцавалі на конях, кіравалі самалётамі, разгульвалі ў маляўнічых парках, плавалі па люстранай роўнядзі мора, каталіся на аўтамашынах, веласіпедах, матаролерах, практыкаваліся на брусах і турніках, кідалі дыск — і ўсе яны ўсміхаліся, усміхаліся нечаму, і, нарэшце, усмешлівая жанчына, ззяючы, сказала прысутным у зале, што яе радуе вялікі цёмна-зялёны

карабок з белым крыжыкам і надпісам на крышцы: «Афелія».

Марціну было сумна. Пачалася асноўная карціна, але сум не прайшоў. На экране пілі віно і служылі імшу, затым расчыніліся вароты парка, і мужчына ў зялёным сурдуце, зялёным капелюшы і зялёных гетрах паскакаў па прасецы. У канцы прасекі стаяла жанчына ў ліловай сукенцы з залатым каўнерыкам жанчына [redacted] «Сеанса для дзяцей». Мужчына саскочыў [redacted] сядла, пацалаваў жанчыну, а жанчына яму сказала: «Я буду за цябе маліцца, беражы сябе». Зноў пацалунак, і вось ужо жанчына з «Сеанса для дзяцей», плачучы, глядзіць услед мужчыну, які бесклапотна скача прэч. Трубяць паляўнічыя ражкі на даляглядзе, і мужчына ў зялёным капелюшы, зялёных гетрах і зялёным сурдуце імчыць на фоне сіняга неба па іншай прасецы.

Марцін паміраў ад нудоты: ён пазяхаў у цемры, яго даймаў голад, ён заплюшчыў вочы і чытаў «Ойча наш» і «Багародзіцэ Дзево, радуйся», затым прыдрамаў і ўбачыў у сне, як Леа з жорнамі на шыі ідзе на дно — беспрадонная глыбіня мора, і твар у Леа такі, якім ён ніколі яго не бачыў. Твар у яго самотны, і ён апускаецца ўсё глыбей і глыбей ў зялёны змрок, і зграі марскіх страшыдлаў здзіўлена вылупліваюцца на яго.

Ён прачнуўся ад крыку, спалохаўся, не адразу зразумеў у цемені што да чаго і ледзь сам не закрычаў. Але паступова карціна праяснялася: зялёны мужчына качаўся па зямлі з нейкім абарванцам, абарванец перамог, зялёны так і застаўся на зямлі, абарванец жа ўскочыў у сядло, пачаў лупіць каня высакародных крывей і з д'ябальскім рогатам паскакаў прэч, хоць конь раз за разам ставаў на дыбы.

У лясной капліцы жанчына з *«Сеанса для дзяцей»* стаяла ўкленчыўшы перад выявай мадонны, але раптам з лесу пачуўся стукат капытоў. Яна кінулася насустрач: яна пазнала ржанне і тупат *ягонага* каня. Вочы яе заблішчалі ад радасці: ці не ён вярнуўся назад, гнаны каханнем? О не, дзікі крык, жанчына падае непрытомна на ганку капліцы, а абарванец праносіцца міма, нават не зняўшы капелюша. Але хто там паўзе з апошняе сілы, выгінаецца, як змяя, па лясной прасецы, чый твар скажоны дзікім болем, чые вусны сцяты журботным маўчаннем? Гэта элегантны зялёны

пан. Ён дапоўз да купкі і, цяжка дыхаючы, уставіў вочы ў неба.

А хто бяжыць па прасецы, на кім палошчацца ліловая сукенка, хто рыдае і бяжыць, бяжыць і кліча? Гэта яна, жанчына з *«Сеанса для дзяцей»*.

І чалавек у зялёным пачуў яе. Зноў капліца. Пабраўшыся за рукі, яны павольна ўзыходзяць па прыступках, зялёны чалавек і жанчына, гэтым разам таксама ў зялёным. Яго правая рука ўсё яшчэ перавязаная і галава таксама, але ён ужо ўсміхаецца, балюча, але ўсё ж усміхаецца. Непакрытыя галовы, расчыненыя дзверы капліцы, на заднім плане ржэ конь і ціўкаюць птушкі.

Павольна прабіраючыся на вуліцу, Марцін адчуў сябе блага. Ён вельмі выгаладаўся, хоць і не разумеў гэтага. На вуліцы ззяла сонца, ён зноў прысеў на агароджу бензакалонкі, разважаючы: ужо пятая гадзіна, значыцца, Леа даўно ўжо пайшоў, а злосць на Альберта яшчэ не ўляглася. Ён закінуў ранец за спіну і павольна пабрыў да Брылаха.

## 13

Бразгот прасіў яго крыху пачакаць. Альберт хадзіў узад-уперад па панылым пакоі. Час ад часу ён спыняўся каля расчыненага акна і глядзеў уніз, на вуліцу. З універмага адна за адной выходзілі прадаўшчыцы і, перайшоўшы вуліцу, хаваліся ў дзвярах сталоўкі. У руках у іх былі абедзенныя прыборы, у каго скруткі з бутэрбродамі, у адной яблык. Тыя, што ўжо паспелі паабедаць, вярталіся ў магазін. Яны загаворвалі з сяброўкамі, якія ішлі насустрач, спыняючы іх. Альберт даўно ўжо вызначыў па паху сённяшняе меню і цяпер па абрыўках гутаркі, якая раз-пораз даносілася да яго, зразумеў, што не памыліўся. Абед складалі смажаная каўбаса з цыбуляй і бульбай і пудынг. Пудынг не ўдаўся — неапетытнае ружовае месіва — з падгарэлым ванільным соусам. Ён пачуў, як папярэджвалі сваіх таварак тыя, што адыходзілі:

— Крый Божа, не надумайце браць гэтае паскудства на трэцяе. Так усё нічога — каўбаса смачная і гарнір таксама, але пудынг...— Словы агіды даносіліся няспынна ў самых розных спалучэннях.

Аднолькавыя халаты з чорнай шаўковай тканіны надавалі дзяўчатам выгляд амаль што манашак. Ніводная з іх не фарбавала вуснаў і не падводзіла веек. Апрануты яны былі падкрэслена сціпла, без прэтэнзій. Нямодныя гладкія прычоскі, грубыя бумажныя панчохі, дабротныя чорныя чаравічкі на нізкім абцасе і наглуха зашпіленыя пад самым горлам халаты — ва ўсім гэтым не было і знаку какецтва. Старэйшыя прадаўшчыцы, ужо немаладыя жанчыны, былі ў халатах колеру таннага малочнага шакаладу з бліскучымі шаўронамі на рукавах, шырэйшымі, чым у астатніх. У некалькіх дзяўчат вучаніц, нядаўніх школьніц, з худзенькімі яшчэ напаўдзіцячымі тварамі, халаты былі ўвогуле без шаўронаў. Вучаніцы неслі па два абедзенныя прыборы: сабе і для старэйшых прадаўшчыц.

Сярод дзяўчат былі і прыгожанькія. Альберт бачыў іх зусім блізка і заключыў, што гэта прыгажуні, бо яны не страцілі прывабнасці ў такіх уборах.

Прыслухоўваючыся да звонкіх галасоў дзяўчат, да іх жартаў наконт злашчаснага пудынгу, ён успомніў, што ў спешцы забыў дома люльку. Прыйшлося закурыць цыгарэту — апошнюю ў пачку. Пусты пачак ён выкінуў праз акно, якое выходзіла на дах недарэчнага, пампезнага партала; скамечаны кавалак чырвонага кардону ўпаў проста ў сцёкавы жолаб.

Словы пра пудынг і падгарэлы соус, якія на розныя лады паўтаралі, шчабечучы, галасы дзяўчат, Альберт выслухаў не меней трыццаці разоў. Затым усё сціхла, ніхто не выходзіў больш з універмага, і толькі са сталоўкі паспешна вярталіся запозненыя. У дзвярах магазіна з'явілася лютага выгляду асоба, у цёмна-зялёным халаце з трыма срэбранымі шаўронамі на рукаве, нахмурыла бровы і зірнула на вялікі гадзіннік на ўваходзе. Мінутная стрэлка застыла, быццам пагрозліва падняты палец, на апошняй хвіліне перад дванаццацю. Але вось стрэлка раптоўна падскочыла ўверх і закрыла лічбу дванаццаць. Запозненыя перабеглі праз дарогу, сціснуўшыся шмыганулі паўз начальніцу і зніклі за дзвярыма.

Вуліца апусцела. Перасіліўшы пазяханне, Альберт адышоў ад акна. Ён нічога не ўзяў з сабой пачытаць, разлічваў, як заўсёды, спарадкаваць усе справы з Бразготам за чвэрць гадзіны. У рэдакцыі ён звычайна здаваў малюнкі, атрымліваў чэк — ганарар за ўжо на-

друкаваныя — і, пасядзеўшы хвілін пяць у Бразгота, адыходзіў. Калі, закрыўшы за сабой дзверы яго кабінета, Альберт па доўгім калідоры кіраваўся да ліфта, ім адразу ж авалодвала знаёмае адчуванне трывогі. Ён ведаў, што гэтае адчуванне не пакіне яго цэлы тыдзень,— цэлы тыдзень будзе здавацца, што цяпер яму ўжо не прыдумаць нічога талковага або што чытачы часопіса «Суботні вечар» аднойчы катэгарычна запатрабуюць ад рэдакцыі ўзяць на яго месца новага карыкатурыста. Гэтым драпежнікам, што абжэрліся чалавечынай, захочацца, чаго добрага, пагуляць у вегетарыянцаў.

Але з таго часу як ён адшукаў кардонку «Санлайт», набітую старымі малюнкамі, гэты кашмар не мучыў яго больш. Шаснаццаць гадоў назад, напаўгалодны, адурэлы ад моцнай табакі і разведзенага віскі, ён праседжваў цэлымі днямі ў лонданскіх піўных і маляваў дзеля забаўкі, не ведаючы, як патраціць час. Цяпер ён здаваў гэтыя малюнкі ў рэдакцыю адзін за адным, і яны прынеслі яму ўжо дзвесце марак, не ўлічваючы ганарараў за перадрук у іншых часопісах. Бразгот быў у захапленні:

— Каб цябе чэрці! Ты пачаў працаваць у новым стылі. Зразумела, тваю руку адразу пазнаеш, і адначасова гэта нешта новае. Поспех у чытачоў забяспечаны. Віншую! Выдатна!

Так было і сёння. Атрымаўшы чэк, ён паціснуў Бразготу руку і накіраваўся да дзвярэй. Але той крыкнуў яму ўслед:

— Пачакай крыху ў тым пакоі. Мне абавязкова трэба з табой пагаварыць.

Альберт да гэтага часу пабойваўся Бразгота, хоць прайшло ўжо два тыдні з той пары, як яны перайшлі на «ты». Грунтоўна выпіўшы на нейкай загараднай прагулцы, яны высветлілі, што прытрымліваюцца адной думкі па цэлым шэрагу пытанняў. Ды ўсё ж ён пабойваўся Бразгота, пабойваўся нават цяпер, пасля ўсіх яго захапленняў з прычыны новага стылю. Гэта былі водгукі ранейшага страху, з якім трэба было скончыць, перш чым душой авалодае новы страх — страх перад Нэлай: ён баяўся трапіць ёй на кручок.

Альберт заўсёды карыстаўся вялікім аўтарытэтам у дзяцей і адчуваў гэта. Яму не хацелася расчароўваць Нэлу, але ў той жа час ён выдатна разумеў, куды яна

гне, хоць і не прызнаваўся ёй у тым.

З таго дня як ён наткнуўся на старыя малюнкі ў карабку «Санлайт», яму ўсё часцей успаміналіся гады, праведзеныя ў Лондане. У свядомасці зноў ажывалі карціны «жыцця ў чацвёртым вымярэнні» — непражытага жыцця, якое ён мог бы пражыць. Хутар бацькоў Лін у Ірландыі стаў бы ягоным домам. У думках ён маляваў эскізы для паведамленняў пра пахаванні, пра дні нараджэння для друкарні суседняга гарадка, рабіў эскізы пераплётаў...

...У тыя дні Нэла закідвала яго пісьмамі, маліла вярнуцца, і ён не выканаў апошняга жадання Лін і не паехаў у Ірландыю. Замест гэтага ён вярнуўся ў Германію. Навошта? Каб маляваць этыкеткі для бляшанак з павідлам і стаць сведкам гібелі Рая? Рай пайшоў на смерць на яго вачах, і ён не змог перашкодзіць гэтаму. Змагацца з тупой магутнасцю арміі было яму не па сіле. Альберт пазбягаў думаць пра гібель Рая. З гадамі яго нянавісць да Гезелера прытупілася, паступова згасла; ён толькі зрэдку ўспамінаў пра яго. Не мела сэнсу марыць пра тое, як бы склалася жыццё, калі б Рай не загінуў на вайне. Тут фантазія адмаўлялася служыць яму: ён занадта добра помніў смерць Рая. У тое імгненне ён асабліва ясна зразумеў, што смерць — гэта канец усяму. Рай ляжаў з разварочаным горлам, захлёбваючыся ва ўласнай крыві, і Альберт бачыў, як ён павольна перахрысціўся дрыжачай рукой. У прыпадку шаленства ён тут жа даў Гезелеру аплявуху. Але пасля ў ваеннай турме яго нянавісць да Гезелера страціла сваю вастрыню, і толькі адсутнасць пісьмаў ад Нэлы не давала яму спакою. Ён так і не даведаўся тады, ці ўдала яна нарадзіла.

Альберт уперыўся ў вялікую карту Германіі, што вісела на сцяне. Мясціны, дзе чыталі і выпісвалі «Суботні вечар», былі пазначаны чырвонымі сцяжкамі. Сцяжкі так засеялі карту, што на ёй амаль нічога нельга было разабраць: назвы гарадоў, рэк і горных хрыбтоў былі схаваныя за суцэльнай завесай чырвоных сцяжкоў з надпісам «Суботні вечар»...

З кабінета Бразгота па-ранейшаму не даносілася ні гуку. Цішыня, што панавала ў гэтым вялікім, заўсёды такім шумным доме, гняла Альберта. Гадзіннік ва універмагу паказваў ужо дзесяць хвілін на другую — праз пяць хвілін Марцін вернецца са школы.

На тым баку вуліцы дзяўчаты ў чорных халатах пад наглядам шакаладнай дамы наклейвалі ў прасценках паміж вітрынамі рэкламныя плакаты; белы надпіс на чырвоным фоне апавяшчаў: *Надзейна, выгадна!*

Бразгот усё яшчэ не з'яўляўся, і гэта пачынала раздражняць Альберта. Ён непакоіўся за Марціна. Хлапчук жа такі няўважлівы. Паставіць падагрэць абед, а сам пойдзе ў пакой, адкрые кнігу, разамлее ў цяпле і зараз жа засне. Тым часам суп на кухні выкіпіць, бульба ператворыцца ў шматкі сажы, а локшыны — у нешта накшталт вугальнага брыкету. На стале ляжалі старыя нумары «Суботняга вечара» з малюнкамі Альберта на чацвёртай старонцы вокладкі. Альберт адчыніў дзверы ў калідор і прыслухаўся — ні гуку. Нідзе не грукалі дзверы, не званіў тэлефон, нідзе не відно было ўсіх гэтых журналістаў з зусім хлапечымі, вельмі жыццярадаснымі і вельмі журналісцкімі фізіяноміямі, якія заўсёды нагадваюць герояў кепскіх фільмаў, гавораць мовай кепскіх радыёпастановак.

Сёння рэдакцыя пуставала. Унізе каля ўвахода быў вывешаны вялікі белы плакат: *Зачынена з прычыны загараднай экскурсіі.* Швейцар доўга не хацеў упускаць Альберта. Выдавец «Суботняга вечара» лічыў, мабыць, прыкметай асаблівага арыстакратызму наўмысна запушчаны выгляд рэдакцыйных памяшканняў. Убоства абсталявання, якое кідалася ў вочы, не адпавядала даходам выдавецтва. Голыя бетонныя сцены былі ўпрыгожаны толькі плакатамі, ды на аднолькавай адлегласці адна ад адной віселі дошчачкі, на якіх стылізаваным дзіцячым почыркам, як на рэкламах школьных прыналежнасцей, было напісана: *«Калі ты напляваў на падлогу, ты свіння», або «Калі ты кідаеш на падлогу недакуркі — ты таксама свіння».* Альберт уздрыгнуў, калі адны з дзвярэй, што выходзілі ў калідор, раптоўна адчыніліся. Але з дзвярэй выйшла дзяўчына-тэлефаністка, якая працавала на камутатары. Падышоўшы да рукамыйніка, яна пачала мыць відэлец і нож. Затым, павярнуўшыся да адчыненых дзвярэй, сказала ўсё тую ж знаёмую фразу:

— Не надумайся браць на трэцяе гэтае чырвонае месіва — страшэнная дрэнь, і ванільны соус падгарэў.

З пакоя пачуўся голас яе напарніцы:

— У нашых экскурсантаў сёння абед будзе смачнейшы! З шэфа за гэта належыць!

— За ім не затрымаецца,— адказала дзяўчына, што стаяла над рукамыйнікам.— Для дзесяці чалавек, якія сёння засталіся, наладзяць асобную экскурсію. Гэта значна лепш, чым ехаць усім скопам.

— Ты бачыла сёння раніцай чырвоныя аўтобусы? Шыкоўныя машыны!

— А як жа, я якраз ішла на работу, калі яны пад'язджалі.

Дзяўчаты замаўчалі. Альберту хацелася яшчэ хоць раз пачуць голас тэлефаністкі, якая сядзела ў пакоі. Ён адразу пазнаў гэты голас: дзяўчына шмат разоў злучала яго з Бразготам. Часам ён набіраў нумар рэдакцыі толькі дзеля таго, каб пачуць яе голас. У ім гучала нейкая ласкавая леная пакора і раптам праслізгвалі нечаканыя наравістыя ноткі, якія нагадвалі голас Ліп.

Дзяўчына над рукамыйнікам абыякава ўсунула нож і відэлец у кішэню халата, выцягнула грабянец з валасоў і, заціснуўшы яго ў зубах, пачала падкручваць локаны.

Альберт падышоў да яе:

— Ад вас можна пазваніць у горад? — спытаў ён.— У мяне тэрміновая справа!

Дзяўчына адмоўна пакруціла галавой, працягваючы ўкладваць локаны сваіх негустых валасоў.

Затым, выцягнуўшы з рота грэбень, яна ўваткнула яго ў рэдзенькі вузел на патыліцы і сказала:

— З камутатара нельга. А вы пазваніце з аўтамата.

— Я не магу адысціся. Я чакаю Бразгота.

— Ён вось-вось з'явіцца,— пачуўся з пакоя голас другой дзяўчыны,— ён толькі што званіў і сказаў, што зараз будзе тут.

Альберт спрабаваў па голасе вызначыць яе знешнасць. Ён уявіў сабе высокую поўную дзяўчыну з вольнай плаўнай паходкай. Ён захацеў паглядзець на яе — на дзяўчыну з пяшчотным голасам, у якім гучала ласкавая пакора. Твар у яе павінен быць белым, чыстым, з вялікімі задумлівымі вачамі.

Яе сяброўка ўсё яшчэ круцілася перад люстэркам. Цяпер яна пудрыла пачырванелы нос.

— Дык ты кажаш, каўбаса смачная? — запыталася тая, што заставалася ў пакоі.

— Цудоўная! І гарнір таксама! Папрасі дабаўкі — не пашкадуеш. Нават кава стала лепшая з той пары,

як мы ўзбунтаваліся. А заместа пудынгу вазьмі міндальнае піrожнае.

— Трэба было [redacted] паскардзіцца наконт пудынгу. Якая брыдота!

Альберт ніяк не рашаўся пайсці. Было ўжо чвэрць другой.

— Сапраўды! Дзяўчаты з магазіна, што насупраць, тое ж самае гаварылі.

Яна адышла ад люстэрка, штуршком нагі адчыніла дзверы, і Альберт убачыў тэлефаністку, якая сядзела ў пакоі. Ён нават спалохаўся — дзяўчына аказалася менавіта такой, як ён яе сабе ўяўляў. Бландзінка з мяккімі рысамі твару і вялікімі цёмнымі вачамі, марудлівая і пяшчотная — ціхі вір. Апранута яна была сціпла: з-пад расшпіленага халата была відаць рудая спадніца і зялёны джэмпер.

— «Суботні вечар». Не, сёння тут нікога няма. Усе паехалі за горад, на экскурсію... Не... пазваніце, калі ласка, заўтра раніцай.

Дзверы зачыніліся, і Альберт нейкі час яшчэ чуў, як дзяўчаты працягвалі гаворку пра яду. Затым дзверы зноў адчыніліся, і бялявая дзяўчына, трымаючы ў руках сталовы прыбор, прайшла ў глыб цёмнага калідора.

Дзіўна, голас гэтай дзяўчыны заўсёды нагадваў яму Лін. Але ж яна зусім не была на яе падобнай. Лін заўсёды гаварыла яму па тэлефоне ўсё тое, пра што саромелася гаварыць, калі ён быў з ёю. Яна ўспамінала ўсю тэалагічную прамудрасць і горача шаптала ў залапаную трубку лонданскага аўтамата цэлыя лекцыі пра шлюб і грахоўную страсць да шлюбу. Лін хутчэй скончыла б жыццё самагубствам, чым згадзілася б зрабіцца яго палюбоўніцай.

Паходка высокай, браністай дзяўчыны, якая знікла за паваротам на лесвіцу, была поўная прыроджанай вытанчанасці. Раптоўнае жаданне апякло Альберта. Добра б ажаніцца з такой вось русалкай, ласкавай і лянівай — з дзяўчынай з голасам Лін, але зусім не падобнай на яе.

Заглыблены ў свае думкі, Альберт, нічога не бачачы, глядзеў у пафарбаваныя пад арэх дзверы камутатарнай і ўздрыгнуў, калі ў калідор уляцеў Бразгот.

— Прабач, што я змусіў цябе чакаць,— усклікнуў ён,— мне неабходна пагаварыць з табой, неабходна!

Абняўшы Альберта за плечы, Бразгот пацягнуў яго да выхада, пасля рынуўся назад, ірвануў дзверы ў камутатар і крыкнуў тэлефаністцы:

— Калі пазвоняць, я буду дома пасля пяці.

Ён вярнуўся да Альберта, і яны разам пачалі спускацца па лесвіцы.

— Ты можаш выдзеліць мне крыху часу? — спытаў Бразгот.

— Так, але спачатку мне трэба зазірнуць дамоў, глянуць, што там з хлопчыкам.

— Там нам ніхто не перашкодзіць?

— Ніхто.

— Ну дык паедзем да цябе. Пра якога хлопчыка ты гаворыш? У цябе, што, ёсць сын?

— Не, гэта сын майго сябра, які загінуў на вайне.

Машына Альберта стаяла каля друкарскага склада. Ён сеў у яе і, адчыніўшы знутры другія дзверцы, пасадзіў Бразгота каля сябе.

— Прабач, што я так спяшаюся. Дома ў нас будзе дастаткова часу — пагаворым.

Бразгот выняў з кішэні пачак цыгарэт, і яны закурылі раней, чым Альберт уключыў матор.

— Можа, гэта і не патрабуе шмат часу,— сказаў Бразгот.

Альберт не адказаў; ён прасігналіў, даў газу і выехаў з варот друкарні. Праязджаючы міма універмага, Альберт заўважыў, што прасценкі паміж вітрынамі паўсюль пакрыты чырвона-белымі плакатамі. На кожным з іх толькі адно слова, а ўсе разам яны паведамлялі: Да асенняга сезону — надзейна, выгадна!

— Скажу табе адразу, без вывертаў,— пачаў Бразгот,— гаворка пойдзе пра жанчыну, з якой ты жывеш.

Альберт уздыхнуў:

— Ні з кім я не жыву. Калі ты маеш на ўвазе Нэлу, дык я сапраўды жыву ў яе доме, але...

— Але ты не спіш з ёй?

— Не, не сплю...

Яны выехалі на вялікую ажыўленую плошчу. Бразгот замоўк — да майстэрства ваджэння аўтамабіля ён ставіўся з павагай — і загаварыў толькі пасля таго, як яны павярнулі на глухую вуліцу.

— Але ж яна табе не сястра?

— Не.

— І яна цябе зусім не цікавіць?
— Не.
— І ты даўно яе ведаеш?
Альберт адказаў не адразу, стараючыся ўспомніць, колькі гадоў ён на самай справе ведае Нэлу. Яму здавалася, што ён усё жыццё ведае яе. Яны праехалі па ажыўленай, шумнай вуліцы, перасеклі другую такую ж і нарэшце павярнулі ў пусты завулак.
— Пачакай,— сказаў ён,— я ведаю яе неймаверна даўно, нават адразу не ўцямлю, колькі гадоў.
Ён наддаў газу і, прагна зацягнуўшыся цыгарэтай, працягваў:
— Я пазнаёміўся з ёй летам трыццаць трэцяга года, мы елі марожанае ў кафэ, значыцца, я ведаю яе роўна дваццаць гадоў. У той час яна была зусім яшчэ дзяўчынка і заўзятая нацыстка: насіла карычневую куртку, форму саюза германскіх дзяўчат. Але пасля гаворкі з Раймундам яна скінула яе, ды так і пакінула валяцца на падлозе. Мы хутка выбілі гэтую дрэнь з яе галавы. Гэта было не так ужо і цяжка — яна ж недурная жанчына.
— Зараз ужо недалёка,— перабіў ён сам сябе,— я толькі заскочу на хвілінку ў магазін: трэба што-кольвечы купіць для хлапчука. Паабедаем у мяне: дома ўсё прыгатавана, толькі падагрэць. Пасля будзем піць каву. Да шасці я да тваіх паслуг, у шэсць я збіраўся паехаць за горад да панядзелка.
— Добра,— адказаў Бразгот, але Альберт адчуў, што Бразготу не цярпіцца больш падрабязна распытаць яго пра Нэлу.
— Між іншым, яе зараз няма дома,— сказаў ён.
— Я ведаю,— адазваўся Бразгот.
Альберт здзіўлена паглядзеў на яго, але змаўчаў.
— Ёй было дваццаць пяць, калі забілі мужа, яна чакала дзіця. Вось ужо восем гадоў я жыву ў яе доме і, мяркую, дастаткова добра ведаю яе.
— Ведаеш, мне ўсё роўна, якая яна,— сказаў Бразгот.— Ты можаш гаварыць пра яе што заўгодна,— я гатовы слухаць хоць цэлы дзень.
Альберт прытармазіў і адчыніў дзверцы. Абышоўшы вакол машыны, ён ўбачыў праз ветравое шкло твар Бразгота і спалохаўся: такі выраз твару бывае толькі ў безнадзейна закаханых. Бразгот таксама вылез з машыны.

— Колькі гадоў хлопчыку?
— Пайшоў адзінаццаты.
Яны спыніліся каля вітрыны пісчапапяровага магазіна, дзе сярод блакнотаў, паперы і паштовых вагаў былі выстаўлены і цацкі.
— Што б такое купіць адзінаццацігадоваму хлопчыку? — спытаў Бразгот.— Я нічога не разумею ў дзецях, ды, прызнацца, і не люблю іх.
— І я так думаў, пакуль не стукнула трыццаць. Я не любіў дзяцей і не ведаў, як з імі абыходзіцца,— сказаў Альберт.
Ён зайшоў у магазін. Бразгот ішоў за ім.
— Усё перамянілася з той пары, як я жыву ў адным доме з Марцінам.
Альберт замоўк, спалоханы, што Бразгот адчуе, з якой пяшчотай ён адносіцца да дзіцяці. Адсунуўшы ўбок кіпу газет на прылаўку, ён пачаў разглядваць карабок з пластылінам. Альберт вельмі любіў хлопчыка, і яму раптам зрабілася страшна ад прамільгнулай думкі, што Бразгот чаго добрага ажэніцца з Нэлай, і тады ён страціць Марціна.
Бразгот з адсутным выглядам перастаўляў з месца на месца завадныя аўтамабільчыкі. Не звяртаючы ўвагі на гаспадыню магазіна, якая тым часам выйшла з задняга пакоя, ён прамовіў:
— Я ніколі ў жыцці не раўнаваў, а цяпер вось разумею, што гэта такое!
— Ды табе, уласна, няма да каго раўнаваць.
Бразгот узяў ракетку для пінг-понга і націснуў пальцам на коркавы пласт, правяраючы яго пругкасць.
— Пінг-понг яму, мабыць, спадабаецца.
— Неблагая ідэя,— сказаў Альберт.
Ні на чым не спыняючыся, ён перагортваў дзіцячыя часопісы і кніжкі, якія ляжалі на прылаўку, затым папрасіў гаспадыню паказаць яму завадныя і драўляныя цацкі і нарэшце адклаў убок комікс пра каўбоя Кесідзі.
Бразгот, відаць, разбіраўся ў пінг-понгах. Перабраўшы безліч мячоў і ракетак, ён забракаваў некалькі камплектаў, папрасіў запакаваць самы дарагі і кінуў на прылавак грошы. Гаспадыня дэманстравала Альберту гумавыя надзіманыя цацкі. Ён спяшаўся і быў раздражнёны,— размова з Бразготам зноў пры-

мусіла яго задумацца пра свае адносіны з Нэлай. Ён з агідай глянуў на ядавіта-зялёнага кракадзіла, які востра пах гумай. Гаспадыня з усяе сілы спрабавала надзьмуць яго, але безвынікова,— здавалася, што яна жуе цвёрды кавалак смажаніны.

Твар яе пачырванеў ад натугі, акуляры з'ехалі на нос, кроплі поту кацілісся па шчоках. Гумавы вентыль пакрыўся бурбалкамі сліны, але кракадзіл толькі ледзь-ледзь павялічыўся ў аб'ёме.

— Дзякуй,— сказаў Альберт,— дзякуй. Можа, іншым разам.

Жанчына выпусціла з рота вентыль, але так няспрытна павярнула цацку, што паветра, якое выходзіла з яе,— сумесь нясвежага дыхання з пахам гумы — ударыла проста ў твар Альберту.

— Дзякуй,— паўтарыў ён раздражнёна,— я вазьму вось гэта.

Ён паказаў на кардонны шчыт, да якога шпагатам былі прымацаваны малаткі, пласкагубцы і буравы.

Гаспадыня пачала загортваць набор інструменту. Альберт, дастаючы з кішэні грошы, раптам успомніў, што Марціну гэта непатрэбна. Гэтак жа, як і ягоны бацька, ён быў зусім абыякавы да тэхнікі і не любіў майстраваць.

Яны пакінулі магазін. Праехалі на вялікай хуткасці некалькі вуліц, затым Альберт перасек шырокі праспект і прытармазіў у цяністай каштанавай алеі.

— Вось мы і прыехалі,— сказаў ён, спыніўшы машыну.

Бразгот вылез, трымаючы пад пахай карабок з пінгпонгам.

— Добра ў вас тут,— сказаў ён.

— Але, проста выдатна,— азваўся Альберт.

Ён адчыніў садовую брамку і пайшоў наперадзе. Бразгот ішоў услед. Марцін яшчэ не вярнуўся са школы. Альберт адразу ж заўважыў гэта: запіска, якую ён раніцай прымацаваў да дзвярэй, вісела на ранейшым месцы. Ён напісаў яе чырвоным алоўкам. «Пачакай мяне з абедам — сёння я не спазнюся». Слова «сёння» двойчы падкрэслена. Альберт зняў запіску, адамкнуў дзверы, і яны ўвайшлі ў цёмную прыхожую, абабітую зялёным шоўкам. Тканіна няблага захавалася, але выгарала. Вузкія мармуровыя паскі, якія падзялялі сцены на зялёныя квадраты, дзе-нідзе пайшлі жоўтымі

плямамі. На радыятары ацяплення ляжаў слой пылу. Заўважыўшы самакат Марціна, які быў коса прыстаўлены да радыятара, Альберт паставіў яго прама, а Бразгот паправіў прычэплены да руля трохколерны вымпел, чырвона-бела-зялёны.

— Калі ласка,— сказаў Альберт.

У гасцінай было ціха і змрочна. Вялікае люстэрка ў прасценку паміж дзвюма дзвярыма цалкам адлюстроўвала партрэт, што вісеў насупраць. Бразгот пачаў разглядваць яго. Гэта быў накід тэмперай, зроблены паспешнымі, грубымі мазкамі, але вельмі таленавіта. Юнак у ярка-чырвоным світэры стаяў, апусціўшы вочы, быццам чытаючы надпіс на кавалку блакітнага кардону, які трымаў у руцэ. Надпіс быў, мабыць, зроблены ім самім, бо ў другой руцэ ён трымаў аловак. У ягоных зубах дыміла люлька...

Бразгот здолеў прачытаць ярка-жоўты надпіс на блакітным кардоне: «Дамашнія локшыны Бамбергера».

Альберт вярнуўся з кухні, не зачыніўшы за сабой дзвярэй, і Бразгот заўважыў, што кухня вельмі вялікая. Сцены абкладзеныя белай кафляй, а на ёй мазаіка з маленькіх чорных плітак, якая выяўляе розныя сімвалы кулінарнага мастацтва,— палонікі, каструлі, скавароды, велізарныя ражны, і сярод гэтых узораў красуецца надпіс: «Шлях да сэрца мужчыны праходзіць праз яго страўнік».

— Гэта яе муж-паэт на партрэце? — спытаў Бразгот.

— Ды ты паглядзі адсюль, так лепш бачна.

Мякка ўзяўшы Бразгота за плячо, Альберт павярнуў яго тварам да люстэрка, якое па намеры было гэтакім жа, як і партрэт. Бразгот задумліва глядзеў на партрэт у люстэрку, на кавалак блакітнага кардону з перавернутымі жоўтымі літарамі. Люстэрка адбівала яго і Альберта, іх стомленыя твары і парадзелыя валасы. Зірнуўшы адзін на другога, яны ўсміхнуліся.

— Пачакаем з абедам, пакуль не прыйдзе хлопчык,— сказаў Альберт.— А пакуль што вып'ем.

Яны прайшлі ў пакой Альберта, прасторны і светлы, з высокай столлю. Каля сцяны стаяў ложак, насупраць яго — рабочы стол. Стол быў вялізны, але паміж ім і ложкам заставаўся яшчэ шырокі праход.

Каля самага акна стаяла кушэтка, каля яе шафа, крэсла і столік з тэлефонам.

Альберт дастаў з шафы кілішкі, бутэльку каньяку і паставіў на стол.

Бразгот сеў і закурыў. Усё навокал дыхала спакоем. Дом і сад патаналі ў глыбокай дрымотнай цішыні. Даўно ўжо ён не адчуваў такой асалоды. Яму тут было добра, і маючая адбыцца гаворка з Альбертам пра Нэлу ўзбуджала ў ім радаснае прадчуванне. Пакуль Альберт наліваў кілішкі, Бразгот падняўся, падышоў да акна і расчыніў яго. Аднекуль здалёк пачуліся дзіцячыя галасы і смех. Па вясёлых крыках дзяцей можна было адразу здагадацца, што яны плёхаюцца ў вадзе. Бразгот вярнуўся да стала, сеў насупраць Альберта і прыгубіў наліты кілішак.

— Добра ў цябе тут,— сказаў ён,— як хочаш, а я пасяджу тут да тае пары, пакуль ты мяне не прагоніш.

— Ну і сядзі сабе на здароўе.

— Мне толькі трэба будзе яшчэ пазваніць у рэдакцыю, пазней, гадзіны ў чатыры.

— Адгэтуль і пазвоніш.

Альберт увесь час сачыў за Бразготам і жахнуўся, калі заўважыў выраз дрэнна схаванага адчаю і адсутнасці на ягоным твары, які вельмі нагадаў яму Шэрбрудэра, які дваццаць гадоў таму застрэліўся з-за безнадзейнага кахання да Нэлы. У той час Нэла была адказнай за правядзенне вечароў адпачынку ў саюзе германскіх дзяўчат і пасябравала з Шэрбрудэрам, які ладзіў такія ж вечары ў саюзе гітлераўскай моладзі. Шэрбрудэру толькі што споўніўся дваццаць адзін год, ён скончыў настаўніцкую семінарыю і атрымаў месца настаўніка малодшых класаў у адной з навакольных вёсак. У прыгарадным гаі, што акружаў руіны старой крэпасці, Шэрбрудэр знайшоў магутны, разгалісты дуб. Па ягонай указцы вакол дуба ссеклі некалькі дрэў і расчысцілі невялікую паляну. Ён назваў яе «Цінгам»[1], прыводзіў сюды дзяцей са сваёй школы, ладзіў з імі гульні, развучваў песні. Шчуплы і цемнавалосы, Шэрбрудэр быў падобны на цыгана. Няцяжка было здагадацца, што ён бы аддаў правую руку на адсячэнне за бялявыя валасы. А ў Нэлы валасы былі светлыя, залацістыя. Яна была падобная на тып герман-

---

[1] Вечавая плошча ў старадаўніх германцаў.

скіх жанчын з расісцкіх часопісаў, толькі нашмат цікавейшая за іх. Шэрбрудэр данёс на Рая і Альберта мясцовым штурмавікам, якія зрабілі у старой крэпасці, паблізу ягонага «Цінга», невялікі, амаль прыватны канцлагер. Іх пратрымалі там тры дні, дапытвалі, збівалі. Да гэтага часу Альберту, бывала, сніліся змрочныя казематы крэпасці, дзікія крыкі катаваных, якія рэхам адгукаліся пад скляпеннем. Плямы разлітага супу разам з плямамі крыві на бетоннай падлозе, п'яны рык штурмавікоў, якія збіраліся ўвечары на кухні, дзе зняволеныя абіралі бульбу. У рэдкія хвіліны зацішша сюды з шэрбрудэраўскага «Цінга» даносілася песня «Наперад, блакітныя драгуны!».

Альберта і Рая пратрымалі ў старой крэпасці ўсяго тры дні. Бацька Нэлы, які пастаўляў мармелад у вялікі летні лагер «Гітлер-югэнд» бліз горада, вызваліў іх адтуль.

Яны зразумелі, што ўсё гэта адбылося з-за Нэлы, але сама яна ніколі не гаварыла пра свае адносіны з Шэрбрудэрам.

І пасля іх вызвалення Шэрбрудэр усё яшчэ не мог забыць Нэлу; неяк яны бачылі яго ў кафе, у маразаншчыка Генэля. Альберт запомніў выраз страснай закаханасці на твары Шэрбрудэра, такі ж, як зараз на твары Бразгота.

— Выпі яшчэ,— сказаў ён Бразготу.

Той наліў сабе кілішак і выпіў.

Шэрбрудэр застрэліўся пад дубам на «Цінгу» ноччу на 22 чэрвеня, пасля святкавання летняга сонцастаяння. Яго знайшлі раніцай два школьнікі. Яны прыйшлі на «Цінг», каб раздзьмуць на тлелых галавешках начнога кастра новае вогнішча і спаліць галлё, якое засталося. Кроў з прастрэленай скроні Шэрбрудэра сцякала на ягоную сінюю форменную гімнасцёрку, і сукно прыняло фіялетавае адценне.

Бразгот трэці раз наліў кілішак.

— Неразумна так улюбляцца ў мае гады! — сказаў ён хрыпла.— Але я вось закахаўся і нічога не магу з сабой зрабіць.

Альберт кіўнуў. Ён думаў зусім пра іншае. Яму ўспомніўся Авесалом Біліг, якога замучылі ў змрочным каземаце праз некалькі месяцаў пасля самазабойства Шэрбрудэра. І адразу ж яму прыйшло ў галаў, што ён забыўся пра многія рэчы, ён нават не даду-

маўся звадзіць хлопчыка ў старую крэпасць,— паказаць яму засценак, дзе тры дні запар катавалі ягонага бацьку.

— Мне хочацца слухаць пра яе,— сказаў Бразгот.

Альберт паціснуў плячамі. Які сэнс расказваць Бразготу пра ўтрапёную, няўстойлівую натуру Нэлы! Пакуль Рай быў жывы, яна трымалася малайцом, але, калі Альберт вярнуўся з фронту, ён быў уражаны тым, як Нэла надломлена. Часам на яе находзілі прыступы набожнай пакоры. Гэта доўжылася месяцамі; яна ўставала на досвітку, каб трапіць на ютрань, праз усю ноч чытала жыццяпісы схімнікаў. Затым раптоўна яна зноў упадала ў апатыю, цэлымі днямі не ўставала з ложка або праводзіла час у пустой балбатні з гасцямі і была надта задаволеная, калі сярод гасцей надараўся хоць крыху прыстойны паклоннік. Яна хадзіла з ім у кіно, у тэатр. Часам Нэла на некалькі дзён з'язджала з мужчынамі. Варталася падаўленая, разбітая і плакала наўзрыд, запёршыся ў сваім пакоі.

— Адкуль ты даведаўся, што яна з'ехала? — спытаў Альберт.

Бразгот прамаўчаў. Альберт уважліва глядзеў на яго. Бразгот пачынаў раздражняць яго. Ён не выносіў, калі мужчына, расчуліўшыся, пачынае, як кажуць, раскрываць душу. А Бразгот, мяркуючы па ўсім, гатовы пачаць гэта. Ён быў падобны зараз на валацугу з фільма. Буйны план — хаціна ў джунглях, абвітыя ліянамі сцяліны. Валацуга сядзіць на ганку. Малпа скача з галіны на галіну і кідае ў валацужніка бананамі. Валацуга кідае ў малпу парожнюю бутэльку з-пад віскі, і малпа з пранізлівым віскатам хаваецца ў густым лісці. Затым дрыжачымі рукамі валацуга адкаркоўвае новую бутэльку віскі і п'е з горлачка. У гэты момант з'яўляецца другая дзейная асоба, і бадзяга пачынае свой роспавяд. Яго суразмоўнік — урач, або місіянер, або паважаны купец — заклікае валацужніка «пачаць новае жыццё». І вось тут, зрабіўшы страшэнны глыток, валацуга раве сіплым голасам: «Новае жыццё?» — і рагоча д'ябальскім смехам. Затым ён усё тым жа сіплым голасам расказвае доўгую гісторыю пра жанчыну, якая «давяла яго да жыцця такога». Сіплы голас, наплыў. Буйным планам — здзіўлены твар урача, місіянера або паважанага купца. І чым меней віскі застаецца ў бутэльцы, тым гру-

бейшым робіцца голас бадзягі, тым бліжэй канец фільма.

Аднак Бразгот усё яшчэ маўчаў, хоць выпіў ужо шэсць кілішкаў запар і добра-такі асіп. Раптам ён устаў, перасек пакой і, спыніўшыся каля акна паміж пісьмовым сталом і ложкам, пачаў задумліва церабіць ружовую занавеску. Цяпер ён ужо не быў падобны на валацугу, гэта быў разумны, абаяльны герой з выдатна знятага, зробленага па выдатным сцэнарыі фільма. Менавіта ў такой позе героі падобных фільмаў у сентыментальным настроі стаяць каля акна, збіраючыся адкрыць некаму душу.

Альберт наліў кілішак і вырашыў скарыцца сваёй долі. Хлопчыка ўсё яшчэ не было,— гэта трывожыла яго. Бразготу непакоіцца няма чаго. Мужчыны такога складу заўсёды падабаліся Нэлі: «разумны і мужны твар», нядбайна апрануты. Праўда, цяпер непадыходзячы момант, але трэба думаць, настрой у яе хутка зменіцца. На Нэлу часам находзіла. Штогод на пэўны час яна захаплялася зносінамі з разумнымі і адукаванымі манахамі, падоўгу гутарыла з імі пра рэлігію. Гэтыя гутаркі, чаруючыя і пачуццёвыя, праходзілі звычайна ў вялікім светлым пакоі ля каміна за бутэлькай добрага віна, да якога падаваліся асаблівыя гатункі пячэння. Добрыя карціны сучасных мастакоў стваралі неабходны фон. Нэла цешылася кампаніяй прыгажуноў манахаў з палаючымі вачыма. У параўнанні з усімі іншымі манахі мелі адну перавагу. У сваіх сутанах яны выглядалі нашмат разумнейшымі і значнымі, чым былі на самай справе.

Альберт усміхнуўся. Ён падумаў пра тое, што ён вельмі прывязаны да Нэлы і з радасцю чакае яе вяртання.

— Добра табе ўсміхацца,— пачуўся ад акна голас Бразгота,— а я месца сабе не знаходжу. Я, мабыць, пагадзіўся б з роляй безнадзейна закаханага, калі б не сустрэў яе сёння раніцай...

— Ты бачыў, як яна ад'язджала?

— Так, з адным тыпам, якога я не выношу. Я ўзненавідзеў яго яшчэ да таго, як сустрэў іх разам.

— Хто ён? — машынальна запытаў Альберт, адчуваючы, што Бразгот не можа абысціся без суразмоўніка.

— Гэта нейкі Гезелер,— са злосцю сказаў Бразгот.— Ты яго ведаеш?

— Не.

Раней адно гэтае імя выклікала ў Альберта лютую нянавісць. Але цяпер ён толькі ўздрыгнуў... Яму раптам зрабілася зразумелым, на што намякала Нэла, калі гаварыла пра «задуманую справу».

— Не, ты ўсё ж ведаеш яго,— сказаў Бразгот і зноў падышоў да стала.

Па ягоным твары Альберт зразумеў, як выглядаў ён сам, калі пачуў імя Гезелера.

— Не зусім так. У свой час я ведаў аднаго Гезелера — жудасная сволата.

— У тым, што ён сволата, у мяне няма сумнення,— сказаў Бразгот.

— Чым ён займаецца? — спытаў Альберт.

— Нейкая скаціна [redacted] католікаў. Прамышляе ў галіне культуры. Вось ужо тры тыдні, як ён працуе ў рэдакцыі «Весніка».

— Дзякуй за камплімент,— сказаў Альберт,— я, між іншым, таксама католік.

— Вельмі шкадую,— сказаў Бразгот,— я хацеў сказаць, цябе шкадую, канешне. Свае словы я назад не бяру. Так ці іначай — ён скаціна. А той Гезелер, якога ты ведаў, што ён табе зрабіў?

Альберт устаў. Яны памяняліся ролямі. Зараз ужо Альберту, які спыніўся каля акна, трэба было іграць ролю бадзягі або абаяльнага героя, што, не губляючы вытрымкі, збіраецца адкрыць душу. Заставалася толькі зняць яго буйным планам.

Зрэшты, Альберт сапраўды спачуваў Бразготу, які меланхалічна корпаўся запалкай у зубах, але думка пра хлопчыка, які усё яшчэ не вяртаўся, не пакідала яго ў спакоі. Для яго было пакутай зноў расказваць гэту гісторыю, столькі разоў ужо расказаную. Яму здавалася, што ад частага паўтарэння яна сцерлася, вынасілася да непазнавальнасці. Ён расказваў яе маці Нэлы, самой Нэлі, а ў першыя гады пасля вайны і маленькаму Марціну. Але апошнім часам хлопчык чамусьці не прасіў яго пра гэта.

— Ну, выкладвай,— сказаў Бразгот.

— Забіты муж Нэлы на сумленні таго Гезелера, якога я ведаў. Ён забіў яго самым законным спосабам, на фронце, так што нельга прыдрацца: паслаў яго на

смерць. Раней я з лёгкай душой гаварыў: «Забіў» — цяпер я проста не магу падабраць іншае слова. Але які сэнс расказваць табе ўсё гэта? Мы ж не ўпэўнены ў ым, што гэта той жа Гезелер.

— Не міне і гадзіны, як мы даведаемся пра гэта: у суботнім нумары «Весніка» змешчаны ягоны фотаздымак. Не надта ўжо многа на свеце сваланы з прозвішчам Гезелер.

— Ды табе-то што ён зрабіў?

— Ах ты, Божа,— нічога,— саркастычна ўсміхнуўся Бразгот.— Хіба такія што зробяць?

— Ты ўпэўнены, што яна паехала з гэтым Гезелерам?

— Я бачыў, як яны садзіліся ў машыну.

— Як ён выглядае?

— Да чаго гэта? Я ж табе кажу: варта толькі пазваніць, і праз гадзіну газета з ягоным фотаздымкам будзе ў нас на стале.

Альберт баяўся, што гэта будзе той самы Гезелер. Ён адмоўна пахітаў галавой, але Бразгот ужо набіраў нумар. Альберт зняў адводную трубку і, пачуўшы далёкі голас: «Суботні вечар» слухае», адразу зразумеў, што адказала дзяўчына, якая стаяла каля люстэрка. Але тут жа ён пачуў фразу, прамоўленую голасам другой тэлефаністкі: «Ты мела рацыю: пудынг — брыдота!»

— Вы што, як мае быць уключыць не можаце? — раз'юшыўся Бразгот.— Я чую ўсё, што гавораць у вас на камутатары.

Альберт паклаў адводную трубку.

— Дастаўце мне суботні нумар «Весніка». Каб праз гадзіну быў тут. Няхай Велі на матацыкле прывязе. Ды не, не дадому, а сюды, на кватэру да Мухава. Запішыце адрас і тэлефон. Калі хто будзе пытаць, няхай пазвоняць сюды. Калі буду адыходзіць, я сам вам пазваню.— Ён паклаў трубку і, звяртаючыся да Альберта, сказаў: — Ну, давай расказвай.

Было ўжо палова трэцяй. Хлопчык яшчэ не прыходзіў. Гэта хвалявала Альберта.

— Летам тысяча дзевяцьсот сорак другога года здарылася гэта. Была раніца. Мы акапаліся на подступах да сяла Калінаўка. Наш узвод якраз прыняў новы лейтэнант. Ён перапаўзаў з акопа ў акоп, знаёміўся

з людзьмі. Гэта і быў Гезелер. У нашай ячэйцы ён затрымаўся даўжэй, чым у іншых. Вакол цішыня. «Я шукаю двух талковых хлопцаў»,— сказаў ён нам. Мы прамаўчалі. «Двух талковых хлопцаў, зразумелі?» — паўтарыў ён. «Мы бесталковыя»,— сказаў Рай. «Ты, як бачна, талковы»,— засмяяўся Гезелер. «Мы ж з вамі на брудэршафт не пілі»,— адказаў Рай.

Альберт замоўк. Яму здавалася, што ён лыжкай чэрпае смерць з кацялка. Навошта? Навошта ўсё гэта зноў расказваць? Трэба ж было гэтаму надарыцца, зноў невядома адкуль усплыў чалавек з прозвішчам Гезелер, да якога Бразгот прыраўнаваў Нэлу.

— Гэты адказ,— праз сілу працягваў ён,— вырашыў лёс Рая. Гезелер паслаў нас у разведку. На такую справу мы былі абсалютна няздатныя. Усе гэта разумелі. Наш фельдфебель, які добра нас ведаў, спрабаваў адгаварыць Гезелера, і нават капітан, наш ротны, умяшаўся і спрабаваў давесці яму, што наўрад ці ўдасца нам такая рызыкоўная вылазка. Вёска быццам вымерла, і ніхто не ведаў, ці ёсць там рускія. Усе наперабой стараліся пераканаць Гезелера, але ён ніколі не слухаў і толькі крычаў: «Я вас пытаю, выконваюць тут загады афіцэра або не?» Ротны і сам ужо не ведаў, як выблытацца з гэтай гісторыі.

Альберт стаміўся, яму не хацелася ўспамінаць усе падрабязнасці.

— Капітан, ведаеш, сам пабойваўся Гезелера і пачаў угаворваць нас. Ён сказаў, што, калі Гезелер паведаміць пра ўсё ў штаб батальёна, нас за невыкананне загаду пэўна паставяць да сценкі, а калі мы ўсё ж пойдзем у разведку, то, магчыма, усё яшчэ абыдзецца. І мы паддаліся на ўгаворы — гэта і было самае жахлівае. Мы не павінны былі саступаць; але ўсё ж саступілі. Усе аказаліся раптам наймілейшымі людзьмі — надавалі нам гару слушных парад; усе — і унтэры, і салдаты. І, мабыць, упершыню мы адчулі, што ўсе не гэтак ужо і кепска ставяцца да нас. Менавіта гэта і было самае жахлівае: усе ўгаворвалі нас, і мы саступілі і пайшлі ў разведку. А праз паўгадзіны больш чым палова роты было забіта або палонена. Гэтая праклятая Калінаўка была біткам набіта рускімі, і нам давялося даваць драла хто як мог. І знайшоў жа я час даць Гезелеру па мордзе! Пасля гэта здалося мне недарэчнасцю — як быццам можна аплявухай адпом-

сціць за смерць Рая. Яна мне дарага абышлася, гэтая аплявуха,— я паўгода прасядзеў у ваеннай турме. Зразумееў цяпер, як усё гэта здарылася?

— Так, зразумееў,— сказаў Бразгот.— Гэта вельмі на яго падобна.

— Не павінны мы былі саступаць,— сказаў Альберт.— Да гэтага часу не магу сабе даравацъ. Ты зразумей,— гэта ж была асабістая нянавісць, якая не мела аніякага дачынення да вайны. Ён узненавідзеў Рая адразу ж, як толькі пачуў словы: «Мы ж на брудэршафт з вамі не пілі». А Рай, у сваю чаргу, яго не выносіў.

— Ты ведаеш,— Альберт злёгку ажывіўся,— у нас з Раймундам на фронце ўжо так павялося — усіх новых камандзіраў мы класіфікавалі з гранічнай дакладнасцю. Рабіў гэта, уласна кажучы, Рай. Вось якую характарыстыку ён даў Гезелеру: «З адзнакай скончыў гімназію. Заўзяты католік. Намерваўся вывучаць права, акрамя таго, лічыць сябе знаўцам мастацтва. Перапісваецца з палітыканствуючымі манахамі. Хваравіта прагны да славы».

— Вось дык так! — усклікнуў Бразгот.— Ведаеш, я адчуваю, што час ад часу трэба чытаць вершы. Характарыстыка вычарпальная, павер мне. Гэта можа быць толькі ён! Ніякай фотакарткі нам не трэба.

— Так, мабыць, не трэба, а вершы Рая табе і сапраўды не шкодзіла [redacted] прачытаць. Ён спадзяваўся ацалець і саступіў менавіта таму, што хацеў жыць. Яму цяжка было паміраць, бо ён саступіў такому чалавеку, як Гезелер... Паўсюль параскіданыя бляшанкі з-пад мармеладу з ягонай рыфмаванай рэкламай... Нацысцкія газеты расхвальвалі яго.

— Пачакай, якія бляшанкі, пры чым тут нацысцкія газеты?

— У тысяча дзевяцьсот трыццаць пятым годзе імя Рая пачало набываць папулярнасць у Германіі. У яго знайшлося многа апекуноў: бо спрыяць Раю было зусім бяспечна. У сваіх вершах ён пазбягаў непасрэдна гаварыць пра палітыку, але той, хто ўмеў іх чытаць, здагадваўся, пра што ў іх гаворка. Рая «адкрыў» Шурбігель, і нацысты адразу ўчулі, што яго вершы для іх смачны кавалак. Яны ж былі такія непадобныя на смярдзючыя віршыкі іхніх пісак. Вершы Рая можна было зрабіць ходкім таварам і даказаць такім чынам

уласную шырыню паглядаў. Рай трапіў у жахлівае становішча: нацысты нахвальвалі яго. Ён перастаў публікаваць свае вершы, ды і пісаць амаль што кінуў. У хуткім часе ён паступіў на фабрыку да свайго цесця. У поўнай адзіноце чарціў дыяграмы, што адлюстроўвалі, якія гатункі мармеладу спажываюць у пэўных мясцовасцях, хто іх спажывае і ў якой колькасці. Ён з галавой зашыўся ў гэтую работу, вывучаючы статыстыку спажывання. Даныя, якія паступалі з аддзела збыту, ён адлюстроўваў у дыяграмах, выкарыстоўваючы пры гэтым усе адценні чырвонага. Калі праходзіў чарговы партайтаг у Нюрнбергу або яшчэ якое нацысцкае зборышча, у Рая не хапала карміну. Калі я вярнуўся з Англіі, мы пачалі працаваць разам — малявалі плакаты і аб'явы, складалі рэкламныя вершыкі і лозунгі. Іх штампавалі на бляшанках з мармеладам, і мы пасля, у час вайны, раз-пораз натраплялі на іх. А Рай міжволі рабіўся знакамітасцю,— яны паўсюль вышуквалі ягоныя вершы і выдавалі іх, хоць ён і пісаў ім, што не жадае гэтага. Рай быў не ў сабе. Ён проста шалеў.

— Ты ведаў раней Шурбігеля? — спытаў Бразгот.

— Ведаў. А што?

— Як ты лічыш, можа яна сысціся з гэтым Гезелерам?

— Не. Дарэчы, яна ведае, хто ён такі.

— Як гэта «ведае»?

— Яна неяк дзіўна гаварыла пра свой ад'езд, быццам на нешта намякала.

— Куды яны паехалі?

— У Брэрніх, на нейкі семінар.

— Божа,— сказаў Бразгот,— як бы я хацеў паехаць туды зараз жа!

— Кінь,— адказаў Альберт,— яна сама ведае, што трэба рабіць.

— Так? Што яна можа зрабіць?

— Не ведаю, будзь упэўнены,— яна сама з ім справіцца.

— Па мордзе яму б надаваць, ды што там па мордзе — пад зад каленам: лепшага ён не варты! Я б яго проста прыбіў.

Альберт прамаўчаў.

— Хлапчанё мяне непакоіць. Уявіць сабе не магу, куды ён падзеўся. Ён жа ведае, што мы сёння ўвечары

павінны паехаць разам. Ты есці хочаш?

— Хачу,— сказаў Бразгот,— давай перакусім.

— Хадзем.

Яны пайшлі на кухню. Альберт паставіў на газ каструлю з тушанай капустай, дастаў салатніцу з халадзільніка. Нэла перад ад'ездам паспела замясіць цеста для бліноў, нарэзаць сала для скварак і змалоць каву. Яна правяла дома тры дні, не запрашаючы гасцей. У доме ў гэтыя дні былі цішыня і парадак. Альберт утаропіўся на надпіс на сцяне: «Шлях да сэрца мужчыны праходзіць праз яго страўнік». Нечаканае з'яўленне Гезелера выбіла яго з раўнавагі. Ён баяўся сустрэцца з жывым Гезелерам; гаварыць і думаць пра яго было лёгка. Але цяпер умяшаецца маці Нэлы, яна ўблытае ў гэтую гісторыю хлапчука. Бразгот стаяў каля яго і з выразам змрочнай рашучасці на твары глядзеў, як смажацца бліны і злёгку падскокваюць завязлыя ў цесце скваркі.

Кожны шоргат, што даносіўся з вуліцы, змушаў Альберта насцярожвацца. Ён добра ведаў хаду Марціна: хуткія, лёгкія крокі — у хлопчыка хада Рая. Альберт ведаў, як рыпіць садовая брамка, калі ў яе ўваходзіць Марцін,— ён толькі злёгку прачыняе яе. Нэла заўсёды расчыняе яе адным рыўком, і брамка грукае аб убіты ў зямлю калочак. Марцін жа прачыняе брамку толькі напалову і бачком уваходзіць у сад, і заўсёды гэта суправаджаецца звыклым шоргатам. Гэтага шоргату чакаў Альберт. На патэльні шыпела масла, глуха мармытала пара ў каструлі з капустай — усё гэта раздражняла Альберта, перашкаджала яму лавіць шаргаценне, што даносілася звонку. Ён зняў з патэльні першы гатовы блінец, паклаў яго на талерку Бразгота, прысунуў яму міску з салатай і сказаў:

— Ты мне прабач, мне проста не па сабе. Я з'езджу пашукаю хлапца. Ужо тры гадзіны, а яго ўсё няма.

— Ды нічога з ім не здарыцца.

— Ён мог затрымацца толькі ў двух месцах — туды я і з'езджу. А ты еш, а потым заварыш каву.

Кожны раз, калі Марцін спазняўся дадому, у Альберта разыгрывалася фантазія. Гэтак і зараз ён быў не ў стане пазбавіцца жудасных уяўленняў, якія нахлынулі на яго: вулічная катастрофа, кроў, насілкі. Ён бачыў, як падае зямля на крышку труны, чуў, як спявае хор хлопчыкаў, аднакласнікаў Марціна. Гэтак

спявалі дзяўчынкі-англічанкі, вучаніцы Лін, на яе пахаванні. «*Media in Vita — У росквіце гадоў*». Кроў, раптоўнасць смерці *Media in Vita*. Альберт прымусіў сябе зменшыць хуткасць. Павольна едучы ўздоўж алеі, ён узіраўся ў кожны куст, хоць і быў упэўнены, што хлопчыка там няма. Гэтак жа ён быў упэўнены, што Нэла паехала менавіта з Гезелерам. Але зараз яго гэта зусім не хвалявала. Праміnуўшы кінатэатр «*Атрыум*», Альберт пад'ехаў да школы на рагу Генрыхштрасэ. Пустэльная, ціхая вуліца была залітая сонцам. Шматгалосы шум раптоўна разарваў цішыню — у жаночай школе насупраць пачаўся перапынак. Крыкі і смех напалохалі сабаку, які грэўся на сонцы каля варот, і ён, падціснуўшы хвост, перабег на другі бок вуліцы.

Ён праехаў далей і, затрымаўшыся на некалькі хвілін каля шыльды «Сталярная майстэрня», пасігналіў тры разы запар. У ваконцы з'явілася прыгожанькая ўсмешлівая мордачка Генрыха.

— Марцін у цябе?

Адказ ён ведаў наперад.

— Не,— азваўся Генрых.— Хіба ён яшчэ не вярнуўся? Ён жа адразу пайшоў дамоў.

— Не, не вярнуўся. Ты паедзеш з намі сёння ўвечары?

— Трэба ў мамы спытаць.

— Добра. Мы заедзем па цябе.

— Добра.

Заставалася толькі Больда. Альберт ехаў так павольна, што іншыя машыны ўвесь час абганялі яго, сярдзіта сігналячы. Не звяртаючы на іх увагі, ён звярнуў управа, аб'ехаў вакол царквы і спыніў машыну каля ўвахода ў рызніцу. Яго няма і ў Больды. Гэта відавочна. Але быццам нечая чужая воля прымусіла Альберта вылезці з машыны, каб самому ўпэўніцца ў тым. *Media in Vita*. Дзверы былі прычынены няшчыльна. Альберт піхнуў іх, прайшоў паўз рад акуратных шафаў, ад якіх, здавалася, веяла прахалодай. На кручку каля сутаны дзяка вісела цёмна-рудое паліто Больды. У левай кішэні, як заўсёды,— тэрмас з булёнам, у правай — скрутак з бутэрбродамі.

Альберт адчыніў дзверы рызніцы і ўвайшоў у царкву. Ён укленчыў перад алтаром і, шпарка падняўшыся, пайшоў па нефе, між радоў крэслаў. Раней ён

прыходзіў сюды толькі да абедні, і зараз маўклівасць вялізнай пустой залы напалохала яго. Вакол усё было ціха. Спачатку Альберт убачыў вядро каля калоны і прыстаўленую да яе швабру і толькі потым заўважыў самую Больду. Яна выцірала пыл з гатычнага арнаменту спавядальні. Пачуўшы крокі, Больда павярнулася, падала нейкі незразумелы вокліч і пайшла яму насустрач. Каля лаўкі для прычасця яны сустрэліся, і па твары Больды Альберт зразумеў, як выглядае ён сам.

— Божа ж мой,— сказала яна,— што здарылася?

— Хлопчык да гэтага часу не вярнуўся са школы! Ён забягаў дадому, затым зноў пайшоў.

— І гэта ўсё?

— Усё.

Гучны голас Больды раздражняў Альберта, зрэшты, і яго ўласны голас гучаў мацней, чым звычайна, хоць ён, не заўважаючы таго, прыглушаў яго.

— Усё,— паўтарыў ён,— а табе гэтага мала?

Больда ўсміхнулася.

— Ды прыйдзе ён. Нічога з ім не здарыцца. Ён крыўдзіцца, бывае, калі нікога не застае дома. Прыйдзе, нікуды не падзенецца,— яна зноў усміхнулася, пахітала галавой: — Не вар'яцей!

Альберт здзівіўся: ён і не спадзяваўся, што Больда можа гаварыць гэтак лагодна і ласкава. А яны ж ужо сем гадоў жылі пад адным дахам. У гэты момант яна здалася яму амаль прыгожай. Упершыню ён заўважыў, якія ў яе тонкія, далікатныя рукі. Жоўтая суконная ануча ў яе руцэ была зусім яшчэ новая — на ёй захавалася нават фабрычная этыкетка — кавалачак паперы з сілуэтам ворана.

— Нікуды ён не падзенецца,— паўтарыла Больда, усміхаючыся,— супакойся.

— Ты думаеш? — спытаў ён.

— Менавіта. Не хвалюйся і едзь дадому. Ён хутка прыйдзе.

Ужо напаўадвярнуўшыся, Больда ўсміхнулася яму, падбадзёрваючы, і затым, не гледзячы больш на яго, пайшла назад да спавядальні.

— Калі ён тут аб'явіцца, зараз жа адпраў яго дадому,— сказаў Альберт.

Больда зноў павярнулася, хітнула галавой і пайшла далей.

Альберт зноў укленчыў перад алтаром і, зноў прайшоўшы праз рызніцу, выйшаў з царквы. Шукаць Марціна больш няма дзе. Ён павольна паехаў дадому тым жа шляхам, адчуваючы, як спакой вяртаецца да яго. Упэўненасць Больды падзейнічала на яго.

Бразгот паспеў тым часам зварыць каву і падсмажыць другі блінец.

— Палюбуйся,— сказаў ён, узяўшы газету, што ляжала на серванце,— вось ён.

Альберт адразу ж пазнаў Гезелера — гэта была ягоная смуглая фізіяномія прыгажунчыка.

— Так,— сказаў ён стомлена,— гэта ён.

## 14

Нэла не паспела яшчэ разлічыцца з шафёрам таксі, як заўважыла каля дзвярэй Крэдытнага банка Гезелера. Стройны элегантны малады чалавек між дзвюх бронзавых фігур, што стаялі як вартавыя па абодвух баках увахода. Злева — бронзавы фінансіст з партфелем, справа — муляр з кельняй. Здавалася, яны ўсміхаліся адзін аднаму халоднай бронзавай усмешкай, адвярнуўшыся ад вітража, што раздзяляў іх. Шкло падсвечвалася знутры неонавымі трубкамі і ў асобных мясцінах было амаль празрыстае. На гэтым фоне выразна выдзяляўся аблямаваны гірляндамі з кветак, каласоў, вагаў і колаў беласнежны надпіс: *Крэдытны банк — выгадныя аперацыі.* Літары ў словах «выгадныя аперацыі» былі ў тры разы большыя, чым у словах «Крэдытны банк». Гезелер стаяў між фінансістам і каменшчыкам, якраз пад словам *выгадныя.*

У той момант, калі Нэла паклала некалькі марак у падстаўленую далонь шафёра, Гезелер зірнуў на гадзіннік, і ёй раптоўна зрабілася нудна. Яе неадольна пацягнула дадому, да Марціна, Альберта, Глума, да маці і Больды. Марна спрабавала яна аднавіць былую нянавісць да Гезелера. Цяпер ён выклікаў у яе зусім іншае пачуццё, пакуль нязвыклае, халоднае і палохаючае — нуду.

Лабавое асвятленне — рэзкае прамое святло. Усё вакол выдавала плоскім. Няўмела расстаўленыя юпітэры былі накіраваны на нуднага маладога чалавека, які расхаджваў паміж бронзавым фінансістам і брон-

завым мулярам, пад словам *выгадныя.*

— Ну дык як жа, дзяўчына,— спытаў шафёр,— вылазіць будзем або далей паедзем?

Яна ўсміхнулася шафёру, і незадаволены выраз быццам змыла з ягонага твару. Скарачэнне мускулаў твару — недарагі падарунак; але ён адразу ж выскачыў з машыны, пабег адчыняць ёй дзверцы, дастаў чамадан з багажніка.

А Гезелер там, каля ўвахода, зноў зірнуў на гадзіннік. Але, але, яна спазнілася ўжо на сем хвілін. Нэла заплюшчыла на імгненне вочы — яркае святло рэзала іх. Ёй не хацелася глядзець гэты фільм, які толькі што пачаўся,— нудны фільм, без паўтонаў, без настрою.

— Нэла, дарагая, як я рады, што вы прыйшлі!

Яна пацiснула ягоную бяздарную руку.

Ззяючы лакам аўтамабіль, ярка-блакітны, як летняе неба; унутры поўны камфорт, зразумела, без абуральнай раскошы.

Што можа зрабіць адна яе ўсмешка: ён пачырванеў, збянтэжыўся.

— Выдатная машына,— сказала яна.

— Вы не паверыце, я наездзіў на ёй ужо сорак тысяч кіламетраў. Проста трэба трымаць свае рэчы ў парадку.

— А як жа,— адгукнулася яна,— няйначай! У парадку ўвесь сэнс жыцця.

Ён недаверліва паглядзеў на яе.

У машыне ўсё было як трэба: і попельніца, і запальнічка — напаленая да чырвані спіралька.

Гезелер выціснуў счапленне і даў газу.

Няўжо вось гэтак жа прыйшла Юдыф у стан Алаферна? Няўжо яна пазяхала на ўвесь рот, праходзячы разам з ім паўз раскінутыя шатры?

Машыну ён вядзе ўпэўнена і не без элегантнасці. Своечасова прытарможвае на чырвонае святло, не ўпусціць магчымасці абагнаць, заўсёды асцярожна выбрацца ў першы рад. Позірк мужны, але, калі прыгледзецца, крыху томны. І ўсё гэта асветлена «ў лоб» — рэзкім прамым святлом. У скрыначцы над запальнічкай — апошні нумар «Весніка». Яна разгарнула газету, адшукала склад рэдкалегіі. «Аддзел культуры і мастацтва — Вернэр Гезелер».— Альберт заўсёды называў яго толькі па прозвішчы. Ён не гаварыў,

колькі яму гадоў, і Нэла доўгі час уяўляла яго сабе зусім іншым: высокім, плячыстым; жорсткі тып гэткага прыгажуна мужчыны, дзельны афіцэр, руплівы служака. А тут раптам твар, прыдатны ў лепшым выпадку для кінарэкламы: «Не забудзьцеся наведаць замак Брэрніх, пярліну нямецкага барока ў маляўнічай даліне Брэра!»

Вось і ўскраіна. Пацягнуліся платы, мільгануў цыганскі фургон. Нядаўна тут шумеў кірмаш: размаляваныя павозкі, карусель круціцца пад гукі катрынкі, яе абляпілі дзеці. Відаць, карусель круціцца апошні раз, тут жа непадалёку скручвалі брызент, якім яна была пакрыта. Але нават самыя маляўнічыя кадры страчвалі сваю прывабнасць пры такім асвятленні і з такім акцёрам у галоўнай ролі. Дарога і тая нагадвала від з паштоўкі.

Усмешка, яшчэ адна. Цэлая чарга, выпушчаная яму ў твар. Атрымай спаўна, галубок! З'еш! Цяпер здыхай — не пашкадую! А можа, гэта іншы, не той? Давядзецца тады набрацца моцы і патрываць: ён жа зараз пацалуе мне руку!

Не, гэта ты, галубок, мізэрны дылетант, тупіца, што парваў стужку майго фільма. Твой твар — твар лёсу. Не змрочны, не жорсткі — менавіта твой твар, твая нудная фізіяномія.

Усё ў ім раздражняла яе, нават вытрымка за рулём — стрэлка спідометра быццам прыляпілася да лічбы шэсцьдзесят. Калі ўжо едзеш у машыне, то хай стрэлка ўвесь час дрыжыць каля ста, тонкая нервовая стрэлка, куды больш адчувальная, чым рукі вадзіцеля, якія ляжаць на рулі.

Ён паглядзеў ёй у твар, і яна тройчы адарыла яго ўсмешкай. Скарачэнне мускулаў твару — атрута, падсыпаная завучаным рухам. Ён прыняў яе з удзячнасцю.

Бітэнхан. Ахайныя домікі рассыпаныя па лесе на першы погляд абы-як, але на самай справе агульны выгляд прадуманы да дробязей. Гэтак культывуюць рамантыку ў маляўнічых гарадках, прыманьваючы турыстаў. Над аркай гарадской брамы замураванае ў цэглу ядро часоў Трыццацігадовай вайны. Гэткія ядры выпрабляюць з цэменту ў майстэрнях Шмідта: закопцяць яго, аблепяць мохам — і вось яно ўжо тырчыць у сцяне: старое шведскае ядро.

— Цудоўны краявід! — сказаў ён.

— О так, цудоўны,— адгукнулася яна.

Вось і домік маці Альберта. Яна развешвае ў двары бялізну, а Віль брыдзе ўслед і падае ёй прышчэпкі. Па абедзе сюды прыедзе Альберт з хлопчыкам. Яны слаўна адпачнуць тут. А ўвечары прыедзе Глум, спяе, мабыць. А ў панядзелак яны, магчыма, паедуць некуды далей.

«Спыніце машыну!» — ледзь не вырвалася ў яе.

Але яна змаўчала і толькі каля павароту зноў азірнулася. Віль цярпліва стаяў з прышчэпкамі ў руках, а маці Альберта, паставіўшы на дол ярка-жоўты кош, развешвала яго белую начную кашулю. Нэла з сумам глядзела на гэты сцяг міру, які застаўся далёка ззаду, пакуль дрэвы не схавалі яго.

— Цудоўныя мясціны,— сказаў ён.

— Цудоўныя,— пацвердзіла яна.

Ён зноў недаверліва зірнуў на яе. Магчыма, нешта ў яе голасе змусіла яго насцярожыцца. Але ўсмешка зноў усыпіла яго падазрэнні. Жаночая ўсмешка — цудадзейны бальзам, ад якога святлеюць насупленыя твары мужчын. «І зноў зззяе сонца, і зноў жыццё цудоўнае!» Гезелер наддаў газу, стрэлка спідометра падскочыла да сямідзесяці пяці. Ён упэўнена і лёгка браў крутыя павароты, і ўсё тыя ж кадры мільгалі на экране. «Наведайце замак Брэрніх, пярліну нямецкага барока ў маляўнічай даліне Брэра».

Унізе журчаў Брэр, вузенькая зялёная ручаінка, якая даўно ўжо перасохла б, калі б да яе не падводзілі ваду па падземнай бетоннай трубе. Няхай па-ранейшаму шуміць маляўнічы ручай, надаючы ідылічны выгляд акаляючым лясам і лугам. А вось і непазбежны вадзяны млын. Бадзёры грукат драўлянага кола — чуллівая мелодыя маляўнічай даліны Брэра.

— Божа мой, як прыгожа! — сказаў ён.

— Вельмі прыгожа,— згадзілася яна.

Недаверлівы позірк, гаючая ўсмешка, кадры змяняюць адзін аднаго. На імгненне Нэла нават забылася, што сядзіць каля Гезелера. Нуда зламіла яе, як раптоўная хвароба. Душачы пазяханне, яна праз сілу падтрымлівала «свецкую» гутарку: толькі б ён не заўважыў, як ёй нудна.

Але не, мяркуючы па ўсім, ён упэўнены, што ёй вельмі весела слухаць распавед пра тое, як у выніку

доўгіх і заблытаных інтрыг яму пашэнціла стаць рэдактарам у «Весніку».

Гезелер збавіў хуткасць. Па абодва бакі дарогі праплываў мірны вясковы пейзаж. Жывыя загародкі, каровы на лузе, свінні каля платоў. Да плаціны было ўжо недалёка — Брэр унізе раптоўна забурліў, быццам дзікая горная рачулка. Пэўна, наглядчык за плацінай павярнуў рычаг, і свежая вада хлынула ў ручай. Брэр прыняў чарговую порцыю вясковай ідыліі. Гэты фільм, як бачна, быў зняты вельмі добрасумленным і стараннын аматарам. Шэрае святло, без паўтаноў. Пры гэткім асвятленні ўсё навокал здавалася плоскім, быццам ажылі раптоўна фотаздымкі ў нейкіх сумных альбомах. Цэлая гара альбомаў, і ўсе іх давядзецца перагартаць. Мярцвяна-шэрыя кадры, зафіксаваныя на плёнцы няўмелай рукой, што націснула на спускавую кнопку фотаапарата. Гэтакія ж шэрыя здымкі запаўнялі альбомы яе школьных сяброўак. Пранумараваная нудота, альбомы, набітыя здымкамі, якія праяўлялі і друкавалі пыхлівыя фатографы на модных курортах. Ад Фленсбурга да Медыны, ад Кале да Карлсбада, на працягу ўсяго доўгага шляху ад аднаго летняга курорта да іншага было ўвекавечана рашуча ўсё, што заслугоўвала ўвекавечвання. Нуда групамі, нуда ў адзіночку, нуда фарматам 8 на 8 і фарматам 12 на 16, а дзе-нідзе нуда ў партрэтным фармаце. Вось яна — Лота на беразе Медынскага заліва, фармат 18 на 24. Гэта — у альбоме № 12, які адлюстроўвае дзявоцтва Лоты ад выпускнога экзамена да заручын. За ім ідзе альбом № 13 — о, мы не прымхлівыя,— цалкам прысвечаны вяселлю і вясельнаму падарожжу Лоты. Нуда пад вэлюмам і без вэлюму, нуда шчатлівая і нуда пазбыўшыся шчатлівасці. «А вось і тата Бернгарда! Ты яго ўжо бачыла?» — «Не».— «Ды што ты?!» Нікому не вядомы весялун, увекавечаны ў фармаце 6 на 8. Ну, а ў альбоме № 14, вядома, цудоўны малы. Міла, Божа, як міла! Адважная рука генія адрэтушавала здымак і нанесла выразныя шэрыя цені на тварык немаўляці.

Ён, зразумела, спыніць машыну ў самай маляўнічай мясціне, палезе цалавацца, затым выцягне «лейку» з партфеля. Яшчэ адзін здымак для альбома: Нэла на развілку дарог. Унізе бачны Брэр, справа плаціна ў лесе, ціхае возера — суцэльная ідылія. Вёска

ў даліне, вежа старой царквы ўся ў барочных выкрутасах і гэтакі ж старадаўні шынок «Блакітная свіння».

— Як, вы не ведаеце, адкуль пайшла гэтая назва? Вось паслухайце...

Непазбежны гістарычны анекдот, затым зноў пацалунак, яны выходзяць з машыны, наведзены апарат.

Гатова! Шчоўкнуў і барочную царкву, і «Блакітную свінню»...

Цуд здарыўся. Хутка з фоталабараторыі прынясуць пачак нудоты вызначанага фармату.

— Як тут міла! Ці не праўда?

— Але, вельмі міла.

Нэла часта праязджала па гэтай дарозе, да вайны — з мужам, у апошнія гады — з Альбертам, і ніводнага разу яшчэ ёй не было тут нудна. Нават царква і «Блакітная свіння» не наганялі на яе нуды. Але зараз яе так адольвае нуда, што яна больш не мае сілы стрымліваць сябе. Раздражненне неўтаймоўна нарастае,— гэтак паўзе ўверх ртутны слупок тэрмометра ў спякотны летні дзень.

— Спыніце машыну,— рэзка сказала яна,— я выйду, падыхаю свежым паветрам!

Ён затармазіў. Нэла выйшла з машыны, але не паспела яна прайсці і два крокі ў накірунку лесу, як пачула за спіной шчаўчок і, азірнуўшыся, убачыла Гезелера, які стаяў каля машыны з «лейкай» у руках.

Яна падышла да яго і ціха сказала:

— Ану дайце мне плёнку.

Ён тупа паглядзеў на яе.

— Плёнку дайце, дастаньце касету!

Высока ўзняўшы бровы, Гезелер марудна адчыніў апарат, выняў касету і падаў яе Нэлі. Яна выцягнула з касеты плёнку і парвала яе на кавалачкі.

— Не выношу здымацца,— спакойна сказала яна,— глядзіце не ўздумайце больш здымаць мяне.

Яны зноў селі ў машыну, Нэла крыху павесялела і крадком назірала за Гезелерам. Твар яго набыў упарта-пакрыўджаны выраз, ён нават крыху надзьмуў вусны.

Так і ёсць. Ён спыніў машыну на развілку дарог, адкуль можна было палюбавацца перасыхаючым Брэрам, барочнай царквой і «Блакітнай свіннёй». Пахлапечы гуляючы фотаапаратам, які боўтаўся у яго на

грудзях, ён прамовіў менавіта тыя словы, якіх яна чакала.

— Ну, хіба не чароўна тут!

— Так, вядома,— сказала яна,— а што, доўга яшчэ ехаць да замка?

— З паўгадзіны,— адказаў ён,— вы ведаеце Брэрніх?

— Так, я некалькі разоў была там.

— Як гэта мы з вамі там не сустрэліся? За апошні месяц я двойчы быў у Брэрніху.

— Я ўжо год там не была.

— Ах, вось як? Тады зразумела — я ж тут усяго два месяцы.

— А што вы рабілі да гэтага?

— Вучыўся. Прыйшлося перавучвацца наноў.

— Вы доўга служылі ў войску?

— Так,— адказаў ён,— чатыры гады. Пасля шэсць гадоў замежжа: я ж не меў грамадзянскай прафесіі. Толькі зараз я пачынаю жыць па-чалавечы.

— Жыць? — перапытала яна.— Вы ж, мабыць, гадоў дваццаць восем жывяце на свеце?

— Не, амаль што трыццаць два,— усміхнуўся ён.— Дзякую за камплімент.

— Гэта не камплімент, а звычайная цікаўнасць. Я так і ведала, што вы скажаце, колькі вам гадоў на самай справе. Вы ж не хацелі б выглядаць старэйшым, ці не так?

— Дзеля вас я з задавальненнем накінуў бы сабе гады са два.

— Навошта? — суха запытала яна, абыякава глянуўшы на «Блакітную свінню», якая грэла на сонцы свой наноў пабелены, свежапафарбаваны фасад.

— Тады я быў бы на чатыры гады старэйшым за вас.

— Якія складаныя кампліменты,— стомлена сказала яна.— Але вы памыляецеся, мне ўжо трыццаць сем.

Не, гэта не падобна на паядынак мацёрага бандыта з вопытным следчым. Нешта такое зведвае, мабыць, паліцэйскі чыноўнік, калі дапытвае дробнага зладзюжку.

— Калі і камплімент, то ненаўмысны,— сказаў ён,— вы сапраўды выглядаеце маладзей за свае гады.

— Ведаю.

— Дык што, можа, паедзем далей?

— Паедзем. Толькі, крый Божа, не спыняйцеся ні каля царквы, ні каля «Блакітнай свінні».

Ён з усмешкай глянуў на яе. Нэла змаўчала — дарога перад самым уездам у вёску рабіла крутую пятлю. Гезелер лёгка ўзяў паварот, і яны павольна паехалі па вуліцах мястэчка.

— Забаўная гэтая гісторыя пра «Блакітную свінню», хіба не так? — сказаў ён.

— Пацешная! — згадзілася яна.

Фільм працягваўся — тыповая рэклама бюро падарожжаў.

Лугі, каровы, чыста паголены трэццеразрадны акцёрчык у галоўнай ролі, рэжысуе загадчык аддзелам рэкламы ў бюро падарожжаў — сам быў акцёрам у маладыя гады. А яна? О, яна — кіназорка, якой добра заплацілі за ўдзел у здымках. Фільму патрэбна прыманка! Мірны вясковы пейзаж — як бясплатны дадатак. [illegible] кінакамерай — аператар-дылетант, на кароткатэрміновых аматарскіх курсах яго лічылі здольным хлопцам. Ёй ніяк не ўдаецца абарваць надакучліва мільгаючыя кадры гэтага рэкламнага фільма і ўзнавіць у памяці іншыя кадры: ні фільм, напоўнены ўспамінамі, ні яго другую серыю — непражытае жыццё. Жыццё без баласту, дзеці, свая рэдакцыя, бутэлькі з пярэстымі этыкеткамі ў халадзільніку, Альберт — верны сябра дома. Глума і Больды не было ў гэтым фільме, затое з'явіліся прыгатаванцы 1950 і 1958 гадоў, незачатыя і ненароджаныя дзеці. Яна пакутліва спрабуе ўзнавіць у памяці воблік Рая і зноў распаліць сваю нянавісць. Але памяць падсоўвае толькі шэрыя кадры, цьмяныя, нерухомыя клішэ: італьянскія вёсачкі з рэкламных праспектаў, і на гэтым фоне Рай, быццам турыст, што збіўся з дарогі. Раптам рэчаіснасць урываецца ў мары: яна адчула на сваім плячы руку Гезелера і спакойна сказала: «Прыміце руку!» Ён прыняў руку, і яна марна чакала, што ў душы ўспыхне ранейшая нянавісць.

Успомні, успомні — Авесалом Біліг, растаптаны на цэментнай падлозе. Рай, які ніколі не вернецца, яго забілі, прынеслі ў ахвяру прынцыпу, аўтарытэту камандзіра. Але Рай не прыходзіць — памяць маўчыць. Былая нянавісць не вяртаецца, і толькі пазяханнем крывіць рот. Зноў легла на яе плячо рука Гезелера, зноў яна сказала гэтак жа спакойна: «Пры-

міце руку!» — і ён зноў прыняў руку. І гэта ён называў «жыць па-чалавечы»? Пацiскаць жанчыну ў машыне, затым пацалаваць яе на лясной ускраіне... А з галля глядзіць на закаханую парачку пужлівая лань, глядзіць і быццам пасмейваецца. Лань, якая смяецца,— знаходка аператара!

— Кіньце! — сказала яна.— І не спрабуйце больш. Гэта нудна. Раскажыце лепш, на якіх франтах вы ваявалі?

— Не люблю ўспамінаць пра гэта. Спрабую забыць, і гэта мне ўдаецца. Што было, тое прайшло.

— Але на якіх франтах вы былі, гэта, спадзяюся, вы помніце?

— Амаль на ўсіх. На Усходнім, на Заходнім, на Паўднёвым. Толькі на Паўночным не давялося пабыць. Пад канец вайны я быў у арміі Эрвіна.

— У якой арміі? У каго? — перапытала яна.

— У Эрвіна Ромеля. Хіба вам незнаёмае гэта імя?

— Імёны генералаў, прызнацца, мяне ніколі не цікавілі.

— Ну чаму вы такая злосніца?

— Злосніца? Вы быццам з дзяўчынкай размаўляеце: злая дзяўчынка-ўпора, не падае цётцы ручку — у кут яе! Зрэшты, вы, можа, не ведаеце, што мой муж загінуў на фронце?

— Ведаю,— сказаў ён,— патэр Вілібр순 мне расказваў. Ды і хто гэтага не ведае. Прабачце мне.

— Што мне вам прабачаць? Што майго мужа прыстрэлілі? Шлёпнулі, і кропка! Перарэзалі стужку кінафільма, якому суджана было ўвасобіцца ў жыццё, ён застаўся нязбыўнай марай, абрыўкі стужкі валяюцца недзе ў архіве. Паспрабуй жа склей іх! Пасля ўсяго гэтага не так ужо і важна памятаць імёны генералаў.

Гезелер доўга маўчаў. Шанавальнае маўчанне! Назіраючы за ім збоку, яна зразумела, што ён думае пра вайну: успамінае суровыя гады нягод, франтавое сяброўства, Эрвіна.

— Як называецца ваш даклад?

— Мой даклад? «Перспектывы развіцця сучаснай лірыкі».

— Вы будзеце гаварыць пра майго мужа?

— Канешне! — адказаў ён.— У нашы дні нельга гаварыць пра лірыку, не гаворачы пра вашага мужа!

— Мой муж быў забіты пад Калінаўкай,— сказала

яна і, глянуўшы на яго са здзіўленнем і расчараваннем, выявіла, што не адчувае аніякага хвалявання. Ніводзін мускул не ўздрыгнуў і на ягоным твары.

— Так, я ведаю,— сказаў ён.— Дзіўна, я ж таксама быў у тых мясцінах. Летам тысяча дзевяцьсот сорак другога года я ваяваў на Украіне! Дзіўна, ці не так?

— Так, дзіўна,— сказала яна.

Ёй раптам захацелася, каб ён аказаўся толькі цёзкам таго, сапраўднага Гезелера.

— Забыў, усё забыў,— паўтарыў ён.— Я ўпарта праганяў з памяці вайну. Вайну трэба забыць!

— Так, забыць,— сказала яна.— Забыць усё — удоў і сірот, кроў і бруд, клопаты — і пракладваць шлях у светлую будучыню. Упэўненасці не хопіць — возьмем пазыку ў Крэдытным банку. Забудзем вайну, але абавязкова запомнім імёны генералаў!

— Ах ты, Божа мой, ну што тут асаблівага? Здараецца часам — скажаш слова на жаргоне тых гадоў.

— Сапраўды,— сказала яна,— гэта якраз жаргон тых гадоў.

— Хіба гэта настолькі ўжо кепска?

— Кепска! Кепскія хлопчыкі — так гавораць пра гарэз, якія цягаюць яблыкі з чужога саду. Але для мяне гэта горш, чым «кепска», калі я слухаю ваш «жаргон таго часу». Мой муж ненавідзеў вайну, і я не дам ніводнага верша для вашай анталогіі, калі вы не возьмеце ў дадатак адно з яго пісьмаў, тое, якое выберу я сама. Ён ненавідзеў вайну, ненавідзеў генералаў і ваеншчыну, і я павінна была [redacted] ненавідзець вас. Але, дзіўная рэч, вы толькі наводзіце на мяне нуду.

Гезелер усміхнуўся.

— Навошта ж вам ненавідзець мяне? — спытаў ён.

Голас яго прагучаў самотна, і твар набыў той пакутлівы выраз, які цалкам задаволіў бы пастаноўшчыка аматарскага спектакля.

— Я ненавідзела [redacted] вас, калі б са смерцю мужа не абарвалася і маё жыццё. Я хачу аднаго — уваскрасіць яго нянавісць, жыць яго нянавісцю. Бо калі [redacted] ён ведаў вас у тыя гады або цяпер, усё роўна, ён проста даў бы вам аплявуху. Я павінна была прадоўжыць яго справу, дзейнічаць і думаць так, як ён вучыў мяне,— сцябаюць па шчоках людзей, якія забыліся пра вайну, але як слінявыя гімназісты з трапятаннем вымаўляюць імёны генералаў.

Гезелер маўчаў. Нэла бачыла, як ён моцна сціснуў вусны.

— Былі б вы, урэшце, больш сумленнымі! Адкрыта ўсхвалялі б вайну, не тоячыся ігралі б сваю ролю азлобленых гора-заваёўнікаў. Але робіцца проста жахліва, калі вы, менавіта вы, чытаеце даклады «пра перспектывы развіцця сучаснай лірыкі».

Гезелер збавіў хуткасць. Замак быў ужо блізка. У густой лістоце мільгануў барочны павільён. Над ім заўсёды кружылі галубы, тлустыя, адкормленыя бутэрбродамі экскурсантаў.

Вось і скончыўся рэкламны фільм, зняты бяздарным аматарам. Асвятленне нічога не вартае, і нават «хэпі энд» не атрымаўся. Традыцыйны «пацалунак у дыяфрагму» на фоне Брэрніхскага замка не адбудзецца. Яна захацела хутчэй вярнуцца дадому, зайсці ў кафэ да марожаншчыка Генэля, убачыць усмешлівага Луіджы, пачуць пласцінку, якую ён заўсёды ставіць, як толькі яна заходзіць у кафэ, і чакаць імгнення, калі скончацца апошнія такты мелодыі. Яе пацягнула да Альберта, да Марціна, і яна пашкадавала, што назаўсёды знік той уяўны Гезелер, якога можна было ненавідзець.

Дробны кар'ерыст, які сядзеў каля яе, не выклікаў у яе нянавісці. Хіба гэта той чорны чалавек, змрочны зладзей, чый вобраз маці яе спрабавала пасяліць ва ўяўленні дзіцяці? Фанабэрысты, дробязны, зусім не дурны. Такі зробіць кар'еру.

— Я выйду тут,— загадала яна.

Ён спыніў машыну, не гледзячы на яе. Яна адчыніла дзверцы.

— Чамадан няхай занясуць у мой пакой.

Ён кіўнуў. Нэла паглядзела на яго збоку, марна чакаючы, што ў душы яе абудзіцца спагада да яго, гэтак жа марна, як толькі што чакала ўспышкі нянавісці.

Патэр Вілiброрд ужо набліжаўся да яе з раскінутымі рукамі.

— Нэла! — усклікнуў ён.— Нарэшце! Выдатнае месца мы выбралі гэтым разам для семінара, праўда?

— Так, выдатнае,— адказала яна.— Што, паседжанне пачалося ўжо?

— Даўно ўжо. Шурбігель толькі што прачытаў бліскучы даклад. Усе з нецярплівасцю чакаюць Гезелера.

Гэта ягоны дэбют у нашым коле.

— Правядзіце мяне ў мой пакой,— сказала Нэла.

— Хадзем, я правяду вас,— прапанаваў патэр.

Яна бачыла, як Гезелер падымаўся па шырокай лесвіцы з партфелем і яе чамаданам у руках. Але калі яна з патэрам Вілібрордам падышла да дзвярэй, Гезелера ўжо не было, а чамадан яе стаяў каля каморкі швейцара.

## 15

Кандуктарскай фуражкі на вешалцы не было. У прыхожай пахла булёнам і падгарэлым маргарынам. Генрых заўсёды смажыў бульбу на маргарыне. На верхнім паверсе фрау Барусяк спявала «Зялёны грудочак на роднай магілцы». Голас у яе быў чысты, прыгожы, ён ліўся зверху, быццам ласкавы летні дождж. Марцін паглядзеў на вышчарбленую сцяну — невядомы пісаў на ёй тое самае слова не менш за трыццаць разоў. Свежая драпіна пад газавым лічыльнікам сведчыла пра тое, што зусім нядаўна тут зноў прайшло нямое адзінаборства. Унізе, у сталярнай майстэрні, глуха вуркатаў стругальны станок. Дамашні, мірны гром, ад якога заўсёды дрыжалі сцены. Часам гук рабіўся больш рэзкім. Станок амаль што трашчаў, калі абгабляваная дошка вылузвалася з ягонай пашчы. Як толькі сціхаў стругальны станок, пачынаў віскліва скуголіць такарны. Лямпа ў прыхожай безупынку хісталася. А зверху даносіўся прыгожы моцны голас, які ліўся быццам Божы дар. Акно ў двор было шырока расчынена. Унізе гаспадар майстэрні разам са сваім вучнем складваў дошкі ў штабель. Вучань, малады хлопец, ціхенька насвістваў, уторачы фрау Барусяк. Насупраць, у глыбіні двара, грувасціліся руіны дома, які згарэў падчас бамбёжкі. Тырчала толькі пярэдняя сцяна, з зеўрамі праёмаў акон, і праз крайняе з іх, правае, быў бачны самалёт, які пралятаў. За ім цягнуўся даўжэзны транспарант. Вось самалёт знік за прасценкам між вокнамі, але неўзабаве зноў паказаўся ўжо ў праёме другога акна. Маленькі і шэры, ён плыў у блакітным небе, цягнучы ад праёма да праёма свой доўгі шлейф, быццам страказа з неймаверна цяжкім хвастом. Затым ён паляцеў далей і, змяніўшы

накірунак, марудна папоўз да званіцы; цяпер Марцін змог разабраць надпіс на транспаранце. Ён чытаў яго слова за словам, па меры таго, як самалёт, развarочваючыся, выцягваў з-за сцяны свой доўгі хвост. *Ці гатовы ты да ўсяго?*

Фрау Барусяк усё яшчэ спявала. Голас быў глыбокі, моцны. Калі фрау Барусяк спявала там наверсе, Марцін ясна бачыў яе, быццам яна стаяла вось тут, каля яго. Бялявая, зусім светлая, яна была падобная на маму, толькі крыху паўнейшая. Тое слова здавалася немагчымым у яе вуснах. Муж яе таксама загінуў на вайне — раней яе звалі фрау Горн. Зараз у яе быў другі муж, пан Барусяк, паштальён, які разносіў грашовыя пераводы. Яна па-сапраўднаму выйшла замуж, гэтак жа, як і маці Грэбхакэ выйшла замуж за пана Зобіка. Пан Барусяк быў такі ж добры, як і яна. Ён прыносіў часам грошы дзядзьку Альберту і маме. Дзеці ў фрау Барусяк былі ўжо вялікія. Старэйшага звалі Рольф Горн. Гэта ён развучваў літургію са служкамі. Марціну ўспомніўся надпіс на мармуровай дошцы, якая прыбіта да сцяны царквы: «Петэр Канізіус Горн. Забіты ў 1942 г.». На той жа дошцы, толькі вышэй, быў і другі надпіс: «Раймунд Бах. Забіты ў 1942 г.». Марцін счакаў, пакуль змоўк унізе стругальны станок, і прыслухаўся. Бывала, Леа адносіў сваю фуражку ў пакой. Але за дзвярыма не чутно ні гуку — значыцца, Леа яшчэ не прыйшоў. Марцін адышоўся ад акна і, крыху счакаўшы, піхнуў дзверы.

— Ой, гэта ты! — ускрыкнуў Генрых.— А дзядзька Альберт цябе паўсюль шукае!

Генрых сядзеў за сталом і нешта пісаў; перад ім ляжаў аркуш паперы, у руцэ ён сціскаў аловак, і выгляд у яго быў вельмі важны. Адарваўшыся ад сваёй работы, ён спытаў:

— Ты ўжо паспеў забегчы дадому?

Марцін не выносіў, калі Генрых напускаў на сябе важнасць, а рабіў ён гэта даволі часта, калі гаварыў яму: «Ну што ты ў гэтым разумееш?» І Марцін выдатна разумеў, што ён мае пры гэтым на ўвазе *грошы*. Скажам, у *грашах* ён сапраўды нічога не разумее, але ўсё ж ён не выносіў, калі Генрых так задаваўся. Твар ягоны набываў тады нейкі асаблівы грашовы выраз.

— Не,— адказаў Марцін,— я яшчэ не быў дома.

— Тады зараз жа ідзі дадому. Дзядзька Альберт ведаеш як хвалюецца?

Марцін моўчкі хітнуў галавой і падышоў да Вільмы, якая выпырхнула насустрач яму са свайго кутка.

— Ну і свіння ж ты,— сказаў Генрых,— проста свіння!

Ён зноў нахіліўся над сваім аркушам. Вільма тым часам занялася з ранцам Марціна. Марцін сеў проста на падлогу каля дзвярэй і ўзяў Вільму да сябе на калені. Яна засмяялася, саслізгнула на падлогу, учапілася за раменьчык ад ранца і адцягнула яго ўбок. Марцін стомлена назіраў за ёй. Вільма паспрабавала адкрыць ранец, яна торгала за раменьчык, але не магла выцягнуць яго са спражкі. Марцін прыцягнуў ранец да сябе, паслабіў абодва раменьчыкі і зноў падпіхнуў ранец да Вільмы. Тая зноў тарганула за адну спражку і, калі металічны шпянёк выйшаў з дзіркі ў раменьчыку, нават закрычала ад радасці. Яна пацягнула другую спражку і, раскрыўшы яе гэтак жа лёгка, прыйшла ў захапленне і закрычала яшчэ мацней. Рэзкім рухам яна адкінула крышку ранца. Марцін назіраў за ёй, прыхінуўшыся да сцяны.

— Не, гэта проста подласць,— паўтарыў Брылах, не падымаючы галавы. Не дачакаўшыся адказу, ён зірнуў на Марціна і дадаў:

— Ну, і на каго ж ты будзеш падобны? Штаны ж запэцкаеш!

Твар у яго быў важны, *грашовы*. Марцін змаўчаў, хоць язык у яго свярбеў адказаць: «Ды кінь ты задавацца! Глядзець агідна на тваю *грашовую* фізіяномію!» Але ён не сказаў гэтага: гаварыць з Генрыхам пра грошы было небяспечна. Аднойчы Марцін ужо паспрабаваў збіць з яго пыху: ён сказаў Генрыху, што ў іх доме заўсёды ёсць грошы, ва ўсіх — у дзядзькі Альберта, у маці і ў бабулі. Пасля гэтага Генрых на працягу шасці тыдняў не з'яўляўся ў іх, шэсць тыдняў не размаўляў з Марцінам. Дзядзьку Альберту давялося ездзіць да Генрыха і ўгаворваць яго, каб ён зноў прыходзіў да іх. У тыя дні Марцін не знаходзіў сабе месца. Таму цяпер ён маўчаў. Прыхіліўшыся да сцяны, ён абхапіў рукамі калені і працягваў назіраць за Вільмай. Тая знайшла сабе новы занятак: яна выцягнула з ранца ўсе кніжкі, пенал, потым раскрыла задачнік, што ляжаў якраз зверху, і тыцнула пальчы-

кам у адзін з малюнкаў. Увагу яе прыцягнуў намаляваны на ім торт, які можна было падзяліць на восем, на шаснаццаць, на трыццаць дзве часткі і які каштаваў або дзве, або тры, або чатыры маркі. Трэба было даведацца, колькі каштаваў у кожным з гэтых выпадкаў адзін кавалак. Вільма, мабыць, зразумела, што намалявана на карцінцы,— яна моцна выгукнула адно з нямногіх вядомых ёй слоў: «Цукар!» Але «цукрам» Вільма называла і афрыканскія бананы. За тону іх было на месцы заплачана гэтулькі (дарэчы, колькі кілаграмаў у тоне?), нацэнка ў рознічным гандлі склала гэтулькі працэнтаў, пытанне, колькі каштуе кілаграм бананаў? Услед за бананамі Вільма ператварыла ў цукар і вялікае кола сыру, і хлеб, і мяшок з мукой. На малюнку ў чалавека з мяшком была змрочная фізіяномія — Вільма адразу ж вырашыла, што гэта Леа. Затое пекар, што лічыў мяшкі, весела ўсміхаўся; яго яна назвала «тата». Вільма ведала пакуль што тры словы: Леа, тата і цукар. Партрэт на сцяне — гэта «тата». Усіх мужчын, якія былі ласкавыя з ёй, яна таксама называла «тата», а ўсіх, хто ёй не падабаўся,— «Леа».

— Я зраблю сабе бутэрброд з маргарынам,— сказаў Марцін,— можна?

— Зразумела,— адказаў Генрых,— але на тваім месцы я ўсё ж пайшоў бы дадому. Дзядзька Альберт вельмі непакоіўся, а ён жа заязджаў сюды ўжо з гадзіну таму.

Марцін зноў змаўчаў, і Генрых паўтарыў сярдзіта:

— Ну і нягоднік жа ты! — І ўжо цішэй дадаў: — Рабі бутэрброд, чаго чакаеш?

Твар яго зрабіўся яшчэ больш сур'ёзным, і было бачна, што ён страшэнна хоча расказаць пра тое, якое адказнае заданне яму даручана. Генрых толькі чакаў пытання. Але Марцін рашыў нізавошта не распытваць яго. Ён стараўся не думаць пра дзядзьку Альберта — злосць паступова прайшла, цяпер ён адчуваў толькі згрызоты сумлення. Вядома, глупства зрабіў: пайшоў чамусьці ў кіно. Марцін паспрабаваў зноў распаліць у сабе злосць. І дзядзька Альберт зрабіўся гэтакім жа «запісачнікам», як і іншыя,— усё часцей піша ён кароткія запіскі на абрыўках газеты, тройчы падкрэслівае самае важнае, на яго думку, слова. Гэтую штуку з падкрэсліваннем прыдумала мама. Яна чамусьці заў-

сёды падкрэслівае выразы накшталт: «павінна», «не змагла», «нельга было».

— Уставай жа,— раздражнёна сказаў Генрых,— штаны загвэндаеш! Зрабі сабе бутэрброд.

Марцін устаў, абтрос штаны і ўсміхнуўся Вільме. Тая перагарнула старонку задачніка і поўная радасці паказала пальчыкам на барана, які важыў роўна шэсцьдзесят чатыры кілаграмы пяцьсот грамаў. Мяснік купіў яго і заплаціў гэтулькі марак за кожны кілаграм жывой вагі, а пасля прадаў яго, але ўжо на фунты і з гэтакай нацэнкай. Марцін, як і астатнія, не заўважыў падвоху, калі рашаў гэтую задачу, і механічна напісаў шэсцьдзесят чатыры, пяць дзесятых фунта: ён забыўся, што ў кілаграме два фунты. Пасля гэтага настаўнік не прамінаў пераможна заяўляць, што такім чынам усе мяснікі ў горадзе ўмомант збяднеюць. Але мяснікі ў горадзе і не думалі бяднець — справы ў іх ішлі лепей нельга. Вільме вельмі спадабаўся баран, яна прапішчала: «Цукар, цукар!» — і перагарнула старонку. Тут была намалявана нейкая дурнаватая цётка, што купляла ў растэрміноўку матаролер. Генрых па-ранейшаму сядзеў за сталом і падлічваў нешта, моршчачы лоб: Марцін зазірнуў у ягоны лісцік і ўбачыў мноства лічбаў, перакрэсленыя слупкі і падкрэсленыя вынікі. Ён падышоў да буфета, адсунуў убок крышталёвую вазу са штучнымі фруктамі. Шкляныя бананы, персікі, апельсіны. Асабліва выштукаваны быў вінаград — Марцін заўсёды здзіўляўся, да чаго ж ён быў падобны на сапраўдны! Ён ведаў, дзе што стаяла. Вось алюмініевая бляшанка з хлебам, маслёнка з маргарынам, бліскучая бляшанка з яблычным джэмам. Марцін адрэзаў тоўстую лусту хлеба, намазаў яго маргарынам і джэмам і пачаў таропка есці. Ён навагат уздыхнуў ад задавальнення. Дома ніхто не мог зразумець, акрамя хіба Глума і Больды, што яму вельмі смачны маргарын. Бабуля жахалася, калі бачыла ў ягоных руках бутэрброд з маргарынам, і сваім бурклівым голасам заводзіла доўгую гаворку пра розныя хваробы, распісвала іх ва ўсіх падрабязнасцях. Гэта былі жудасныя хваробы, і самая небяспечная з іх называлася *тэбэцэ*. «Глядзіце, справа скончыцца «тэбэцэ»,— галасіла бабуля. Але Марцін лічыў маргарын смачным. Не адыходзячы ад буфета, ён намазаў другі бутэрброд. Вільма радасна заўсміхалася, калі ён

зноў сеў каля яе на падлогу. «О ружы, ружы пунсовыя»,— спявала наверсе фрау Барусяк. Яе голас, глыбокі, грудны, здаўся яму раптам крыніцай, з якой бруіла кроў. На імгненне ён выразна ўявіў сабе ружы, пунсовыя ружы, што падалі з рота фрау Барусяк, іх абрысы расплываліся, зліваліся ў адно, і вось ужо з яе рота бруіць кроў. Марцін вырашыў некалі намаляваць гэта: белакурую фрау Барусяк і плынь крывавых руж, якая ліецца ў яе з рота.

Вільма перагартала задачнік амаль да апошняй старонкі. Тут таксама гаворка ішла пра тоны і кілаграмы. На малюнках былі караблі ў порце і таварныя вагоны, што беглі па рэйках: грузавікі і пакгаўзы. Вільма паказвала пальчыкам на матросаў, чыгуначнікаў і шафёраў і падзяляла іх на «татаў» і на «Леа». «Леа» сустракаліся значна часцей: большасць людзей на малюнках мелі нахмураныя, змрочныя твары. «Леа — Леа — тата — Леа — Леа — Леа — тата». На адным малюнку рабочыя валам валілі з заводскіх варот — усіх іх без разбору Вільма залічыла ў «Леа». Катэхізіс расчараваў яе — у ім не было малюнкаў, калі не лічыць пары віньетак. Назваўшы гронкі і гірлянды «цукрам», Вільма адклала катэхізіс. Затое хрэстаматыя аказалася проста скарбам: тут «татаў» на малюнках аказалася значна больш, чым «Леа»; святы Мікалай, святы Марцін, дзеці, што танцуюць у крузе,— усе падрад былі «таты».

Марцін ізноў узяў Вільму на калені і пачаў карміць яе, адломваючы кавалак за кавалкам ад свайго бутэрброда. Яе бледны тоўсты тварык ззяў, і перад кожным кавалкам яна абвяшчала: «Цукар!» Затым яна раптам раздурэлася і пачала безупынку выкрыкваць: «Цукар, цукар, цукар!»

— Д'ябал! — усклікнуў Генрых.— Прыдумай нейкую цішэйшую гульню.

Вільма напалохалася, зморшчыла лобік і з важным выглядам прыклала пальчык да вуснаў.

Фрау Барусяк спыніла спевы, і са сталярнай майстэрні не даносілася ані гуку. У гэты момант раптам зазванілі званы. Вільма заплюшчыла вочы і, стараючыся імітаваць іх звон, пачала крычаць: «Дон-дон-дон». Марцін таксама міжвольна заплюшчыў вочы і перастаў жаваць. Голас званоў зрабіўся бачным. За заплюшчанымі вачамі ўзнікла цэлая карціна. Званы

вызвоньвалі ў паветры складаныя ўзоры, зяючыя кольцы раслі, шырыліся, затым разляталіся і знікалі, іх змянялі квадраты і штрыхі, накшталт тых, што садоўнік граблямі вычэрчваў на дарожках саду. Мудрагелістыя шматкутнікі выплывалі са змроку, быццам штампаваны арнамент з бляхі на шэрай сцяне. А срэбранае «дзін-дон» Вільмы, быццам маленькае долата, грукала ў бясконцую шэрую сцяну, убіваючы ў яе рады ззяючых кропак. Пасля фарбы перамяшаліся. Пунсовы колер крывавых ружаў — раскрытыя круглыя раты з ярка-чырвонымі вуснамі, жоўтыя хвалістыя лініі, а калі званы моцна ўдарылі апошні раз, з'явілася агромністая цёмна-зялёная пляма; яна павольна святлела, сціскалася і знікла разам з апошнімі водгукамі звона.

Вільма ўсё яшчэ сядзела на падлозе, заплюшчыўшы вочы, і паўтарала сваё: «Дон-дон-дон».

Марцін, не падымаючыся, выцягнуў руку, дастаў другі бутэрброд, які ён паклаў на краі ложка, і адламіў ад яго кавалак і ўсунуў у рот дзяўчынцы. Вільма адкрыла вочы, усміхнулася і перастала выкрыкваць «дон-дон».

Вольнай рукой Марцін выцягнуў з-пад ложка скрынку, дапаўна набітую цацкамі Вільмы. На крышцы вялікімі літарамі колеру ржы было напісана: «Мыла Санлайт». У скрынцы ляжалі парожнія карабкі, кубікі, пакалечаныя завадныя аўтамабілі.

Вільма вылузнулася з ягоных каленяў і з сур'ёзным выглядам пачала адну за адной выцягваць цацкі з кардонкі. Яна падавала цацкі Марціну і называла іх адным словам, якое азначала ў яе ўсе неадушаўлёныя прадметы: «Цукар». Але цяпер яна вымаўляла яго ціха, зморшчыўшы лобік і пазіраючы на Генрыха, які ўсё яшчэ нешта разлічваў.

Марціну хацелася, каб фрау Барусяк зноў запела; скоса пазіраў ён на Генрыха, які па-ранейшаму важна сядзеў за сталом, і яму раптам зрабілася шкада яго.

— Што, зноў каштарыс складаеш? — спытаў ён.

— Эх, каб ты ведаў, як гэта мне надакучыла,— адразу ж адазваўся Генрых, і твар яго расплыўся ў задаволенай усмешцы,— проста ванітуе! Паспрабуй эканоміць дваццаць марак у месяц. А даводзіцца — маме трэба новыя зубы ўставіць.

— Але, новыя зубы дорага каштуюць.

— Дарага! — засмяяўся Генрых.— Дарага — гэта, брат, не тое слова! Дзе ўзяць такую кучу грошай? Але ведаеш, што я высветліў?

— Што?

— А вось што: ужо два гады дзядзька Леа недадае нам грошай. Глядзі: абед абыходзіцца нам не ў трыццаць пфенігаў, як мы тады прыкінулі, а ў добрыя сорак. А снеданне? Не, ты падумай, якое свінства — наша норма была дваццаць грамаў маргарыну, а ён жрэ кожны дзень не менш сарака грамаў, ды яшчэ з сабой бутэрброды бярэ. Джэм я ўжо ўвогуле не лічу. Цяпер яйка — на яйка ён дае дваццаць пфенігаў у дзень. Але скажы, дзе ты знойдзеш яйка па дваццаць пфенігаў за штуку? Дзе?

Генрых нават ахрып ад абурэння.

— Не ведаю,— згадзіўся Марцін,— не ведаю, дзе гэта яны каштуюць так танна.

— Вось і я не ведаю, не то сам бы на злом галавы туды пабег. Тады [redacted] і мы калі-нікалі яечню з'елі.

Вільму, мяркуючы па ўсім, яйкі зусім не хвалявалі. Яна перастала раскладваць свае цацкі і сказала, зморшчыўшы тварык: «Леа, Леа»,— і затым раптам: «Яйка»,— і адразу ж заззяла: яе лексікон узбагаціўся новым словам.

— Ды і ўвогуле, з якой прычыны мы павінны кожнай раніцы падаваць яму яйка?

— Усім бацькам і ўсім дзядзькам падаюць яйка на сняданак,— нерашуча запярэчыў Марцін і а́дразу ж паправіўся,— амаль усім.

Ён сам не быў у гэтым упэўнены. Да гэтай пары ён не ўяўляў сабе нейчага бацьку або дзядзьку, якому б не падавалі на снеданне яйка. Але тут яму раптам успомнілася, што дзядзька Берэндта не есць яек раніцай.

— Ну а я лічу, што гэта зусім не абавязкова,— сказаў Генрых.

Ён схапіў аловак і правёў тоўстую касую рысу на паперы, быццам выкрасліў ранішняе яйка з дамашняга снедання Леа.

Збялелы ад гневу, ён працягваў:

— Вось і падлічы цяпер, на колькі ён нас абдурыў! На маргарын ён недадае па сем пфенігаў штодня, калі не больш — ён жа яшчэ час ад часу робіць сабе бутэрброды і вечарам. На абед — па дзесяць пфенігаў, ды

джэм ён жрэ зусім бясплатна — гэта яшчэ пфеніг. Цяпер за яйка з яго кожны дзень належыць на тры пфенігі больш. Усяго, значыць, дваццаць пфенігаў. Памножым гэта на тысячу,— ён жыве ў нас амаль тры гады,— атрымліваецца дзвесце марак! Зразумеў? Далей: за хлеб мы з яго зусім не бяром. Апошнія два гады мы атрымліваем яго бясплатна. Але мяркуй сам: калі нам хлеб дастаецца дарма, ці азначае гэта, што і ён не павінен за яго плаціць?

— Не, не азначае,— сказаў Марцін, зусім ашаломлены. Бутэрброд адразу здаўся яму не такім ужо і смачным.

— Але ж! Атрымліваецца, што з гэтага ненажэры належыць яшчэ сорак пфенігаў у дзень за хлеб ды пяць пфенігаў за электрычнасць — за яе ён таксама не плаціць. Пяць пфенігаў памножаныя на тысячу будзе пяцьдзесят марак плюс хлеб за два гады — сорак пфенігаў на семсот трыццаць — гэта будзе яшчэ трыста марак! Ты не падумаў пра гэта?

— Не,— прызнаўся Марцін.

Генрых змоўк і зноў унік у свой лісток.

— Яйка,— пралепятала Вільма,— Леа, яйка.

Яна знайшла ў хрэстаматыі нейкіх панурых мужчын. Гэта былі шахцёры ў забоі, людзі [redacted] панурымі і засяроджанымі тварамі.

— Леа, Леа, Леа,— яйка, яйка, яйка.

— Ты яшчэ не скончыў? — запытаў Марцін.

— Не,— адказаў Генрых,— маці неабходна ўставіць зубы, і я павінен вылічыць, колькі мы можам эканоміць штомесяц. Але Леа надурыў нас на пяцьсот марак — гэта ўжо палова той сумы, якую трэба заплаціць дантысту.

Марціну вельмі хацелася, каб зноў заспявала фрау Барусяк або зазванілі званы. Ён заплюшчыў вочы, пачаў думаць пра фільм, які сёння бачыў, і ўспомніў сон, што прысніўся яму, калі ён задрамаў у кіно: Леа з жорнамі на шыі апускаецца на дно акіяна. Яму прымроілася, што ён у сне чуў і лепятанне Вільмы: «Леа, цукар, тата, Леа». І калі заспявала фрау Барусяк «Каля сцежкі лясной незабудкі цвілі» і ён адразу адчуў, як голас яе пранікае яму ў душу, ён адкрыў вочы і спытаў:

— Чаму нашыя мамы не выходзяць зноў замуж?

Генрыху гэтае пытанне здалося такім сур'ёзным,

што ён нават адарваўся ад сваіх падлікаў. Ён адкінуў аловак, падкрэсліваючы ўсім сваім выглядам, што пасля такой працы чалавек можа сабе дазволіць нядоўгі адпачынак. Ён абапёрся локцямі на стол і сказаў:

— Ты не ведаеш чаму?

— Не.

— З-за пенсіі, дзівак! Бо калі мама выйдзе замуж, ёй спыняць выплату пенсіі.

— Значыцца, фрау Барусяк не атрымлівае пенсіі?

— Не. Але ж яе муж і без таго добра зарабляе.

— Але ўсё ж? — Марцін падумаў крыху і рассеяна ўсміхнуўся Вільме, якая ў гэты момант натрапіла ў хрэстаматыі на Святога Іосіфа і, заззяўшы, назвала яго «татам».— Але ўсё ж яна атрымлівала б пенсію, калі б не выйшла замуж за пана Барусяка і яе прозвішча заставалася б Горн?

— Зразумела, атрымлівала б. Але яна так нізавошта не зробіць. Бо гэта распусна, а яна — набожная.

— А твая маці набожная?

— Не. А твая?

— Не ведаю. Часам, мабыць.

— А дзядзька Альберт?

— Ён-то набожны.

Генрых яшчэ мацней успёрся на стол і паклаў падбародак на складзеныя накрыж, сціснутыя ў кулакі рукі.

— Так,— працягнуў ён,— у тваёй мамы гэта не з-за пенсіі. Грошы тут ні пры чым.

— Ты так мяркуеш?

— Так.

— Слухай, як, на тваю думку...— Марцін было сумеўся, але затым, сабраўшыся з духам, выпаліў: — Як ты мяркуеш, мая маці таксама сужыцельнічае з мужчынамі?

Генрых пачырванеў, не ведаючы, што адказаць. Калі Леа гаварыў пра маці Марціна, ён раз-пораз ужываў тое самае слова. Але Генрых не хацеў гаварыць пра гэта. Бо Марціну будзе цяжэй, чым яму, калі ён даведаецца, што яго маці сужыцельнічае з мужчынамі.

— Не,— сказаў ён,— наўрад.

Ён ведаў, што гаворыць няпраўду, бо быў упэўнены ў адваротным, і таму паспешна дадаў:

— Акрамя пенсіі ёсць жа яшчэ і падаходны падатак. Усе яны гавораць пра гэта — і кандуктар, што прыходзіць да Леа разам з фраў Гундаг, і іншыя. Але я табе яшчэ нешта скажу.

— Што?

— Жанчыны не так баяцца страціць пенсію, як мужчыну. Жанчыны гавораць: «Нічога, пераб'ёмся неяк, жывуць жа людзі і без пенсіі». А вось мужчыны і слухаць пра тое не хочуць. Леа выходзіць з сябе, калі мама пачынае з ім гаворку пра замужжа.

— А мая мама сама злуецца, калі дзядзька Альберт гаворыць ёй пра замужжа.

— Вось як?

Генрых насцярожыўся. Гэтыя словы зачапілі яго за жывое. Не, ён не хацеў, каб дзядзька Альберт ажаніўся з маці Марціна.

— Вось як,— паўтарыў ён,— ты гэта дакладна ведаеш?

— Сам чуў. Мая маці не хоча больш выходзіць замуж.

— Смешна,— сказаў Генрых,— вельмі нават смешна. Усе жанчыны, якіх я ведаю, толькі пра тое і думаюць.

— І твая мама таксама?

— А то як жа! Яна, бывае, гаворыць, што ёй сябе шкада. Дый гэта ж распусна — жыць так.

Марцін нехаця кіўнуў — гэта сапраўды было *распусна*. На імгненне яму нават захацелася, каб і яго маці была «распусная» і каб усе пра гэта ведалі. Тады зрэшты хоць у гэтых адносінах ён быў бы роўняй Генрыху... і, каб суцешыць сябрука, ён адказаў:

— Можа, і мая мама распусная? Як ты думаеш?

Генрых ведаў, што гэта сапраўды так, але пацвярджаць таго не стаў. Словы Леа здаваліся яму надта ўжо ненадзейнай крыніцай. Таму ён адказаў няпэўна:

— Магчыма, толькі нешта не верыцца.

— Дрэнна, калі мы вось гэтак не ведаем нешта пэўна,— сказаў Марцін.— Бабуля, напрыклад, часта гаворыць маме, калі яна позна вяртаецца дадому: «Дзе гэты ты ўсё швэндаешся?» Гэта таксама распусна?

— Не,— сказаў Генрых.

Ён быў вельмі ўзрадаваны, што на гэты раз можа з упэўненасцю даць адмоўны адказ.

— Фраў Барусяк сваёй дачцэ тое ж гаворыць, калі

тая прыходзіць з гулянкі, з кіно або са спартыўнай пляцоўкі. Не, швэндацца — гэта не распусна.

— Але чамусьці здаецца, што гэта так. Мама з бабуляй заўсёды доўга шэпчуцца пасля гэтага.

— Мабыць. Можа, гэта часам і распусна.

Марцін зноў узяў Вільму да сябе на калені. Яна засунула пальчык у рот і прыціснулася да ягоных грудзей.

— У сужыцельстве мая маці з мужчынамі ці не? У гэтым уся справа! Калі яна ў сужыцельстве, то яна распусная і парушае шостую запаведзь. Бо яна незамужняя.

Генрых ухіліўся ад непасрэднага адказу.

— Так,— сказаў ён,— калі мужчына і жанчына жывуць, не пажаніўшыся, гэта грэшна, распусна.

Пасля гэтых слоў Генрых адчуў палёгку. Палонка зрабілася шырэйшай, але вада пад лёдам аказалася не такая ўжо глыбокая. І ўсё ж дзіўна, што маці Марціна не хоча выходзіць замуж. Гэта пярэчыла ўсяму таму, што ён бачыў і ведаў: фрау Гундаг хацела выйсці замуж за сябра Леа, кандуктара; і маці час ад часу нясмела гаварыла Леа, што час ім ужо стаць мужам і жонкай. Генрых ведаў, што маці Берэндта часта плача, таму што дзядзька, які жыве ў іх, да гэтай пары не ажаніўся з ёй. А гаспадыня малочнай лаўкі нарадзіла дзіця, а мужа ў яе няма. Генрых чуў, як Леа аднойчы сказаў: «Не, Гуго на гэтую вуду не зловіш! Ён нізавошта з ёй не ажэніцца».

Каля берага лёд тонкі, але вада тут не надта глыбокая — баяцца асабліва няма чаго.

Людзі жывуць распусна і тут і там — і ў глыбіні і на паверхні. Тры светы ведаў Генрых Брылах. Першы свет — гэта школа: усё, чаму вучылі там, усё, што гаварыў святар на ўроку. І ўсё гэта пярэчыла таму, што ён бачыў у свеце Леа, у свеце, дзе ён жыў. Трэці свет — свет Марціна — быў зусім непадобны на першыя два. Гэта быў свет халадзільнікаў, свет, дзе жанчыны не імкнуцца выйсці замуж, а *грошы* не маюць ніякай ролі. Тры светы ведаў Генрых, але жыць ён хацеў толькі ў адным — у сваім. І таму ён рашуча сказаў, гледзячы на Марціна, які калыхаў засынаючую Вільму:

— Ведаеш, а слова, якое мама сказала кандытару, зусім і не такое страшнае.

На справе ён лічыў яго *вельмі страшным*, але яму раптам захацелася аднойчы і назаўсёды скончыць усе недагаворкі.

— Ты ж, мабыць, чытаў яго няраз, унізе, на сцяне каля лесвіцы.

Так, Марцін чытаў гэта слова і думаў, што, калі бачыш яго напісаным, яно яшчэ больш агіднае, чым тады, калі яго прамаўляюць. Але ён проста стараўся не заўважаць яго, як не заўважаў мяснікоў, якія цягнулі ў лаўку акрываўленыя цялячыя тушы, як не заўважаў *кроў у мачы*, якую совалі яму проста ў нос. Гэтак жа ён не стаў глядзець на Грэбхакэ і Вольтэрса, калі выпадкова набрыў на іх у кустах... Густа пачырванелыя твары, расшпіленыя штаны, гаркавы пах свежай зелені.

Ён не адгукнуўся на словы Генрыха і толькі мацней прыціснуў да сябе сонную Вільму. Дзіця сагрэлася ў сне і ацяжэла.

— Вось бачыш,— сказаў Генрых,— у нас такія словы пішуць на сценах, у нас іх гавораць, а ў вас — не. Тут ужо нічога не зробіш.

Але лёд вытрымаў і на гэты раз, хоць ён сказаў няпраўду. Ён лічыў гэта слова *вельмі* кепскім, а сказаў, што не бачыць у ім нічога страшнага. Яму ўспомніўся Святы Іосіф на малюнку. Добры, пакорлівы чалавек з белым тварам: «Хай будзе ён вам прыкладам». Добры чалавек з белым тварам, ты бачыў калі дзядзьку Леа? І дзе мне цябе знайсці? Святы Іосіф стаіць недзе там, глыбока пад лёдам. Ён нерухомы і толькі зрэдку ажывае на імгненне і безвынікова спрабуе выплысці наверх. Але тоўшчу лёду яму не прабіць! Дый калі прабіць лёд, яго ўсё роўна не выцягнуць. Ён растае, мабыць, або зноў пойдзе ўглыб, назаўсёды застанецца там, на дне, і толькі зрэдку бездапаможна ўзмахне рукой, ён бяссільны проці Леа. І ў святога Генрыха, ягонага анёла-абярога, гэтакі ж пакорлівы твар, толькі больш строгі. У саборы стаіць яго каменная статуя. Настаяцель падарыў яму неяк фотаздымак гэтай статуі. «Бяры з яго прыклад!»

— Ведаеш, хто піша на сцяне гэтае слова? — цвёрда прагаварыў ён, павярнуўшыся да Марціна.— Леа! Цяпер я пераканаўся ў гэтым.

Цагляна-чырвоная морда, што пахне адэкалонам. Ён спявае нейкія дзіўныя песні на матыў царкоўных

псалмоў. Словы не разабраць, але гэта ўжо, відаць, нешта непрыстойнае. Мама заўсёды злуецца і гаворыць: «Перастань, калі ласка».

Марцін не адказваў. Навошта? Усё роўна нічога не паправіш. Маўчаў і Генрых. Ён вырашыў адмовіцца ад назначанай паездкі за горад. Няма чаго хадзіць па тонкім лёдзе — так і глядзі, правалішся. Гэта пачуццё ніколі не пакідала яго нават у Бітэнхане — у дзядзькі Віля і маці Альберта, дзе яны гадзінамі гулялі ў футбол, і дзядзька Альберт таксама гуляў з імі, дзе яны лавілі рыбу, хадзілі праз даліну Брэра да плаціны. Ярка свеціць сонца, ніякага клопату, што яшчэ, здаецца, трэба? А на душы неспакойна, прадчуванне нечага непазбежнага, што парушыць гэтую радасць. Пасля Вялікадня Марцін скончыць пачатковую школу і паступіць у гімназію. Ён баяўся нават думаць пра гэта. Вільма мармытала нешта ў сне, на падлозе засталіся параскіданыя цацкі і раскрытая хрэстаматыя. Святы Марцін на вараным кані мчыць праз завею. Залатым мячом ён рассякае свой плашч напалам, каб палову аддаць жабраку,— жабрак вельмі мізэрны: голы, кашчавы дзед сярод снежных гурбаў.

— Паслухай, табе трэба ісці,— сказаў Генрых.— Дзядзька Альберт проста з глузду з'едзе.

Марцін не адказаў, ён задрамаў. Стомлены і галодны, ён усё ж не хацеў ісці дадому. І не таму, што баіцца Альберта, а таму, што сам дзейнічаў па-свінску, і яму было сорамна.

— Эх ты,— сказаў Генрых. Цяпер ён гаварыў і не важнічаў, як звычайна ў такіх выпадках, а толькі ціха і сумна.— Дрэнь ты! Калі б я меў такога дзядзьку, як Альберт...

Голас яго задрыжаў, і ён змоўк, з цяжкасцю стрымліваючы слёзы. Быў бы Альберт ягоным дзядзькам... Вось адчыняюцца дзверы,і ўваходзіць Альберт у форме кандуктара. Яго лёгка можна ўявіць у гэтай форме. І ён надзяляе Альберта, акрамя ўласцівых яму вартасцей, усімі прывабнымі рысамі Герта і Карла. Мабыць, ён бы не пасаромеўся сказаць «дзярмо» — слова, што засталося ў спадчыну ад Герта. Гэтае слова не зусім да твару дзядзьку Альберту, але ў ягоных вуснах яно гучала б лагодна, без злосці.

Зрабілася зусім ціха. Толькі недзе высока гудзеў самалёт, які цягнуў за сабой па небе свой доўгі шлейф:

«Ці гатовы ты да ўсяго?» — і раптам зноў заспявала фрау Барусяк. Яна спявала сваю любімую песню. Працяжная мелодыя, поўная пяшчотнага суму: «Не пакінь нас, Дзева прасвятая». Голас сцякаў зверху паволька, кропля за кропляй, як густы духмяны мёд.

Дабрадзейная гераіня,— яна адмовілася ад пенсіі, каб жыць па законе. Пышная бялявая прыгажуня знайшла нарэшце ціхую прыстань. Заўсёды ў яе кішэні цукеркі, мядовыя карамелькі для дзетак. «Не пакінь нас у юдолі смутку»,— спявала яна. А на вуліцы па-ранейшаму было ціха, толькі недзе зусім далёка гудзеў самалёт.

— У панядзелак мы ўсё ж пойдзем у кіно, як дамовіліся,— не расплюшчваючы вачэй, сказаў Марцін,— калі тваю маму не адпусцяць з работы, Больда пасядзіць з дзяўчынкай.

— Добра,— адказаў Генрых,— мы ж з табой дамовіліся.

Ён усё хацеў сказаць, што не паедзе за горад, але ніяк не мог рашыцца. Вельмі ўжо хораша было ў Бітэнхане, хоць ён і ведаў, што будзе там бянтэжыцца, чаго дома з ім ніколі не здаралася. Але там, у трэцім незразумелым свеце, Генрых заўсёды бянтэжыўся. Школа і дом суіснавалі неяк разам. Нават царква пакуль што магла суіснаваць з дамашнім светам. Ён жа яшчэ не зрабіўся распусным, не здзейсніў нічога бессаромнага. Хоць ён бянтэжыўся і ў царкве, але гэтая збянтэжанасць была іншай, гэта было цвёрдае разуменне, што тут-то, мабыць, дабром справа не скончыцца. Надта многія рэчы схаваныя ўглыбіні, і толькі вельмі нямногае застаецца на паверхні.

«У юдолі смутку» — лепей не скажаш. Добра спявае фрау Барусяк.

— У *«Атрыум»* ісці нявarта,— сказаў Марцін,— карціна там нейкая дурацкая.

— Як хочаш.

— А што ідзе ў *«Монтэ-Карла»*?

— Туды зараз не трапіш,— адказаў Генрых,— дзяцей да шаснаццаці гадоў не пускаюць.

Напаўраспранутая прыгажуня, пышная і бялявая — ні даць ні ўзяць фрау Барусяк у начной кашулі. Смуглы, падазронага выгляду бамбіза надта ўжо палка абдымае яе. Над парачкай надпіс: *Сцеражыцеся бландзінак*, а пад грудзямі ў яе прыклеена чырвоная

палоска, быццам пелька накінута на прыгажуню і яе смуглага бамбізу — *дзеці да 16 гадоў на сеансы не дапускаюцца.*

— Тады ў *«Бакача»*?

— Пабачым, у пякарні вісіць зводная афіша.

Нішто не парушала цішыні, толькі сцены дома дрыжалі разам з маставой, па якой бясконцым цугам ішлі машыны. А калі міма праязджаў цяжкі грузавік або аўтобус — тут хадзіў трыццаць чацвёрты,— ціхенька брынчала аконнае шкло. «У юдолі смутку»,— спявала фрау Барусяк.

— Ну, зараз бяжы дадому,— сказаў Генрых,— не будзь такім гадам.

Марцін і сам разумеў, што вінаваты. На душы ў яго кошкі шкрэблі. Да таго ж ён страшэнна стаміўся. Не адказваючы, не расплюшчваючы вачэй, сядзеў ён нерухома каля сцяны.

— Я зараз зайду па маму ў пякарню. Пойдзем разам, калі ўжо не хочаш ісці дадому. Заадно пабачым, што ідзе ў *«Бакача»*.

— А Вільма? Яна ж заснула!

— Пабудзі яе, не то вечарам яе не ўложыш спаць.

Марцін адкрыў вочы. Святы Марцін у хрэстаматыі ўсё яшчэ скакаў стрымгалоў праз вецер і снег. Бліснуў залаты меч; яшчэ імгненне, і ён рассячэ плашч папалам.

«Прыйдзі, не пакінь нас у бядзе»,— спявала фрау Барусяк.

Генрых ведаў, што Леа ні ў якім разе не дасць грошай. Але ён усё роўна падсуне яму проста пад нос свае *разлікі.* Як прыемна будзе адпомсціць Леа за той выпадак з «крадзяжом». З Леа належыць яшчэ па дваццаць марак у месяц, ды дзесяць Генрых спадзяваўся зэканоміць. Калі плаціць урачу штомесяц па трыццаць марак, ён згодзіцца лячыць маму. Але застаецца яшчэ задатак у трыста марак. Куча грошай, непрыступная вяршыня. Тут хіба толькі цуд дапаможа. Тады няхай здарыцца цуд. Ён павінен здарыцца! Бо мама плача з-за гэтых зубоў. Леа, зразумела, і пфеніга лішняга не дасць. Будзе скандал. Ну і няхай! Калі ўжо няма іншага бацькі, то хай хоць дзядзька будзе іншы. Любы дзядзька лепшы, чым Леа.

— Будзі Вільму, трэба ісці.

Марцін асцярожна раскатурхаў дзяўчынку. Вільма прачнулася.

— Да мамы,— ціха сказаў Марцін,— хочаш да мамы?

— А ты дамоў не пойдзеш? — сказаў Генрых.— Не будзь жа такой свіннёй!

— Ды адчапіся ты ад мяне,— адмахнуўся Марцін. Што яму рабіць дома! Маці паехала, Больда мые падлогу ў царкве, а дзядзька Альберт,— так яму і трэба,— хай пахвалюецца. Ён жа заўсёды хвалюецца, калі Марцін у час не прыходзіць дадому. Лепшыя за ўсіх у доме, што ні кажы, Больда і Глум. Трэба абавязкова ім нешта падарыць: Глуму — алейныя фарбы, а Больдзе — новы малітоўнік у чырвоным скураным пераплёце і сінюю каленкоравую папку, каб было ёй куды складваць свае кінапраграмы. Маці нічога не варта дарыць, і Альберту таксама: запісачнік няшчасны! Таксама, як і мама, начаў тройчы падкрэсліваць гэтыя злашчасныя словы: «не мог», «павінен быць», «нельга было».

— Хадзі, дай дзверы зачыніць,— сказаў Генрых.

— Я застануся тут.

— Тады, можа, Вільму з табой пакінуць?

— Не, бяры яе з сабой.

— Ну як хочаш. Калі надумаеш пайсці, палажы ключ пад дыванок каля дзвярэй. Ну і свіння ж ты, скажу я табе...

Твар яго зноў зрабіўся салідным, *грашовым*. Марцін змаўчаў. Генрых выйшаў, а ён па-ранейшаму сядзеў на падлозе каля сцяны. Ён чуў, як на лесвіцы фраў Барусяк нешта ласкава сказала Вільме, пагутарыла з Генрыхам, і ўсе трое пачалі спускацца ўніз па лесвіцы. Марцін застаўся зусім адзін,— нават фраў Барусяк пайшла, не будзе яе песень. Хоць, можа, яна пайшла толькі ў малочную насупраць купіць кефіру. Пан Барусяк вельмі любіць кефір.

Добра іншым дзецям! Вось у Поскэ, напрыклад, маці заўсёды дома. Сядзіць і вяжа або шые. Прыходзіць Поскэ са школы — мама ўжо чакае яго. Суп гарачы, бульба падсмажана і нават нейкая трэцяя страва заўсёды ёсць. Фраў Поскэ вяжа світары і камізэлькі, ваўняныя панчохі з мудрагелістымі ўзорамі, шые штаны і курткі. На сцяне ў іх вісіць павялічаны фотаздымак бацькі Поскэ. Вялікі партрэт, амаль та-

кі ж, як татаў партрэт дома, у гасцёўні. Бацька Поскэ быў обер-яфрэйтарам — вясёлы обер-яфрэйтар з ордэнскай калодкай на грудзях. Дзядзька Берэндта і новы бацька Грэбхакэ — усе яны лепшыя за дзядзьку Леа. Яны амаль як сапраўдныя бацькі. А дзядзька Леа самы брыдкі з усіх. Вось дзядзька Альберт — гэта сапраўдны дзядзька, бо ён жа з мамай не жыве. Генрыху жывецца горш за ўсіх, нават горш, чым яму самому. Генрыху даводзіцца ўсё падлічваць, і дзядзька ў яго дрэнны!

Марцін пачаў горача маліцца:

— Божа, зрабі так, каб Генрыху жылося лепш!

Яму зрабілася сорамна за тое, што ён раззлаваўся на сябра. Трэба было адразу ж запытаць у яго, што ён піша. Божа, хай Генрыху жывецца лепш! Яму так цяжка. Маці ў яго *распусная*, але яму ад таго не лягчэй. У Берэндта і Вельцкама мамы таксама *распусныя*, але затое хоць дзядзькі добрыя, зусім як сапраўдныя бацькі, ім даюць яйка на сняданак, яны прыходзяць з працы, абуваюць дамашнія пантоплі, чытаюць газету. А ў Генрыха гэтага няма, хоць мама ў яго і *распусная*. Яму за ўсё прыходзіцца расплачвацца. Дык зрабі ж так, каб яму жылося лепш! Яму так цяжка! Ён цэлымі днямі падлічвае, эканоміць, а Леа не плоціць за маргарын, не плоціць за яйкі і за хлеб. І на абед ён вельмі мала дае. Кепска жывецца Генрыху. У яго сапраўды так многа клопату, і ўсё, што ён робіць, такое важнае, дык ці варта крыўдаваць на тое, што ён часам напускае на сябе важны выгляд.

Марцін з'еў бы яшчэ адзін бутэрброд, але яму раптам зрабілася сорамна за тое, што ён увогуле еў бутэрброды ў Генрыха. Божа, зрабі, каб яму жылося лепш! Марцін успомніў, як бабуля разлічваецца за вячэру ў шынку Фавінкеля. Яны неяк зазірнулі ў каштарыс. 18 марак 70 пфенігаў. Марцін падняўся і ўзяў са стала паперку з лічбамі. У правым куце зверху было напісана: зубны ўрач — 900 марак, злева ў слупок:

дапамога 150 марак.
страхоўка — 100?
аванс — ???
астаецца знайсці ???

Лісток быў спісаны ўдоўж і ўпоперак. Там былі цэлыя прыклады на множанне і дзяленне. «500 : 100 ×

×40 — маргарын» — і каля гэтага «хлеб, воцат», далей нейкія кручкі, і затым зноў разборліва: «Да гэтага часу мы трацілі 28 марак у тыдзень, як быць далей??»

Марцін зноў сеў на падлогу каля сцяны. 18 марак 70 пфенігаў бабуля заплаціла кельнеру. Ён успомніў трэск адарванага чэка. Яму зрабілася страшна: грошы насоўваліся на яго, прынялі адчувальную форму. 28 марак у тыдзень і 18 марак 70 пфенігаў за адну толькі вячэру. Божа, хай Генрыху жывецца лепш!

Унізе ў двары да дзвярэй сталярнай майстэрні пад'ехаў аўтамабіль. Ён здагадаўся, што гэта Альберт. І адразу ж пачуў ягоны голас: «Марцін!»

Па лесвіцы падымалася фрау Барусяк. Значыцца, яна хадзіла ў магазін насупраць па кефір для мужа і па цукеркі для дзетак.

З двара зноў пачуўся голас Альберта: «Марцін!» Ён зваў яго нямоцна, і голас у яго быў нясмелы, амаль з маленнем: гэта напалохала Марціна больш, чым рэзкі вокрык.

«Прыйдзі, о Дзева Марыя»,— голас фрау Барусяк ужо ліўся зверху, як мёд — кропля за кропляй. Ласкавы, пяшчотны голас.

Марцін устаў, падышоў да акна і крыху прачыніў яго. Калі ён убачыў Альберта, то спалохаўся яшчэ больш. Альберт увесь неяк змарнеў, пастарэў, і твар у яго быў вельмі сумны. Каля яго стаяў сталяр.

Марцін расчыніў акно.

— Марцін! — зноў паклікаў яго Альберт.— Хадзі сюды! Хутчэй!

Выраз яго твару адразу змяніўся, ён усміхнуўся, пачырванеў.

— Іду, іду! — крыкнуў Марцін.

Акно засталося расчыненым, і ён пачуў, як зноў заспявала фрау Барусяк: «Я вырасла ў краі зялёным, сярод лясоў, сярод палёў». Марціну ўсё навокал падалося раптам зялёным — і Альберт, і сталяр каля яго, і аўтамабіль, і двор, і неба. У такім краі, мабыць, вырасла фрау Барусяк.

— Хадзі ж, дзетка,— зноў паклікаў Альберт.

Марцін запіхнуў кніжкі ў ранец, выйшаў з пакоя, запёр дзверы і паклаў ключ пад дыванок. У прыхожай ён зноў убачыў праз акно, як за сцяной разбуранага дома паволька, ад акна да акна, плыве самалёт. Ён знік за сцяной, што ўзялася полымем у промнях за-

ходзячага цяпер сонца, паказаўся зноў, павярнуў да званіцы і раскінуў свой доўгі шлейф. Марцін зноў прачытаў надпіс на зялёным небе: *Ці гатовы ты да ўсягоǃ*

А фрау Барусяк усё спявала: «Я вырасла ў краі зялёным...»

Цяжка ўздыхаючы, ён спусціўся па лесвіцы і пайшоў праз двор да машыны. Сталяр паківаў галавой і сказаў яму ўслед: «І табе не сорамна?» А дзядзька Альберт нічога не сказаў. Твар яго зрабіўся зусім шэрым, позірк быў стомлены. Ён узяў Марціна за руку: рука яго была сухая і гарачая.

— Паедзем,— сказаў Альберт,— у нас яшчэ цэлая гадзіна. Потым захопім Генрыха. Ён жа паедзе з намі?

— Мабыць, паедзе.

Альберт паціснуў сталяру руку, і той яшчэ раз кіўнуў ім, калі яны селі ў машыну.

Перш чым уключыць хуткасць, Альберт зноў моўчкі ўзяў руку хлопчыка. Марцін усё яшчэ не ачомаўся. Ён не баяўся дзядзькі Альберта, але яго палохала нешта іншае; але што — ён не мог зразумець. Альберт быў сёння не такі, як заўсёды.

## 16

Як толькі выйшаў хлопчык-вучань, кандытар зноў схапіў яе за руку. Ён стаяў каля стала, насупраць яе, і адну за адной падсоўваў ёй гатовыя трубачкі з марцыпанавай начынкай. Ёй заставалася толькі абліць іх шакаладам. У той момант, калі яна пацягнулася па новае пірожнае, ён схапіў яе за руку, і яна не стала вырываць яе. Звычайна яна старалася хуценька вырваць руку і гаварыла з усмешкай: «Адчапіся! Не паможа!» Але гэтым разам яна саступіла і адразу ж спалохалася, калі ўбачыла, як моцна падзейнічала на яго гэтае маленькае патуранне. Бледны твар кандытара, з якога ён паспеў сцерці мучны пыл, пацямнеў. Яго шэрыя вочы быццам ашкляненелі на імгненне, але затым раптам заблішчалі. Вільме зрабілася страшна, яна паспрабавала вырваць руку, але кандытар чэпка трымаў яе. Ёй ніколі яшчэ не даводзілася бачыць, каб у чалавека так блішчалі вочы. У звычайна мутных зрэнках кандытара бліскалі цяпер зялёныя агеньчыкі.

Твар яго набыў шакаладнае адценне. Раней слова «страсць» заўсёды выклікала ў яе ўсмешку; цяпер яна зразумела, што гэта такое, але было ўжо позна.

Няўжо яна такая прывабная? Мужчыны заўсёды лічылі яе прыгожанькай; яна ведала, што да гэтага часу не змізарнела, нягледзячы на кепскія зубы. Але яшчэ ні ў воднага мужчыны, калі яны бачылі яе, не ззялі зялёным полымем вочы, а твары не набухалі ад прыліву крыві і не набывалі густога шакаладнага колеру. Кандытар нахіліўся і пачаў цалаваць яе руку перасмяглымі вуснамі, хутка, нязграбна, па-хлапечы. Пры гэтым ён мармытаў нешта — слоў яна не магла разабраць. Здавалася, ён чытае вершы на чужой мове — чаруючыя і незразумелыя.

Затым з плыні слоў выплыла нарэшце знаёмае: «Шчасце, шчасце маё!»

Божа ж мой, няўжо гэта для яго такое шчасце — патрымаць яе руку ў сваёй? Якія ў яго сухія вусны і якая цяжкая, потная рука.

А кандытар усё мармытаў свае незразумелыя вершы, і яна ўспомніла, што і раней ён гэтак жа нараспеў услаўляў радасці кахання. Ёй прыйшло ў галаву, што цяпер ужо няма чаго і думаць пра аванс. Вунь які ў яго твар — што той шакалад, а калі яшчэ і грошай папрасіць, ды адразу тысячу дзвесце марак... Перагнуўшыся праз стол, ён пацалаваў яе руку каля локця, затым раптам выпраставўся, выпусціў яе і ціха сказаў:

— Шабаш. Канчай працу.

— Не, не,— таропка сказала яна, і схапіла гатовую трубачку, і пачала выводзіць на ёй пэндзлем мудрагелісты шакаладны ўзор.

— Чаму ж? — спытаў кандытар, і Вільма здзівілася: голас яго гучаў цяпер упэўнена, па-гаспадарску.

— Чаму? — паўтарыў ён.— Пойдзем лепш пагуляем, зойдзем куды.

Вочы яго па-ранейшаму блішчалі, ён раптам радасна засмяяўся і сказаў:

— Любая ты мая!

— Не,— сказала яна,— давай лепш папрацуем.

Яна не хацела, каб яе гэтак кахалі,— гэта палохала яе. Герт ніколі не гаварыў ёй пра каханне, нават муж і той ніколі не вымаўляў гэтае слова: усмешлівы ефрэйтар, усмешлівы унтэр-афіцэр, усмешлівы фельдфебель, які згарэў у танку недзе між Запарожжам і

Днепрапятроўскам. Ён толькі зрэдку пісаў пра каханне ў сваіх лістах. Пісаць пра гэта яшчэ так сабе, але гаварыць? Леа, мабыць, і зусім не ведаў гэтага слова, ды так яно і лепей. Каханне паказваюць у кіно, пра яго пішуць у раманах, гавораць па радыё, спяваюць у песнях. Толькі ў фільмах у мужчын блішчаць вочы, а твары ад страсці бляднеюць або набываюць шакаладны колер. Але ёй гэта ні да чаго.

— Не, не,— паўтарыла яна,— давай працаваць!

Ён нясмела зірнуў на яе, зноў узяў яе руку, а яна зноў дазволіла яму гэта. І ўсё пачалося наноў. Быццам спрацаваў кантакт — далі ток,— і ў вачах кандытара зноў загарэліся зялёныя агеньчыкі, твар набрыняў і набыў шакаладны колер, ён зноў пачаў цалаваць яе пальцы, затым перагнуўся праз стол, пацалаваў ёй руку каля локця і, не адрываючы вуснаў ад яе рукі, зноў замармытаў сваю пявучую незразумелую малітву: «Рукі твае любыя,— разабрала яна,— шчасце маё, дарагая...»

Яна ўсміхнулася, пахітала галавой, зусім як у кіно, толькі герой фільма — бледны, лысаваты, з апухлым, азызлым тварам. Шакаладная страсць, зеленаватае шчасце і прыкры, гаркавы пах распушчанага шакаладу. Яго неабходна замяшаць больш крута, інакш ён будзе сцякаць з пэндзліка і ўзор не атрымаецца.

Ён выпусціў яе руку, і нейкі час яны працавалі моўчкі. Больш за ўсё ёй падабалася ўпрыгожваць вялікія і плоскія торты. Яна наносіла на іх шакалад шырокімі мазкамі — месца было шмат. Яна макала пэндзлем у шакалад і малявала на свежым пясочным цесце кветкі, жывёл, рыбак. Цеста было жоўтае. Вільма ўспомніла «дамашнія локшыны» на фабрыцы Бамбергера. Акуратныя жоўтыя палоскі, блакітныя пачкі і ярка-чырвоныя купоны.

Яна мела здольнасці да малявання. Гэта захапляла кандытара, як, зрэшты, і ўсё, што тычылася яе. Некалькі лёгкіх рухаў, і на жоўтым пясочным цесце з'яўляліся мудрагелістыя ўзоры: круглыя шакаладныя шары, хаткі, акенцы з фіранкамі.

— Ды ты проста мастачка!

З таго часу як памагаты збег з пякарні, пакой наверсе пуставаў. Ён быў вялікі, светлы. Недалёка ў калідоры ўмывальнік, чыстая і цёплая прыбіральня, абкладзеная белай кафляй. А на плоскім даху — цэлы

кветнік, парэнчы, абвітыя дзікім вінаградам. Ціха, ніякіх суседзяў, праз вокны відаць Рэйн; трубы параходаў, панылыя гудкі, што клічуць удаль, і далёка на даляглядзе — мачты з рознакаляровымі сцяжкамі.

Дрыжачымі рукамі кандытар рэзаў хрусткія пясочныя каржы, толькі што знятыя з бляхі. Яна брала ў яго з-пад рук жоўтыя ромбікі, упрыгожвала іх шакаладнымі ўзорамі і малюнкамі. Затым ён намазваў іх крэмам унутры і напластоўваў на іншыя ромбікі.

Яна малявала на іх хаткі з дымячымі камінамі, вокны з акяніцамі, садок, абнесены плотам.

— Цудоўна! — усклікнуў кандытар, і вочы яго зноў заблішчалі.

Новы малюнак — карункавыя фіранкі, антэна на даху, на тэлеграфным дроце сядзяць вераб'і, а наверсе ў аблоках — самалёт.

— Ды ты проста мастачка!

За пакой ён з яе дорага не возьме. А можа, і зусім нічога. У калідоры — маленькая каморка, заваленая ўсялякай непатрэбшчынай: пачкі з-пад пячэння, бутафорыя, рэкламныя лялькі з пап'е-машэ: блакітны кухаронак з сухарыкам на падносе і серабрысты кот, што ліжа какаву. На падлозе параскіданыя парваныя мяхі, бляшанкі з-пад карамелі. Можа, ён дазволіць прыбраць усё гэта і пасяліць там хлопчыка? Яна вымые малюпасенькае акенца, павесіць прыгожую фіранку, адтуль таксама бачны Рэйн і парк на набярэжнай.

Кандытар зноў замармытаў, усхліпваючы і не адрываючы вуснаў ад яе рукі. Адно толькі кепска — ён хоча дзяцей, нудзіцца без іх, а з яе і сваіх хапае. Бо ён нябось разводзе цэлы дзіцячы садок у кветніку на даху. Якія ўжо ад яго дзеці: чахлыя заморкі. Але рукі ў іх, як у яго, будуць вялікія, белыя, з доўгімі тонкімі пальцамі. Гады праз тры яна ўладкуе Генрыха вучнем у пякарню. Вільма ўявіла сабе, як сын прыходзіць з «працы», стомлены, увесь у муцэ. А раніцай з вялікім кошам ён паедзе развозіць хлеб пакупнікам... Вось ён злазіць з веласіпеда, прысланяе да дзвярэй вілы папяровы пакет са свежымі падрумяненымі булачкамі або кладзе іх на лік у зрэбны мяшэчак, што вісіць на сцяне...

Кандытар узяў пясочны корж, паклаў яго перад сабой на чысты ліст паперы і намазаў густым пластам заварнога крэма; затым зверху паклаў другі ромбік,

які яна ўжо ўпрыгожыла шакаладнымі ўзорамі.

Ён падсунуў да святла гатовае пірожнае і ўсклікнуў:

— У цябе прападае сапраўдны талент!

...Яна паставіць сабе новыя зубы. Трынаццаць бялюткіх фарфоравых зубоў, якія не будуць хістацца.

— Я гаварыў з жонкай,— ціха сказаў кандытар.— Яна нічога не мае супраць таго, каб ты пасялілася ў нас наверсе.

— А дзеці як жа?

— Яна не вельмі любіць дзяцей, гэта праўда! Ну нічога, неяк прывыкне!

Амазонка ў рудой вельветавай куртцы. Халодная ўсмешка і нязменная песенька пра адважнага маленькага барабаншчыка, які ішоў наперадзе. Яна сапраўды не пярэчыла гэтаму — разлік яе быў зусім нескладаны: няхай жыве ў іх гэтая лялька, плаціць ёй многа не трэба, яна атрымлівае пенсію. Жыллём і харчаваннем хай карыстаецца бясплатна, і калі ёй пакласці яшчэ невялікае жалаванне, яна згодзіцца рабіць і ў пякарні, і на кухні.

А сама амазонка раз і назаўсёды пазбавіцца дамаганняў мужа. Ён ужо неаднойчы пагражаў ёй разводам: адмаўленне ад выканання шлюбных абавязкаў — для суда гэта цалкам дастаткова. Зрэшты, яна толькі пагардліва ўсміхалася ў адказ. Дом належаў ёй, яму — толькі пякарня, а кандытар ён цудоўны, пра развод няма чаго і думаць.

— Навошта гэтыя размовы. Хай застаецца ўсё па-ранейшаму. Я ж даю табе поўную свабоду.

Праўда, калі гэтая лялечка пераедзе да іх — манастырскія заказы адпадаюць. Хлеб і пірожныя да ўрачыстых трапез будзе пастаўляць іншы кандытар. Але невялікая страта: у гэтай лялечкі залатыя рукі. Яе шакаладныя малюнкі проста чароўныя. Прыплаты яна не патрабуе, працуе хутка, лёгка. Дзеці з-за гэтых пірожных проста пабіцца гатовы. Зразумела: тут табе і ласунак, і кніжкі з малюнкамі, і ўсё за адну цану.

— Цяпер у нас развязаныя рукі,— сказаў кандытар. Гэтым разам ён не дакрануўся да яе, але зялёныя агеньчыкі ў ягоных вачах загарэліся і без «кантакту».

...На даху можна загараць; цёмныя акуляры, шэзлонг. А надвячоркам — на пляж. Добра! Быццам сон на яве. Заглыбленая ў мары, яна бяссільна апусціла

руку з пэндзлем. Раптоўна патухла святло. У падвале зрабілася цёмна. Толькі над галавой, на зашклёных люках блішчалі два яркія сонечныя блікі, быццам круглыя празрыста-залатыя плафоны, прывінчаныя да столі. Унізе ўсё было ахінута шэрай імглой, усё расплывалася ў цьмяных ценях. Кандытар стаяў каля выключальніка, якраз пад сонечным промнем, што гуляў на шкле люка. Шэры брызентавы нагруднік, шэры твар з бліскучымі, як зялёныя светлякі, вачамі. Зялёныя светлякі павольна набліжаліся да яе, яны ўжо зусім блізка.

— Запалі святло! — сказала яна.

Ён падышоў да яе ўшчыльную. Яна бачыла цяпер яго азызлы, нясвежы твар і худыя моцныя ногі.

— Запалі святло,— паўтарыла яна,— па мяне сынок павінен сёння зайсці.

Ён не крануўся з месца.

— Я пераеду да цябе,— сказала яна,— але зараз запалі святло.

— Я толькі пацалую цябе,— сказаў ён молячым голасам,— шчасце маё, любыя рукі мае... толькі адзін пацалунак...

І кандытар схіліў галаву і зноў замармытаў свае незразумелыя вершы, нейкія абрыўкі слоў, скажоная да непазнавальнасці песня любові.

— Толькі пацалаваць цябе, толькі раз...

— Добра, але не сёння,— сказала яна,— запалі святло.

— Сёння ўвечары,— нясмела папрасіў ён.

— Добра,— стомлена сказала яна,— цяпер запалі святло.

Ён кінуўся да выключальніка. Зноў успыхнула святло. Сонечныя плямы на столі згаслі. Шэрыя і чорныя цені таргануліся, са змроку выплылі знаёмыя колеры — зачырванелі вішні на блюдзе, на паліцы бліснулі густой жаўцізной лімоны.

— Значыцца, дамовіліся,— сёння вечарам у дзесяць у кафэ на паплаўку.

...Параходы на рацэ свяціцца гірляндамі рознакаляровых ліхтарыкаў. З берага чуваць спевы, смех, гукі банджо; гурты хлопцаў і дзяўчат запоўнілі парк на набярэжнай. Знаёмыя мелодыі Гары Лайма гучаць ў зеленаватым паўзмроку алей. Марожанае ў высокіх

сярэбраных келіхах, проста з лёду, з вішнямі і ўзбітымі вяршкамі.

— Добра,— сказала яна,— я буду там у дзевяць.

— Любая ты мая!

Яны зноў узяліся за работу. Кандытар наразаў пясочныя каржы ромбікамі, яна малявала на іх шакаладныя карцінкі, гірлянды ліхтарыкаў, дрэвы, столікі пад навесам, келіхі з марожаным.

...Наверсе нават ванная ёсць! Чыстая, абкладзеная ружовай кафляй. Гарэлка зроблена па-новаму — запальнік гарыць заўсёды, запалак не трэба. Зімой там заўсёды цёпла. А зубы... трынаццаць навюсенькіх бялюткіх зубоў.

Вішнёвы торт быў гатовы. Яна пачала ўпрыгожваць ананасны святочны торт, які замовілі да дня нараджэння нейкага Гуго Андэрмана. Кандытар падаў ёй шпрыц з крэмам, нахіліўся і пацалаваў яе руку каля локця... Яна адпіхнула яго, дакорліва пахітала галавой і пачала асцярожна выводзіць на торце крэмам лічбу «50», увітую лаўрамі і гірляндамі кветак. Зверху ў рамцы з вішань з'явіўся белы надпіс — Гуго,— а па краях торта — кветкавы арнамент. На пясочным цесце чаргаваліся яркія кветкі: ружа — цюльпан — рамонак — ружа — цюльпан.

— Чароўна! — усклікнуў кандытар.

Ён занёс гатовы торт наверх у магазін. Яна чула, як ён смеючыся гаварыў нешта жонцы. Затым бразнула касавая машына, і амазонка сказала: «Нясі больш гэтакіх — іх проста з рук ірвуць». Кандытар вярнуўся, усміхаючыся, пачаў наразаць ромбамі каржы і падсоўваць іх ёй. Зверху з кандытарскай чуцен быў нясны гул, званкі, і час ад часу чуўся голас амазонкі, якая гучна, нараспеў гаварыла пакупнікам «да пабачэння».

Ляснула чыгунная брамка, пачуўся галасок маленькай Вільмы, якая радасна крычала: «Цукар! Цукар!»

Яна кінула пэндзаль і выбегла ў цемнаватыя сені. Там стаялі мяхі з мукой, карабкі для тортаў, ручная цялежка. Яна падхапіла дзяўчынку на рукі і расцалавала яе, усунула ёй у роцік марцыпанавую цукерачку. Але Вільма вырвалася з рук, падбегла да кандытара і закрычала: «Тата!» Ніколі яшчэ яна не называла яго

так. Кандытар падняў дзяўчынку, пацалаваў яе і пачаў кружыцца з ёю па пякарні.

А ў квадраце дзвярэй з'явіўся бледны прыгожанькі тварык Генрыха, нахмураны і сур'ёзны. Але вось ён нерашуча ўсміхнуўся і адразу ж зрабіўся падобны на бацьку: усмешлівы яфрэйтар, усмешлівы унтэр-афіцэр, усмешлівы фельдфебель.

— Чаго ж ты плачаш? — спытаў кандытар, які падышоў да яе ззаду з гарой пячэння ў руках.

— Я плачу... ты не разумееш? — праз слёзы прамовіла яна.

Ён пакорліва кіўнуў, падышоў да хлопчыка і, узяўшы яго за руку, прыхінуў да сябе.

— Цяпер усё будзе па-іншаму! — сказаў ён.

— Не ведаю, магчыма,— азвалася яна.

## 17

Нэла спынілася каля ўвахода ў летні басейн. Дзверы былі запёртыя. Яна глянула на чорную грыфельную дошку, на якой крэйдай запісвалі тэмпературу вады: апошні запіс быў трохдзённай даўнасці: 12.IX — 15°.

Нэла пастукалася, але ніхто не адказаў, хоць з-за дзвярэй даносіліся мужчынскія галасы. Яна прайшла ўздоўж доўгага раду кабін, пераступіла праз невысокую агароджу з гнутых прутоў і спынілася ў цяню каля крайняй кабіны. Служыцель сядзеў на сваім месцы, на зашклёнай верандзе перад басейнам, і назіраў, як двое рабочых рамантуюць рашотчаты драўляны насціл у душавых. Яны якраз выцягвалі абцугамі ржавыя цвікі з трухлявага вільготнага дрэва. На цэментавых прыступках, што вялі да веранды, ляжалі свежаабструганыя планкі. Служыцель складваў у чамадан увесь свой няхітры скарб: банкі з крэмам для твару, флаконы з арэхавым алеем для роўнага загару, надзіманых звяроў, рознакаляровыя мячы для воднага пола і гумовыя шапачкі. Кожную шапачку ён складваў удвая і загортваў у цэлафан. На падлозе былі звалены ў груд коркавыя паясы. Служыцель быў падобны на старога настаўніка гімнастыкі. Позірк у яго быў сумны, як у малпы. Ды і рухаўся ён вяла, нерашуча, быццам стомленая старая малпа, якая раптам зра-

зумела, што яе звычайны занятак не мае ніякага сэнсу. Некалькі банак з крэмам вываліліся ў яго з рук і пакаціліся па падлозе. Служыцель пастаяў з хвіліну ў нерашучасці, затым усё ж сагнуўся і пачаў падбіраць іх. Лысіна яго паблісквала каля самага краю стала, раз-пораз знікала, пакуль ён, нарэшце, не выпрастаўся, трымаючы банкі ў руках. Рабочыя ў душавой устаўлялі новыя планкі ў насціл і прывінчвалі іх доўгімі шурупамі. Шурупы адлівалі цьмянай сталёвай сінечай. Ад старых планак, якія валяліся на зямлі, патыхала гніллю.

Вада ў басейне была светла-зялёная, ясна свяціла сонца. Нэла выйшла з кабіны і ўбачыла, як служыцель спалохана ўздрыгнуў. Але затым ён усміхнуўся і расчыніў акно на верандзе. Яна падышла бліжэй. Служыцель толькі таго і чакаў. Не даючы сказаць ёй хоць слова, ён з усмешкай пахітаў галавой:

— Няварта, дальбог няварта! Вада вельмі халодная!

— А колькі сёння градусаў?

— Не ведаю,— ён махнуў рукой.— Я ўжо і мераць перастаў, усё роўна ніхто не ходзіць.

— Ведаеце, я ўсё ж рызыкну,— сказала Нэла,— зрабіце ласку, змерайце тэмпературу вады...

Служыцель відавочна вагаўся. Нэла пусціла ў ход сваю ўсмешку, і ён адразу адышоў ад падваконня. Ён парыўся ў скрынцы стала і дастаў градуснік. Рабочыя ў душавой, як па камандзе, паднялі галовы, але адразу ж прыняліся за сваю справу. Цяпер яны вышкрэбвалі ломікамі бруд з вадасцёкавага жолабу. Слізкае, смярдзючае месіва: пыл, пот, вада — гнілы асадак пляжнай асалоды.

Нэла і служыцель падышлі да басейна. Узровень вады апусціўся. На бетоннай сцяне застаўся глеісты зялёны след.

Служыцель падняўся на пляцоўку для скачкоў і закінуў у басейн тэрмометр на доўгім шнуры. Ён павярнуўся і з наблажлівай усмешкай паглядзеў на Нэлу.

— Мне [redacted] яшчэ купальнік і ручнік,— сказала яна.

Ён кіўнуў, паторгаў за шнур,— тэрмометр павольна закруціўся ў зялёнай вадзе. Служыцель быў падобны на настаўніка гімнастыкі: мускулісты, сухі, з квадратнымі плячамі і вузкай стрыжанай патыліцай.

Насупраць, на тэрасе летняга кафэ, сядзелі людзі. У зелені кустоў, што акружалі тэрасу, бялелі фарфоравыя кафейнікі. Прайшоў кельнер з падносам. Ён нёс піроЖныя — белыя круцялі крэму на жоўтым бісквіце. Маленькая дзяўчынка, дурэючы, пералезла праз загародку, што аддзяляла кафэ ад купальні, і пабегла па газоне проста да басейна, туды, дзе стаяла Нэла. З тэрасы пачуўся жаночы голас:

—*Не падыходзь так блізка да вады!*

Нэла ўздрыгнула і зірнула на дзяўчынку, якая запаволенымі крокамі нерашуча набліжалася да басейна.

— Ты што, аглухла? — закрычала маці.— Кажуць табе, *не падыходзь так блізка да вады!*

— Пятнаццаць градусаў,— сказаў служыцель.

— Ну дык гэта яшчэ можна трываць.

— Ваша справа.

Яны павольна пайшлі назад да веранды. Насустрач ім рабочы валок фанерныя дзверы з лічбай 9.

— Там трэба новыя петлі паставіць,— кінуў ён на хаду свайму напарніку. Той кіўнуў.

У гардэробнай служыцель даў Нэлі аранжавы купальнік, белую гумовую шапачку і махнаты ручнік. Яна пакінула ў яго сумачку і пайшла ў кабіну пераапранацца. Навокал стаяла цішыня. Нэлі зрабілася жудасна. Звыклыя снабачанні не вярталіся. Рай не прыходзіў або з'яўляўся зусім не такім, якім яна хацела б яго бачыць. Яна пакінула свет сваіх сноў, быццам з'ехала са старой абжытай кватэры. Марна шукала яна знаёмыя шляхі, якімі яна столькі праходзіла ўва сне. Парваная на кускі стужка старога фільма, знаёмыя кадры згасаюць на даляглядзе — даль уцягвае, паглынае іх, як сцёк усмоктвае брудную ваду з ванны. Глухое бульканне, быццам апошні, здаўлены крык тапельца, і вада з кароткім усхліпам сыходзіць у адліў. Гэтак жа знікла і ўсё тое, з чаго былі сатканыя яе сны. Ёй успомнілася ванна пасля купання, у цёплым, душнаватым паветры водар туалетнага мыла, змяшаны з слабым пахам газу; на шкляной палічцы над умывальнікам забыты памазок, увесь у засохлай мыльнай пене.

Пара адчыніць акно — душна! Але там за акном — кепскі рэкламны фільм, без настрою, без паўтаноў, шэрыя, цьмяныя кадры. Дык вось яны якія — забой-

цы! Дробныя кар'ерысты на жалаванні! Яны чытаюць даклады пра паэзію і даўно забыліся пра вайну.

— *Не падыходзь так блізка да вады!* Чуеш ты ці не? — надрывалася на тэрасе маці.

Па гучанні яе голасу Нэла зразумела, што яна крычыць з поўным ротам. Незжаваная трубачка з вяршковым крэмам, злеплены з крэма і цеста камяк глушыў уладныя пераліва голасу маці. Але неўзабаве матуля закрычала зноў, цяпер прарэзліва і выразна:

—*Асцярожна! Глядзі, куды ідзеш!*

Агідны камяк падступіў да горла. Брудная вада з усхліпам адышла ў адліў: фільм скончыўся. Ненатуральная, надуманая канцоўка — голас Гезелера, яго-ная рука на яе плячы, смяротная нуда ў яго кампаніі. Вось яны якія, забойцы! Жарэбчык за рулём, у голасе паганенькая казарменная пажаднасць, хвацка вядзе машыну — усё, больш нічога не скажаш!

Мамаша канчаткова разабралася з піражным і крычала на ўсю моц:

— *Не дурэй! Чаго ты носішся як апантаная!*

Газоны даўно не падмяталі. Паўсюль былі панакіданы ржавыя металічныя коркі ад бутэлек з-пад ліманаду. Нэла вярнулася ў кабіну і, каб сагрэцца, у надзетых на босую нагу туфлях хуценька пабегла да басейна. Дзяўчо ўсё яшчэ стаяла на траве паміж кафэ і басейнам, а маці сачыла за ёй, перагнуўшыся праз парэнчы,— бясформенная туша ў квяцістай сукенцы.

Слізкія, абымшэлыя прыступкі вялі да вады. Удалечыні, над вяршалінамі дрэў, за тэрасай кафэ цямнеўся дах Брэрніхскага заліва. Над ягоным грэбнем Нэла ўбачыла на блакітным фоне неба сцяг хрысціянскага саюза дзеячаў культуры: залаты меч, чырвоная кніга і сіні крыж на белым. Сцяг злёгку калыхаўся на ветры.

Нэла зняла туфлі, адкінула іх на газон і павольна спусцілася па прыступках. Яна ўвайшла ў ваду, нахілілася і, чэрпаючы ваду прыгаршчамі, пачала ліць яе на сябе. Гэта супакоіла яе. Вада была не такая ўжо і халодная. Яна зайшла глыбей, спачатку па калені, затым па пояс. Купальнік намок, ацяжэў, па скуры цякла прахалода. Яна нахілілася наперад, акунулася і паплыла, нетаропка выносячы рукі і моцна заграбаючы. Яна ціха смяялася ад асалоды — было так прыемна рассякаць зялёную гладзь вады.

Наглядчык па-ранейшаму стаяў на пляцоўцы, захінуўся далонню ад сонца і назіраў за ёй. Яна даплыла да процілеглай сцяны, затым павярнула назад і памахала яму рукой. Дзяўчо на лужку зрабіла яшчэ крок да басейна, але квяцістая туша адразу ж загаласіла:

— *Не падыходзь так блізка да вады!*

Дзіця паслухмяна спынілася і пераступала з нагі на нагу.

Нэла перавярнулася на спіну і паплыла яшчэ павольней. Яна зусім сагрэлася. Ад чужога купальніка злёгку патыхала глеем. Недзе высока ў небе гудзеў нябачны самалёт, толькі шырокі дымны след цягнуўся за ім па небе. Дым, спачатку густы і шчыльны, паступова расслойваўся, валакністыя аблачынкі раставалі, знікалі. Самалёт так і не паказаўся. Нэла спрабавала ўявіць сабе лётчыка ў кабіне. Скураны шлем, акуляры, пахмурна-засяроджаны выраз на хударлявым твары. Яна ўявіла на яго месцы сябе за штурвалам самалёта... Недзе там унізе блішчыць возера, малюсенькае, велічынёй з галоўку шпількі або крыху большае — з манету, і ўжо ва ўсялякім выпадку не большае за цыферблат наручнага гадзінніка. Светла-зялёная рабізна вады сярод цёмных плямаў лесу. А можа, возера адтуль і зусім не бачна. Самалёт марудна, быццам з апошняе сілы цягне за сабой цяжкі шлейф. Дымнае воблака жаўцее, распаўзаецца. З апошняе сілы паўзе самалёт па бяскрайняй блакітнай пустыні. Гудзенне сціхла — цяпер ён ужо далёка, там за лесам, на даляглядзе. След яго амаль растаў, а над дахам замка, дзе ён пачынаўся, зніклі нават апошнія дымкі. А сцяг па-ранейшаму выразна выяўляецца на яркім блакітным небе і злёгку калыхацца на ветры. Залаты меч, чырвоная кніга і сіні крыж на белым полі — старанна прадуманае сімвалічнае спалучэнне.

Удзельнікі семінара сядзяць, мабыць, за вячэрняй кавай. Яны ўражаны дакладам Гезелера і, відаць, прыйшлі да заключэння:

— *Яшчэ не ўсё страчана!*

Нэла зноў павольна праплывае на спіне да процілеглай сцяны басейна. Струменьчыкі вады з шапачкі бягуць па твары, яна адчувае на вуснах гаркавы смак балоцістай вады і міжволі зноў ціха смяецца. Купанне цудоўна асвяжыла яе.

З лесу выехаў паштовы аўтобус. Здаўлена пратру-

біў механічны ражок, які ахрып на бясконцых паваротах лясных дарог. Усміхаючыся, Нэла падплыла да берага, вылезла з вады і зноў паглядзела на неба: дымны след самалёта над лесам крута ішоў да зямлі і губляўся за вяршынямі дрэў. Яна павярнулася і прайшла паўз веранду ў сваю кабіну. Служыцель пахвальна ўсміхнуўся. Ад драўлянага насцілу ў кабіне ішоў цяжкі пах гнілля і сырасці — пах мінуўшага лета. Брусы пакрыліся белай плесняй, а на падлозе белы колер пераходзіў у брудна-зялёны. Жоўтая фарба на фанерных сценах парэпалася, аблупілася. Толькі ў адным месцы яна блішчала, як новая: яркая пляма, невялікая, памерам са сподак. Упоперак яе ішоў надпіс алоўкам: «Калі ты любіш жанчыну, то шчаслівая толькі яна,— сам жа ты нешчаслівы».

Энергічны почырк. Уладальнік яго, як бачна, не дурань, цвёрды душою, але часам бывае і пяшчотным. Такім почыркам прастаўляюць звычайна адзнакі: «Добра», «Нездавальняюча» або «Вельмі пасрэдна» на школьных сачыненнях пра Вільгельма Тэля.

— *Не падыходзь так блізка да вады!* Колькі разоў табе гаварыць? — надрывалася мамуля. Голас быў пранізлівы, не змазаны крэмам. Нэла разлічылася са служыцелем, надзяліла яго ўсмешкай, і ён, ухмыляючыся, узяў у яе з рук мокры купальнік, ручнік і шапачку.

На дарозе зноў затрубіў паштовы ражок, фальшыва і бадзёра. Нэла здалёк памахала рукой вадзіцелю і бягом прыпусціла да аўтобуса.

Вадзіцель цярпліва чакаў, адкрыўшы скураную сумку з білетамі.

— Да Бруна,— сказала яна.

— У цэнтр?

— Не, да Рынгштрасэ.

— Дзве трыццаць,— сказаў вадзіцель.

Яна дала яму на дваццаць пфенігаў больш і сказала пры тым:

— Рэшты не трэба.

Вадзіцель зачыніў дзверы і націснуў на рулі кнопку сігналу. Зноў пратрубіў паштовы ражок, аўтобус крануўся.

— Усё гэта неабходна скончыць,— сказаў Альберт і зірнуў на Марціна, быццам чакаў ад яго адказу.

Марцін маўчаў. Яго палохала, што Альберт змяніўся з твару. З Альбертам нешта здарылася; яго немагчыма пазнаць, і Марцін не мог зразумець, ці толькі ён таму віною і ці толькі ягонага ўчынку тычацца апошнія словы Альберта.

— Неабходна скончыць,— паўтарыў Альберт.— Цяпер мы будзем жыць па-новаму.

Ён яўна чакаў адказу, і Марцін нясмела запытаў:

— Як гэта «па-новаму»?

Але ў гэты момант яны пад'ехалі да царквы. Альберт затармазіў, вылез з машыны і сказаў:

— Пасядзі тут, а я зайду па Больду.

Марцін ведаў, што Альберт проста шалее, калі ён дзесьці затрымліваецца, і думка пра тое, што з-за яго дзядзька Альберт чатыры гадзіны хваляваўся, шукаў яго па ўсім горадзе, зараз не давала яму спакою. Марцін здагадваўся, што дзядзька Альберт жыць без яго не можа, але ўсведамленне сваёй улады над ім не радавала, а, наадварот, прыгнятала яго. З дзецьмі, у якіх былі сапраўдныя бацькі, гэтага не здаралася. Бацькі не хваляваліся і не гублялі галавы, калі іхнія сыны своечасова не прыходзілі дадому. Яны без доўгіх размоў задавалі ім увечары добрага трапака, а то і без вячэры пакідалі. Пакаранне хоць і не строгае, але цалкам зразумелае. Аднак Марцін зусім не жадаў, каб Альберт задаў яму трапака. Ён чакаў ад яго нечага іншага, хоць і не мог выказаць гэтага словамі, не мог нават у думках дакладна ўявіць сабе, чаго ён хоча. Былі словы, значэння якіх Марцін добра не разумеў, але яны выклікалі ў яго зусім пэўныя думкі і ўяўленні. Думаючы пра *распусту*, Марцін заўсёды ўяўляў сабе вялізную залу, а ў ёй цэлы натоўп знаёмых яму жанчын. Тут былі і *прыстойныя* і *распусныя*. Яны быццам бы выстраіліся ў дзве шарэнгі. Першай сярод *распусных* стаяла маці Генрыха, а *прыстойных* пачынала фрау Барусяк; яна была для яго ўвасабленнем маральнасці. За ёй ішла фрау Поскэ, затым фрау Нігемаер. А яго мама была недзе пасярэдзіне, у яе ў гэтай зале не было вызначанага месца. Яна кідалася

паміж маці Генрыха і фрау Барусяк, быццам персанаж з мультыплікацыйнага фільма.

Марцін утаропіўся на дзверы рызніцы, думаючы пра тое, ці падобны Альберт увогуле на бацьку. Ён вырашыў, што не падобны. Па-бацькоўску выглядаў стары настаўнік, сталяр і, магчыма, Глум. Але Альберт... У браты ён таксама не падыходзіў. Больш за ўсё яму падыходзіла быць «дзядзькам», але і ад звычайнага «дзядзькі» ён чымсьці адрозніваўся.

Было ўжо каля пяці. У Марціна ў галаве круцілася ад голаду. К шасці яны збіраліся паехаць у Бітэнхан. Марцін падумаў пра тое, што дзядзька Віль даўно ўжо дастаў вуды, выпрабаваў іх адну за другой, накапаў чарвякоў і зараз, мабыць, рамантуе сетку на лужку каля самаробных футбольных варотаў. Затым ён прывяжа сетку драцінай да калочкаў, якія ўбітыя ў зямлю, і, ззяючы ад задавальнення, пабяжыць у вёску збіраць каманду з тамтэйшых хлапцоў. Так што гуляць можна будзе пяць на пяць, як заўсёды.

У дзвярах рызніцы паказаліся Альберт з Больдай. Марцін пералез назад, а Больда села каля Альберта. Яна павярнулася, прыцягнула да сябе Марціна і пагладзіла яго па шчацэ, ускудлачыла яму валасы. Яе халодныя, вільготныя пальцы пахлі шчолакам і мылам. Ад бясконцага мыцця падлогі тонкія рукі Больды набрынялі, пачырванелі, на кончыках пальцаў з'явіліся бялёсыя ямачкі.

— Ну вось бачыш,— сказала Больда,— нікуды ён не падзеўся. Дарма ты хваляваўся. Лепш бы даў яму добрага лепяка — гэта яму вельмі карысна!

Яна рассмяялася, але Альберт зноў паўтарыў, хітаючы галавой:

— Па-новаму будзем жыць!

— Як «па-новаму»? — нясмела перапытаў Марцін.

— Ты пераедзеш у Бітэнхан, там скончыш пачатковую школу, а затым паступіш у Брэрніхскую гімназію. Я сам таксама буду жыць там.

Больда неспакойна затузалася на скураным сядзенні.

— Гэта яшчэ навошта? — сказала яна.— Мне нават падумаць страшна, што ў доме не будзе ні хлопчыка, ні цябе: тады ўжо бяры і мяне з сабой, я кароў умею даіць.

Альберт нічога не адказаў. Праехалі па алеі да

скрыжавання, затым ён на малой хуткасці павярнуў на Гельдэрліншстрасэ. Марцін думаў, што ён спыніцца каля царквы, але яны паехалі далей па Наваліспітрасэ да павароту на Рынгштрасэ. Альберт наддаў газу; праміргнулі баракі гарадскога ўскрайку, пацягнуліся зжатыя палі. Удалечыні ўжо віднеўся гай. Альберт ехаў да старой крэпасці.

Больда ўпотай пазірала на яго.

На ўскрайку Альберт спыніў машыну.

— Пасядзіце тут,— сказаў ён,— я хутка вярнуся.

Ён выйшаў з машыны і пайшоў спачатку па дарожцы, якая крута спускалася да варот старога форта. На паўдарозе Альберт нечакана звярнуў убок і пачаў узбірацца ўверх па адхоне. Кусты схавалі яго, але неўзабаве галава Альберта зноў паказалася над сцяной нізкарослага хмызняку. Ён выйшаў на невялікую, расчышчаную палянку, пасярэдзіне якой узвышаўся стары магутны дуб. Альберт крыху пастаяў каля дуба, затым збег па крутым насыпе проста да варот крэпасці.

— Не едзь,— не паварочваючыся да Марціна, ціха сказала Больда,— або вазьмі мяне з сабой.

Голас яе дрыжаў, яна ледзь не плакала, і Марціну зрабілася страшна.

— На каго ж ты нас пакінеш? Бабулю хоць пашкадуй!

Марцін не адказаў, ён убачыў, як на дарожцы, бы з-пад зямлі, з'явіўся Альберт. Ён шпарка падышоў да машыны.

— Вылазь,— сказаў ён Марціну,— я хачу табе нешта паказаць.

— А ты можаш тут пачакаць, калі хочаш,— дадаў ён, звяртаючыся да Больды.

Але Больда моўчкі вылезла з машыны, і яны ўтраіх пайшлі па асфальтаванай дарожцы ўніз да варот крэпасці. Марціну было ніякавата. Ён некалькі разоў прыходзіў сюды з Генрыхам і іншымі дзецьмі. Менавіта тут, у кустах, ён найшоў на Грэбхакэ і Вольтэрса, якія рабілі нешта бессаромнае. Ад дому да крэпасці было паўгадзіны хады. Дзецям вельмі падабалася гуляць у перасохлым рове, што акружаў форт.

Унізе, каля крапасных сцен, Рэйна не было бачна. З-за вала тырчалі толькі мачты параходаў з рознакаляровымі сцяжкамі. Затое з даху форта адкрываўся

цудоўны від на Рэйн. Быў бачны і мост, разбураны падчас бамбёжкі. Над гладдзю вады жудасна груваснліся скурожаныя стальныя бэлькі.

Каля самага берага — чырвоны гравій тэнісных кортаў, мітуслівыя белыя фігуркі гульцоў. Часам адтуль даносяцца крыкі, смех, воклічы суддзі, які сядзіць на маленькай вышцы. Марцін быў тут рэдка: Альберт баяўся адпускаць яго аднаго так далёка.

Цяпер ён ішоў, з трывогай пазіраючы на Альберта, які, мабыць, прывёў яго сюды не без нейкага намеру. На дарожцы пад насыпам было ціха, як у цясніне. Але каля крапасных варот яны адразу пачулі смех і крыкі дзяцей, якія гулялі на даху форта.

— *Не падыходзь так блізка да краю!* — пачуўся голас адной маці.

На дах вяла лесвіца, якая пачыналася адразу ж ад варот. Прыступкі яе нядаўна адрамантавалі, залілі бетонам. Масіўныя чыгунныя вароты былі пафарбаваныя ў чорны колер. На шырокім даху разбіты клумбы, цвітуць ружы, журчыць фантан. Па краях даху дзве пляцоўкі, абнесеныя невысокай сцяной. Там пасаджаны маладзенькія ліпкі, а калі ўзлезці на сцяну — Рэйн бачны як на далоні.

Марцін было ўзбег уверх па лесвіцы, але Альберт спыніўся каля варот і паклікаў яго назад. Больда раптам сказала Альберту:

— Мабыць, я пайду пачакаю ў машыне. Ты грыбоў хочаш купіць?

— Не,— адказаў Альберт,— я толькі хачу паказаць Марціну каземат, у якім некалі тры дні пратрымалі ягонага бацьку.

— Дык гэта было тут? — спытала Больда.

Альберт кіўнуў, і Больда сцепанулася, быццам ад холаду. Затым яна моўчкі павярнулася і пайшла назад па дарожцы.

Пакуль Альберт стукаў у вароты, Марцін прачытаў чорны надпіс на жоўтай шыльдзе: «Жорж Баломэн. Парніковыя шампіньёны».

— Тут забілі Авесалома Біліга,— сказаў Альберт,— чалавека, які напісаў партрэт твайго бацькі.

Марціну зрабілася страшна. З каземата ішоў густы цяжкі пах — пахла гноем, сырасцю цёмнага склепа. Нарэшце зарыпелі вароты і з'явілася нейкая дзяўчына з запэцканымі зямлёй рукамі. Яна жавала саломінку.

Дзяўчына ўбачыла Альберта і прамовіла расчараваным тонам:

— А я думала, гной прывезлі.

Забілі?.. Забівалі ў кіно, у дэтэктыўных раманах і яшчэ ў Біблії: Каін забіў Авеля, а Давід — Галіафа. Марціну не хацелася ісці ў страшны цёмны склеп, але Альберт моцна трымаў яго за руку. У цёмных галерэях панаваў паўзмрок. У казематах дах быў зроблены з тоўстага паўпразрыстага шкла — са столі там мігцела шэрае святло. Дзе-нідзе на сценах цьмяна гарэлі электрычныя лямпачкі, прыкрытыя кардоннымі абажурамі. Яны асвятлялі высокія грады, як бы зрэзаныя пад касым вуглом. Грады пластаваліся, як піражныя; асобныя пласты рэзка адрозніваліся адзін ад другога. У самым нізе быў пласт зямлі, перамяшаны з гноем, вышэй — зеленавата-жоўты пласт гною, і затым — зноў зямля, але ўжо больш цёмная, амаль чорная. На некаторых градах з зямлі наверсе выглядвалі чэзлыя белыя вырадкі-шампіньёны. Шапачкі грыбоў былі абсыпаны зямлёй. Самі грады былі падобныя на пюпітры,— нейкія загадкавыя пульты, з якіх самі па сабе выраслі белыя рычажкі; яны нагадвалі кнопкі на рэгістрах аргана, але выглядалі злавесна і загадкава.

Тут забівалі людзей, тут некалі *наццы* білі і тапталі ботамі ягонага тату і дзядзьку Альберта. Марцін не зусім ясна ўяўляў сабе, хто такія былі гэтыя наццы. Ён ведаў толькі, што дзядзька Альберт гаворыць пра іх адно, а настаўнік у школе — іншае. У школе самым вялікім грэхам лічылі *распусту*, але яму самому мама Генрыха не здавалася такой жахлівай жанчынай. Жахлівым было толькі тое слова, якое яна прамовіла неяк. Альберт казаў, што няма нічога страшнейшага, чым *наццы*, а ў школе іх лічылі *не такімі ўжо страшнымі*. Па словах настаўніка, на свеце было нешта і страшнейшае, не такія ўжо і страшныя *наццы*, казаў ён, як страшныя рускія.

Дзяўчына з саломінкай у роце прапусціла іх наперад, а з дашчанай кабінкі каля сцяны насустрач ім выйшаў мужчына ў шэрым рабочым халаце і ў палатняным картузе. Ён курыў цыгарэту, і здавалася, што ягоны круглы дабрадушны твар дыміцца. Шэрыя клубы табачнага дыму раставалі ў паўзмроку.

— Вы прывезлі гной? — зачасціў ён.— Вось цудоў-

на! Гной зусім прапаў — нідзе не дастанеш.

— Не,— сказаў Альберт,— я проста зайшоў сюды на хвілінку з хлопчыкам. У крэпасці некалі быў канцлагер, і мы сядзелі тут разам з яго нябожчыкам бацькам, а аднаго нашага агульнага сябра нацысты замучылі тут да смерці.

Чалавек у халаце адхіснуўся, цыгарэта тарганулася ў яго зубах. Ён глыбей насунуў на лоб картуз і ціха ўсклікнуў:

— Mon Dieu!

Альберт зазірнуў у галерэі справа і злева. Вільготныя змрочныя сцены з чорнымі праваламі дзвярэй, і паўсюды грады, грады — злавесныя пюпітры з пачварнымі белымі кнопкамі наверсе. Ад град паднімалася лёгкая пара. Марціну здалося, што ад кнопак і рычажкоў у зямлю ідуць нябачныя правады. А там, глыбока пад зямлёй, стаілася смерць і чакае, пакуль хто не націсне на адну з кнопак.

На цвічку, забітым у сцяну, вісела некалькі шэрых халатаў, каля сцяны дзяўчына з запэцканымі рукамі перабірала грыбы, кідала іх у вялікі кош, што стаяў каля яе ног, а праз зашклёныя дзверы кабіны Марцін убачыў нейкую жанчыну, што выпісвала за сталом разлікі. Валасы ў яе былі накручаныя на бігудзі. Жанчына старанна выводзіла самапіскай словы і лічбы на вузкіх палосах паперы. На даху нейкі хлопчык забарабаніў палкай па шкле парнікоў. З цемры калідора, як з пячоры, адазвалася гулкае рэха. Наверсе пранізліва закрычала адна з матуль:

— *Асцярожней! Чуеш: асцярожней!*

— Яго ўтапталі ў зямлю тут, у адным з гэтых калідораў,— сказаў Альберт,— трупа так і не знайшлі.

Ён раптам павярнуў у адну з бакавых галерэй і пацягнуў за сабой Марціна. Хутка ён спыніўся каля ўвахода ў цёмную нішу. Пюпітры з агідным кнопкамі, што тырчалі ўверх, стаялі там амаль ушчыльную адзін да аднаго.

— Запамятай,— сказаў Альберт,— тут білі твайго бацьку, таптлі яго ботамі, і мяне тут білі: запомні гэта назаўсёды!

— Mon Dieu! — сказаў чалавек у шэрым халаце.

— *Чаго ты носішся як апантаны!* — зноў закрычала матуля наверсе.

Альберт падаў руку чалавеку ў шэрым халаце.

— Выбачайце за турботы,— сказаў ён і павёў Марціна да выхада. Каля адчыненых варотаў стаяла малалітражка з прычэпам — прыехаў пастаўшчык гною, якога тут, мяркуючы па ўсім, чакалі з нецярплівасцю. Гаспадар з радаснай усмешкай кінуўся да яго. Мітуслівa і перашкаджаючы адзін аднаму, яны адчапілі цялежку, якая была даверху напоўнена свежым дымячым гноем, і пакацілі яе да варот.

— Нялёгка ён мне даўся,— сказаў той, што прыехаў.

— Слухай, нам трэба быць пільнымі, нехта яўна хоча падставіць нам ножку ў школе верхавой язды.

Піхаючы перад сабой прычэп, яны зніклі ў смярдзючым паўзмроку. Адтуль яшчэ доўга даносіліся асобныя словы: «Быць пільнымі», «канкурэнты», «школа верхавой язды»... Затым з форта выйшла дзяўчына з саломінкай у роце і зачыніла вароты.

Марціну вельмі хацелася збегаць на дах, да клумбаў і да фантана, паглядзець на Рэйн. Няблага было б спусціцца і ў роў; там на зямлі валяюцца кавалкі бетону, а наверсе каля самага краю растуць старыя таполі.

Але Альберт цягнуў яго за сабой наверх, міма варот па асфальтаванай дарожцы. Каля машыны на насыпе сядзела Больда і махала ім рукой.

— *Чаго ты носішся як апантаны!* — зноў закрычала наверсе адна матуля.

— *Асцярожней! Глядзі, куды ідзеш!* — падхапіла другая.

— *Не падыходзь блізка да краю!*

Яны моўчкі селі ў машыну. Цяпер ззаду села Больда. Ад яе ўсё яшчэ пахла чыста вымытай падлогай. Змяшаны пах вады, шчолаку і нашатыру. Яна заўсёды падлівала ў вядро нашатыр.

Марцін сеў каля Альберта, глянуў на яго збоку і зноў спалохаўся. За гэтыя некалькі гадзін Альберт быццам пастарэў на шмат гадоў, зрабіўся гэтакім жа старым, як настаўнік, як сталяр. Марцін здагадваўся, што ў гэтым вінаваты *нацы*. Яму зрабілася сорамна за тое, што ён так невыразна ўяўляў іх сабе. Ён ведаў, што Альберт гаворыць толькі праўду, і быў перакананы, што *нацы* сапраўды вельмі кепскія людзі. Але так гаварыў адзін толькі Альберт, а супраць яго мноства

людзей, якія лічаць, што нацысты не такія ўжо і страшныя.

Альберт моцна сціснуў ягоную руку і сказаў:

— Запомні гэта назаўсёды.

— Не, не, я нізавошта не забуду,— таропка адказаў Марцін.

Боль у руцэ там, дзе яе сціснуў Альберт, яшчэ доўга не праходзіў, і Марцін адчуваў, як усё гэта ўразаецца яму ў памяць — цяжкі пах, паўзмрок, гной, дзіўныя пюпітры з кнопкамі, правады, якія ідуць глыбока ў зямлю. Там забівалі людзей, і ён запомніў гэта назаўсёды, як і вячэру ў шынку ў Фавінкеля.

— Божа мой! — загаласіла Вольда за ягонай спіной.— Не забірай ты ад нас хлапчанё! Я ўсё буду рабіць, што ты скажаш! Сілы не пашкадую, толькі пакінь яго дома!

— І Генрых таксама будзе жыць у Бітэнхане? — у сваю чаргу нясмела запытаў Марцін.

Ён уявіў сабе Генрыха ў Бітэнхане, без яго вечнага клопату, без дзядзькі Леа, успомніў, як Віль з усмешкай падсоўвае яму маслёнку, усё падкладваючы ў яе масла.

— Яму можна паехаць са мной? — запытаў ён ужо больш настойліва.— Ці я застануся там зусім адзін?

— Я буду з табой,— адказаў Альберт,— табе гэтага мала? А Генрых будзе прыязджаць да цябе ў госці, калі захоча. Я заўсёды магу падвезці яго на машыне,— бо я кожны дзень буду ездзіць у горад па справах. Для вас абодвух там месца не хопіць. Дый маці Генрыха яго не адпусціць: ён жа дапамагае ёй па гаспадарцы.

— Без Вільмы Генрых не паедзе,— нерашуча сказаў Марцін.

Ён ужо ўявіў сабе новую школу, незнаёмых дзяцей. Ён ведаў толькі некалькі хлопчыкаў з вёскі — тых, з якімі ён гуляў у футбол.

— Як гэта «без Вільмы не паедзе»? Чаму?

— Леа б'е яе, калі нікога няма дома. Яна баіцца з ім аставацца адна і плача.

— Не, гэта немагчыма,— сказаў Альберт,— не магу ж я сапраўды пасяліць у маці адразу траіх дзяцей! Зразумей, ты ж не можаш усё жыццё жыць разам з Генрыхам!

Альберт пераключыў хуткасць і моўчкі аб'ехаў

вакол евангелічнай царквы. Затым ён зноў загаварыў, загаварыў абыякава, як служыцель даведачнага бюро. Ён дзяліўся чужой прамудрасцю, нудна, без натхнення, быццам выдаваў бясплатную даведку. Тэкст даведкі аднойчы і назаўсёды зацверджаны, і ў голасе служыцеля поўная абыякавасць.

— Некалі табе ўсё роўна прыйдзецца з намі разлучыцца, і са мной, і з мамай, і з Генрыхам. А Бітэнхан жа не на краі свету! Табе там будзе лепш.

— Мы зараз заедзем па Генрыха?

— Не, пазней,— сказаў Альберт,— спачатку трэба пазваніць тваёй маме, затым заедзем дадому, возьмем твае рэчы, усё, што табе неабходна на першым часе. Ды перастань ты румзаць! — сярдзіта дадаў ён, звяртаючыся да Больды.

Але Больда працягвала плакаць, і Марціна палохалі яе слёзы. Яны паехалі далей. Запанавала маўчанне, і чуваць было толькі, як усхліпвае Больда.

## 19

Нэла заплюшчыла вочы, зноў адкрыла іх, потым зноў і зноў, але прывід не знікаў. Па алеі гужам цягнуліся тэнісісты. Яны ішлі групкамі па двое, па трое. Маладыя акцёры ў адпрасаваных белых штанах — усе запар першыя любоўнікі. Здавалася, рэжысёр праінструктаваў іх у апошні раз, напомніў пра тое, што каля царкоўнага цвінтара, насупраць дома каханай, неабходна пералічваць грошы ў партаманеце, і цяпер прарэчна пускаў іх па чарзе перад аб'ектывам кінакамеры. Яны бадзёрым крокам ішлі па алеі, у зеленаватым цяністым змроку. Хадзячыя сцёблы спаржы! Быццам цэлая працэсія спаржавых чалавечкаў рухалася па зададзеным маршруце. Сцяблінкі абыходзілі вакол царквы, перасякалі вуліцу і хаваліся ў варотах парку. Здаецца ёй усё гэта, ці што? Або тэнісны клуб дае сёння ў парку банкет? На матч, ва ўсякім выпадку, гэта не падобна. Калі ідзе матч, ■ кортаў безупынку даносяцца глухія ўдары, пругка б'юцца аб зямлю шэрыя гумовыя мячы.

Ярка-чырвоны гравій кортаў, ускрыкі, смех, дзынькание шкла каля буфетнай стойкі, якая застаўлена бутэлькамі ліманаду, а далей за абрывам ру-

хаюцца мачты нябачных караблёў з пярэстымі сцяжкамі. Быццам нечая нябачная рука кіруе з-за куліс, цягне іх уздоўж сцэны, і яны знікаюць на даляглядзе, у клубах чорнага дыму.

Нэла паспрабавала лічыць сцяблiны спаржы, якія дэфіліравалі па алеі, але хутка ёй гэта надакучыла. Яна дайшла да дваццаці і збілася з ліку. А яны ўсё ішлі і ішлі, смяяліся, размаўлялі адзін з адным. Жвавыя сцяблінкі спаржы,— усе аднолькавага памеру, аднолькава белыя і аднолькава тонкія. Спаржавыя фантомы, яны з вясёлым смехам спускаліся ад вілы Надольтэ, і ўрэшце Нэлі давялося змірыцца з тым, што гэта не сон і не гульня хворага ўяўлення. Марна спрабавала яна адагнаць ад сябе гэтую навалу — нічога не дапамагала. Шэрай машыны Альберта нідзе не было бачна. А ранейшыя бачанні не вярталіся. Рай не з'яўляўся больш на алеі. Раней ёй амаль заўсёды ўдавалася ўбачыць яго, калі яна таго хацела.

...Срабрыста-шэрыя ствалы акацый раптоўна пакрываліся атрутна-зялёнымі палосамі. Іржавыя імшыстыя плямы распаўзаліся па зямлі, там, дзе ў выбоіны набіралася дажджавая вада. Затым палосы на ствалах чарнелі, быццам іх толькі што намазалі дзёгцем. Шумела пакрытая пылам лістота, і ў алеі з'яўляўся Рай: ён ішоў дамоў ад трамвайнага прыпынку. Смяротна стомлены, ў безнадзейным адчаі, ён, аднак, ішоў дадому, да яе. Ранейшыя прывіды больш не вярталіся, затое сцяблінкі, што крочылі, былі зусім рэальныя. Нэла зноў пераканалася ў гэтым, калі алея апусцела. Прывідная працэсія скончылася самым звычайным чынам, чым і пацвердзіла сваю рэальнасць. А Рай так і не з'явіўся ў алеі. Цяпер заставалася толькі закурыць цыгарэту ды мацней ухапіцца за пятлю з залатой парчы на гардзіне, каб не ўпасці. Ёй здалося, што яна зноў чуе насмешлівае рэха: ...арод, ...адзіма... рэха, якое не выносіла падману, цяжкім праклёнам легла яно ёй на плечы. Аказваецца, і фабрыка стандартных салдацкіх удоў выпускае часам бракаваную прадукцыю, нават хахаля не змагла сабе завесці.

Клубы табачнага дыму нерухома стаяць у паветры паміж шклом і гардзінай; яна галодная, але ёй мутарна ад адной думкі пра тое, што давядзецца ісці на кухню. Там стаіць непамыты посуд — брудныя талеркі, кубкі, каструля з засохлай карынкай на дне; на

сподках у лужынах кавы плаваюць недакуркі — усё гаворыць пра тое, што абедалі спехам, абы-як. Альберт не вяртаўся. Дом заціх, бы вымер, нават маці і той не чуваць.

Праязджаючы Бітэнхан, Нэла спадзявалася ўбачыць праз акно аўтобуса шэры «мерсэдэс» каля дзвярэй знаёмага дома. Але машыны там не было. Віль з малатком і заціснутымі ў зубах цвікамі рамантаваў самаробныя футбольныя вароты на лужку, бялізну з вяроўкі ўжо знялі. З «маляўнічай даліны Брэра» дзьмуў свежы ветрык. Каля ганка стаялі зялёныя скрыні з піўнымі бутэлькамі, а маці Альберта разлічвалася з хлопчыкам з мясной лаўкі. Усміхаючыся, узяла яна ў яго з рук сакавіты чырвоны кумпяк, і па ззяючым твары падлетка можна было здагадацца, што яму добра далі на чай.

Але і далей па дарозе Нэла нідзе не заўважыла машыны Альберта. Пасля за акном аўтобуса пацягнуліся гарадскія ўскраіны, і яшчэ раз бадзёра пратрубіў механічны паштовы ражок...

...Зноў рэха мінулага замармытала недзе паблізу: ...юрэр, ...арод, ...адзіма. Абезгалоўленая мана абрынулася на яе як праклён. Здавалася, з той пары прайшло ўжо тысячу год. Цэлыя пакаленні, што пакланяліся гэтым ідалам, даўно стлелі ў зямлі. Тры словы, усяго толькі тры сказоныя словы, але ў ахвяру ім прынесены мільёны людзей, спаленых, растаптаных, расстраляных, задушаных у газавых камерах...

Віла Надольтэ выплюнула ў апусцелую алею новую порцыю спаржы. Пяць аднолькавых сцяблінак, белых і тонкіх,— гэта замыкаючыя святочнае шэсце запасныя гульцы. Яны абышлі царкву і як па камандзе павярнулі налева, перасеклі вуліцу і зніклі ў варотах парку.

Хораша бывае заехаць у госці да патэра Вілíброрда, зноў пачуць ягоны прыемны голас, які ўсё тлумачыць, супакойвае, закалыхвае, голас, які навявае старыя сны. Шурбігель — і той, бывае, супакойвае. Ён, як паслужлівы цырульнік, паставіць цёплы кампрэс, зробіць супакальяны масаж, адным словам, ашчаслівіць. Прыемна, ці не так? Што ж, ва ўсякім выпадку прыемней, чым слухаць занудлівыя спевы манашак у манастыры. Яны спяваюць, не адводзячы вачэй ад распяцця. Добра ім маліцца: Альберт уладкуе ўсе

свецкія мітуслівыя справы — праверыць справаздачу, складзе каштарысы. Удзячныя манашкі частуюць яго кавай з манастырскім тортам, дасылаюць чуллівыя падарункі да святаў; кветкі з манастырскага саду, фарбаваныя яйкі на Вялікдзень, анісавыя коржыкі да Каляд. А самі ўсё моляцца, моляцца. У капліцы паўзмрок, духата, на блакітных фіранках чорны цень ад аконнай рашоткі.

Не, ёй рашуча не ўдаецца пераканаць сябе ў тым, што гутарка з Вілібрордам прыемная. Страшна ўявіць сабе, што давядзецца некалі зноў слухаць Шурбігеля. Разышоўся ўтульны паўзмрок дамскага салона, і ў рэзкім святле юпітэраў з'явілася фізіяномія Гезелера. Яны ўсе аднаго крою — гэтыя малойчыкі «не без здольнасцяў», быццам пінжакі з магазіна гатовага адзення: знасіўся адзін — не бяды, заўсёды можна купіць іншы. Вось яны якія — забойцы! У іх няма нічога жахлівага, такія не прысняцца ў начным кашмары, і для добрага фільма яны таксама не прыдатныя. Месца іх — у кепскіх рэкламных фільмах, знятых пры няўмелым «лабавым» асвятленні. Так яны і скачуць з адной кінарэкламы ў іншую, гэтыя жарэбчыкі за рулём.

І зноў яна пачула рэха. Сцены капліцы не прапусцілі ілжывых слоў, адсеклі ў іх пачатковыя літары і выкінулі абезгалоўленыя вон.

У апусцелай алеі з'явіўся бялявы хлапчук на самакаце. Чырвоны самакат мільгацеў паміж дрэў. Запасы спаржы, відаць, скончыліся.

У дзверы пастукаліся, і Нэла, уздрыгнуўшы, машынальна сказала:

— Заходзьце!

Калі яна ўбачыла твар Бразгота, яна адразу зразумела, што зараз здарыцца. Смяротная туга налажыла пячатку на гэты твар, як некалі на твар Шэрбрудэра. Ён, як люстэрка, адбіваў яе ўсемагутную ўсмешку.

— Так, так, заходзьце,— паўтарыла яна.

— Бразгот,— прадставіўся той, што зайшоў,— я чакаў Альберта ў садзе.

Нэла ўспомніла, што недзе ўжо сустракала яго.

— Мы, здаецца, знаёмыя? — сказала яна.

— Так. Помніце прагулку за горадам летам?

Ён падышоў да яе.

— Ах, так, праўда,— сказала яна.

Ён падышоў да яе амаль ушчыльную. Смяротная

туга на ягоным твары праступіла яшчэ больш выразна. Яе ўсмешка забіла яго напавал.

— Адно ваша слова, і я прыкончу Гезелера!

— Сапраўды?

— Заб'ю на месцы!

— Забіваць Гезелера,— сказала яна,— дальбог нявартa.

Чаму гэтыя адчайныя людзі так кепска голяцца? Ягоная калючая шчэць падрапала ёй шыю. Ёй не хацелася расчароўваць яго, але яна не магла стрымаць слёз. Ён прыціснуў яе да сябе, пачаў цалаваць. Яны ўсё бліжэй пасоўваліся да ложка, і Нэла, спрабуючы за нешта ўтрымацца, закранула кнопку вентылятара. Мякка зашлёпалі гумавыя лопасці, якія заглушылі дзіўныя, глухія ўсхліпы Бразгота. У яе прамільгнула думка: «Як хлапчук з дзяўчом у закінутым гаражы, што спрабуюць пазбавіцца страху і смяротнай тугі, але ніколі не называюць гэта каханнем».

— Пакіньце мяне, прашу вас! — сказала яна.

— Мы сустрэнемся яшчэ? — запытаў ён рыдаючым голасам.

— Добра, добра, але толькі пасля, а зараз ідзіце.

Яна заплюшчыла вочы, пачула гукі, якія аддаляліся, і навобмацак выключыла вентылятар. Але цішыня была невыноснай, і яна зноў уключыла яго. Пах Бразгота быццам прыляпіўся да яе шчакі: саланаваты пах поту, змешаны з вінным і табачным перагарам.

І бракаваную прадукцыю фабрык стандартных салдацкіх удоў можна, аказваецца, скарыстаць; ёй, напрыклад, суджана пазбавіць смяротнай тугі роспачнага няголенага валацугу.

Да дома пад'ехала машына. Яна пачула голас Марціна, і ніколі яшчэ ён не здаваўся ёй такім моцным і чужым. Яна чула, як Марцін з усіх ног кінуўся ў пакой Альберта. Пачуўся смех Больды, голас Бразгота і Альберта, і, нарэшце, яна яўна пачула, як Бразгот сказаў: «Нэла, фрау Бах, ужо дома». Яна не сумнявалася, што і без гэтых слоў, па выразу ягонага твару, Альберт гэта адразу зразумеў.

Пасля яны пачалі правяраць мячыкі для пінг-понга. Яна чула за сцяной цоканне цэлулоідных мячыкаў, якія стукалі аб падлогу.

— А кашулі ж забыліся,— закрычаў Марцін,— і падручнікі!

— Не хвалюйся,— сказаў Альберт,— я табе ўсё прывязу.

Зноў зацокалі, стукаючы па падлозе, мячыкі, затым у дзверы нясмела пастукаліся, і адразу пачуўся сярдзіты голас Альберта:

— Не ідзі туды, я ж табе сказаў. Дай маці адпачыць. Яна пасля прыйдзе да нас.

— Праўда, прыйдзе?

— Так. Я ж сказаў табе?!

Нэла пачула, як перакочваюцца ў карабку цэлулоідныя мячыкі, стукаючыся адзін аб адзін. Гук гэты слабеў, аддаляўся, але і з саду ён яшчэ далятаў да яе. Пасля Бразгот сказаў Альберту:

— Значыцца, ты вырашыў нічога не прадпрымаць!

— Не, нічога,— адказаў Альберт.

Запрацаваў матор, шум яго аддаляўся, і запанавала цішыня. Нэла была ўдзячная Альберту за тое, што ён пайшоў, не заходзячы да яе, і не пусціў у яе пакой Марціна. На кухні забразгалі талеркі: Больда ўзялася за мыццё посуду і ціха, але страшэнна фальшывячы, спявала: «Ад пагібелі ўратаваў ён увесь род чалавечы».

Плёскат вады, бразгаценне посуду заглушалі голас Больды, але неўзабаве Нэла зноў пачула яе спеў. «На яго аднаго спадзяёмся».

Зарыпелі дзверцы шафы, шчоўкнуў замок на кухні, і Больда, шоргаючы, павольна пайшла да сябе наверх.

І толькі цяпер у поўнай цішыні Нэла пачула крокі маці. Яна хадзіла туды-сюды, як зняволены ў камеры. А вентылятар, па-ранейшаму ціха гудзеў; Нэла зусім пра яго забылася. Яна выключыла яго, але адразу ж ёй падалося, што цішыня душыць яе, выціскае слёзы з вачэй. Нэла зарыдала.

## 20

Спатканне ў летнім кафэ не адбылося: пераязджаць вырашылі сёння ж.

У транспартнай канторы замовілі вялікі грузавік — і, як хутка высветлілася, зусім дарма. Пажыткі фрау Брылах, якая пераязджала да кандытара, не занялі і пятай часткі кузава. Пад чахламі і каляровай паперай яе мэбля ў пакоі мела «зусім прыстойны выгляд».

Але на лесвіцы нічога не магло схавацца ад усёбачнага вока суседзяў, якія, ківаючы галовамі, назіралі за пагрузкай. Пераезд быў для іх поўнай нечаканасцю.

Рабочыя вынеслі скрыню з-пад маргарыну, якая была напханая цацкамі, на чарзе быў Генрыхаў ложак. Гэта, уласна, былі звычайныя дзверы з прыбітымі да іх драўлянымі брусамі. Падабенства з ложкам ім надаваў толькі матрац з марской травы ды рэшткі старой фіранкі, якія былі прыбітыя па краях. На машыну пагрузілі два крэслы і стары стол... Колькі разоў узлакочваліся на яго Карл, Герт, Леа! Шафу для адзення замяняла дошка з кручкамі, заціснутая між сцяной і буфетам і завешаная цыратай. Цырата ратавала адзежу ад пылу і вадзяных пырскаў. Больш-менш прыстойна выглядалі толькі дзве рэчы: сервант, фарбаваны пад чырвонае дрэва — яго купілі два гады назад,— і ложачак Вільмы, які падарыла ім фраў Барусяк: яна больш не чакала дзяцей. Прыёмнік застаўся наверсе ў Леа — дзверы ў яго былі зачынены на замок.

Восем гадоў пражылі яны ў гэтым пакоі, шмат разоў рамантавалі яго, бялілі столь і сцены. Але зараз, калі ён апусцеў, убоства яго кідалася ў вочы. Генрых жахнуўся: іхнія рэчы, такія звыклыя ў пакоі, на сваіх месцах, ператварыліся на вуліцы ў кучу хламу, які і перавозіць нявартa было б. Кандытар стаяў тут жа і пакрыкваў на рабочых. Тыя ледзь стрымліваліся ад насмешлівых заўваг па прычыне ўсяго гэтага хламу.

— Асцярожней! Тут шкло! — усклікнуў кандытар, калі ўбачыў, як адзін з работнікаў неахайна падхапіў кардонную скрынку з посудам.

На твары кандытара адлюстроўвалася пакутлівая ўнутраная барацьба. Здавалася, ён сумняваўся, ці не надта вялікую цану даводзіцца яму плаціць. Двое дзяцей як снег на галаву, і ўся гэтая старызна каля дзвярэй ягонага дома — сораму не абярэшся.

Генрыху загадалі супакоіць Вільму, якая крычала, не закрываючы рота, з таго часу, як незнаёмы чалавек пацягнуў некуды скрынку з яе цацкамі. Левай рукой Генрых трымаў за руку Вільму, у правай у яго быў ранец, у які ён разам з падручнікамі, малітоўнікам і сшыткамі ўклаў і іншую сваю «маёмасць»: бацькаву брашуру «Што павінен памятаць аўтаслесар перад здачай экзамена на падмайстра», фотаздымак бацькі і некалькі коміксаў: *«Здань»*, *«Тарзан»*, *«Тыль Уленш-*

*пігель»* і *«Блондзі»*.Там жа ляжаў і фотаздымак жанчыны, якая мела некалі сем пудоў вагі. Тоўстая жанчына каля вілы «Элізабэт», якая была названа так у яе гонар; грот з вулканічнага туфу, у акне — мужчына з люлькай у роце і ўдалечыні на заднім плане — вінаграднікі.

Беднасць праяўлялася ўсё больш яскрава, па меры таго як перасоўвалі мэблю і складвалі рэчы. Але не толькі гэта палохала Генрыха. Пакой апусцеў з уражальнай хуткасцю; гэта было не менш страшна. Не прайшло і сарака хвілін, як усё было скончана. На голых сценах выдзяляліся толькі мясціны, дзе шпалеры не выгаралі і добра захаваліся; цёмна-жоўтыя прастакутнікі, аблямаваныя шэрым пластам пылу, засталіся на сцяне там, дзе віселі фотаздымак бацькі і рэпрадукцыя «Тайнай вячэры», і насупраць — там, дзе стаяў буфет і была прыбітая дошка з кручкамі. Маці павымятала смецце з кутоў: асколкі шкла, зліплы ў шматкі пыл, абрыўкі паперы, нейкае загадкавае чорнае рэчыва, што набілася ва ўсе шчыліны ў падлозе. Кандытар апасліва правёў пальцам па шпалерах, быццам прыкідваючы, колькі часу не сціралі пылу, які аблямоўваў цёмна-жоўтыя прастакутнікі на сцяне. Маці нечакана ўсхліпнула і шпурнула на падлогу савок. Спрабуючы супакоіць яе, кандытар злёгку прыабняў яе за плечы, асцярожна пагладзіў па галаве. Але ён нерашуча, як бы з цяжарам, рухаў рукамі, і выглядала гэта не надта пераканаўча. Маці падняла савок і зноў узялася за венік. Вільма крычала безупынку, усё парываючыся выбегчы з пакоя на пошук знесеных цацак.

— Адвядзі яе, прашу Богам, уніз,— сказаў кандытар,— і каляску вазьмі.

Заклапочаны, няўпэўнены выраз не сыходзіў з ягонага твару. Здавалася, раптоўнасць перасялення, у якой ён сам быў вінаваты, цяпер спужала яго. У палове пятай яна дазволіла яму пацалаваць яе руку каля локця, а ў палове сёмай — ужо пераязджала да яго.

Пара было рухацца, пагрузка закончылася: рэчы не занялі і пятай часткі кузава. Рабочыя сядзелі ўнізе на падножцы грузавіка, паглядвалі наверх і раз-пораз свісталі, падганяючы гаспадароў.

Генрых цьмяна помніў, як некалі даўно ім давялося пераязджаць з кватэры на кватэру. Прамільгнулі аб-

рыўкі ўспамінаў: халадэча, дождж, дзіцячая каляска, заляпаныя граззю транспарцёры і грузавікі, маці рэжа бохан хлеба, які нехта як бы выпадкова скінуў ім з грузавіка, што праязджаў міма. Найбольш выразна ён помніў зялёную вайсковую біклажку — Герт забыўся яе пасля на нейкай будоўлі. Успомнілася, як напалохаў яго тады амерыканскі хлеб: ён быў белы, як папера.

Восем гадоў яны пражылі ў гэтым пакоі — цэлую вечнасць.

Генрых мог з заплюшчанымі вачамі адразу адшукаць усе каварныя трэшчыны і шчыліны ў паркеце, дзе націраць падлогу прыходзілася марудна і асцярожна, каб не парваць суконкі. Падлогу ён націраў масцікай — так патрабаваў Леа.

Генрых ведаў на памяць, у якіх месцах пліткі паркету сядзелі нямоцна: масціка там, колькі яе ні намазвай, усё роўна залазіла ў шчыліны. Затое ў іншых месцах яна прылеплівалася да падлогі, і яе трэба было наносіць тонкім слоем.

Ён утаропіўся на цёмна-жоўтую пляму на сцяне: тут вісеў раней фотаздымак бацькі.

— Дык хадзі ж, чаго стаіш? — крыкнуў кандытар.

Генрых выйшаў у прыхожую, але адразу ж вярнуўся, падышоў да маці і сказаў:

— Не забудзься, калі ласка, пра прыёмнік — ён наверсе ў Леа. У яго яшчэ наш збанок, кубак і кансервавы ножык.

— Не, не, не хвалюйся,— сказала маці, але па яе голасу ён зразумеў, што прыёмнік, збанок і кансервавы ножык страчаны назаўсёды, як і мамін халат, што таксама вісеў у пакоі Леа. Генрыху вельмі падабаўся гэты халат — казачныя ружовыя кветкі на чорным.

На лесвіцы стаяла фраў Барусяк і плакала. Яна кінулася да Генрыха, расцалавала яго, затым прыціснула да сябе Вільму.

— Слаўны ты мой хлопчык,— усхліпваючы, сказала яна,— няхай хоць табе будзе там добра.

Сталяр, які стаяў непадалёку, прабурчаў, хітаючы галавой:

— Што тут, што там — адзін грэх!

З-за дзвярэй пачуўся голас маці:

— Ты гэтага хацеў, чуеш! Ты, ты, а не я! — крычала яна.

Кандытар глуха прамармытаў нешта ў адказ, і хоць слоў нельга было разабраць, але прагучалі яны не надта пераканаўча.

Усё часцей і ўсё больш пранізліва свісталі ўнізе рабочыя, якія чакалі. Генрых падышоў да акна ў прыхожай і зірнуў на вуліцу. Зверху кузаў грузавіка быў падобны на распоранае чэрава нейкай страшыдлы, якая памылкова праглынула лаўку старызніка. Брудныя лахманы, кульгавыя крэслы, навалены грудам хлам і на самым версе ягоны «ложак». Грузчыкі перавярнулі яго, і шэрыя дзверы адразу ж адкрылі таямніцу свайго паходжання. Зверху выразна быў бачны надпіс, што ўпрыгожваў іх: *«Пакой 547. Фінансавы аддзел»*. Герт прывалок аднойчы ўвечары гэтыя дзверы і чатыры брусы — распілаваныя бэлькі столі. Знайшоўся ў яго і малаток з цвікамі. За пяць хвілін ложак быў гатовы.

— Ты глянь, якая раскоша! — сказаў тады Герт.— Цяпер лажыся, адпачывай.

Генрых лёг, і ложак сапраўды здаўся яму раскошай. І да гэтага часу, яшчэ паўгадзіны назад, ён быў перакананы ў гэтым.

Рабочыя сядзелі на падножцы грузавіка, курылі, паглядвалі ўверх і пасвіствалі.

«Што тут, што там — адзін грэх»,— сказаў сталяр. Генрых зноў успомніў слова, якое маці сказала кандытару два тыдні таму. Тое ж слова Леа пісаў на сцяне. Генрых горка ўсміхнуўся і падумаў, што слова «сужыцельства» і гэтае слова азначаюць, уласна, адно і тое ж. Маці выйшла з пакоя, трымаючы ў руках савок, і Генрых убачыў, што твар яе пакрыўся круглымі барвовымі плямамі. Такія плямы ён ужо неаднойчы бачыў на тварах іншых жанчын, але ў маці іх ніколі не было. Яе чорныя, заўсёды гладка зачасаныя валасы раскудлачыліся і доўгімі пасмамі падалі на лоб. Затым з пакоя выйшаў кандытар і стаў каля сталяра. Ад ягонага нядаўняга гневу не засталося і следу, і твар яго зноў меў звычайны лагодны выраз.

Генрых заўсёды пабойваўся лагодных людзей. У школе сярод настаўнікаў таксама надараліся гэтакія памяркоўныя; але з імі лепш не звязвацца. Дзень — ён добры, два добры, тыдзень, але затое пасля як раскрычыцца! А ў канцы і сам не ведае, што яму рабіць: ці то

махнуць рукой, ці зноў разалавацца, быццам акцёру, што забыў сваю ролю.

— Гавару табе, ідзі ўніз! — закрычаў раптоўна кандытар на Генрыха.— Чорт бы цябе ўзяў, вісус праклятыl Бяры каляску і выбірайся прэч!

— Не смей крычаць на дзіця! — у сваю чаргу крыкнула маці і, плачачы, схавала галаву на грудзях у фрау Барусяк.

Сталяр адвёў кандытара ўбок, а мама сказала скрозь слёзы:

— Ідзі, Генрых, ідзі, дзетка!

Але яму было боязна спускацца аднаму па лесвіцы. Унізе каля дзвярэй стаялі суседзі. Яны абменьваліся насмешлівымі заўвагамі, разглядвалі ўбогую мэблю, а нехта з Брэзгенаў сказаў: «Па пану і ялавічына!» І словы гэтыя папаўзлі ад дзвярэй да дзвярэй — ад Брэзгенаў да гаспадыні малочнай лаўкі, ад яе да старога пенсіянера, былога рассыльнага з ашчаднай касы. Ён прамовіў іх як прыгавор. У тыя часы, калі Генрых купляў яму прадукты на чорным рынку, стары заўсёды ласкава размаўляў з ім. Але цяпер ён ужо даўно перастаў вітацца з мамай, зусім як Карл. Гаспадыня малочнай лаўкі сама *распусная*, а Брэзгены, па словах сталяра, *брудныя свінні*. Каму ж яшчэ пра гэта ведаць, як не сталяру,— ён жа гаспадар дома.

Эх, калі б быў жывы бацька. Ён не даў бы яго пакрыўдзіць, узяў бы яго за руку, і яны разам пайшлі б на вуліцу, нават не зірнуўшы на гаспадыню малочнай лаўкі, на старога рассыльнага і на «свіней». Генрых так выразна ўявіў сабе бацьку, быццам добра яго помніў. Ён з цяжкасцю стрымліваў слёзы, якія душылі яго.

— Так, так,— пачуў ён голас пенсіянера,— «па пану і ялавічына»: правільна кажуць людзі. Як было раней, так і засталося!

Як ён ненавідзеў усіх іх! Генрых пагардліва ўсміхнуўся, але слёзы аказаліся мацнейшымі за яго нянавісць. Ён застыў каля акна,— не, нізавошта не пройдзе ён міма іх са слязамі на вачах! Яму здавалася, што старызна ў кузаве скурчваецца, робіцца ўсё больш бруднай і агіднай. Ярка свяціла сонца, вакол грузавіка сабраўся натоўп разявак, а Генрых усё стаяў каля акна і глядзеў уніз на скрыні з анучамі, на шэрыя дзверы з надпісам: *Пакой 547. Фінансавы аддзел.*

Дзякаваць Богу, хоць Вільма замаўчала. Але рабочыя ўнізе свісталі і заўзята плявалі на маставую, стараючыся патрапіць у кінуты недакурак.

Генрыху здалося, што ён *пракляты* на векі вечныя і прыгавораны стаяць тут каля акна, сярод плачучых жанчын. За спінай у яго — баязлівы кандытар, унізе — агідныя шэрыя трыбухі жабрацтва, што вываліліся ў кузаў грузавіка. І, як ні цяжка яму было, ён усё ж стрымаў слёзы. Чакаць не было чаго, час спыніўся, ён *пракляты, асуджаны* — і няма яму паратунку. Унізе мармыталі *брудныя свінні*, за ягонай спінай сталяр нешта гаварыў кандытару, і па голасе старога можна было здагадацца, што ён хітае галавой. І раптам Генрых выразна пачуў слова: *распусна*.

Нарэшце-такі лёд пад ім праламіўся! Ну й няхай, так нават лепей!

Ён уздрыгнуў, калі пачуў знаёмы сігнал машыны Альберта. Ён глянуў уніз і не паверыў сваім вачам: у двор заехаў старэнькі «мерсэдэс». Генрых пазіраў на яго невідушчым позіркам, не верачы, што Альберт сапраўды прыехаў. Не, паратунку не было, ён *пракляты, асуджаны* на векі вечныя. Унізе — *брудныя свінні*, за спінай — маці з плямамі на твары...

Рабочыя на вуліцы загаманілі, вадзіцель залез у кабіну, і хутка пачулася выццё гудка. Вадзіцель, відаць, заклініў запалкай кнопку сігналу на рулі — грузавік гудзеў безупынку. *Безупыннае* выццё гудка — быццам труба *Страшнага суда*. А ўнізе хіхікалі *брудныя свінні*.

Альберт шпарка ўзбег па лесвіцы. Генрых пазнаў ягоныя крокі і адразу ж пачуў звонкі голас Марціна:

— Генрых, Генрых! Што ў вас здарылася?

Але Генрых не азірнуўся на вокліч і моцна сціснуў ручку Вільмы, якая хацела было кінуцца насустрач Марціну. Ён не крануўся нават тады, калі Альберт паклаў яму руку на плячо. Ён усё яшчэ не верыў, што яму не давядзецца аднаму спускацца па лесвіцы. Але цяпер ужо лягчэй было стрымаць слёзы. Затым Генрых шпарка павярнуўся, паглядзеў у вочы Альберту і адразу ж убачыў, што Альберт усё зразумеў. Адзін толькі Альберт мог зразумець усё без слоў. Ён перавёў выпрабавальны позірк на Марціна і пераканаўся, што той, наадварот, *нічога не зразумеў*.

Марцін убачыў іх жабрацтва, якое так раптоўна

паўстала перад ім ва ўсёй сваёй непрыгляднай галечы. Убачыў — і нічога не зразумеў. Генрых быў здзіўлены і ўзрадаваны, але адразу ж падумаў, што здзіўляцца няма чаму, бо Марцін жа яшчэ дзіця, і гэта пра гэтакіх, як ён, было сказана ў пісанні: *Будзьце як дзеці*. Як добра, што Марцін нічога не зразумеў, а Альберт зразумеў усё!

Марцін толькі запытаў здзіўлена:

— Вы пераязджаеце?

— Але,— адказаў Генрых,— мы пераязджаем да кандытара. Сёння ўжо будзем начаваць там.

Цяпер Марцін зразумеў, і абодва яны ў гэты момант успомнілі тое слова, якое маці Генрыха сказала кандытару. У прыхожай сталяр, фрау Барусяк і кандытар размаўлялі з Альбертам. Марцін і Генрых адначасова паглядзелі ўверх, і ім зусім не падалося дзіўным, што мама Генрыха плача на грудзях у дзядзькі Альберта. Не здзівіліся яны і таму, што яна неўзабаве перастала плакаць, узяла Альберта за руку і пайшла разам з ім да лесвіцы.

— Ну, зараз пойдзем,— сказаў Генрых.

Марцін узяў ягоны ранец, а сам ён, падняўшы на рукі Вільму, павольна, з прыступкі на прыступку, пачаў спускацца ўніз і глядзеў на гаспадыню малочнай лаўкі, проста ў яе вялікія карыя насмешлівыя вочы; ён паспеў зірнуць нават на Брэзгенаў, якія выстраіліся каля сваіх дзвярэй. Чатыры свінні, круглыя, тлустыя морды! Яны нешта пражоўвалі, і іхнія сківіцы безупынку рухаліся. З-за пляча *распуснай* гаспадыні малочнай лаўкі выглядваў Гуго, яе сужыцель. Гуго таксама нешта жаваў і ў той момант, калі яны праходзілі міма, выцягнуў з рота хвост шпроціны. «Брудныя свінні», як па камандзе, апусцілі вочы, гаспадыня малочнай лаўкі вытрымала позірк Генрыха, а стары рассыльны раптам сказаў:

— Чаму ж ты, Генрых, і развітацца са мной не хочаш?

Генрых нават не зірнуў у ягоны бок. За спіной ён чуў крокі ўдзельнікаў трыумфальнага шэсця. Альберт, смеючыся, гаварыў нешта маці, а яна як быццам таксама смяялася. За імі ішлі фрау Барусяк і сталяр, ззаду за ўсімі — кандытар. Гаспадыня малочнай лаўкі проста сіпела: «Ні даць ні ўзяць шлюбны картэж!» — а Гуго, чвякаючы, даядаў шпроціну і адразу ж засу-

нуў у рот другую. Рыбка золатам бліснула ў ягонай руцэ.

Яны спусціліся яшчэ ніжэй, і Генрых убачыў унізе яркае сонечнае святло, якое прасочвалася на лесвіцу праз расчыненыя дзверы. Але ён адчуваў, што думкі яго яшчэ там, наверсе. Яму здавалася, што ён папранейшаму стаіць каля акна. Унізе *брудныя свінні*, за спінай — баязлівы кандытар, ён *асуджаны* — і няма яму паратунку.

І Генрых назаўсёды запомніў, як ён стаяў каля акна, быццам асуджаны на вечныя пакуты, глядзеў уніз на хлам у кузаве, а з вуліцы неслася *безупыннае* выццё гудка. Марцін ужо колькі разоў пытаў яго пра нешта. Генрых не адказваў. У думках ён быў яшчэ там, наверсе. Але адно ён ведаў пэўна: Альберт і Марцін *зразумелі* менавіта тое, што павінны былі зразумець. Паратунак прыйшоў у тыя лічаныя долі секунды, калі ён зірнуў у вочы Альберту і калі Марцін своечасова зразумеў, што здарылася. І гэта выратавала яго, пазбавіла праклёну.

— Ну, чаго ж ты маўчыш! — лез да яго Марцін.— Вы назусім пераязджаеце да кандытара?

— Так, назусім,— адказаў Генрых,— ты ж бачыш, мы ўсё бяром з сабой.

Рабочыя на вуліцы ўсё яшчэ свісталі, але кандытар раптам набраўся смеласці.

— Але, але, зараз ідзём! — моцна крыкнуў ён, і голас ягоны цяпер прагучаў упэўнена і рашуча.

— Пойдзем, Генрых,— сказаў Альберт за яго спіной,— паедзеш з намі ў Бітэнхан разам з Вільмай.

Генрых здзіўлена глянуў на маці, але тая ўсміхнулася і сказала:

— Так, едзь, гэта будзе лепш. А ў нядзелю вечарам пан Мухаў прывязе цябе ў горад. Да таго часу мы ўжо паспеем для цябе ўсё падрыхтаваць.

— Не ведаю, як вам і аддзячыць,— дадала яна, звяртаючыся да Альберта. Той толькі моўчкі кіўнуў і неяк дзіўна паглядзеў на яе. Генрых убачыў, як у вачах маці праблiснула *надзея*.

Здавалася, маці і Альберт пра нешта дамовіліся без слоў, і гэты *маўклівы* зарок адлюстраваўся ў іх позірках. Вочы іх сустрэліся на імгненне, але ў гэтую долю секунды яны раптам зразумелі тое, пра што ніколі раней не думалі.

Альберт падаў маці руку, маці пацалавала Вільму, і ўслед за Альбертам яны пайшлі да машыны. Вільма заверашчала ад радасці, калі ўбачыла шэры аўтамабіль.

## 21

Памагаты кандытара, які збег, не пакінуў багатай спадчыны. Толькі нешматлікія рэчы напаміналі пра яго: фотакартка кіназоркі на сцяне, дзве пары парваных шкарпэтак, іржавыя лёзы для галення на падваконні ды напалову скарыстаны цюбік зубной пасты. На белым начным століку былі рудыя выпаленыя плямы — сляды цыгарэт, якія тут дагаралі. У скрынцы камоды ляжалі леташнія газеты і малюнак з надпісам: *Вось яна — сапраўдная Афрыка!* — рэклама нейкіх усходніх цыгарэт. На малюнку зебры несліся праз саванну, жырафы абшчыпвалі лістоту з высокіх дрэў, а тубыльцы з размаляванымі тварамі палявалі на ільвоў.

Кандытар загадаў пакінуць у двары «ложак» Генрыха — дзверы пакоя 547 фінансавага аддзела з прыбітымі да іх чатырма брусамі.

— Хай спіць на ложку падмайстра.

— А я?

— Хіба ў цябе няма ложка?

— Няма.

— Дзе ж ты спала?

— У Леа, дзе ж яшчэ!

— А да яго?

— Да яго ў мяне быў ложак, але затым яго давялося спаліць — ён зусім развалiўся.

Пасля гэтага ложак Генрыха ўсё ж усцягнулі наверх, а ёй дастаўся ложак памагатага, амаль новы жалезны ложак, пафарбаваны ў белы колер.

Пакуль рабочыя ўсцягвалі рэчы наверх, у пакой падмайстра, яна выносіла хлам з каморкі ў калідор. Старажытныя галеты з кукурузнай мукі перакочваліся ў бляшанках, быццам каменне. Яна вынесла ўсё ў хляўчук у двары. Чаго толькі не было ў каморцы: карабкі з-пад сухароў,— калі яна несла іх уніз, сухарныя крошкі па-мышынаму шкрэбліся аб кардон; пашкуматаныя мяхі з-пад мукі, лялькі для вітрын з па-

п'е-машэ — некалі яны рэкламавалі вырабы шакаладных фабрык, якія даўно ўжо збанкруціліся. Назвы іх даўно выкраслены са спісаў кандытарскіх фірмаў. Шакаладныя пліткі з кардону, камы срэбранай паперы велічынёй у футбольны мяч, кардонныя кухараты з доўгімі лыжкамі ў руках — рэклама канцэнтратаў. Усмешлівая бляшаная індыянка прыціскала да грудзей карабок цукерак. На карабку было напісана: *Шарбет — цудоўныя цукеркі. Растаюць у роце.* Яркачырвоныя вішні з фанеры, бутафорскія цукеркі ў зялёнай абгортцы і вялізная бляшанка, што да гэтага часу захавала пах эўкаліптавага алею. Гэты пах напомніў ёй дзяцінства — яна кашляла бясконца ўначы, а за шырмай сварыўся бацька. І чым мацней ён сварыўся, тым мацней яна кашляла. А вось і яны, старыя знаёмцы: блакітны кухаронак з сухарыкам і серабрысты кот з кубкам какавы ў лапах.

Рабочыя перасмейваліся, уцягваючы ў пакой яе рэчы.

Яна пачула, як кандытар нясмела спрабаваў суцішыць іх, і адразу ж уздрыгнула, калі адчула на сваім плячы лёгкую, але ўладарную руку, руку, якая нават рычаг касавай машыны сціскала, быццам штурвал карабля.

Кандытарка ўсміхнулася, але, як ні дзіўна, ва ўсмешцы яе не было прыхаванай пагрозы.

— Размяшчайцеся як дома. Вы хочаце размясціць тут сынка?

— Так.

— Гэта вы добра прыдумалі! А ўсю старызну можна вынесці ў хляўчук. Але, можа, нешта пакіньце дзецям — хай гуляюць, яны ж любяць такія рэчы.

— Канешне, гэта ж лепш за ўсякія цацкі!

Кандытарка падняла з падлогі фанеровую плітку шакаладу і выцягнула з цёмнага кута кардонны грузавік — рэкламу нейкага млына, і з усмешкай паказала на бляшаную індыянку:

— Вось гэта ўжо, пэўна, дзецям спадабаецца!

— А як жа!

— Ну дык вазьміце іх.

— Вялікі вам дзякуй.

— Няма за што!

І зноў лёгкая рука легла на яе плечы і ласкава, пасяброўску, пацiснула іх.

— Жадаю вам шчасця!

— Дзякуй!

— Спадзяюся, вам будзе тут добра!

— О, канешне!

— Вельмі прыемна! Да пабачэння.

— Да пабачэння!

Згортваючы мяхі, спускаючыся ў хлеў са штабялямі парожніх карабкоў, яна ўвесь час думала пра яго, пра дзядзьку Марціна, як называў яго Генрых. Нечакана для самой сябе яна там, у прыхожай, спалоханая і раззлаваная, абняла яго, чужога мужчыну. Гэта атрымалася неяк само па сабе. Яна адразу ж спахапілася і хацела адскочыць ад яго, але адчула, як ён злёгку сціснуў ёй руку, а шчакой дакрануўся на імгненне да яе шыі. А як ён паглядзеў на яе ўнізе, калі яна развітвалася з дзецьмі! Мужчына не на кожную жанчыну так глядзіць!

Яна ўсміхнулася і адсунула рваную шырму ў куце і нават здрыганулася ад нечаканасці: перад ёй на падлозе стаялі знаёмыя фанерныя фігуркі — яны пакрыліся пылам і павуціннем, але яркія фарбы да гэтага часу не вылінялі. Яна стрэсла павуцінне рукой. Так, гэта былі яны, бамбергераўскія *героі германскіх сагаў*, менавіта такія ж, як на малюнках. Набор такіх фігурак Бамбергер выдаваў у якасці прэміі пастаянным сваім пакупнікам. Жаўтавалосы Зігфрыд у ярка-зялёным камзоле замахнуўся кап'ём на ядавіта-зялёнага дракона. Зусім як Георгій Пабеданосец! Каля яго — Крымгільда, Фолькер і Гагена і яшчэ гэты, прыгожанькі, як жа яго звалі? Так, Гізельгер! Фанерныя фігуркі былі прыбіты да шырокай рудой планкі з ярка-жоўтым надпісам: *Дамашнія локшыны Бамбергера.*

Яна не пачула, як у каморку зайшоў кандытар. Ён асцярожна паклаў руку ёй на плячо.

— Усё гатова! Ідзі паглядзі свой пакой. Божа ж мой, ты зноў плачаш? Што з табой?

Яна моўчкі скінула ягоную руку з пляча, падняла з падлогі планку з фанернымі фігуркамі і, нават не глянуўшы на яго, панесла яе ў свой пакой.

Кандытар ішоў услед за ёй.

— Навошта яны табе?

— Павешу на сцяну,—адказала яна праз слёзы.

— Гэтую дрэнь! Кінь яе, я куплю табе добрыя карціны, сапраўдныя! — сказаў ён і, памаўчаўшы, ня-

смела дадаў: — Горнае возера, капліцу ў лесе або лань на лужку — усё, што ты захочаш! Не вешай ты ў сябе гэтую дрэнь!

— Пакінь мяне,— сказала яна,— мне гэта падабаецца.

У пакоі панаваў ужо поўны парадак: яе сукенкі віселі ў шафе, посуд быў акуратна расстаўлены па скрынках камоду, а скрынку з цацкамі кандытар паставіў пад ложак. У куце стаяў ложачак Вільмы.

— Хіба Вільма тут будзе спаць? — спытала яна.

— Ты мяркуеш, нязручна?

— Не ведаю,— нерашуча сказала яна, паставіла на камод планку з бамбергераўскімі фігуркамі і дадала: — Дзецям гэта спадабаецца!

— Гэта ж дзяшоўка, лубок! — сказаў ён і адвярнуўся.

Яна падсунула да сябе сваю сумку і пачала вынімаць адтуль дробныя рэчы. Перш за ўсё яна дастала фотаздымак мужа і павесіла яго над узгалоўем ложка на цвіку, на якім паблісквала, бы вяночак, меднае кольца ад ранейшай карцінкі.

— Навошта ж тут? — сказаў ён.

— Мне так хочацца, і пакінем гэта!

Яна выцягнула з сумкі старую запальнічку і рэзка, з грукатам, паставіла яе на камод; услед за запальнічкай — гадзіннік на зношаным скураным раменьчыку. Затым яна хуценька нахілілася, пакорпалася ў скрынцы з цацкамі і дастала брызентавы чахол, у якім Карл насіў свой кацялок. Чахол заняў сваё месца на камодзе каля гадзінніка і запальнічкі.

— Дзе мая шкатулка з ніткамі? — запытала яна.

— Вось яна,— адказаў кандытар і высунуў адну са скрыначак камода. Яна вырвала шкатулку ў яго з рук, знайшла ў ёй пілку для пазногцяў — памяць пра Леа, і паклала яе на камод каля брызентавага чахла.

— Ідзі,— ціха сказала яна,— я хачу пабыць адна.

— Я хацеў толькі паказаць табе ванную, а вось ключ ад дзвярэй кветніка на даху.

— Божа,— сказала яна,— пакінь ты мяне ў спакоі хоць на пяць хвілін!

— Навошта табе ўвесь гэты хлам? Я куплю табе новы гадзіннік і запальнічку — твая ж заржавела і не працуе.

— Божа мой! Сыдзі ты нарэшце!

Кандытар падаўся да дзвярэй.

Яна зашмаргнула штору, легла на ложак, нагамі да ўзгалоўя, і доўга глядзела на ўсмешлівага фельдфебеля на фотаздымку, што вісеў перад ёй. Справа на камодзе стаялі *героі германскіх сагаў*; іхняя яркая расфарбоўка была бачная нават у змроку. Яна адшукала вачыма свайго ўлюбёнца — мужнага і адначасова задумліва-пяшчотнага *Фолькера* ў чырвоным камзоле, з зялёнай лірай у руках. На планцы ён стаяў каля Гагена.

Яна думала зараз не пра Леа і нават не пра загінуўшага мужа, а пра яго, пра другога, чыя шчака на імгненне дакранулася да яе шыі. Яна спадабалася яму! Мабыць, ён зараз таксама думае пра яе! Ён усё зразумеў, ён дапамог ёй, і яна пакахала яго так, як нікога яшчэ не кахала. Там, у прыхожай, яна выпадкова абняла яго, але ён прыціснуў яе да сябе крыху мацней, чым гэта зрабіў бы іншы на яго месцы. Ён яшчэ вернецца, прывязе дадому Генрыха і Вільму, і яна зноў убачыць яго!

...Кандытар, не пастукаўшыся, зайшоў у пакой і на дыбачках падышоў да яе. Яна са злосцю закрычала на яго:

— Трэба стукацца, калі заходзіш! Ідзі прэч, пакінь мяне!

Кандытар пакорліва выйшаў з пакоя, прамармытаўшы нешта на парозе пра ванную, пра кветнік на даху.

Яна паднялася з ложка, зачыніла дзверы на ключ і зноў легла. Усмешлівы фельдфебель быў вельмі малады. Ёй нават няёмка ўспамінаць цяпер, што некалі яна спала з гэтым хлапчуком-шалапутам.

Кусты за плацам казармы, пах ваксы і схілены над ёй нахмураны, сур'ёзны твар юнага яфрэйтара. Яму першаму яна дазволіла ўсё.

Знізу пачуўся рэзкі смех кандытаркі.

Затым кандытар нешта сказаў ёй, і ў яго голасе гучала пагроза і нават рашучасць. Са злосным буркатаннем ён падняўся па лесвіцы і рвануў дзверы.

— Зараз жа адчыні! — крыкнуў ён.

Яна не адказала яму — яна думала пра таго, іншага.

Яна яшчэ не ведала яго імя, але Эрых, Герт, Карл і Леа зніклі з яе памяці, быццам расталі на даля-

глядзе. А твар кандытара яна не магла больш сабе ўявіць, хоць ён і стаяў за дзвярыма за два крокі ад яе.

— Адчыніш ты ці не? — зноў закрычаў ён, але ягоны пагрозлівы голас толькі насмяшыў яе.

— Сыдзі,— ціха сказала яна,— я не адчыню.

І ён пайшоў.

Яна пачула, як ён спускаўся па лесвіцы і буркаў з пагрозамі. Але яна думала пра іншага — пра Альберта, і ведала, што ён яшчэ прыйдзе да яе.

## 22

Спачатку яны доўга гулялі ў футбол з вясковымі хлопцамі, якіх запрасіў дзядзька Віль. Ён пра ўсё паклапаціўся: падстрыг траву, адрамантаваў сеткі на варотах. Яны гулялі з азартам, але затым Генрых раптоўна сказаў: «Надакучыла, не хачу больш». Ён пабег на веранду, дзе за сталом сядзеў Альберт, пацягваў з куфля піва і праглядаў газеты. Але і адтуль Генрых неўзабаве пайшоў. Ён абышоў вакол дома і ўсеўся на калоду каля паветкі з дрывамі. Непадалёку на зямлі ляжаў тапор дзядзькі Віля.

Тут Генрыху ніхто не перашкаджаў. Віль пайшоў у вёску спавядацца, Альберт унурыўся ў свае газеты — ён мог чытаць іх гадзінамі, не ўстаючы з месца. Вільму маці Альберта павяла на кухню. Добрая бабулька пякла там пірагі і, як заўсёды, мармытала сабе пры тым пад нос забаўныя прыказкі. «Як спячы пірог да свята, калі прыпасаў малавата?» — павольна гаварыла яна і змушала Вільму паўтараць. Але ў той атрымлівалася толькі «цукар» і «яйка», і маці Альберта весела смяялася. На кухні стаяў пах гарачага здобнага цеста, зусім як у падвале ў кандытара. На падаконні стыла бляха з гатовым пясочным пячэннем.

Потым Генрых пачуў, як і Марцін закрычаў: «Не хачу больш! Надакучыла!» Вясковыя хлапчукі пагулялі яшчэ крыху і разышліся. Голас Марціна даносіўся цяпер з веранды — Альберт вучыў яго гуляць у пінг-понг. Чуваць было, як яны перасоўваюць стол, умацоўваюць сетку. Альберт гаварыў Марціну: «Станавіся сюды! Глядзі, вось так трэба!» Заскакалі цэлулоідныя мячыкі. Іх звонкае цоканне злівалася з голасам

маці Альберта: «Яйкі трэба нам і сала, але гэтага нам мала; цукар возьмем мы, смятану і духмянага шафрану»,— гаварыла яна, а Вільма крычала: «цукар!», «яйка!» — і старая смяялася.

Хораша тут! Мячыкі цокаюць гэтак звонка, і Вільма радасна крычыць на кухні, а як толькі пачуеш голас маці Альберта, адразу ж разумееш, якая яна добрая. І дзядзька Віль добры, і сам Альберт — таксама. «Ад шафрану — пірог румяны»,— пачуўся з кухні голас старой. Слаўная якая прыказка, «шафран» — само слова нейкае смачнае! Што ні кажы, а ўсё гэта для *дзяцей*! Яго не падманеш — нешта тут не так!

Генрых ведаў цяпер, што кандытар не такі ўжо і добры, як здавалася напачатку. Калі мама сказала, што яны пераедуць да яго, ён падумаў спярша: *«Вось здорава»*. Але затым ён зразумеў, што зусім гэта *не здорава*! Кандытар падобны на тых «добрых» настаўнікаў у школе, якія яшчэ горшыя, чым злыя: гэтыя ўпадаюць у гнеў у самы непадыходзячы момант.

З іншага боку, кандытар усё ж лепшы, чым Леа. Адно ж хоць, зрэшты, зразумела: грошай у іх пэўна будзе болей.

Запальнічка дзядзькі Эрыха, мамін гадзіннік — падарунак Герта і брызентавы чахол, у якім Карл насіў кацялок, былі ў ягонай памяці непадзельныя адно з адным, быццам ляжалі на адной паліцы. Цяпер ён паклаў на гэтую паліцу і пілку для пазногцяў, што належала Леа. У мітусні збораў маці выпадкова ўсунула яе ў сваю шкатулку з ніткамі. Да своеасаблівых пахаў Эрыха, Герта і Карла далучыўся яшчэ пах Леа — пах адэкалону і памады. На кухні старая са смехам гаварыла Вільме: «Сарока-белабока кашку варыла, пірог выпякала, гасцей ззывала...» Генрых уявіў сабе, як яна месіць там жоўтае салодкае цеста, мармоча свае прыказкі, быццам добрая чараўніца заклінанні: «...гэты пальчык — дровы сек, гэты печ распаліў, гэты — ваду насіў, гэты — мукі купіў, а мезенчык малы, нічога не рабіў, прыйшоў і ўсё з'еў!» Вільма смяялася звонка і радасна.

З-за дома высунуўся дзядзька Віль і ўважліва паглядзеў на яго. Затым Генрых пачуў, як ён падняўся на веранду і запытаў Альберта:

— Што гэта здарылася з хлапчуком?

— Пакінь яго ў спакоі,— адказаў Альберт.

Яны размаўлялі нягучна, але Генрых чуў кожнае слова.

— Ці нельга памагчы яму чым? — зноў запытаў Віль.

— Можна-то можна,— сказаў Альберт,— але лепш пакінь яго зараз у спакоі. У галоўным жа ты яму не дапаможаш!

У вёсцы зазванілі званы — самотна і пяшчотна. Генрых зразумеў, чаму разышліся дзеці, якія гулялі ў футбол. Званілі да абедні, а ўсе яны былі служкамі ў вясковай царкве.

— Ты пойдзеш са мной? — крыкнуў Марціну Віль.

— Так, так,— адказаў Марцін.

Цоканне мячыкаў адразу перарвалася. Генрых пачуў, як Віль яшчэ нешта запытаў у Альберта пра яго.

— Не трэба, пакінь яго,— адказаў Альберт і, памаўчаўшы, дадаў: — Ідзіце, я тут пасяджу.

Глуха і працяжна званілі званы. На кухні зноў радасна запішчала Вільма: ее кармілі яйкам усмятку. Хораша тут, усё гладзенька — без сучка і задзірынкі, але ўсё гэта не для яго. Надта ўжо гладка! І пахі тут адзін лепш другога. Пахне свежым дрэвам, пячэннем, свежым цестам, але і пахі гэтыя чужыя: занадта ўжо добрыя!

Ён выпрастаўся, прыхіліўся да сцяны паветкі і пачаў глядзець у расчыненыя вокны. У зале рэстаранчыка за сталамі сядзелі людзі, яны пілі піва, елі бутэрброды з вяндлінай. Дзяўчына-кельнерка раз-пораз падносіла бутэрброды і зноў ішла на кухню. Там яна наразала хлеб, вяндліну, рабіла новыя бутэрброды. Генрых убачыў, як дзяўчына адрэзала кавалачак вяндліны і паклала яго ў роцік Вільме. Тая пачала жаваць, недаверліва ссунуўшы броўкі. Забаўна было назіраць, як паступова зморшчыкі на яе лобіку разыходзіліся і яна ўхвальна заўсміхалася. Пасля таго як яна добра сжавала і праглынула кавалачак, Вільма заззяла. Маці Альберта і кельнерка так і пакаціліся ад смеху. Усміхнуўся і Генрых — гэта і сапраўды было забаўна. Але ўсмешка атрымалася *стомленая*. Ён і сам ведаў, што ўсміхаецца *нехаця*, як абцяжараны клопатамі *дарослы чалавек*, якому не да смеху.

У гэты момант да дома пад'ехала таксі з горада, і ён напалохаўся: мабыць, зараз нешта здарыцца, калі ўжо не здарылася. З машыны выйшлі бабуля і мама Марці-

на. Бабуля, не выцягваючы з рота дымнай цагарэты, моцна сказала шафёру: «Пачакайце тут, галубок»,— і пабегла да ганка. Твар у яе быў чырвоны, сярдзіты.

— Альберт! Альберт! — закрычала яна на ўвесь двор.

Людзі ў рэстаране паўскоквалі са сваіх месцаў, кінуліся да вокнаў. У акне кухні паказаліся напалоханыя твары кельнеркі і маці Альберта, а сам Альберт выбег у двор з газетай у руках. Ён убачыў бабулю, нахмурыўся і, павольна складваючы газету, пайшоў ёй насустрач. Мама Марціна падышла да акна кухні і загаварыла з маці Альберта з такім выглядам, быццам усё гэта яе ніякім чынам не тычыцца.

— І ты нічога не хочаш зрабіць? — сказала бабуля, гнеўна страсаючы попел з цыгарэты.— Тады я сама паеду туды і заб'ю яго ўласнымі рукамі! Паедзеш ты са мной ці не?

— Паеду, паеду, супакойся! — стомлена сказаў Альберт.— Але што ў тым толку?

— Пра што толькі ўсе вы думаеце? — сказала бабуля.— Сядай у машыну!

— Як хочаш,— сказаў Альберт.

Ён паклаў газету на падаконнік, залез у машыну, адчыніў знутры заднія дзверцы і пасадзіў бабулю каля сябе.

— Ты, значыцца, застаешся? — ужо з машыны крыкнула бабуля маці Марціна.

— Так, я пачакаю вас тут,— адказала тая.— Не забудзьцеся захапіць мой чамадан, чуеце?

Але шафёр ужо выехаў са двара. Неўзабаве таксі знікла за паваротам. Званы змоўклі, і маці Альберта сказала маці Марціна: «Заходзьце, што ж вы?» Тая кіўнула і сказала кельнерцы: «Дайце мне дзяўчынку!»

Кельнерка паставіла Вільму на падаконнік. Генрых вельмі здзівіўся, калі ўбачыў, як маці Марціна спрытна ўзяла яе на рукі і, усміхаючыся, зайшла ў дом. Затым зацокаў цэлулоідны мячык і пачуўся смех Вільмы. Добра ўсё гэта, слаўна, толькі не для яго.

У рэстаране зацягнулі песню: *Мілы лес, лес наш любы, на зямлі ты цуда з цудаў!* З кухні ў залу прайшла кельнерка з падносам, на якім стаялі піўныя куфлі. Маці Альберта на кухні адкрыла вялікую бляшанку з кансерваванымі сасіскамі, затым пачала рыхтаваць салату. На верандзе смяялася маці Марціна.

Смяялася і Вільма. Генрых здзівіўся: маці Марціна падалася яму раптам вельмі мілай і добрай.

Так, усё тут добра, але яму ад таго не лягчэй. Бо ягоная мама зараз «сужыцельствуе» з кандытарам. Яна прамяняла Леа на кандытара. Гэта хоць і выгадна, але жахліва!

На дарозе насупраць дома спыніўся жоўты паштовы аўтобус. Расчыніліся дзверцы, на зямлю саскочыў Глум і дапамог сысці Больдзе. Больда падбегла да расчыненага акна кухні і ўсклікнула гучна:

— Што ж гэта цяпер будзе!

Але маці Альберта ўсміхнулася і адказала:

— Нічога там не здарыцца! А ты вось лепш скажы, дзе я вас усіх спаць пакладу?

— Я не магу супакоіцца, проста месца сабе не знаходжу,— сказала Больда.— Ат, я і на старой кушэтцы высплюся.

Глум засмяяўся і здушана прахрыпеў:

— На падлозе! Ёсць салома?

Затым ён з Больдай накіраваўся ў царкву, каб паклікаць Віля і Марціна.

*Мілы лес, лес наш любы, на зямлі ты цуда з цудаў!* — спявалі ў рэстаране, а маці Альберта на кухні відэльцам вывуджвала з бляшанкі вялікія ружовыя сасіскі.

З веранды пачуўся голас маці Марціна:

— *Не падыходзь так блізка!* — закрычала яна і адразу ж засмяялася непрыемна і рэзка. Генрых спалохаўся і, павярнуўшыся, убачыў, што Вільма, якая бегла да качынага стаўка, спынілася, калі пачула вокрык, і затупала назад. Маці Марціна паклікала яго да сябе, узяла яго за руку і запытала:

— Ты гуляеш у пінг-понг?

— Кепска,— адказаў ён.— Я калісьці спрабаваў гуляць.

— Давай, я цябе навучу, хочаш?

— Добра,— сказаў ён, хоць гуляць яму не хацелася.

Яна высунула стол на сярэдзіну веранды, зноў замацавала сетку і падняла з падлогі ракеткі.

— Станавіся вось тут,— сказала яна і паказала, як трэба падаваць мяч.

Удар быў моцны, мяч праляцеў высока над сеткай, і Генрых лёгка яго адбіў.

Вільма поўзала па падлозе і радасна верашчала. Ёй вельмі падабаўся белы лятаючы мячык. Кожнага разу, калі ён падаў, яна паднімала яго і несла да стала. Але аддавала яна мячык толькі маці Марціна, а не Генрыху.

Увесь час Генрых думаў пра тое, што ягоная маці сужыцельствуе зараз з кандытарам. Гэта было вельмі дрэнна, і яму здавалася гэта значна больш *распусным*, чым сужыцельства з Леа.

Званы зноў зазванілі размерана і ўрачыста, святар зараз благаслаўляе паству. Затым курацъ ладан і спяваюць «Tantum ergo». Ён пашкадаваў, што не пайшоў з Марцінам, яны стаялі б адзін каля аднаго ў паўзмроку між спавядальняй і дзвярыма.

Генрых хутка засвоіў, што мяч трэба падаваць рэзкім і моцным ударам. Некалькі разоў яму ўжо ўдалося адпадаць мяч так, што маці Марціна не змагла яго адбіць. Яна засмяялася, але пачала гуляць з ім сур'ёзна, твар яе набыў засяроджаны выраз.

Цяжка было сачыць за лётам мяча і своечасова адбіваць яго. Генрых думаў зусім пра іншае: пра бацьку, пра дзядзькаў, пра кандытара, які зараз сужыцельствуе з ягонай мамай. А ў Марціна мама прыгожая, высокая, стройная, бялявая. Цяпер яна вельмі падабалася яму, асабліва калі, не перарываючы гульні, раптам паварочвалася да Вільмы і ласкава ўсміхалася ёй. Вільма ззяла, ёй таксама гэта вельмі падабалася.

Усмешка ў мамы Марціна была светлая, такая ж добрая, як і ўсё тут,— як звон званоў, як пах здобнага цеста. Усё гэта яму тут дарылі — і ўсмешку і звон званоў,— і ўсё ж падарунак заставаўся чужым. Яму зноў прыйшоў на памяць пах Леа — пах туалетнай вады і памады, успомнілася і ягоная пілачка для пазногцяў. Яна застанецца цяпер назаўсёды ў мамы ў шкатулцы з ніткамі.

Ён пачаў гуляць больш уважліва, стараўся падаваць мячы рэзка і моцна. Мячы пралятай нізка над сеткай, і мама Марціна ледзь паспявала адбіваць іх.

— З табой, дружок, не пажартуеш! — сказала яна.

Але неўзабаве ўсе вярнуліся з царквы, і ім давялося спыніць гульню. Марцін кінуўся да маці і моцна абняў яе. Глум ссунуў сталы на верандзе, а Больда накрыла іх вялікім зялёным абрусам і расставіла талеркі. Све-

жае, толькі што збітае масла вільготна паблісквала ў маслёнцы.

— А пра слівавае варэнне ты і забылася! — сказаў Віль сястры.— Дзеці яго вельмі любяць!

— Прынясу, прынясу,— адгукнулася старая.— Што ўжо там дзеці, ты і сам да яго вельмі ласы!

Віль пачырванеў, усе засмяяліся. Глум ляпнуў яго па спіне і з ухмылкаю прахрыпеў: «Не бянтэжся, сябрук!» І ўсе зноў засмяяліся. Вільме пара было спаць, але ёй дазволілі яшчэ крыху пасядзець. Усе заспрачаліся, дзе яе пакласці. Усе, акрамя маці Марціна, наперабой загаманілі: «Са мной!», «У мяне!» — але калі нарэшце пра гэта запыталі Вільму, яна адразу ж падбегла да брата. Генрых нават пачырванеў ад радасці.

У рэстаране было шумна. Людзі прыходзілі, адыходзілі. За столікамі клікалі кельнерку, патрабавалі піва. Больда паднялася, адсунула крэсла і сказала: «Пайду дапамагу на кухні». Глум узяў пусты мех і пайшоў на двор — напхаць у яго саломы; успацелы Віль насіўся па доме, збіраў коўдры, а Генрых з Марцінам падняліся наверх у пакой над верандай, дзе для іх паслалі вялікі двухспальны ложак. Там паклалі і Вільму.

Сцямнела. На кухні Больда з кельнеркай мылі посуд, гаманілі, смяяліся. Маці Альберта пайшла ў залу за стойку, з рэстарана чуліся воклікі, смех. Генрых выглянуў у акно. У двары міргцелі два цьмяныя агеньчыкі: Глум і Віль, пакурваючы люлькі, сядзелі на лаўцы каля паветкі. На верандзе засталася толькі маці Марціна. Яна сядзела каля стала, курыла і задумліва глядзела ў цемру.

— Дзеці, тушыце святло і ў ложак, хуценька! — пачулі яны яе голас.

І тут толькі Марцін успомніў, што ён увесь вечар не бачыў Альберта. Ён крыкнуў у акно:

— Мама, а дзе дзядзька Альберт?

— Ён хутка вернецца. Яны паехалі з бабуляй.

— А куды?

— У Брэрніх.

— А навошта?

Маці памаўчала. Затым зноў пачуўся яе голас:

— Там Гезелер. Ён павінен з ім пагаварыць.

Марцін замоўк. Абапёршыся на падаконнік, ён гля-

дзеў уніз на цёмную веранду. За яго спінай шчоўкнуў выключальнік, зарыпелі спружыны. Генрых залез на ложак.

— Гезелер? — крыкнуў у цемру Марцін.— Значыцца, Гезелер жывы?

Маці не адказала, і Марцін здзіўлена падумаў, што ніколькі не ўсхваляваны з'яўленнем Гезелера. Ён ніколі не гаварыў з Генрыхам пра смерць бацькі. Гісторыя з Гезелерам здавалася яму занадта заблытанай і сумніўнай, як і ўся бабуліна прамудрасць. Імя Гезелера так настойліва ўбівалі яму ў галаву і так настойліва прымушалі паўтараць, што яно перастала страшыць яго. Значна больш страшным было тое, што здарылася там, у падзямеллі, дзе вырошчвалі грыбы. Там было ўсё страшней і прасцей. У гэтым падзямеллі забілі чалавека, які напісаў партрэт таты. Там білі і катавалі тату і дзядзьку Альберта. Праўда, нацы, якія зрабілі ўсё гэта, ён уяўляў сабе даволі цьмяна. Магчыма, яны і сапраўды не такія ўжо і страшныя? Але склеп ён бачыў сам, на ўласныя вочы! Смярдзючыя цёмныя калідоры, пюпітры з пачварнымі кнопкамі, пастарэлы твар дзядзькі Альберта, які заўсёды гаварыў праўду. А вось пра Гезелера Альберт гаварыў з ім вельмі рэдка. Унізе зацягнулі новую песню:

На лясным ускрайку, дзе блукаюць лані,
У малой хацінцы нарадзіўся я.
Помніцца юнацтва, першае каханне,
Назаўсёды ў сэрцы ты — зямля мая.

Марцін выпрастаўся, адышоўся ад акна і асцярожна залез у ложак. Вільма ўткнулася галоўкай яму ў плячо. Марцін павярнуўся да Генрыха і ціха спытаў:

— Ты спіш?

І Генрых адразу ж гэтак жа ціха, але выразна адказаў:

— Не, не сплю.

«У малой хацінцы нарадзіўся я»,— спявалі ўнізе. Да дома пад'ехала машына, і Марцін пачуў усхваляваны голас Альберта: «Нэла! Нэла!» — гучна зваў ён. Мама, якая ўсё яшчэ сядзела на верандзе, ускочыла, перакуліла крэсла і выбегла на двор. Больда на кухні адразу змоўкла. Затым ён пачуў, як маці Альберта загаварыла з людзьмі ў рэстаране, і песня ўнізе раптоўна абарвалася. У доме адразу ўсё заціхла.

— Нешта здарылася! — прашаптаў Генрых.

На лесвіцы пачуліся стогны, плач. Марцін устаў, на дыбачках падышоў да дзвярэй і выглянуў у вузкі асветлены калідор.

Альберт і Больда пад рукі вялі па лесвіцы бабулю. Ён спалохаўся: бабуля раптам здалася яму зусім *старой*. Ён ніколі не думаў, што яна такая *старая*, і ніколі яшчэ не бачыў, каб яна плакала. Яна бяссільна павісла на плячы ў Альберта, і яе заўсёды румяны твар зрабіўся зямлістым.

— Укол, хутчэй зрабіце мне ўкол! — стагнала яна.

— Так, так, чуеце: Нэла па тэлефоне гаворыць з урачом,— адказаў Альберт.

— Добра, толькі [redacted] хутчэй!

З-за пляча Больды выглядваў перапалоханы Віль. З'явіўся і Глум. Ён пралез наперад, адпіснуў Больду і падхапіў бабулю пад руку. Удвух з Альбертам яны павольна павялі яе ў вялікі пакой у канцы калідора. Тут Марцін убачыў маму; яна бегла па лесвіцы, пераскокваючы праз прыступкі, і крыкнула:

— Я званіла Гурвебэру: ён зараз выязджае!

— Ну вось,— сказаў Альберт бабулі,— не хвалюйся, ён зараз прыедзе.

Але вось дзверы зачыніліся, і калідор апусцеў. Марцін доўга глядзеў на шырокія рудыя дзверы. З пакоя не чуваць было ані гуку.

Першы ў калідор выйшаў Глум, затым Віль і мама з Альбертам. З бабуляй засталася адна Больда. Генрых заварочаўся на ложку і сказаў:

— Лажыся хутчэй, прастудзішся!

Марцін ціхенька прычыніў дзверы і, не запальваючы святла, асцярожна дабраўся да ложка. Унізе зноў заспявалі, але цяпер вельмі ціха: «На лясным ускрайку, дзе блукаюць лані...»

Дзядзька Альберт і мама пайшлі на веранду. Яны ціха гаманілі пра нешта — словы нельга было разабраць. Марцін адчуваў, што Генрыху таксама не спіцца. Яму вельмі хацелася пагаварыць з Генрыхам, але ён не ведаў, як пачаць гаворку.

Унізе перасталі спяваць. З залы чуваць было, як адсоўваюць крэслы. Марцін чуў, як людзі ўставалі з-за столікаў, развітваліся з кельнеркай, жартавалі і смяяліся. Ён ціха запытаў Генрыха:

— Акно не будзем зачыняць?

— А табе не холадна?

— Не, не холадна.

— Тады не зачыняй.

Генрых зноў змоўк, і Марцін адразу ўспомніў усё, што здарылася сёння. Успомніў ён і перасяленне, і тое слова, якое маці Генрыха сказала кандытару: «Ну, не табе мяне...»

І ён раптам зразумеў, пра што зараз думае Генрых, зразумеў, чаму ён так нечакана збег з лужка. Бо ягоная ж мама зараз, магчыма, гаворыць кандытару: «Цяпер можаш мяне...»

Страшна было нават падумаць пра гэта. Марціну зрабілася маркотна і захацелася плакаць. Але ён стрымаў слёзы, хоць Генрых усё роўна не ўбачыў бы ў цемені, што ён плача. Усё, усё гэта *распусна*. Вось і бабуля зараз запатрабавала, каб ёй зрабілі ўкол, проста так, нават не крычаўшы перад гэтым пра *крой у мачы*. Марцін спалохана падумаў, што раней яна крычала пра *крой у мачы* праз кожныя тры месяцы; цяпер не прайшло і чатыры дні, як ёй зрабілі ўкол, а яна ўжо зноў пасылае па доктара. Яна старая зрабілася, зусім старая! Сёння ён упершыню ўбачыў, як бабуля плача. Нічога гэтага раней не было! Але самае страшнае, што бабуля нават не прыкідваецца больш і не хоча чакаць тры месяцы. Яна ўжо і чатыры дні не можа пражыць без укола. Вадкасць бясколерная, шпрыц як бы парожні! Нешта пайшло з ягонага жыцця і больш не вернецца. Ён не мог зразумець, што гэта было. Але адно ён ведаў: гэта нейкім чынам звязана з Гезелерам.

— Ты не спіш? — зноў спытаў ён ціха, і зноў Генрых адказаў:

— Не, не сплю.

Яму здалося, што Генрых злуецца і не хоча гаварыць з ім. Зразумела, чаму Генрых такі маркотны — яго мама пайшла ад Леа, але засталася гэтакай жа *распуснай*, калі нават не горш. Жыць з Леа, зразумела, таксама *распусна*, але яна жыла з ім ужо не першы год. Да гэтага ўсе прывыклі. А цяпер яна раптам пераехала да кандытара і будзе жыць з ім. Гэта вельмі кепска, але і бабуля дзейнічае не лепш: патрабуе, каб ёй зрабілі ўкол, а пра *крой у мачы* нават не ўспомніла.

— Не, не,— гучна сказаў раптам Альберт на верандзе,— лепш раз і назаўсёды пакінуць гэтыя размовы пра наш шлюб.

Маці ціха адказала яму нешта. Затым падышлі Больда, Глум і Віль. Альберт зноў загаварыў гучней:

— ...Тады яна кінулася на яго з кулакамі. Яе спрабавалі ўтрымаць, але дзе там. Шурбігелю яна закаціла пару добрых аплявух, а патэра Вілiброрда так піхнула ў грудзі, што той ледзь не паваліўся...— Альберт неяк нядобра засмяяўся і працягваў: — Што ж мне заставалася рабіць? Давялося лезці ў бойку. Ён-то пазнаў мяне пасля.

— Хто, Гезелер? — спытала мама.

— Так, ён пазнаў мяне, і, спадзяюся, цяпер ён не пацягне нас у суд. Судзіцца з імі цяжка!

— А як жа! — рашуча пацвердзіў Глум, і мама засмяялася. Але смех яе гучаў непрыемна і рэзка.

Яны замоўклі, і Марцін пачуў у гэтай цішыні спакойны шум матора. Спачатку ён падумаў, што пад'ехала машына доктара; але шум даносіўся з саду, толькі аднекуль зверху: гэта гудзеў самалёт. Гук марудна набліжаўся, ён плыў недзе высока ў небе, і Марцін нават ускрыкнуў ад здзіўлення, калі ўбачыў раптоўна ў чорным квадраце акна чырвоныя агеньчыкі самалёта і доўгі бліскучы шлейф, які ён цягнуў за сабой. Па цёмным небе слізгалі яркія рухомыя літары: *Дурны той, хто яшчэ самварыць варэнне!* Надпіс праплыў у квадраце акна і знік значна раней, чым ён думаў. Але неўзабаве зноў пачуўся шум матора, і іншы самалет з гудзеннем працягнуў па цёмным небе іншы надпіс: *Гольштэге робіць гэта за цябе.*

— Глядзі, хутчэй! — захваляваўся Марцін.— Гэта рэклама бабулінай фабрыкі!

Але Генрых не адказаў, хоць і не спаў.

Унізе раптам зарыдала мама, а дзядзька Альберт гучна вылаяўся: «Паскуднікі! Якія ж яны паскуднікі!»

Гул матораў аддаляўся ў напрамку Брэрніхскага замка, і хутка зноў настала цішыня.

Марцін чуў толькі, як плача ўнізе мама, ды час ад часу дзынкаюць шклянкі. Генрых усё яшчэ не спаў, але ён зацята маўчаў, і гэта палохала Марціна. Генрых дыхаў часта і глыбока, быццам быў нечым усхваляваны, а каля яго роўна і ціха дыхала ў сне Вільма.

Марцін паспрабаваў заснуць — прамільгнулі ў думках каўбой Хапелонг Кесідзі і качаня Дональд Дак, але яму раптам зрабілася сорамна думаць пра такую

драбязу. Успомніліся словы малітвы: *Калі ты, Божа, не даруеш нам грахі нашыя, то хто ж тады застанецца праведным?* І адразу ж са змроку выплыла першае пытанне катэхізіса: *Навошта прыйшлі мы ў свет гэты?* «Каб служыць Госпаду, палюбіць Яго і ўзнесціся ў царствіе нябеснае»,— машынальна прашаптаў ён. «Але служыць Госпаду, узлюбіць яго і ўзнесціся ў царствіе нябеснае» гэта яшчэ *не ўсё*, гэтага мала! Завучаны адказ на страшнае пытанне здаўся яму раптам мізэрным, і ўпершыню ўсвядомленае сумненне ахапіла яго.

Нешта пайшло з ягонага жыцця назаўсёды,— ён толькі не разумеў, што гэта было. Яму захацелася заплакаць гэтак жа моцна, як плакала на верандзе мама. Але Марцін стрымаў слёзы; ён быў упэўнены, што Генрых усё яшчэ не спіць і думае пра сваю маму, пра кандытара, пра тое слова, якое яго мама сказала кандытару.

Але Генрых думаў зусім пра іншае — ён думаў пра надзею, якая асвяціла на імгненне твар яго маці. Гэта доўжылася *адно толькі імгненне*, але ён ведаў цяпер, што *адно імгненне* можа ўсё змяніць.

## БІЯГРАФІЧНАЯ ДАВЕДКА

Генрых Бёль нарадзіўся 21 снежня 1917 года ў горадзе Кёльн (Германія) у каталіцкай сям'і. Яго бацька, Віктар Бёль, які валодаў невялікай дрэваапрацоўчай майстэрняй, спалучаў у сабе мастака і рамесніка: быў скульптарам і сталяром-чырванадрэўшчыкам. На ўсё жыццё прывіў ён сваім сынам любоў да мастацтва і навучыў іх тонкаму разуменню яго.

Маці Марыя Бёль была жанчынай з няпростым характарам і адметным грамадзянскім тэмпераментам. Яна вызначалася сваімі радыкальнымі палітычнымі перакананнямі.

У 1929 годзе сусветны эканамічны крызіс закрануў і Бёляў — сям'я прыстойна забяспечанага рамесніка перажыла балючы працэс дэкласацыі, вымушана была ў рэшце рэшт асесці ў рабочым прадмесці.

Горад, сям'я, акружэнне ўплывалі на фарміраванне асобы сталеючага Генрыха.

З 1928 да 1937 г. Бёль вучыўся ў гімназіі імя кайзера Вільгельма, якая была не зусім тыповай навучальнай установай для гітлераўскай Германіі. Яна была яшчэ не цалкам атручана духам нацызму, тут пакуль што можна было свабодна думаць і нават выказвацца.

У 1937 г. Бёль атрымаў атэстат сталасці. Пасля гімназіі ён адразу ж паступае вучнем у кнігагандлёвую фірму, але вясной 1938 года перарывае навучанне, працуе рэпетытарам, а з восені адбывае працоўную павіннасць — гэта было абавязковай умовай, якая давала права на працяг адукацыі. Летам 1939 года ён запісваецца ва універсітэт на спецыяльнасць «германістыка» і «класічная філалогія», але ў ліпені, за некаль-

кі тыдняў да пачатку вайны, атрымлівае прызыўную павестку вермахта.

Тады ж ён пачынае пісаць: вершы, апавяданні, нават піша раман. Менавіта ў той час вызначылася яго жыццёвае прызванне — стаць пісьменнікам.

Прызваны радавы Генрых Бёль праходзіў ваенную муштру ў запасным палку. Хоць Германія ўжо распачала вайну і Бёль быў накіраваны для праходжання наступнай службы ў тылавы гарнізон на тэрыторыі акупіраванай Польшчы, яму пашанцавала: ён захварэў і шмат часу правёў у шпіталях у Германіі. Затым паўтара года ён служыў на Атлантычным узбярэжжы. Летам 1943 г. Бёль быў адпраўлены з Францыі на Усход — пасля чатырох гадоў службы ён упершыню ехаў на фронт, у раён Чорнага мора. Па дарозе эшалон падарвалі французскія партызаны, Бёль быў лёгка паранены, але мусіў працягваць свой шлях у Крым. Далей былі баі, адступленне, раненне, шпіталь, вяртанне на фронт і восенню 1944 г. чарговае раненне пад Ясамі, гэтым разам цяжкае, якое ўскладнілася малярыяй. Некалькі месяцаў ён правёў у тылавых лазарэтах.

У 1945 г. Бёль, які ненавідзеў фашызм, пры дапамозе фальшывых дакументаў пераводзіцца з часці ў часць, дэзерціруе, хаваецца ад эсэсаўскіх патрулёў, а затым вяртаецца ў вермахт, каб пры першай магчымасці здацца ў палон. Восенню 1945 г. пасля некалькіх месяцаў амерыканскага і англійскага палону ён вяртаецца дамоў.

Як і мільёны іншых, якія вярнуліся з «вялікай вайны», Бёль сам аднаўляе свой разбураны дом. Адначасова ён узнаўляе вучобу ва універсітэце, служыць у статыстычным бюро Кёльнскага муніцыпалітэта. І, канешне, піша. Частка яго апавяданняў пачынае публікавацца ў часопісах і газетах, але першая кніга Бёля выходзіць толькі ў 1949 годзе пад назвай «Поезд прыйшоў своечасова». Пасля быў зборнік апавяданняў «Падарожнік, прыйдзеш калі ў Спа...» (1950) і раман «Дзе ты быў, Адам» (1951). Кнігі былі заўважаны і высока ацэнены крытыкай. На працягу наступных 4—5 гадоў

імя Бёля набыло шырокую вядомасць не толькі ў ФРГ, але і ў іншых еўрапейскіх краінах. Яго творы перакладзены на 48 моў. Бёль дастойна прадстаўляў культуру свайго народа ў свеце, ён успрымаўся не толькі як пісьменнік, але і як пасланнік, як выяўленне і сумленне новай Германіі. Вяршыняй яго прызнання было выбранне яго ў 1971 г. прэзідэнтам Міжнароднага ПЭН-клуба і прысуджэнне яму ў 1972 г. Нобелеўскай прэміі па літаратуры.

Памёр Г. Бёль у 1985 годзе.

**Бёль Г.**

Б44 Дом без гаспадара: Раман: Для сярэд. і ст. шк. узросту. Пер. з ням. мовы.— Мн.: Беларусь, 1996.— 285 с.— (Школьная бібліятэка).

ISBN 985-01-0190-3.

Генрых Бёль (1917—1985) — выдатны нямецкі пісьменнік, лаўрэат Нобелеўскай прэміі.

Раман «Дом без гаспадара» — антываенны, антыфашысцкі. Аўтар паказвае трагізм наступстваў фашызму для абалваненых гітлераўскай прапагандай, укручаных у крывавую бойню людзей. Трагізм пакалення «першакласнікаў 1946 года», якім давядзецца самім вырашаць усе жыццёвыя і маральныя праблемы, бо жыцці бацькоў праглынула жудасная гітлераўская ваенная машына.

$$Б\ \frac{8300000000—041}{М301(03) — 96}$$

ББК 84(4Ф)

Літаратурна-мастацкае выданне

Школьная бібліятэка

**БЁЛЬ Генрых**

**ДОМ БЕЗ ГАСПАДАРА**

**Раман**

*Для сярэдняга і старэйшага школьнага ўзросту*

Рэдактар Т. І. Улевіч
Мастак У. І. Сытчанка
Мастацкі рэдактар А. А. Жданоўская
Тэхнічны рэдактар Ж. М. Голікава
Карэктары Р. П. Іваненка, Г. К. Піскунова, Ю. Ц. Петрыкеева, Л. В. Шынкевіч

Здадзена ў набор 21.10.96. Падп. да друку 22.11.96. Фармат 84×108 1/32. Папера друк. № 2. Гарнітура Школьная. Высокі друк з ФПФ. Ум. друк. арк. 15,12. Ум. фарб.-адб. 15,54. Ул.-выд. арк. 15,82. Тыраж 14 000 экз. Зак. 883.

Ордэна Дружбы народаў выдавецтва «Беларусь» Дзяржаўнага камітэта Рэспублікі Беларусь па друку. Ліцэнзія ЛВ № 2. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11.

Мінскі ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга паліграфкамбінат МВПА імя Я. Коласа. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.